# Зьмест

# Шмат сэнсаў Рэспублікі

## Нашыя абшары

На захадзе гэтая дзяржава, Рэч Паспалітая, суседнічала з Брандэнбургам і Прусіяй, а на ўсходзе — з Расеяю. Вялікае Княства Літоўскае праз Інфлянты межавала са Швэцыяй. Польшча (ці, як яе называлі, Карона) суседнічала з габсбурскімі краінамі (Чэхія, Вугоршчына), а праз Дзікае Поле, Малдову і Сямігародзьдзе абедзьве дзяржавы кантактавалі з Крымскім ханствам ды Турэччынай. У часы найбольшага тэрытарыяльнага пашырэньня тэрыторыя Рэчы Паспалітай дасягала блізка 1 млн. кв. км (990 000), зь іх на Вялікае Княства (ужо без украінскіх ваяводзтваў) прыпадала траціна: разам са Смаленшчынай у першай палове XVII ст. плошча ВКЛ складала 380 тыс. кв. км, а ад 1678 г. 306 тыс. кв. км і ўжо не зьмянялася амаль стагодзьдзе, да падзелаў Рэчы Паспалітай.

Апроч уласна тэрыторыі Рэчы Паспалітай, у леннай залежнасьці ад Польшчы ад 1525 г. знаходзілася Прусія. Ад 1561 г. у падвойным лене (Польшчы і ВКЛ) была Курляндыя (Заходняя Латвія). «Малыя» Інфлянты (Усходне-Паўднёвая Латвія) зьяўляліся кандамініюмам, г. зн. былі сумесным валоданьнем ВКЛ і Польшчы. У той ці іншай сувязі з Рэччу Паспалітай знаходзіліся румынскія княствы Валахія і Малдова. Увесь час не сьціхалі інтрыгі вакол чэска-нямецкай Сы-

лезіі. Такім чынам, адміністрацыйны і палітычны ўплыў Рэчы Паспалітай пашыраўся па-за яе межы.

Колькасьць жыхароў абедзьвюх дзяржаваў Рэчы Паспалітай, Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага, напрыканцы XVI ст. дасягала каля 7,5 млн. чалавекаў — у Эўропе ці навакол яе болей людзей жыло ў Францыі, Нямеччыне, Італіі, Расеі, Гішпаніі ды Турцыі. У першай жа палове XVII ст. колькасьць жыхароў дасягнула 10 млн. Каля паловы зь іх складалі палякі. Перад Люблінскай уніяй (1569 г.) насельніцтва Вялікага Княства дасягнула 3 млн. Пасьля ж заключэньня ўніі, калі паўночна-ўкраінскія землі адышлі да Польшчы, у ВКЛ засталося жыць 2,6 млн. чалавек. Да сярэдзіны ж XVII ст. працягваўся пэрыяд дэмаграфічнага росту, у Літве і Паўночна-Заходняй Беларусі шчыльнасьць насельніцтва наблізілася да максымуму, які забясьпечваўся тагачасным узроўнем гаспадаркі — 16—20 чалавекаў на квадратны кілямэтар. На 1650 г. у Вялікім Княстве пражывала 3,1 млн. чалавекаў, зь іх у Літве — каля 920—950 тыс. чалавекаў, у Беларусі — 2,1 млн. чалавекаў. Пасьля войнаў і дэмаграфічнага крызысу другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. насельніцтва Рэчы Паспалітай зноў пачало расьці і ў другой палове XVIII ст. дасягнула ўзроўню сярэдзіны XVII ст. Але ўсе пэрыяды ў рамках Рэчы Паспалітай колькасьць насельніцтва Польшчы пераважала над колькасцю жыхароў ВКЛ.

Вось так паводле зьнешніх прыкметаў выглядала дзяржава, утвораная ў выніку падпісаньня Люблінскай уніі 1 ліпеня 1569 г. Ад заключэньня ўніі выйгралі і прайгралі ўсе бакі. Вялікае Княства Літоўскае страціла ўкраінскія землі, але амаль цалкам спыніліся набегі крымскіх татараў і зьнікла пагроза маштабных войнаў з Турэччынай. Пры дапамозе Польшчы ў Інфлянцкай вайне адбыўся пералом, і, як мяркуюць дасьледчыкі, менавіта унія дазволіла падоўжыць існаваньне Вялікага Княства на некалькі стагодзьдзяў. Вынікам жа рэалізацыі гэтай новай формы дзяржаўнасьці стала негвалтоўная палянізацыя грамадзтва ВКЛ.

Польшча атрымала значныя тэрыторыі ў выглядзе зямель, што раней уваходзілі ў склад ВКЛ. Але «набыткам» стала таксама неспакойная мяжа з Расеяй. Празьмерна разрослыя тэрыторыі на паўднёвым усходзе абяцалі новыя сутычкі з Крымам і Атаманскай Портай. Наперадзе былі казацкія войны. На Польшчу ж прыпалі асноўныя ваенныя выдаткі фэдэратыўнай дзяржавы.

Для нас жа важнае тое, што Рэч Паспалітая была створаная паводле тагачасных прававых нормаў носьбітамі грамадзянскіх правоў, якія тады належалі шляхце. І як бы мы ні ацэньвалі далейшы лёс гэтай дзяржавы, якія б рахункі ні выстаўлялі да яе лідэраў і палітыкаў, як бы не захапляліся культурнымі набыткамі і праявамі патрыятызму, мусім прызнаць: Рэч Паспалітая таксама была дзяржаваю нашых продкаў. У такім разе ўсе прэтэнзіі мы прад’яўляем і да саміх сябе.

**Што да тэрміну**

Добравядомы тэрмін *Рэч Паспалітая* зьяўляецца адпаведнікам лацінскага словазлучэньня *res publica*, што можна перакласьці як «грамадзкая / публічная справа». У польскім перакладзе

тэрмінам *Rzeczpospolita* з канца XV ст. звыкла сталі пазначаць польскую дзяржаву, хоць мяркуецца, што традыцыя ўжываньня лацінскага тэрміну ў такім кантэксьце ідзе яшчэ з пачатку XIII ст. У XV—XVI стст. тэрмін Рэч Паспалітая выкарыстоўваўся і ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе ён меў значэньне дзяржавы як супольнай справы, супольных інтарэсаў і супольнага дабра. Жыгімонт Аўгуст у віленскім прывілеі 1565 г. так характарызаваў звароты да яго грамадзянаў ВКЛ: «Ижъ будечи нам Господарю (г. з. вялікаму князю — А. Дз.) на великом сойме вальном въ месте нашемъ столечномъ Виленскомъ... зо всимъ рыцерствомъ землъ всего панства Великого Князства Литовского, где прикладаючи потребы Речи Посполитое того панства нашого донесли просбы свое...» Ужо пасьля Люблінскай уніі 1569 г. назва Рэч Паспалітая была выкарыстана для пазначэньня супольнай дзяржавы, але зусім не зьяўлялася яе афіцыйным назовам, а тым больш палянізмам у беларускай мове, як некаторыя схільныя меркаваць. У расейскую мову словазлучэньне Рэч Паспалітая патрапіла менавіта зь беларускай.

Ці няма тут супярэчнасьці, што спадчынная манархія, якой у XV ст. яшчэ было Вялікае Княства Літоўскае, называецца Рэспублікай? І як разумець сумяшчэньне тытулаў караля ці вялікага князя з Рэспублікай? Ужо ў XVII ст. галяндзкі юрыст Гуга Гроцыюс пісаў, што ў Рэчы Паспалітай кароль атрымлівае ўладу пад пэўнымі ўмовамі і яго ўлада не зьяўляецца тым самым неабмежаванаю — гэтая «формула ўлады» ліквідуе Маестат (вялікасьць) караля, функцыі якога, у выніку, нагадваюць прэзыдэнцкія. Зноў



узьнікае пытаньне: ці справядлівыя асацыяцыі рэспублікі толькі з выбарнасьцю яе цэнтральных органаў улады? Відавочна, што сучаснае разуменьне тэрміну рэспубліка нельга цалкам прыкладаць да эпохі XV—XVI стст.

**Рэспубліка — гэта Сувэрэнітэт**

Тэарэтычную завершанасьць у пачатку Новага часу канцэпцыя «*res publica*», як дзяржава, атрымала ў працах францускага юрыста XVI ст. Жана Бадэна (1530—1596; Jean Bodin, лацінізаваная форма Johanus Bodinius). Ён жа ўвёў у якасьці навуковага паняцьця і палітыка-прававога прынцыпу тэрмін «сувэрэнітэт», які застаўся зьнітаваны з паняцьцем рэспубліка. «Сувэрэнітэт ёсьць абсалютнай і вечнай уладай Рэспублікі», — так Ж. Бадэн акрэсьліў гэтую сувязь у сваёй працы «Шэсьць кніг пра Рэспубліку» («Six livres de la République»). Кніга пабачыла сьвет у 1576 г. пафранцуску, а ў 1584 г. аўтар сам пераклаў яе на лацінскую мову. Праца пра Рэспубліку стала галоўным творам Жана Бадэна і прынесла яму эўрапейскую славу.

Аўтар пісаў, што сувэрэнная ўлада Рэспублікі распаўсюджваецца на ўсё грамадзтва і гэтым самым мае публічны характар, зьяўляецца спэцыфічнай прыкметаю дзяржавы. «...варта бачыць у кожнай Рэспубліцы тых, хто трымае сувэрэнітэт, каб меркаваць пра тое, якая гэта дзяржава: у тым выпадку, калі сувэрэнітэт увасабляецца ў адным гаспадары, то мы назавем яе Манархіяй, калі да яго мае адносіны ўвесь народ, то мы скажам, што дзяржава зьяўляецца народнай; калі толькі меншая частка народу, мы будзем лічыць дзяржаву Арыстакратычнай». Дасьледчыкамі

ўжо адзначалася, што словы «Манархія» і «Арыстакратычная» Ж. Бадэн пісаў з прапісных літараў, а «народная» — з малой. І гэта ёсьць сьведчаньнем прававой пазыцыі юрыста. Увогуле Ж. - Бадэн дапускаў, што Сувэрэнітэт можа ўвасабляцца ў кожнай з названых ім форм кіраваньня. Але сам ён меркаваў, што пасьлядоўная і поўная рэалізацыя Сувэрэнітэту адбываецца толькі ў манархіі. Жан Бадэн — прыхільнік спадчыннай манархіі як вышэйшай формы Рэспублікі. Між тым, ён крытычна ставіўся да абсалютнай манархіі і называў тры фактары, якія могуць абмежаваць уладу манарха:

1) калі манарх парушыць Боскія ці натуральныя законы;

2) падвысіць падаткі без атрыманьня згоды адпаведных упаўнаважаных інстытуцыяў дзяржавы;

3) адмовіцца ад выкананьня міжнародных пагадненьняў.

Ж. Бадэн адышоў ад разуменьня палітычнай улады ў інтэрпрэтацыі выключна праз рымскае права і сярэднявечную практыку. Французскі юрыст крытыкаваў таксама антычных аўтараў за тое, што яны вылучалі формы дзяржаўнага кіраваньня на грунце ідэі Справядлівасьці, у той час як трэба зыходзіць з ідэі і прынцыпу Сувэрэнітэту. Паводле Бадэна Сувэрэнітэт зьяўляецца вытворным ад згоды народу (менавіта палітычнага народу) і ў той жа час сьцьвярджаецца прымусам.

Такім чынам, Рэспубліка ў Бадэна адпавядае паняцьцю Сувэрэнітэт, і калі той толькі ўвасабляецца ў дзяржаве, то Рэспубліка адпавядае Дзяржаве, пажадана — манархічнай. Не выпадкова таму ў англійскіх выданьнях яшчэ XVII ст. Рэспубліку Бадэна перакладалі як «Commonwealh» — у сэнсе «супольнасьць», «дзяржава».

Сваім вучэньнем пра сувэрэнітэт Ж. Бадэн стварыў стройную публічна-прававую канструкцыю новай эўрапейскай дзяржавы. Французскі юрыст вылучаўся рэалістычнай накіраванасьцю думкі, выхаванай старанным вывучэньнем «Палітыкі» Арыстоцеля, да якой Ж. Бадэн напісаў падрабязныя камэнтары. Менавіта пад уплывам Арыстоцеля ў Ж. Бадэна склалася ўсьведамленьне неабходнасьці параўнаўча-гістарычнага вывучэньня разнастайных формаў дзяржаўнага кіраваньня з мэтаю стварэньня агульнага палітычнага вучэньня.

**Экскурсавод па Парыжы для ліцьвінаў**

Можна сьцьвярджаць, што досьвед і гістарычныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага паўплывалі на фармаваньне канцэпцыі Жана Бадэна. На карысьць гэтага маюцца зьвесткі зь біяграфіі, а таксама выказваньні самога клясыка прававой думкі. Сам Бадэн часта адыходзіў ад чыста акадэмічных і тэарэтычных заняткаў. Моцны тэмпэрамент і прыродныя схільнасьці так ці інакш прыводзілі яго на шлях служэньня грамадзтву.

Калі ў 1573 г. пасольства Рэчы Паспалітай накіроўвалася да Генрыха Валюа, герцага Анжуйскага, каб прапанаваць яму карону, то ў жніўні таго ж году ў Мэцы, непадалёку ад французскай мяжы, паслоў сустрэў і зачытаў ім прывітальную прамову біскуп Шарль дэ Кар. Пра палітычны народ (шляхту) Рэчы Паспалітай там было

сказана, што ён «ніколі ня зносіў тыраніі ніводнага ўладара, што бадай адзіны сярод народаў утрымаў старадаўняе права выбару караля, якое існавала яшчэ ў залатым веку». У атачэньне біскупа ўваходзіў і разам зь ім сустракаў паслоў Рэчы Паспалітай Жан Бадэн, які на наступны год апублікаваў тэкст прамовы па-француску. Францускія і польскія даследчыкі мяркуюць, што гэты тэкст для біскупа напісаў уласна Бадэн. І хоць выбарнасьць караля не была ідэалам Ж. Бадэна, але і вышэйпрыведзеная цытата адпавядае поглядам французскага юрыста на канцэпцыю Сувэрэнітэту як на паўнату ўлады і пераемнасьць права.

Ж. Бадэн суправаджаў паслоў Рэчы Паспалітай па шляху ў Парыж і знаёміў з гэтым горадам. Як мінімум, Бадэн выкарыстаў паслоў як крыніцу інфармацыі пра палітычны лад найбуйнейшай цэнтральнаэўрапейскай дзяржавы, пра што неаднаразова пісаў у сваёй працы «Рэспубліка». Таксама ён узгадваў імя Аляксандра Пронскага — прадстаўніка Вялікага Княства Літоўскага ў аб'яднаным пасольстве.

Князь Аляксандар Фрыдэрык Пронскі (каля 1550 — каля 1595), род якога паходзіў ад Рурыкавічаў, маладыя гады правёў пры двары французскага караля Карла IX, брата Генрыха Валюа. Што важна, ён вызнаваў кальвінізм і таму ўскосна быў уцягнуты ў барацьбу паміж каталікамі і гугенотамі ў Францыі, а таксама рэпрэзэнтаваў пазіцыю пратэстантаў ВКЛ у перамовах з францускім каралеўскім домам. Нагадаем, што ўсяго толькі за год да прыезду пасольства Рэчы Паспалітай у Парыжы адбылася разьня пратэстантаў — Барталамееўская ноч (24 жніўня 1572 г.).



Імя Ж. Бадэна значылася ў сьпісе сьвіты будучага караля Генрыха ў Рэч Паспалітую, калі той у лютым 1574 г., падчас выключна халоднай зімы, прыехаў у сваю новую краіну. Ужо потым, пасля дэтранізацыі Генрыха Валюа, Ж. Бадэн настойліваў на легітымнасьці прэтэнзій французскага караля Генрыха III на трон Рэчы Паспалітай. У любым выпадку Жан Бадэн атрымаў магчымасьць досыць блізка пазнаёміцца з прававымі традыцыямі Рэчы Паспалітай, што паўплывала на распрацоўку яго канцэпцыяў. Усю сваю навуковую кар'еру Ж. Бадэн імкнуўся да сыстэматызацыі і ўпарадкаваньня: «...шматграннасьць ды неўпарадкаванасьць чалавечай дзейнасьці, шматлікія сьведчаньні гісторыі, у якіх дзеяньні і справы людзей завязаныя з пэўнымі заняткамі, уяўляюць сабой такі запас разнароднага матэрыялу, што гістарычныя працы ня могуць быць зразуметымі без выразнай сыстэмы, інакш іхны зьмест ненадоўга затрымаецца ў памяці».

Праца «Шэсьць кніг пра Рэспубліку» выйшла у сьвет праз два гады пасьля гісторыі з абраньнем на трон Рэчы Паспалітай і тайным ад'ездам адтуль 18—19 чэрвеня 1574 г. караля Генрыха.

**Эвалюцыя тэрміну**

Для юрыстаў XVI ст. тэрмін Рэспубліка меў маральна-прававыя аспэкты, а не сымбалізаваў прынцып выбарнасьці кіраўніка дзяржавы. У 1588 г. у Статуце ВКЛ гэтае разуменьне было акрэсьлена наступным чынам: «Обачывали то усих веков люди мудрые, же в кождой Речи Посполитой чоловеку почстивому ничого не маеть быти дорожшого над вольность».

Эвалюцыя тэрміну прывяла да таго, што менавіта аспэкт выбарнасьці цэнтральнай улады (як рэалізацыя прынцыпу Сувэрэнітэту) замацаваўся за паняцьцем Рэспубліка. Найбольш выразна такое разуменьне Рэспублікі было сфармулявана на пачатку XIX ст. «апосталам» аб'яднаньня Італіі Джузэпэ Мадзіні, які ў сваім вучэньні зыходзіў з чыста спірытуалістычных ідэй. Бог зьяўляецца сьвету ў пастулальным развіцьці і ўзвышэньні народаў. Выказьнікам Боскай волі зьяўляецца народ, а адзіная годная форма дзяржаўнага ладу — рэспубліка. Волевыяўленьне шляхам падачы галасоў — сьвятарны абрад, у якім народ выконвае сваё прызначэньне. Ня нейкі адзін чалавек, але ўвесь народ стане мэсіям новага адкрыцьця.

На гэтым этапе тэрміналягічная трансфармацыя не спынілася. Сёньня мы маем прыклады многіх дзяржаваў, якія называюцца рэспублікамі, але зьяўляюцца звычайнымі дэспатыямі ці ваеннымі дыктатурамі. Іхныя ўладары кіруюць так, быццам бы яны перакананыя, што ніколі не памруць. Але наўрад ці ім удасца нас падмануць.

*Алег Дзярновіч*



# I

# Цывілізацыя

*Генадзь Сагановіч*

# Contra tyrannos

Люблю маю Айчыну болей, чым збаўленьне душы.

*Макіявэлі*

Не, Макіявэлі беларуская шляхта не любіла, але знаходзіла ў яго трактатах тое, што ёй падабалася. Бо знакаміты флярэнтыец таксама зьяўляўся гарачым патрыётам і рэспубліканцам, а што яшчэ важней — свабода і права былі для яго найдаражэйшымі. Свабода ў ягоным разуменьні вынікала зь сілы і аўтарытэту права, што выключала ўсялякую тыранію. Тая ж ідэя ў Статуце 1588 году — найлепшай кнізе беларусаў! «Зьяўляемся нявольнікамі правоў дзеля таго, каб карыстацца свабодай», — сьцьвердзіў у прадмове да Статуту Леў Сапега. Вядома, Макіявэлі выступаў за ўладу моцнага манарха, але моцны манарх — гэта яшчэ не тыран.

Калісьці менавіта ўсходнія ўскрайкі Беларусі сталі мяжой паміж свабодай і тыраніяй, паміж эўрапейскай дэмакратыяй і азіяцкай дэспатыяй. З тых часоў, як беларускі народ набыў свае нацыянальнае аблічча, фэномэнам нашай гісторыі зрабілася свабода. Цяпер мала хто ведае, што традыцыя парлямэнтарызму ў Беларусі сягае сярэдзіны XV ст., калі, пасьля вядомага агульназемскага прывілею Казіміра Ягайлавіча, пытаньні дзяржаўнай важнасьці ў беларуска-літоўскай дзяржаве (падобна, як у Польшчы) сталі вырашацца з удзелам прадстаўнікоў грамадзкасьці. У часы Скарыны ўжо сфармаваўся вальны сойм (парлямэнт). Потым, пасьля

Люблінскай уніі, правёўшы праз сойм так званыя «Генрыхавы артыкулы», шляхта канчаткова сьцьвердзіла вяршэнства закону над манархам. Першая асоба дзяржавы абіралася ўсім палітычным народам і прысягала не парушаць падставовыя прынцыпы дзяржаўнасьці, а таксама выконваць канкрэтныя абавязкі, сабраныя ў pacta conventa. «Господар наш жадное звирхности над нами заживати не может, одно только, колько ему право допущаеть», — знаходзім у зводзе законаў беларуска-літоўскай дзяржавы. У выпадку парушэньня прынятых законаў манархам яго падданыя маглі не падпарадкоўвацца вярхоўнай уладзе і выступаць супраць парушальніка. Дамова pacta conventa ўзаконіла права ўзброенага супраціву, легалізавала канфэдэрацыю, рокаш.

Так у другой палове XVI ст. у Рэчы Паспалітай, складовай часткай якой зьяўлялася і Беларусь, парлямэнтарызм дасягнуў свайго росквіту. Кожнай свабоднай асобе створаная сыстэма ўлады дазваляла публічна выказваць уласную думку, давала права адстойваць сваю волю, палітычны ўплыў, і што асабліва важна — гарантавала права пратэсту.

Тым часам у суседняй Маскоўскай Русі склаўся прынцыпова іншы дзяржаўны лад. Яшчэ пры вялікім князю Івану III тут усталявалася дэспатычнае кіраваньне ўсходняга тыпу. Акурат у гады росквіту дэмакратыі ў Беларусі Іван IV Жахлівы ўвёў у сваім царстве рэжым усеагульнага прыгону, які не прызнаваў суб'ектыўнага права наагул, ня тое што права на пратэст ці супраціў. Цар зрабіў усіх падданых халопамі і пакінуў ім толькі абавязкі. Ні Баярская Дума, ні Земскія Саборы ня мелі тут ніякай палітычнай пазыцыі. Гербэрштэйн, прыкладам, дзівіўся, што калі ў Вялікім Княстве пануе празьмерная свабода і ею злоўжываюць, дык у Масковіі нават дараднікі цара не адважваюцца выказаць яму ўласную думку. Са словаў вучонага Віктара Леантовіча, менавіта рэжым агульнага прыгону, якому спадарожнічалі тэрор і гвалт, з эпохі Івана Жахлівага стаў асноўным фэномэнам расейскай гісторыі.

Калі маскоўскія цары баяліся найдрабнейшага абмежаваньня сваей улады і парлямэнт як жахлівая здань перасьледаваў іх нават ва ўяўленьнях, дык беларускую шляхту, наадварот, найбольш непакоіла здань тырана. Ня дзіўна, што яна як зрэнку вока пільнавала свае «залатыя вольнасьці», здабытыя ў манарха шляхам палітычнай барацьбы. Ад дзяржавы рэспубліканскага тыпу да тыранічнага рэжыму можна было перайсьці ў адзін момант. Маючы на ўвазе краіны з абсалютысцкай формай улады, львоўскі кашталян Андрэй Максімільян Фрэдра, вядомы ідэоляг дэмакратыі, пісаў, што свабодзе толькі там нічога не пагражае, дзе яе няма наагул! І дадаваў: ніхто з грамадзянаў вольнай дзяржавы пры здаровым розуме не пяройдзе пад манархічны лад. Па манархіі можа тужыць толькі той народ, які хворы.

У Эўропе XVI—XVII ст. не існавала іншай дзяржавы, дзе б асоба свабоднага чалавека карысталася такімі шырокімі публічнымі правамі, як у Рэчы Паспалітай. У гэтым яна далека выперадзіла практыку нават больш разьвітых эўрапейскіх краінаў. І ўтой жа час, яе палітычная сыстэма дазваляла ўтрымліваць раўнавагу паміж

дзяржавай (уладай) і грамадзтвам. Свабода, заснаваная на праве, увасабляла галоўную каштоўнасьць як польскай, так і беларускай шляхты. У прадмове да Статуту Леў Сапега напісаў, што «в каждой речы посполитой человеку почстивому ничого не мает быти дорожшого над вольность». Свабода, зь ягоных словаў, зьяўляецца «скарбом,... который жадною сумою переплачен быти не может», і лепей ужо выбіраць сьмерць, чым няволю.

Часы Сапегі сталі пэрыядам найвышэйшай палітычнай культуры беларускай шляхты. Яна літаральна атаясамляе сябе са сваёй дзяржавай і адчувае адказнасьць за яе лёс. Пры высокай палітычнай сьвядомасьці яна добра разумее свае прававыя кампэтэнцыі, дэманструе зайздросную грамадзкую актыўнасьць і проста палымяны патрыятызм. У пачатку XVII ст. рыцарства з розных зямель Беларусі было так усхваляванае лёсам свабоды і Айчыны, што яго тагачасныя галасы і цяпер кранаюць сэрца. Здаецца, для беларускай шляхты гэтыя два паняцьці — Айчына і свабода — сталі на вякі непадзельныя. Так, у гады Дзімітрыяды са зьезду ў Вільні яна зьвяртаецца да паноў-брацьці, просячы, каб кожны зь іх «пільны погляд на зьнешніх непрыяцеляў Айчыны нашай мілай меў і быў гатовы на яе ратунак конна, паводле сваіх магчымасьцяў». У 1605 годзе «рыцарства і абывацельства Полацкага ваяводзтва» дэкляруе рашучасьць змагацца супраць усяго, што «праціўна правам і вольнасьцям нашым». Беларускія рыцары заяўляюць, што для іх «ніякія кошты, цяжары і бясьпека не такія важныя, як свабода. Яна наймілейшая і найудзячнейшая, пад ёй мы нарадзіліся, жывём



і хочам яе цэлую, непарушаную нашчадкам нашым пакінуць...» Далей палачане патрабуюць, каб усе разам парупіліся і супольна «Рэч Паспалітую вольную ад усялякай небясьпекі на ўсе часы зрабілі, а хто на правы і вольнасьці нашыя замахваецца ды іх рознымі практыкамі зьнесьці сіліцца, дагаджаючы ў гэтым сваім прыватным пажыткам, тыя мусяць быць пакараныя, каб і на потым ніводзін ня важыўся». Гэтаксама ў 1607 г., моцна занепакоеныя тым, што кароль і вялікі князь «на правы і вольнасьці нашыя наступаў», пацьвярджаючы сваю «гарачую любоў да мілай Айчыны», шчырую «міласьць да супольнай Айчызны», полацкія шляхцічы «чыняць тое, што і прystала ім як Айчыны добрым сынам», — накіроўваюць паслоў на антыкаралеўскі рокаш бараніць правы і вольнасьці. Бо для іх Айчына і вольнасьці — сынонімы.

Сымбалем «залатых вольнасьцяў» хутка зрабілася славутае liberum veto — прынцып, які ў нас кожны не прамінаў нагоды зганіць. Але ці з рацыяй? Ці такое ўжо заганнае было вольнае «не дазваляю» само па сабе? Няўжо ж гарачыя патрыёты любілі Айчыну толькі на словах, а на справе, зрываючы соймы, сьвядома набліжалі яе пагібель?

Ня думаю, каб ідэолягі рэспублікі не разумелі, куды яе вядуць. Згаданы Фрэдра, самы гарачы апалягет liberum veto, быў перакананы, што калі б у Рэчы Паспалітай замест адзінагалоснасьці дзейнічаў прынцып шасьці, і актуальнасьць пастановы залічыла ад колькасьці галасоў, гэта нашкодзіла б краіне. Бо — нота бэнэ! — «мноства горшых пераважыла б над меншасьцю лепшых» — зноў увага! —«сьляпое, бязвольнае, выпадко-

вае галасаваньне паводле прынцыпу большасьці» скасавала б «недаацэнены супраціў многіх сумленных грамадзянаў». Большасьць заўсёды легка схіляецца ці перад грашмі ці перад дэмагогіяй, вэта ж дазваляе ратаваць сытуацыю, калі ў парлямэнце ёсьць «адзін разумны патрыёт» . А бяз прынцыпу вэта, пытаецца Фрэдра, ці ня здарыла так, калі «ўсё, што хацелі зрабіць дзеля лічнага дабра нямногія, змарнуецца, а што жадала атрымаць для задавальненьня сваіх амбіцыяў большасьць, будзе рэалізавана?» Быццам прадбачыў падзеі нашай беларускай гісторыі...

Беларус Леў Сапега ва ўяўленьнях Фрыдрыха Шылера (гістарычная драма «Дзімітры») заслугоўваў найвышэйшай ацэнкі за тое, што зрываў вальны сойм, калі той быў гатовы прыняць шкодную для краіны пастанову: «Я кажу «не»! Я накладаю вэта і зрываю вальны сойм!» Мудры палітык не прымаў апэляцыяў да большасьці. «Кажаце мне — большасьць! Што ж такое большасьць? Большасьць — гэта глупства. Розум заўжды толькі ў меншасьці», — адказаў ён у шумную залю і прароча скончыў: «Дзяржава, якой кіруе большасьць і глупства, мусіць рана ці позна загінуць».

Прывілей вэта быў сапраўднай школай свабоды і агульнадзяржаўнага патрыятызму, лічыў Фрэдра. Сапраўды, інтарэсы прадстаўнікоў розных зямель такой велізарнай шматнацыянальнай краіны, як Рэч Паспалітая, мала ў чым маглі супадаць, а яны ж прымалі пастановы адзінагалосна! Не пад ціскам сілы, не са страху перад уладаром, як гэта было ў абсалютысцкіх дзяржавах, — не, яны ахвяравалі нейкімі



ўласнымі інтарэсамі добраахвотна, сыходзячы з разуменьня сытуацыі. Дзяржава была супольнай справай, штодзённай рэалізацыяй дамовы. Ды праблема палягае на тым, што такі лад мог доўга існаваць толькі пры адсутнасьці зьнешняй пагрозы зьнішчэньня. У рэальных жа ўмовах гістарычнага суседзтва абсалютызацыя «залатых вольнасьцяў» межавала з вар'яцтвам.

Ці шкадаваць, што продкі не стварылі імпэрыі, што мы ня мелі тады тырана? Што на шалях Гісторыі мусіць заважыць болей — дзяржава ці асоба? Калі ў Эўропе, дык выберам другое. Чалавек як адзіная мера і аснова гісторыі. Зрэшты, калісьці адукаваныя беларусы гэта разумелі. Бо казаў жа Сапега, што «цель и скуток усих прав» — добрая слава, здароўе і дабрабыт кожнага. І палічылі ж патрэбным нашыя продкі ў Статуце назваць сябе «шчасьлівым народам» таму што стварылі добрыя правы, на якіх трымаецца агульная свабода, і што ня мелі, не цярпелі тыраніі: «большай улады гаспадарскай над сабою, чым пэўная мяжа, якую вызначыла права, не дапускалі».

«Усё трымалася на добрай волі, — скончу словамі закаханага ў мінулае сваёй зямлі Адама Міцкевіча. — Калі ж больш не далі цярпець ахвяры, Рэч Паспалітая спыніцца ў сваёй дарозе, а потым зазнае няшчасьці...» Яе канец усім добра вядомы. Пасьля «канцэрту трох чорных арлоў» рэспубліка зьнікла з эўрапейскай мапы.

А раб заўсёды хваліць тырана і моцную дзяржаву.

*Андрэй Катлярчук*

## Першы ў сьвеце дзяржаўны банк і першыя банкноты: беларускі сьлед

Сёлета 30 лістапада сьвяткуе 400-ю гадавіну Дзяржаўны банк Швэцыі (Riksbanken) — першая такая ў сьвеце ўстанова. Цэнтральны банк Швэцыі вядомы ня толькі як вялікая фінансавая кампанія, але і як найбуйнейшы навуковы фонд, што падтрымлівае разьвіцьцё тэхнічных і гуманітарных дасьледаў у краіне.

Але якое дачыненьне мае гэты юбілей да Беларусі — спытае чытач? Самае беспасярэдняе. Чалавек, які заснаваў банк Швэцыі і прыдумаў першыя ў Эўропе банкноты, працаваў у старажытнай Беларусі, валодаў старабеларускай мовай ды нават па маці быў беларусам. Пошук у архівах Швэцыі дае мажлівасьць падрабязна распавесьці пра гэтыя прыгоды.

15 чэрвеня 1611 г. у Рызе нарадзіўся хлопчык на імя Ганс Вітмахэр (Hans Wittmacher). Нягледзячы на здавалася б нямецкае прозьвішча, хлопец ня быў немцам. Ягоны бацька, галяндзкі месьціч, прыехаў у Рыгу ў пошуках лепшай долі. Тут ён распачаў лясны гандаль зь Віцебскам і Полацкам. Дачка аднаго зь ягоных беларускіх партнэраў шляхцянка Ганна Бельская стала жонкай нашага галяндца. Напалову беларус Ганс Вітмахэр быў суайчыньнікам нашых продкаў, бо нарадзіўся як падданы ВКЛ — Рыга знаходзілася тады пад кіраваньнем Рэчы Паспалітай. Але ў 1621 г. у жыцьці гараджанаў адбылася значная зьмена. Места Рыскае адышло да Швэцыі. Рыга, а не Стакгольм, была найбуйнейшым горадам Швэцыі з 1621 па 1721 г.

Эканамічны патэнцыял Рыгі грунтаваўся на гандлі зь Беларусьсю. Менавіта Рыга была «нашай брамай у Заходнюю Эўропу». Места было заснаванае немцамі ў 1201 г., а ўжо ў 1229 г. паўстала першая гандлёвая дамова паміж Рыгай і Полацкам, Віцебскам і Смаленскам. Гэта, дарэчы, першы вядомы помнік на старабеларускай мове. Дамова дазваляла нашым продкам вольна гандляваць і жыць ў Рызе. Гэтак у XIII ст. у старой Рызе паўстаў значны беларускі квартал, што гуртаваўся вакол праваслаўнай царквы Сьвятога Міколы. Царква была пад юрысдыкцыяй полацкага ўладыкі. Такім чынам, беларусаў, а не латышоў трэба лічыць другімі пасьля немцаў гістарычнымі жыхарамі сталіцы сучаснай Латвіі.

«Еду ў Рыгу па соль па скрыгу», — кажа наша старая прыказка. Мазырскіх радовішчаў яшчэ ня ведалі — уся жыцьцёва неабходная соль паступала ў Беларусь ажно з Партугаліі праз Рыгу. Праз Рыгу ішоў шкоцкі і дансі селядзец (тады танны, а сёньня дарагі, ён дагэтуль лічыцца адной з галоўных страваў беларускай кухні). Дзьвіной рыскія купцы везьлі ў Беларусь піва, віно, цукар, мэталёвыя рэчы, закрасы. Зь імі ехалі да нашай краіны швэды, што тады не ўспрымалася як экзотыка. Шмат хто зь іх асядаў у ВКЛ настала.

Швэд Рыгор Барастус складаў панэгірычныя вершы ў гонар Лява Сапегі. У той самы час іншы швэд Ляўрэн Боеі славіў Яна Караля Хадкевіча. Конрад Гётке ілюстраваў беларускія кнігі. Ляўрэн Горн працаваў настаўнікам Януша Радзівіла. Майстар Самуэль Вэбэр выробляў кана-

ты. Нарэшце Рыгор Штэтэнбэрг падрабляў у Горадні тастамэнты. Усе гэта сьведчыць, што тады Беларусь і Швэцыя знаходзіліся ў супольным эканамічным і праўным полі — правобразе сучаснага Эўразьвязу.

Што везьлі ў Швэцыю беларусы? Перадусім гэта пянька (зь яе рабілі канаты і вяроўкі). Рыга была сусьветным манапалістам у гандлі пянькой. «Русінская, якасная і чыстая пянька» была ў два разы даражэйшая за «маскоўскую». Апрача пянькі, стругамі плыў у Рыгу воск (бадай, уся Эўропа чытала пад беларускія сьвечкі), скуры, лес, смолы. Рыская гільдыя купцоў зь Беларусьсю была найзаможнейшая і фактычна кіравала рыскім магістратам. Менавіта да гэтай гільдыі належала сям'я Вітмахэраў-Бельскіх. Іх галоўным партнэрам была радзіна віцебскіх мільянэраў-купцоў Аверкаў. Разам яны пабудавалі магутную гандлёвую карпарацыю, што злучыла Віцебск з Рыгай, Амстэрдамам і Стакгольмам.

Сярод купцоў Віцебску было шмат пратэстантаў. Але Аверкі ў часы уніі трымаліся праваслаўя, бадай з эканамічных прычынаў: у Швэдзкім каралеўстве забаранялася знаходзіцца каталікам. Адзін з Аверкаў склаў беларускую хроніку XVIII ст. «Віцебскі летапіс».

Новая швэдзкая ўлада рэзка павялічыла экспартныя магчымасьці рыскага порту. «Гэта было за добрым швэдзкім часам», — кажа латыская прыказка. Наш Ганс скончыў швэдзкую школу, а потым пераехаў у Стакгольм, дзе працаваў у швэдзкім Дзяржаўным калегіюме (міністэрстве) гандлю. Менавіта ў гэтай установе ў 1654 г. быў распрацаваны плян па далучэньні Беларусі да Швэцыі.



Агрэсія Расеі супраць ВКЛ і захоп Полацку і Віцебску адрэзалі Рыгу ад беларускага рынку. У выніку швэдзкай контрапалітыкі 20 кастрычніка 1655 г. ВКЛ і Швэцыя падпісалі Кейданскую унію ды злучыліся ў адну фэдэрацыйную дзяржаву. Ва уніі з Швэцыяй, апроч пратэстанцкай шляхты, было зацікаўленае беларускае і рыскае купецтва. Менавіта беларускія купцы ўсталявалі кантакт паміж вялікім гетманам ВКЛ Янушам Радзівілам і губэрнатарам Рыгі і Лівоніі швэдам Магнусам дэ ля Гарды. Купцы-беларусы выдалі 100 тысячаў талераў крэдыту на падтрымку прашвэдзкай палітыкі Радзівіла. Былі купцы і сярод падпісантаў Кейданскай уніі. Напрыклад, заможны купец з Друі Іван Харламповіч падпісаў дамову кірыліцай, па-беларуску. Віцебскі купец Васіль Гіра пазычыў «на патрэбы караля швэдзкага» вялікія грошы — амаль 3 тысячы талераў.

Кейданская унія паклала пачатак зорнай кар'еры Ганса Вітмахэра. Як швэдзкі ўраднік і знаўца беларускай і польскай моваў, ён быў прызначаны дэ ля Гарды галоўным падатковым інспэктарам ВКЛ. Нашай шляхце было цяжка ўжыцца з новым ураднікам. Ад акуратнага швэда, што валодаў беларускай мовай і ведаў Беларусь, немагчыма было схаваць прыбыткаў. У выніку ў 1656 г. паўстала скарга беларускай і літоўскай шляхты на новага інспэктара.

Але Кейданская унія хутка заняпала. Прапольская шляхта Жмудзі ўзьняла паўстаньне. Расея акупавала Браслаўскі павет і Інфлянты. Страціўшы працу, фінансіст Ганс Вітмахэр прапанаваў каралю Швэцыі Карлу Х новы дзёрзкі праект, які дазваляў знайсьці ва ўмовах вайны дадатковыя грошы.

30 лістапада 1656 г., у свой дзень народзінаў, Карл X даў дазвол на стварэньне пад кіраўніцтвам Ганса Вітмахэра Stockholm Banko — першага ў сьвеце цэнтральнага банку. Але галоўным вынаходніцтвам Вітмахэра былі банкноты. Папяровыя грошы існавалі ў старажытным Кітаі, але не былі банкаўскімі крэдытнымі знакамі. У Стакгольме Ганс распачаў друк банкнотаў наміналам 5, 25, 100 і 1000 швэдзкіх талераў. Кожная банкнота рабілася ўручную, зь якаснай ільняной паперы (менавіта зь лёну вырабляюцца амэрыканскія даляры, што не псуюцца з часам), і выдавалася за асабістым подпісам Ганса. Новыя грошы ахвотна набывала насельніцтва за вялікія, цяжкія, нязручныя і ня вельмі каштоўныя швэдзкія медныя «платы»-грыўны. За новыя банкноты можна было набыць што заўгодна ці ў любы час абмяняць. Новыя лёгкія і надзейныя грошы хутка набылі папулярнасьць. Посьпех быў абсалютны. За заслугі перад дзяржавай Ганс Вітмахэр быў набілітаваны як шляхціц і атрымаў ад караля, паводле швэдзкай традыцыі, новае імя і прозьвішча — Ёван Пальмструх (Johan Palmstruch). Пад гэтым імем ён і вядомы сучасным швэдам. Але, відаць, не выпадкова свой герб новы швэдзкі шляхціц размаляваў у бел-чырвона-белы колер.

Пахаваны Пальмструх у зборы мястэчка Тэбю ля Стакгольму (Täby kyrka). Пра беларускае паходжаньне першага банкіра сучасным швэдам, на жаль, невядома.

Жыцьцё Ганса Вітмахэра, апрача моцных сувязяў зь Беларусьсю, ламае шмат якія стэрэатыпы. Аказваецца, беларус у мінулым быў ня толькі «панам сахі і касы». Нашыя продкі (тыя ж



Аверкі) былі бізнэсоўцамі эўрапейскага ўзроўню. Нават ва ўмовах шляхецкай рэспублікі ВКЛ, што, у адрозьненьне ад Швэцыі, ня мела яснай дзяржаўнай палітыкі ў падтрымцы прыватнага гандлю, беларускія купцы збудавалі фінансавыя імпэрыі. Гэта дае надзею што да пэрспэктываў сучаснага беларускага бізнэсу, бо ўсё новае — гэта добра забытае старое.

# Смак бяседы

Вольны час — найбольшая пагроза таталітарызму.

## Фэдэрацыя суседзтваў

Шляхецкае грамадзтва Вялікага Княства, дый Рэчы Паспалітай увогуле, у XVI—XVIII ст. было своеасаблівай фэдэрацыяй суседзтваў. Прасторавая структура краю ўяўляла сабою мноства ізаляваных лякальных супольнасьцяў. У такіх умовах наладжваньне бяседаў — збору гасьцей дзеля пачастунку і гутаркі — выконвала важную інтэгруючую функцыю. Зьнітоўвала ў адзіны арганізм размаітыя кланы, характары, інтарэсы ды забясьпечвала паміж імі сталыя камунікацыі. Сьцьвярджалася: «Не купляй маёнтак, а купляй суседа!» Што важна: у часы, калі грамадзтва было арганізавана паводле прынцыпаў мужчынскіх саюзаў (войска, сойм, царква, унівэрсытэт, карчма), на бяседы зьбіраліся сем'ямі, і гэтым самым да публічнага жыцьця, хаця б у такой форме, далучалася яшчэ адна палова насельнікаў краю — жанчыны.

## Госьць у дом — Бог у дом

Праз тое, што падобныя бяседы былі настолькі істотныя для супольнасьці, узьнік культ госьця. Старая прымаўка сьцьвярджала: «Госьць у дом — Бог у дом!» Уявім сабе тагачасны шляхецкі двор зь вялікай сям'ёй, дзе жыло супольна некалькі пакаленьняў, калі не лічыць далёкіх крэўных, кліентаў, служкаў. У гэтым шумным асяродку, дзе людзі вымушаны працяглы пэрыяд суіснаваць, павінны былі выпрацавацца таварыскія мадэлі арганізацыі зносінаў ды запаўненьня часу, які, што звыкла на вёсцы, цягнуўся павольна. У доўгія зімовыя вечары людзі зьбіраліся разам, размаўлялі, выпівалі, бавілі час, пільнуючыся адпаведных формаў ды звычаяў. Можна зразумець радасьць гэтай грамады, калі манатоннасьць жыцьця перапыняў госьць, які прыносіў навіны ды лёгкую бадзёрасьць для забаваў. Для прыбылага шырока адчыняліся брама і сэрцы.

Візыты больш ці менш афіцыйнага характару мелі складаны цырыманіял: неабходна было вытрымаць пэўныя фармальнасьці, каб не парушыць традыцыю прыёму і не пакрыўдзіць госьця. Найперш трэба было чакаць ды прывітаць госьця на ганку дому. Экіпаж павольна ўяжджаў на падворак, каб даць гаспадарам адпаведны час на падрыхтоўку да вітаньня. Гасьцей урачыста ўводзілі ў пакоі, прычым гаспадар запрашаў госьця, а гаспадыня — ягоную жонку. «Не абышлося без камплімэнтаў, без цырымоніяў ля дзьвярэй і пры заняцьці месца, калі сядалі», — прыгадваў мэмуарыст. Пад уплывам школьнай рыторыкі ўтварыўся пэўны стыль такіх прамоваў. Недастаткова было сказаць штосьці сутнасна і каротка — неабходна было скласьці цэлую прамову, падчас якой патрабавалася стаяць, ухвалялася выкарыстаньне жэстаў і спэцыяльнай, пажадана лацінскай, фразэалёгіі.

## Пацалункі сяброў

Адметнасьцю таварыскіх прывітаньняў на нашых землях часта былі пацалункі. Звычай гэты быў невядомы на Захадзе, і пры пашырэньні

ў XVI ст. італьянскага этыкету пацалункі пры сустрэчы сталі выходзіць з ужытку. Знаны паэт XVII ст., нашчадак старажытнага пінскага баярства Ян Пратасовіч такім чынам характарызаваў сытуацыю: «Сёньня гэты звычай амаль зьнік у Польшчы, але яшчэ захаваўся толькі сярод прастакоў на Русі» (Расею тады называлі Масквой, а Русьсю — беларускія і ўкраінскія землі). Барочная эстэтыка зноў вярнула гэтую традыцыю. І ня толькі ў Вялікае Княства — вядомы цяпер так званы францускі пацалунак ёсьць рэмінісцэнцыяй гэтай станавай адзнакі таварыскасьці.

### Абед без накрыцьця

Гасьцінны стол мусіў быць накрыты абрусам — няветлівым лічылася частаваць госьця за ненакрытым сталом. Падобны казус здарыўся ў Маскве з пасламі ВКЛ: іх паклікалі на абед да стала без пакрыцьця... Інцыдэнт быў даволі хутка вычарпаны — крамлёўскія адміністратары распарадзіліся прынесьці абрус.

Асноўны час прыёму праводзіўся пры стале. Прыбылага належала павітаць келіхам, а потым запрасіць на абед ці вячэру. Было недапушчальным і ў думках, каб госьць ад'ехаў, не прысеўшы да стала. Нават калі гэты чалавек быў зусім чужы. Ежы не бракавала, апэтыты былі някепскія. Пры стале разьвязваліся языкі, а афіцыйна-напышлівы стыль прывітаньня зьмяняўся таварыскай гутаркай, весялосьцю, забавамі. Келіхі, якія пад канец абеду пачыналі часьцей курсаваць, бадзёрылі кампанію. Менавіта тады ўтваралася прастора для навінаў, аповедаў пра вайну і палітычнае жыцьцё, для прыцягненьня прыхільнікаў, для ўладкаваньня розных справаў, прыватных ці публічных. Натуральна, мусіў быў утварыцца спэцыяльны рытуал бяседаў — у ежы і пітве абмежаваньняў не існавала, але ўдзельнік застольля мусіў заставацца «палітыкам» — гэта значыць чалавекам, што ўмее адпаведным чынам трымацца і не губляць над сабою кантролю. Хоць падчас самога абеду звычайна пілі піва, а ўжо пад канец прыносілі віно ды наліўкі — і тут пачыналася сапраўдная выпіўка. XVI ст. было ў гэтым сэнсе даволі стрыманае.

### Таварыскае жыцьцё

Але паступова, з памяншэньнем культурных матывацыяў, праз разбурэньне краю войнамі, з ростам заможнасьці простага шляхціца, які сплаўляў збожжа да Рыгі і Гданьску, зьявілася п'янства. У якасьці адмоўнага прыкладу сатырыкі і рэлігійныя маралісты XVII ст. падавалі Радзівілаў — маўляў, зь пераходам у пратэстанцва яны набылі іншыя моды, пачалі выпіваць ды прызвычаілі да гэтага іншых сэнатараў, а зь іх ужо і шляхта брала прыклад. Пік п'янства прыпаў на «саксонскія часы» (канец XVII — першая палова XVIII ст.). У Вялікім Княстве пілі болей, чым, напрыклад, у Малой Польшчы. Хіба што за Станіславам Аўгустам у другой палове XVIII ст. надышло працьверазеньне. Каб усё ж паўстрымліваць шкодную звычку, цырыманіял бяседаў усё больш ускладняўся, ад удзельнікаў патрабавалася актыўнасьць. Прамаўленьне тостаў усімі прысутнымі стала абавязковым.

Жыцьцё ў даўняй Беларусі і Літве было вельмі таварыскае. Мэмуары XVI—XVIII ст. паказваюць нам карціны таго, як супольна сілкаваліся і выпівалі, раіліся і маліліся, разам бавілі час і пра-

цавалі. Ва ўсёй гэтай сыстэме ўзаемадачыненьняў бяседы рытуалізоўвалі, акультурвалі разнастайныя кантакты, стрымлівалі заганныя звычкі і, часам, гасілі адмоўныя эмоцыі.

**Індустрыяльныя вакацыі**

Індустрыяльны працоўны тыдзень у Беларусі эвалюцыянаваў ад 70-гадзіннага ў пачатку XX ст. да 40-гадзіннага ў другой палове XX — пачатку XXI ст. Сацыялёгія разглядае вольны час ня проста як непрацоўны альбо як час для адпачынку. Вольны час — гэта непрацоўны час мінус час, неабходны на вядзеньне хатняе гаспадаркі, на сон і г.д. Значная рэзэрва вольнага часу сталася фэномэнам XX ст. Над ягонымі функцыямі задумаліся яшчэ ў XIX ст. Карл Маркс называў вольны час найвялікшым багацьцем, маючы на ўвазе яго патэнцыял для грамадзтва. Дагматычныя пасьлядоўнікі марксізму ўспрынялі гэтую тэзу як папярэджаньне пра пагрозу. Усе таталітарныя рэжымы XX ст. імкнуліся штучна абмежаваць вольны час — ня толькі працай, але і ідэалягічнымі мерапрыемствамі. Лічылася небясьпечным пакідаць чалавека самому сабе, а тым больш дазваляць незалежныя грамадзкія камунікацыі і аб’яднаньні. Менавіта таму, калі ў СССР закончыўся пэрыяд масавага тэрору, адной з галоўных тэмаў даносаў у партыйныя органы і КГБ сталі сяброўскія бяседы — хто зьбіраўся, якія анэкдоты расказвалі, што крытыкавалі...

Адзін з такіх эпізодаў апісаны ў сучаснай беларускай мэмуарыстыцы. Гаворка вядзецца пра своеасаблівы гурток, што склаўся на менскай кватэры пісьменьніцы Лідзіі Вакулоўскай, дзе рэгулярна зьбіралася вальнадумная інтэлігенцыя. У



сваіх успамінах Валянцін Тарас назваў гэтую кампанію «занадта вялікай і стракатай». Як высьветлілася пазьней, у клюб пранікла пазаштатны агент КГБ Зоя Б. Зь лістапада 1967 г. пачаліся перасьледы гаспадыні кватэры — яна трапіла пад цэнзурныя абмежаваньні, раскручвалася «справа Вакулоўскай». Пётар Машэраў, выступаючы на партактыве, з гэтай нагоды заявіў, што «кампэтэнтныя органы ўскрылі антысавецкі нарыў», а «з асобамі, якія рэгулярна наведвалі кватэру сябра Саюзу пісьменьнікаў Л.А.Вакулоўскай, дзе сыстэматычна ладзіліся п’янкі ды вяліся злосныя антысавецкія размовы», пачалі праводзіцца «прафіляктычныя гутаркі».

**Гараджане гуляюць ў вяскоўцаў**

Сёньня адпачынак ахоплівае сабою тыя забавы, што некалі былі заняткамі дзеля здабычы жыцьцёвых сродкаў — рыбалоўства, паляваньне, зьбіраньне грыбоў і г.д. Жыцьцё падчас вакацыяў пераўтвараецца ў вялікую забаву: гараджане гуляюцца ў вяскоўцаў, горцаў, рыбакоў, жыхароў лесу... Вельмі вялікая ўмоўнасьць прысутнічае і ў турыстыцы. Гід фармуе для турыста навакольны сьвет, пазьбягаючы рэальнага жыцьця, хіба што яно «маляўнічае» — гэта значыць, пасьля вяртаньня яно набывае статус вобразу. Турыст носіць з сабою фотаапарат і ў крайніх выпадках займаецца больш фатаграфаваньнем, чымся сузіраньнем. Гульня ўвогуле ёсьць неад’емнай часткай натуры чалавека.

Але ад старажытных формаў арганізацыі часу і кантактаў нам яшчэ засталася бяседа. Варта не губляць пачуцьця аўтэнтыкі і захаваць гэтую праяву ўласнага суверэнітэту.

*Алесь Белы*

## Cerevisia Albaruthenica. Портэр

У Рэчы Паспалітай варылі ня так шмат якасных гатункаў піва. Апроч градзіскага, адным са славутых было варацкае (зь мястэчка Варкі на Мазоўшы). Захаваўся гістарычны анэкдот, быццам папа Клімэнт VIII, які у 1588 г. наведаў Рэч Паспалітую як легат Сьвятога Пасаду, настолькі палюбіў варацкае, што пазьней на смяротным ложку і ў трызьненьні згадваў Pivo di Varka . Кардыналы, якія сабраліся вакол хворага, мяркуючы, што ён кліча на дапамогу нейкую малавядомую сьвятую, пачалі гарліва маліцца: Sancta Pivodivarka, ora pro nobis. Але ў Новы Час да айчыннага піва як у Польшчы, так і ў Літве вярхі грамадзтва ставіліся досыць паблажліва, аддаючы перавагу імпарту. У XVII ст. папулярнымі — у тых, хто мог сабе іх дазволіць — былі гатункі прускага (напрыклад, тыльзыцкае) ці інфлянцкага паходжаньня, браўншвайгскае Mumme або данцыгскае Toppen Bier . У сярэдзіне XVIII ст. пэўны час пратрымалася мода на чэскае піва, але ў канцы стагодзьдзя яно саступіла месца ангельскаму. Піўны стыль, які ў Брытаніі ўпершыню дасягнуў ўзроўню масавай вытворчасьці, усталяваўся на пачатку XVIII ст. і першапачаткова называўся там entire («цэльны») — моцны (7—12 % алькаголю) цёмны эль, канчатковую фэрмэнтацыю якога праводзілі ў вялікіх драўляных чопах. Своеасаблівы сымбаль ангельскай прамысловай рэвалюцыі XVIII ст., гэты танны і масавы напой меў вялікую папулярнасьць у працоўнага люду і хутка атрымаў новую назву — портэр (ад анг. porter — грузчык). Менавіта пад такой назвай ён стаў вядомы ў скандынаўскіх і балтыйскіх краінах.

Але калі на радзіме портэр меў ня самую высокую рэпутацыю, дык на ўсходзе і поўначы Эўропы ён быў сапраўдным прадметам раскошы й прэстыжу. Так, «Газэта Варшаўска» ў 1789 г. з гордасьцю рэклямавала «сьвежае ангельскае піва, проста зь Лёндану». Мода на ангельскае пранікла і ў Вялікае Княства, нягледзячы на тое, што ангельскі портэр абкладаўся самымі высокімі падаткамі — у Менску ў 1765 г. за бочку портэру спаганялі 18 злотых чопавага збору, у той час за бочку мясцовага піва — толькі 1 злоты.

Пасьля таго як нейкі хітры шкіпэр падараваў 5000 бутэлек ячменнага нэктару піцерскім шпіталям, ён быў узнагароджаны выключным правам пастаўляць ангельскае піва да двара Кацярыны II, а сам гэты стыль у Англіі пачалі ганарова называць Imperial Russian Stout — «Імпэратарскае Расейскае Моцнае». Пад такой назвай гэтае піва, вядомае ў нас і нашых суседзяў як портэр, захавалася ў Брытаніі да нашых дзён, хаця яго залатыя дні даўно мінулі. Затое Яго адгалінаваньне, вельмі цёмны эль, вядомы спачатку як stout porter — «моцны портэр», а пазней проста як stout, прыжыўся перш за ўсё ў Ірляндыі, і даў пачатак стылю, вядомаму дзякуючы такім славутым маркам, як Guinness і Murphy's. Папулярнасьць портэру выклікала вялікую колькасьць як «афіцыйных», сумленных, імітацыяў, так і чыста пірацкіх падробак, якімі ня грэбавалі ні ў нас,

ані ў самой Брытаніі. Вядомы віленскі лекар, доктар мэдыцыны Якуб Шымкевіч, які прысьвяціў вялікі разьдзел свайго дасьледаваньня «Аб п'янстве» (1818) розным спосабам фальшаваньня піва, засьцерагаў ад празьмернага захапленьня ангельскім: «Ня трэба гнацца за ангельскім півам і портэрам. Наша піва, калі робіцца са здаровага ячменю і ня скіслае, здаравейшае... Ангельскае піва таўсьціць і дурманіць, патрабуе доўгага прызвычайваньня і абдараваньня ад натуры моцным страўнікам». Віцебскі паэт-сатырык XIX ст. Францішак Рысінскі таксама крытыкаваў сваіх землякоў — аматараў портэру: «Іншы ж п'е шакаляд, пуза портэрам поўніць, Быццам з Грубэрам мудрым гаворыць на роўных». Каб узмацніць дурман, горыч і іншыя вартасьці свайго піва, ангельскія піваварны дадавалі ў яго тытунёвы ліст, гішпанскі перац, альяс і нават опій (пагаворвалі й пра мыш'як) — асабліва ў тое піва, якое прызначалася на экспарт, бо дома ўлады ўсё ж сачылі за несумленнымі вытворцамі. На пачатку XIX ст., як пісаў Шымкевіч, ангельцы ў пагоні за прыбыткам нават спрабавалі цалкам замяніць і солад, і хмель нейкімі хімічнымі злучэньнямі, так што гатовы прадукт, паводле выразу газэты Lloyds Evening Post, быў падобны да сапраўднага піва, «як вапна да сыру».

Адной з вартасьцяў, за якую ў Рэчы Паспалітай цанілі ангельскі портэр, была яго незвычайная пеністасьць. Айчынныя тэхналёгіі не маглі пахваліцца тут добрымі вынікамі, прынамсі пры варцы піва зь ячменнага соладу ці пшаніцы. Але інгрэдыентам, які дазваляў атрымаць больш пеністае піва, быў гарох — шырокае яго выкарыстаньне ў піваварстве было адной з рэгіянальных



асаблівасьцяў менавіта Вялікага Княства. У сучаснай Літве гатункі піва, у якія дадаецца гарох, захаваліся дагэтуль. Праўда, гэтая асаблівасьць літоўскага піва пакуль не настолькі добра распрацаваная, каб вылучыць «гарохавае» ў асобны стыль. Што ж датычыць портэру, менавіта ён на землях былой Рэчы Паспалітай, ужо пасьля падзелаў, адыгрываў ролю, так бы мовіць, нацыянальнага піўнога стылю. У Беларусі ў XIX ст. асабліва славіўся портэр бровару Ігнацыя Багдашэўскага ў Вязыні (ля Фаніпалю). Магчыма, аднаўляць гістарычныя традыцыі айчыннага піваварства варта менавіта зь легендарнага «балтыйскага портэру», вытворчасьць якога ніколі й не спынялася ў палякаў, латышоў, скандынаваў? Але ў такім выпадку гэта мусіць быць не выпадковая імітацыя, ня проста моцнае цёмнае піва, а менавіта «стары добры эль» мацункам 7—7,5 %, звараны паводле ўсіх канонаў адпаведнай тэхналёгіі, з водарам добра пражанага соладу, з фруктовым ці кававым прысмакам. Сваяцтва з Guinness усё ж да чагосьці абавязвае, дый перад бліжэйшымі «сваякамі» ня мусіць быць сорамна — швэдзкім Pripps Carnegie Porter, фінскім Koff Portteri, эстонскім Saku Porter, латвійскім Aldara Porter. Праўда, большасьць зь іх напраўду ня элі, а лягеры, таму назву «портэр», з пункту гледжаньня сапраўдных знаўцаў, носяць не зусім заслужана...

*Вольга Бабкова*

## Карчма

Паводле актавых кніг
Менскага й Слонімскага судоў
канца XVI — пачатку XVII ст.

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына.
Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка зь ляндаром
Мёд, гарэлку раздаюць.
Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.
*Вінцук Дунін-Марцінкевіч*

Калі я прыгадваю паданьне пра чараўніка Менеска, то чамусьці ўяўляю замест ягонага вялікага каменнага млына, адкуль, як вядома, па начох чуліся дзіўныя крыкі, галёканьне, песьні, музыка і скокі — іншую будыніну — карчму.

Ня ведаю, ці шмат людзей бачылі чароўную «хатку» Менеска, калі яна гойсала па-над зямлёй у пошуках прыгодаў, а вось раскіданыя паўсюль сапраўдныя корчмы бачыла і не абмінала багата «люду паспалітага».

Карчма — своечасовы прытулак. Карчма — злачынны кут. Карчмар абагрэе, накорміць і напоіць. Карчмар жа абрабуе і ашукае. І тым ня менш гэтае няпэўнае месца не заставалася без наведнікаў. Адных сюды прыбівала непагадзь, другіх — далёкі ад дому гандаль. Іншыя ж, сталыя, проста бавілі час, бо ногі самі вялі такіх у адваротны бок ад уласнае хаты.

Карчма была месцам спакусьлівым, бо мела нейкі падвойны статус. З аднаго боку гэта было месца, дзе часам чалавек губляў праз гарэлку чалавечы твар, дзе можна было пачуць моцныя словы або адведаць пякучых кухталёў. Нават выраз «карчомная лаянка» ня трэба было тлумачыць, бо ён трывала ўвайшоў у тутэйшы абіход. З другога боку, наведаньне карчмы, застольле — стары звычай, нават завядзёнка такая... «пришол был в добрый обычай, хотечи собе казат дати меду або пива...» ці «... будучы на складу брацким пивном, который... зготовали были водлуг обычаев своих стародавних...»

Дзеля чаго зьбіраліся людзі ў карчме? Адпачыць, пазбыцца турботаў, павесяліцца. «Толькі і балю, што ў карчме». Піва, мёд, квас, гарэлка «аквавіта» — традыцыйныя напоі беларускіх корчмаў дый шынкоў. Мёд згадваецца прэсны, кіслы, сычоны, стары з карэньнем. Піва — насеньня пшанічнага, ячнага. Квас яблычны. У Статуце прыгадваюцца яшчэ і некаторыя гатункі вінаў: «мушкатела», «малмазея». У карчме можна было згуляць у карты, біркі, паслухаць музыкаў ды паскакаць. Сярод наведнікаў карчмы згадваецца скамарох Івашка з «трубой мосендзовой». Сярод музычных інструмэнтаў — кобза, дуда, скрыпка.

Будаваліся корчмы ля скрыжаваньняў дарог, пры ўезьдзе ў сяло, на кірмашовых пляцах, ля ракі, маста, поплава, возера, млына, на ростанях дарог, «на гостинцу великом», на рагу вуліцы... У сутоньні карчмар паліў ля будынка вогнішча, каб

гэты своеасаблівы маяк не абміналі выпадковыя падарожнікі. Удзень жа карчма мала чым розьнілася ад звычайных сялянскіх хат. Звычайнае жытло з хаты і сеняў, часам з заездам для коняў, з калодзежам, з агароджай. Найбольш уражвала ўнутранае зьмесьціва карчмы. Вось ужо пэўна стаяў бы гармідар ад звону ды ляскату карчомнага начыньня, надумай апошняе, як той млын, узьняцца ўгару ды пакруціцца над хмызьнячкамі... Катлы медныя піўныя і гарэлачныя, ночвы, каўшы, вёдры, ушаты, кадкі, фляжкі, бочкі, кварты «з носаткою», кацялкі масянжовыя, місы драўляныя, талеры «цыновыя», куфлі, чаркі, «шкленіцы» вялікія і малыя, трыногі медныя. Накіўкі, чарапкі, мядніцы, лаханкі, каўдопы, ды, мусіць, безьліч яшчэ якога «посудка» былі пад рукою гаспадара карчмы і ягоных памочнікаў.

Карчміт звычайна трымаў карчму арэндай у заможнага пана (бо Статут сувора забараняў шляхце займацца гандлем, ці мець у доме шынок) і быў досыць заўважальнай постацяй сярод мясцовага люду. Яго ведалі гэтаксама, як і млынара, і каваля, а пэўна і болей, бо на старонках актавых кніг гэты тыпаж — адметны герой свайго часу. Рэдка калі карчмару даводзілася ціха рабіць сваю штодзённую працу. Часьцей быў біты, ці біў сам, краў ці быў абрабаваны.

Як выглядаў карчмар? Вядома, па-рознаму. Але ж «поес ременный с мошною», дый «на том же поясе нож, огниво» былі, мусіць, шмат у каго, бо як жа бяз гэтага?

Хто толькі не наведваў карчму! Казалі ж «Шынок пры дарозе цягне што ў возе».

Шматлікі люд цясьніўся на грубачасаных лавах, туліўся да печкі, тупатаў на ганку, гаманіў...



Найчасьцей то былі тутэйшыя людзі — «обыватели Великого Князства Лйиовского», збольшага знаёмыя адзін аднаму: баяры, мужыкі, «голота», «возницы», «курвы», «волочник з шнуром» (той, хто мераў валокі зямлі), а то й «чоловек народу простого, в сермязе й лаптях, бородою й усами зарослый...» Усе былі навідавоку. Варта было аднаму хлопцу трапіць пад падазрэньне ў крадзяжы грошай, як тут жа прыгадалі, што апошнім часам «... Пилип перед тым пенези никоторых не мевал, а тых прошлых часов... в корчмах мало не каждый день по двадцати грошей и больш на мёд пропивает... пироги куповал».

Асобна вылучаўся «люд подорожны, прыеждчы», «гости» — купцы. Іхныя вазы з таварам стаялі ў двары, а самі яны часам спыняліся і на начлег. Прытулак у карчме мог скончыцца і стратай купецкага дабра не без дапамогі карчмара. Пра падобнае здарэньне апавядаў купец, які быў абрабаваны ў Міхнавіцкай стадоле жыда-арандатара Абрама. Ён вяртаўся зь Вільні, і ў выніку згубіў увесь свой набытак: «... товаров на одном возе было: селедцов бочок две, а на другом возе, на котором сам ехал, было товару вшелякого крамного, так полотна, речей разных, што одно колвек, яко чоловеку купецкому немало належало серпов, кос. Того всего товару на том возе было коп за 80, а иншого и спомнети не могу»

Ад злога стадольніка пацярпеўтаксама і радашкавіцкі ўраднік Ян Рагульскі, які з таварамі вяртаўся зь Менску дадому. Адно што здарэньне адбылося не ў самой карчме. «... толко выехали з Менска з улицы дорогою добровольною гостинцом великиким... непоеждаючы дорогй ростаней, которая идет з Менска до Боровлян...

нет ведома для которое прычыны наполнившыся воли своее,а взявши злый умысл перед себе стодолник... именя Видогощского... Сасин Куляжыч сам з двема браты молодшыми... догонивши... зо две годины до вечора, не маючы до них жадное потребы и ниякое розмовы... кийми и розными бронями побили, помордовали и скрутне, а шкодливе поранили».

У сапраўдную пастку да карчмара патрапіў зямянін Станіслаўш Млажэўскі. Хоць на пачатку ўсё выглядала нібыта законна і прыстойна. Зь нейкіх прычынаў зямянін вырашыў пакінуць арандатау стадолы ў Сьмілавічах Яхіму і жонцы ягонай Гестры «до схованя» «скриню возовую железом окованую, замчыстую» за «замок их, ключы их». Але кажуць жа: «Камарова вока праз лахманы грыўні бачыць». Праз год зямянін «ездил, хотечы от них тую скриню свою одыскат... нижли тот Яхим... отдати и вернути ку великой шкоде не хочет». Шкода была сапраўды вялікая, бо пералік зьмесьціва скрыні зямяніна ўражвае. «В которой скрыни был мешок полотна чырвоного, в котором было зложоно серебра ламаного от шабли з ложками серебранымй поломаными в розных штуках гривень шесть, поес великий серебраный с чаткамй и зунклями старосвецкими... гузов великих серебраных гладких шеснадцать. В той же скрине была шуфлядка флядровая... в которой было: ланхцужок золотым... перстенок золотый з дыяментом спичастым... другой перстенок з рубином... монета одна паньцеровата... коралев великих двадцать, межы которыми было перел великих урынских десять... колпак оксамитный кормазыну чырвонага, кошуль музских коленских, тувални две коленских з лиштвами великими взоры... обрусов два... сервет коленских тузины два иншых речей дробных и справ розных немало было».

Быў у карчмара, зразумела, і іншы клопат. Як найлепш зварыць піва, уцяпліць узімку будынак карчмы, набыць сьвяжэйшага-мёду... А дзеля гэтага трэба было прыкладаць пэўныя намаганьні: дамаўляцца, вышукваць... Гэтак карчмар Марцін Пекар, даведаўшыся, што ў вёсцы Жыдкавічы пасьля леташняга мору апусьцелі тры «харомы», цішком перавёз іх да сваей карчмы ў Вішава «... на дровы порубил, избы свой обогревал и пива уставниче варил гостям, людям переежджим огни роскладал...» Калі ж зямянін Матыс Хатылеўскі заўважыў зьнікненьне пустых «хором» сваіх падданых, то зьвярнуўся па справядлівасьць да суда і разам з возным пайшоў да карчмара. Той жа сустрэў іх варожа, бо чужое дабро ужо звыкся лічыць сваім. «...и вырвавшй тычину с плота на Матыса набегал, хотечи его ударити... за груди торгал... и тычиною в груди и в бок торкал... шкаредными словами лаял: вы, злые люди, пошто тут, до дому моего приходите, хто вас вижами... на мене смеет дати, не здоровы тут от мене выйдете!»

Бывала, што карчмарне вытрымліваў цяжару сваёй працы і ўсё часьцей сядаў за сталы разам са сваіі наведнікамі. Уурэшце гэта скончылася трагічна. Сьведкам і саўдзельнікам такога здарэньня быў возны, пра што і даўзапісаць у судовую кнігу: «Был в стодоле, в корчме Переджырской... там нашол и зостал арендара тое стодолы Федора Грынковича зыншыми людьми обчыми горелку пьючи, где я, будучы, пил з ними горелку, то... тот арендар... опившыся горелки, почал

умдлевать, и жона его Зейха, видечы... снегом, водою утирала и обливала, розумеючы, иж бы то ему помоцно было, леч ничого оному не помогло, але мусял с того опильства з сего света смертю зойти, умерти».

Сама карчма часам была месцам бою, гвалту, нападу, сапраўднай «гарачай кропкай». Пэўна гарачай, бо часьяком усё сканчалася агнём. Гэтак падданыя Станіслава Паца «попивши в стодоле мёд, пиво и горелку...», спалілі карчму над ракою Ушою зямяніна Властоўскага «... гнистыми стрелами прыправными губку з серою — в нивеч обернули дощатку...» Паданыя жкнязя Крыштапа Радзівіла зь вёскі Павялкова, зьбіўшы ў Петрыкаўскай карчме карчмара, ягоную жонку і служэбніцу, гразіліся «... мало на том, иж арендара, жону и служебницу его збили, але еще постараемосе и з стодолою соломою обволокшы огнём запалате...» Пажар мог узьнікнуць у драўляным будынку таксама з—а сьвечкі, з-за печкі... «мещане Грицко, Пащко, Федор маючы з собою на возех товар, тоест соль белую, ехали до места Слонима, хотячи ее сродат... и заехали на ноч до стодолы... имения Лососинского. То пак дей оные мещане, яго люд подорожный, спрацйованый в ноч были уснули... стодольница а господыня оное стодолы именем Соня Руска топила избу и в недоизренью её от того огня стодола запалилa. Оные мещане, видячи таковый гвалт от огню, яго люд сонный, аж ледво в окны повтекали...»

П'яны карчомны кураж мог перарасьці ў шаленства і безраважнасьць. Для лдзей. Якія парушалі спакой, учынялі гвалт, нападалі на корчмы і іх гаспадароў, судовя кнігі мелі пэўныя азначэньні «зрушытели покою посполитого», «злочынцы», гультаі, шкоднікі, «зуфальцы», «чоловек опилы»... Часта карчомныя сытуацыі ўзьнікалі падчас гульні ў карты ці сумеснага расьціцця: «куфлем з пивом у видене варил... ивом очи залил...», «карту, што играют... змовичши за печ закинул... очи мёдом залил», «у голову горшком забил». Часам людзі, што знаходзіліся побач у карчме «бити не допускали», выводзілі «злодзеяў» прэч. Ратавалі ад магчымага калецтва. Апавядаў і скардзіўся у судзе зямянін на зямяніна пра здарэньне на бяседзе: «почал мя шарпати и мачуку з рук моих рвати з слугою своим, а другому слузе сваему казал мя з тылу кордом рубать, аж дей мя пасынок... ратовал и ззаду ранит не дал...» Сярод «зрушытелей спакою» трапляліся і кабеты, нават зямянкі. Гэтак пацярпеў ад слонімскай зямянкі Міхайлавай Рэзанавай «детина, который приглядает шинку в дому корчомном, жид Сорока». Разьюшаная кабета зьбіла яго і «шапку чорную куницами падшитую снела, и згинули грошы, которые люди напили».

Мэтай нападу на карчму быў перш за ўсё крадзёж грошай. Але ж рааўнікі не абмяжўваліся толькі гэтым. Часьцей за ўсё напіваліся тым, што было, а рэшту вылівалі проста на зямлю. Гэтак, у Белавіцкай карчме лачынцы «...защепки порубавши, мёд полубочок за семдесят грошей беручи пили, а иншое на землю розлили — горелки шест кварт, а воску два камени згинуло...» У Дзеравенскай карчме рабаўнік «впершися в стодолу и до светлицы замок сек и шкоды немалые починил... бочок три пива по пети ушатков... з бочек на землю вылил». Пасьля нападу сама карчма выглядала ня лепей за параненага карчмара. Дзявяткаўскі ўраднік пасьля агляду будынка

пакінуў у судзе наступны аповед: «видел на воротех с приезду Слонимского знаков тятых... увошедши у светлицу, по правой стороне у стене з ручницы стрелено, другий раз окном стрелено з местечка... и третий раз противку окна у стене стрелено, на той час шкод корчмту стало: медовых пенезей згинуло три копы, пивных пенезей рубл грошей, горелочных две копы...» Злодзеі таксама секлі дзьверы, аканіцы, брамы, крышылі посуд, пракульвалі сталы і лавы.

Паміраючы, уладнік карчмы, прыгадваючы ў тэстамэнце ўсю сваю маёмасьць, вызначаў таксама і яе лёс. Наступны фрагмэнт — словы апошняй волі слонімскага баярына Федара Валовіча, яшчэ маладога мужчыны: «...дом в месте Слонимском на улицы Великой, идучи з рынку по правой стороне лежачий и к тому корчма вольная, в том же дому мёд, пиво, горелка... Корчму... тут у месте Слонимском даную от его королевской милости небожчику отцу моему за млын... отписую жоне, детем моим на вечные часы...»

**Слоўнік старабеларускай актавай мовы**

Бирки — жэрабя
Чатки — падвескі, упрыгожаньне
Занкли — спражкі ці гузік
Кармазын — сукно цёмна-чырвонага колеру
Тувальня — шырокі ручнік, завезены зь Італіі
Возны — судовы выканаўца



# II
# Культура

*Valancin Kalnin*
Vučniouski sšytak

*Валяньцін Калнін*
Maestri comacini

*Андрэй Шпунт*
Габрыэль Грубэр — беларускі езуіт

*Valancin Kałnin*

## Vučniouski sšytak

Niadaŭna pabyvaŭ u Niasvižy. Z haściami. Pakazvaŭ im horad, zamak i park. U parku źjaviłasia halereja histaryčnych partretaŭ z kamienia j bronzy. Stajać u dva šerahi hranitnyja pastamenty j biustyki, amal u naturalnuju vieličyniu. K. Mickievič (Jakub Kolas) — vučyŭsia tut u nastaŭnickaj seminaryi; L. Kandratovič (Uładzistaŭ Syrakomla) — pracavaŭ u radziviłauskim archivie; kniaž Jury Niaśviski—ad jaho viadziecca zasnavańnie horadu ŭ XIII stahodździ (napeŭna, abličča prydumanaje); Mikalaj Kryštaf Radziviŀ «Sirotka» — zasnavalnik niaśviskaj ardynacyi, fundatar značných pabudovaŭ horadu. A heta što za postać z raspuščanymi vałasami, vostrymi vusami j klinavaj barodkaj, zuchavy jak d'Artagnan? O, dy heta Jan Maryja Bernardoni, znakamity architektar časoŭ «Sirotki». Heta jon prajektavau kaściol u Niasvižy, adno ź pieršych barokavych zbudavańniaŭ tahačasnaj Rečy Paspalitaj! Dyk voś jon jaki! Nu prosta, volny mastak!

Mája historyja ź Janám Maryjaj (ci Maryjam?) Bernardoni pačałasia ad prajektavańnia restaŭracyji niasviskaj ratušy. Jakraz u tyja časy, u 1990 hodzie, byli apublikavanyja historykam H.Halenčankam i architektaram T.Habruś kraślunki Bernardoni, jakija zachoŭvajucca ŭ akademičnaj biblijatecy ŭ Kijevie («Mastactva Biełarusi» Nr. 5). Było pakazana niekalki arkušoŭ z pabudovami Niaśviža, Slucka, Horadni, detali kaminaŭ, dymnikaŭ, partalaŭ. Potym my ŭžo sami paznajomilisia z albomam, jakomu dali nazvu «kijeŭski».

Albom hety maje 71 arkuš, kraślunkami j malunkami zapoŭnieny 122 staronki, uklučajučy vokladku. Bolšaść kraślunkaŭ — pieramaloŭki z architekturnych traktataŭ XVI stahodździa, ale jość i aryhinalnyja prajekty, pryčym niekatoryja ź ich naležać užo da siaredziny XVII st. Napeŭna, albomam karystalisia niekalki asobau pierad tym, jak jon patrapiŭ u Kijeŭ.

Siarod kraślunkaŭ znajšli my j plan niasviskaj ratušy. Tady ž upeŭnilisia, što ratušu taksama prajektavau J.M.Bernardoni. Pavodle prajektu restaŭracyi treba adnavić dva jarusy viežy, jakaja była razburanaja pažaram na pačatku XIX st. U hetaj adnoŭlenaj viežy j było vyrašana stvaryć muzej architektara Bernardoni. Pačałosia vyvučeŭnie jaho bijahrafii j tvorčaści.

Treba dadać, što va usioj hetaj pracy—i u restaŭracyjnym prajekcie, i u pošukach vobrazu muzeja i jaho hieroja — udzielničali roznyja ludzi, jakich razam ciažka nazvać kalektyvam, bo heta było chutčej navukova-vychavaŭčaje asiarodździe, jakoje arhanizavała Halina Žarovina, aŭtar prajektu restaŭracyi ratušy j kiraŭnik hurtka «Batlejka» pry restauracyjna-mastackim vučyliščy ŭ Miry. Dła navučencau heta była i rabota (abmiery, kraśleńnie), j vučoba (vyvučeńnie historyi mastactva), i zabava (pastanoŭka spektaklaŭ u «Batlejcy»).

Śpiarša dobra praštudyjavali «Słownik jezuitów artystów», vydadzieny u Krakavie u 1972 h. (aŭtary J.Poplatek i J.Paszenda), ź jakoha daviedalisia, što Jan Maryja Bernardoni naradziusia kala 1541 h. u miascovašci Kano pravincyi Koma ŭ paŭnočnaj Italiji. Šukali pa usich mapach hetuju miascovaść, dy u Miensku takich mapaŭ nie akazałasia, znajšli tolki u Kijevie na padrabiaznaj mapie Švejcarskich Alpau jašče ź minułaha stahodździa zusim maleńkuju kropku pasiarod horau pry samaj miažy z Švejcaryjaj. Potym pačali źbirać mapy j vizerunk i XVI—XVII stst. tych miśacinau, dzie pabyvaŭ Bernardoni. U



Itáliji — Rym, Abruzzo, Neapal, vyspa Sardynija, u Rečy Paspalitaj — Lublin, Poznań, Kališ, Hdańsk, Krakaŭ.

Budaŭnikom Bernardoni staŭ jašče na radzimie. Z malenstva viedaŭ matematyku, imknuŭsia stać architektaram. Hetamu spryjała, vidać, asiarodździe, bo šmat znakamitych budaŭnikoŭ i architektarau pachodziła z paŭnočnaj Italiji. Paśla dziesiaci hadoŭ pracy mularam Bernardoni ŭ 23 hady ŭstupaje u orden jezujitaŭ. Vidać, jon byŭ užo spraktykavany prajektoŭščyk, kali ŭ 1583 h. pa nastojlivych zapytach Radziviła «Sirotki» kiraŭnictva ordena vysyłaje jaho na budaunictva kaściota j kalehijuma ŭ Niaśvižy.

Adnak pa darozie jaho zatrymlivajuć u Lublinie, dzie ŭ toj čas taksama budavaŭsia jezuicki kalehijum. Tut Bernardoni ŭvajšou u kanflikt z kiraunictvam, jakoje žádala, kab jon pracavaŭ razam z budaŭnikami na ryštavańniach. Na heta architektar abjaviŭ, što kielmu u ruki nia voźmie, bo jašče 11 hadou tamu jezujicki hienerał zvolniu jaho ad fizyčnaj pracy, a siudy jaho dasłaŭ dla kraśleńnia planaŭ i kiravańnia budoulaj. Lublinskaje kiraŭnictva nie adstupała. Užo byli adpraulenyja listy ŭ Rym, u jakich miž inšym pisałasia, što u volny čas Bernardoni zachaplajecca čytańniem nia tolki architekturnych pracau, ale j inšych tvorau jakija da prafesii dačynieńnia nia majuć. U 1584 h. jaho namieravalisia adpravić nazad u Rym, ale hetahá nie adbytosia, bo, vidać, Bernardoni sastupiu patrabavańniam.

Tolki ŭ 1586 h. źjaŭlajecca Bernardoni ŭ Niaśvižy j zastajecca tut na praciahu 13 hadoŭ. Napeuna viadoma, što jon kiravaŭ budaŭnictvam jezuickaha kaścioła j kalehijuma, nakont inšych pabudoŭ u Niaśvižy dy dzie dalej jość tolki niepaćvierdžanyja mierkavańni. Taksama viadoma, što jon vyvučyu budaŭničamu mastactvu mienskaha uradženca, byłoha kušniara Jana Frankieviča, jaki paśla ustupu da jezuitau pracavaŭ u Niaśvižy

piekaram. Paźniej na pačatku XVII st. Frankievič zbudavaŭ u Vilni kaścioł Sv. Kazimíra, što j ciapier staić na Ratušnym placy, tolki hałoŭnaja fasada pieraroblenaja u XVIII st.

Paśla zakančeńnia svaich pracau u Niaśvižy u 1599 h. Bernardoni vyjaždžaje ŭ Krakaŭ na budaŭnictva kaściola śviatych Piatra j Paula. Tut jon i pamior u 1605 h. Zachavaŭsia list Bernardoni da Radziviła „Sirotki» u jakim jon apisvaje, jak jamu pracujecca ŭ Krakavie.

Pa hetych voś dadzienych i była raspačataja rabota. Vyśvietliłasia, što pałacavyja karpusy u niaśviskim i mirskim zámkach vielmi padobnyja pa struktury, a kali na pieršy jość plan u kijeŭskim albomie, to zusim vierahodna, što j druhi, u Miry, taksama prajektavau Bernardoni. Heta tym bolš mahčyma, bo pry raspačatku budaŭnictva ŭ Niaśvižy (budavausia nia tolki kaściol z kalehijumam, ale ŭvieś horad), u im nie było dzie kvataravacca, dyk uvieś kniaski dvor i zaprošanyja jezuity žyli u Mirskim zamku, ab čym śviedčać podpisy na lištach «Sirotki» i jezuickich pradstaunikou. Potym, kali toje-sioje zbudavali ŭ Niašvižy, dyk pierajechali tudy, a zatym i ŭ Miry pačali pierabudovu.

Heta bylo vielmi značnaje adkryccio, asabliva dla našych «chabzajcaŭ» — navučencau mirskaha vučylišča: znakamity Bernardoni pracavaŭ u Miry! U hurtku źjavilasia pieśnia: „Ad Ryma da Mira taki daloki puć, staić horad Niaśviž—nijak nie abmínuć« (slovy «trasiankavyja», ale ž ich «nijak nie abminuć).

Druhim adkryćciom było toje, što my ubačyli u Niašvižy Italiju. Heta asabliva budzie vidavočna, kali daviadziecca ŭźniacca na adrestaŭravanuju viežu ratušy: voś palacavy korpus zamka, adsiul jon vyhladaje jak paŭnočnaitalijskaja renesansovaja vila; voś kaścioł, uzoram dla jakoha byla carkva Isusa (II-Gesu) — haloŭnaja śviatynia jezuitau u Rymie; a voś Alba — miesca adpačynku i palavaňniaŭ. I usio heta akajmavanaje kaskadam stavou, jakija pa svajim abrysie vielmi nahadvajuć voziera Koma — cudoŭnuju miaścinu, adkul rodam byŭ Bernardoni.

I tady my zrazumieli, što Bernardoni pražyu u našym krai najlepšyja 13 hadou svajho žyćcia. Usio jamu tut było dobra: apynuusia pry bahatym kniaskim dvary, nichto nie pahaniaje na ryštavańni, prajektavańnia — kolki chočaš—cełу horad, ludziej nia tak bahata, jak na radzimie — łahoda j spakoj. I jak padziaku za dobry prytułak Benardoni pakidaje nam maleńki adbitak svajho rodnaha kraju.

Była ŭ Bernardoni ŭ Niaśvižy jašče adna pryjemnajść — zdolny pamočnik i vučań, Jan Frankievič. Pra jahony talent śviedčyć taki fakt: kali jon sustreŭsia ŭ 1594 h. z Bernardoni, to mieŭ užo 35 hadoŭ, ale navučyusia składanaj prafesii architektara tak daskanała, što u Vilni pry budaŭnictvie kaściota śv. Kazimíra na praciahu 20 hadoŭ biaźźmienna kiravaŭ i uźviadzieániem ścienaŭ, i vystrojem interjeraŭ.

Nievypadkovym zdałosia nam spatkańnie j supracoŭnictva Bernardoni z Frankievičam. Kali Bernardoni tak nie lubiŭ ryštavańniaŭ, a ŭ volnyja časy addavaŭsia čytańniu nia tolki prafesijnych knižak, to napeŭna jon mieŭ charaktar miakki j rachmany (niezdarma jon sastupiŭ patrabavańniam u Lublinie, dyj tut, u Niaśvižy, jezuickija kalatory adsunuli jaho ad uźviadzieńnia kapuły nad kašciotam). A kali tak, to jon pavienien byu lubić...bułački! Miakkija biełyja bułački, jakija lepšym čynam moh pryhatavać talenavity piekar Frankievič. Adsiul i abličča samoha Bernardoni — pozirk łahodny, tvar kruhleńki, holeny, bo byu jon prostym manacham biez adznakau i pryvilejau, na hałavie — manaskaja šapka z čatyrma vuškami, jak pryniata u jezujitau.

Što datyčyć „kijeuskaha albomu«, to u časie padrychtouki prajektu restauracyji niaśviskaj ratušy, pamočniki-„chabzajcy« šmat nad im papracavali, vyšukvajučy patrebnyja detali j analahi. Akazałasia, što pieramalouka architekturnych detalau — sprava nia lohkaja, navat ad prafesijanałau patrabuje vytrymanaści j sprytu. U vyniku była zroblenaja vysnova, što „kijeuski albom« źjaulausia u pieršuju čarhu nia zboram prajektau, ale študyjumam, h.z. vučebnym šytkam. Paŭstali sumnievy: ci sapraŭdy albom byu vykanany Bernardoni. Iznoŭ pačałosia vyvučeńnie, ale na hety raz linhvistyčnaje.

Niekalki kraślunkau majuć nadpisy na polskaj movaj, spatykajucca asobnyja słovy, napisanyja kirylicaj. Na padstavie taho, što adnym z praviłam ordenu jezuitaŭ było vyvučeńnie movy taho kraju, kudy ichnich manachaŭ nakiroŭvali, T.Habruś robič vysnovu, što znajomstva J.M.Bernardoni ź miascovym dyjalektam było naturalnaj źjavaj («Stroitielstvo i architiektura Biełorusii,1990.Nr.4).

Adnak, pa-pieršaje, viedańnie miascovaj movy było patrebnaje ŭ pieršuju carhu misijaneru, jakim Bernardoni nie źjaŭlaŭsia. Pa-druhoje, nadpisy ŭ albomie pa-sutnaści polskíja, ale majuć biełaruskija adchileńni, časam z citłami, charakternymi dla starasłavianskaj piśmovaści, adnak niama nivodnaha hramatyčnaha adchileńnia, ułaścivaha inšaziemcu (pamyłki u skłanieńni, adpaviednaści času j h.d.). Sučasnaha čytača ździvić mohuć pryklady napisańnia polskaha «y» praź «i», albo «c» praz «cz», ale, miarkujučy pa dakumentach XVI st., takoje napisańnie było normaj: «Ta kamenicza zbudovana w zamku wniezwezkiem jego mosczi pana Radziwiła wojewodi trockiego ma na dłuzkosć łokczi siedemdziesiet litfskich Ana sirokosć łokezi 24». Chutčej za usio nadpisy rabiu miascovy žychar.

Składać albom pieramalovak z architekturnych traktatau Bernardoni nie było patreby, bo jon mieu



ułasnyja knihi, adnu ź jakich «Ab piaci paradkach architektury» Vignoly, jon atrymaŭ jak uznaharodu jašče u 1577 h. Ciapier my upeuninyja, što zhadany albom byu vyčniouskim sšytkam i naležaŭ Janu Frankievíču.

I voś jašče što. Bolš pilná pryhladajučysia da kraślunkaŭ, asabliva tych, jakija nia majuč podpisau, my źviarnuli ŭvahu na dva ź ich, jakija nahadvajuć viadomyja vilenskija pabudovy. Jany źmieščanyja ŭ kancy albomu. Pieršy, na staroncy 69v, ujaŭlaje plan poźniehatyčnaj bazyliki j nahadvaje plan kaścioła śv. Jana da pierabudovy. Na pačatku XVII st. inicyjataram pierabudovy hetaha chrámu byu Pavał Bokša, jaki mieu ź J.Frankievičam ścisłyja kantakty. Na staroncy 71 jość plan druhoha chramu, jaki, choć nia całkam, ale pa kampazycyji nahadvaje plan kaścioła Śv. Kazimíra.

Napeuna znojducca ludzi, siarod ich niamała budzie navukoŭcaŭ, jakija buduć asprečvać našyja mierkavańni, ale heta ŭžo buduć tearetyčnyja razvahi. U dadzienym vypadku jany mienš za ŭsio mianie turbujuć.

Pry znajomstvie ź historyjaj mianie ŭ pieršuju čarhu turbuje nia sam fakt, ale asoba, jakaja pry hetym fakcie adznačana, jaje myśleńnie j mahčymyja suviazi ź inšymi asobami, paraŭnańnie dziejau taje epochi z našym siońniašnim žyćciom.

Pa śladoch našych dośledau hurtok «Batlejka» padrychtavaŭ nievialičkuju intermedyju pra pryjezd u Niaśviž architektara-manacha J.M.Bernardoni. Zroblena heta było z humaram i hustam, z narodnymi persanažami j narodnaju movaj. Navat batlieječnaja skrynia była vykanana ŭ vyhladzie niaśviskaj ratušy. Na prykancy 1991 hodu hurtkoŭcy zrabili ŭ Niaśvižy śviata, pryśviečanaje 450-hodździu ad naradžeńnia J.M.Bernardoni z abychodam pomnikau horadu, ź jubilejnymi prezentami, z vystavaj, batleječnym kancertam i, narešcie, vykanańniem himnu u honar jubilara.

*Валяньцін Калнін*

# Maestri comacini

**Шлях да Італіі**

Напачатку быў Пэпэ, герой зь нізкі «Казак пра Італію» М. Горкага — гарэзьлівы італьянскі хлопчык, парушальнік мяшчанскае добрапрыстойнасьці. На яго прыкладзе нам, дзецям апошніх сталінскіх гадоў, даводзілі, якое цяжкае жыцьцё выпадае аднагодкам у капіталістычным сьвеце.

З Італіяй мне пашэньціла ў тым жа дзяцінстве яшчэ раз. І ўсе праз тое, што я затрымаўся перад дзьвярыма свае кватэры, ня маючы ключа. Суседка зьлітавалася й запрасіла да сябе. Здаецца, была яна спартоўка, удзельнічала ў адным зь першых за хрушчоўскія часы нашых спаборніцтваў за мяжой, але пра спорт тады размовы не было. Былі здымкі, была Вэнэцыя: пляп Сьв. Марка, галубы, што карміліся з рук (для нас яшчэ дзіва!), палац Дожаў, нейкі кляштар з падлогаю, выкладзенай чалавечымі чарапамі... Быў яшчэ чарнявы італьянскі хлапчук, які стала ўвіхаўся каля нашае дэлегацыі, каб сфатаграфавацца разам: «Мой адбітак паедзе ў Савецкі Саюз? Значыцца, я сам буду ў Савецкім Саюзе?»...

Сёньня я лічу за лепшае будаваць сваю Італію ва ўласным доме. Матэрыялу хапае — варта толькі зварушыць.



**Пячора**

Італьянскіх зьяўленьняў у Беларусі нямала. На XVII ст. прыпадае блізу сарака выяўленых прозьвішчаў майстроў мураваньня, разца ды пэндзля, што працавалі ў адной толькі Вільні. Многія зь іх пакінулі сьлед і на сёньняшняй нашай тэрыторыі. Праўда, ня раз з боку прыбышоў гучалі крытычныя заўвагі наконт нашага краю й ягоных звычаяў. Так, у 1582 г. езуіцкія пасланцы з Рыму, што прыехалі ў Нясьвіж з мэтаю закладаньня тут калегіі, назвалі гэтае месца «спэлюнкам» (ад лацінскага «spelunca» — пячора). Толькі дзякуючы намаганьням Радзівіла Сіроткі Нясьвіж быў ператвораны ў горад эўрапейскага кшталту і езуіцкі калегіюм з касьцёлам нарэшце паўстаў. Іншым разам, ужо ў 1704 г., пры будаўніцтве езуіцкага касьцёлу ў Горадні мясцовы майстар муляраў Тамаш Лярсіпкі скардзіўся вышэйшай уладзе: «Валох, што прыехаў пры муроўцы касьцёлаў, пачаў ганіць...»

Яшчэ адзін прыклад з канца XVIII ст. Тады вельмі плённа працаваў у Беларусі архітэктар Карла Спампані. Ён прыехаў сюды ў 1774 г. з Рыму яшчэ зусім малады, 24-гадовы; за дзевяць гадоў запраектаваў і ажыцьцявіў шмат пабудоваў, пераважна палацавых, з багатым клясыцыстычным аздабленьнем. Яму дапісваюць палацы ў Заслаўі ды Сёмкаве пад Менскам, у Радзівілімонтах пад Клецкам, у Шчорсах пад Навагарадкам. Ён меркаваў назаўсёды застацца ў нашым краі, прыгледзеў сабе маёнтак і прапанаваў маці перабірацца з Рыму на новае месца. Маці адмовілася. Праз тры гады Карла Спампані раптоўна памёр, дасягнуўшы ўсяго толькі ўзросту Хрыста. Магчыма, менавіта адмова маці пас-

корыла ягоную сьмерць. Здаецца таксама, што ня стан здароўя быў галоўнаю прычынай матчынай адмовы, але перадчуваньні. Бо хутка, пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, усё зьмянілася. Паводле ўспамінаў Евы Фялінскай, якая часта наведвалася ў тыя гады ў радзівілімонтаўскі палац, збудаваны тым жа Спампані, тут замест ранейшых пышных баляў цяпер спраўлялі імшы па памерлых: «Зьбіраліся як на магілкі... Адчувала, што гэта былі апошнія промні вечаровага сонца».

**Першыя плыні**

Калі я толькі падступаўся да напісаньня пра мастацкія італьянізмы ў Беларусі, то ня надта спадзяваўся знайсьці штосьці больш вартае за тое, што ўжо знойдзена й вядома. Мала засталося пабудоваў, бальшыня зь іх перароблена ці загінула. Звычайна зь дзьвюх бажніцаў, што традыцыйна сустракаюйца на старых рынкавых пляцах гарадоў ды мястэчак Беларусі, ахоўны статус мелі найперш праваслаўныя, хоць будаваліся альбо грунтоўна перарабляліся са старых касьцёлаў сотню-паўтары гадоў таму і мелі ўнутры толькі пару літаграфічных абразоў. Тым самым часам каталіцкія бажніцы, што на працягу стагодзьдзяў аздабляліся скульптурамі, творамі долата й пэндзляў эўрапейскіх ці мясцовых майстроў, у большасьці не атрымоўвалі ад камуністычных уладаў ахоўных лістоў. Нават у 70-я гады — найбольш плённыя для рэстаўрацыі нашае спадчыны — у «родным» міністэрстве культуры мне даводзілася чуць разважаньні ягоных кіраўнікоў наконт таго, што «занадта многа захавалася гэтых касьцёлаў». І ня мела сэнсу даводзіць, што ўзводзілі тыя будынкі мясцовыя майстры, што аўтарамі праектаў ці кіраўнікамі былі таксама нашыя суплямееньнікі альбо знакамітыя дойліды з Італіі, Францыі ці Нямеччыны. Пра ўсё гэта нашыя кіраўнікі ведалі, ведалі нават і пра тое, што культавыя пабудовы Беларусі, асабліва XVIII ст. — гэта цудоўныя, больш таго, унікальныя помнікі архітэктуры барока. Толькі простаму народу пра гэта ведаць не дазвалялася.

Аднак вернемся да тэмы.

Першае зьяўленьне мастакоў-італьянцаў зьвязана з мэцэнацтвам Жыгімонта Старога пры вялікакняскім двары ў Вільні. Гэта — другая чвэрць XVI ст. Праз Кракаў сюды прыяжджаюць архітэктары ды мастакі: плястык Джавані Джакоба Каральё з Вэроны, архітэктары ды скульптары Джавані Марыя Палавана з Падуі, Бэрнардына Занобі да Джаноці з Рыму й Джавані Чыні з Сыены, садоўнік Гартуліяна. У рэнэсансавым стылі выконваліся надмагільлі, рэканструяваліся фасады касьцёлаў ды паркі каля вялікакняскага палацу. Джаноці й Чыні засталіся жыць у Вільні. На тэрыторыі сучаснае Беларусі водгукі ад гэтага мэцэната пакуль невядомыя, можна казаць толькі пра першы італьянскі павеў. Аднак ужо напрыканцы таго ж XVI ст. назіраецца ня толькі зьяўленьне, але цэлы вадаспад італьянізму на нашу зямлю.

Дасланы з Рыму архітэктар-езуіт Ян Марыя Бэрнардоні правёў у Нясьвіжы трынаццаць гадоў. Акрамя касьцёла ды калегіі яму прыпісваецца, можа, не зусім слушна, яшчэ некалькі пабудоваў па-за Нясьвіжам, аднак сутнасьць ня ў гэтым. Галоўнае тое, што Нясьвіж

стаўся пачаткам ня столькі вадаспаду, колькі цэлага італьянскага каскаду. Бэрнардоні не абмежаваўся выключна будаваньнем, але навучыў архітэктуры менскага пекара Яна Франкевіча. Навучыў гэтак выдатна, што апошні самастойна кіраваў узьвядзеньнем касьцёла Казімера ў Вільні ды ў сваю чаргу выхаваў двух здатных вучняў, таксама пекараў — Марціна Выборскага з Полацку і Яна Шымковіча з Кейданаў. Першы кіраваў будоўлямі езуіцкіх касьцёлаў у Ломжы ды Варшаве, другі — узьвядзеньнем калегіі Сьв. Яна ў Вільні.

Напэўна, было яшчэ некалькі італьянскіх прозьвішчаў канца XVI ст., нам пакуль невядомых, зьвязаных зь Нясьвіжам. Варта згадаць хоць бы надмагільлі ды алтары мясцовага касьцёла. Беларускія дасьледнікі імі не займаюцца — няма ні часу, ні сродкаў. Усё, што знойдзена і тут выкладзена, паходзіць найперш з польскай, часткова літоўскай, спэцыяльнай літаратуры.

Першы італьянскі штуршок ня стаўся ў Нясьвіжы трывалым. Пазьней Радзівілы ўважалі за лепшае абыходзіцца другаснымі, таньнейшымі замежнікамі ды саматужнымі майстрамі мясцовага паходжаньня. Адсюль своеасаблівы правінцыялізм радзівілаўскага мастацтва ў Беларусі, цяжкі для вызначэньня стылёвых катэгорыяў, аўтарства, датаваньня.

Зусім інакш атрымалася зь вялікаможным мэцэнацтвам іншага знакамітага роду — Сапегаў. Пасьлядоўныя заходнікі, яны заўжды імкнуліся да самастойнасьці тагачаснай Літвы. Аб сапежынскім мэцэнацтве дастаткова меркаваць з Ружанаў — ёсьць там рэшткі іхнай галоўнай сядзібы ў Беларусі. Нават у зруйнаваным выглядзе яны выклікаюць самавітае ўражаньне — беларускі Вэрсаль! Кожнага разу палацавы ансамбаль радыкальна перараблялі ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі новага эўрапейскага стылю. Ёсьць шмат падставаў сьцьвярджаць, што ў пераўтварэньнях рэй вялі выключна замежнікі, пры гэтым даволі высокага кшталту. Напрыканцы XVI ст., падчас заснаваньня ружанскага ансамблю, відавочны ўплыў вядомага архітэктара і скульптара флярэнтыйца Санці Гучы, які працаваў у стылі маньерызму. Ня выключаная яго асабістая прысутнасьць у Ружанах, бо вядома, што Гучы ўдзельнічаў у перабудове Старога Замку ў Гарадні падчас знаходжаньня там караля Стэфана Батуры. Дарэчы, праект рэканструкцыі Старога замку выканаў таксама італьянец, мала яшчэ вядомы Скота з Пармы.

Да сярэдзіны XVII ст. ружанскі палац набывае рысы сталага барока. Згодна з пазьнейшым падрабязным апісаньнем, унутранае аздабленьне вызначалася асаблівым багацьцем: у кабінэце «дзьверы з мармуровым парталам, з гербамі з алябастру, м муровы камінак, мармур на падлозе і пад вокнамі... У тым самым пакоі на стале ўгары — выявы розных каралёў у пазалачоных гіпсовых рамах, выявы розных гарадоў у пазалачоных рамах».

Захаваліся разьлікі 1649 году за працы у ружанскім палацы. Сярод іх «Даніэлю мастаку выкананьне трох партрэтаў і канчэньне структуры ў пакоі Ягамосьці — 200 злотых». Ягамосьцем быў Казімер Лявон Сапега, падканцлер літоўскі, надзорца каралеўскіх мастакоў у Вільні. Згаданым Даніэлем, напэўна, быў знакаміты мастак Шульц з Гданьску. Тым самым часам Сапе-

га закладае кляштар картузаў у блізкай Бярозе. У вядомых зьвестках прозьвішча творцы няма, адно толькі гаворыцца, што быў ім дасланы з Варшавы «ingeniosus Italus»-«майстэрскі італьянец». Такім на той час быў выхадзец з Рыму Джавані Батыста Джысьлені. Фасад кляштарнага касьцёла (разабраны ў мінулым стагодзьдзі) цалкам стасуецца да фасадаў іншых пабудоваў майстра. Ягонае дачыненьне да Ружанаў ды Бярозы тым больш верагоднае, што праз тры гады той самы Джысьлені, у дадатак выдатны скульптар, выконвае надмагільле для памерлае жонкі Сапегі Тэадоры Крыстыны ў віленскім касьцёле Сьв. Міхала.

У часе «Патопу» Джысьлені зьяжджае назаўсёды з Рэчы Паспалітай у родны Рым. Але на гэтым ягоны ўплыў на нашу культуру не скончаецца. Магчыма, што менавіта ён параіў свайму вучню Аўгустыну Вічэнца Лёчы не заставацца ў Рыме ды вяртацца па практыку ў Варшаву, дзе той нарадзіўся. На доўгія гады Лёчы быў зьвязаны з будоўляй каралеўскага палацу ў Вілянаве, але меў магчымасьць зьявіцца і ў Нясьвіжы. Тут у замустве за Радзівілам была родная сястра караля Яна Сабескага Кацярына. Для нясьвіскага палацу Лёчы ў 1682 годзе праектуе галерэю. Мабыць, ён жа займауся аднаўленьнем Мірскога замку, разбуранага ў часе маскоўска-казацкай навалы.

Варта затрымацца яшчэ на прафэсійным навучаньні тых часоў. Ніякай сыстэмы ў гэтым тады не йснавала. Адзначаны вышэй прыклад Яна Франкевіча й яго вучняў — не выключэньне для таленавітых асобаў, але звычайная практыка. Але здараліся выпадкі больш сур’ёзнае падрыхтоўкі. Напрыклад, вядома пра высланьне ў Італію па малярскую навуку Вікенція Харлінскага (альбо Карлінскага) зь Бярозы за кошт тутэйшага кляштара картузаў. Аднак панаваў пакуль рамесьніцкі спосаб навучаньня. Праўда, ужо з другой паловы XVI ст. у кнігазборах беларускіх магнатаў меліся трактаты Вітрувіё, Сэрліё, Палядыё. Часам карысталі зь іх архітэктары, будаўнікі, але галоўнае значэньне гэтай літаратуры было ў выхаваньні густу замоўцы, у засваеньні ім высокага італьянскага стылю. Толькі напрыканцы XVII ст. езуіты пачынаюць выкладаць архітэктуру ў сваіх калегіях.

**Maestro мой родны**

Яшчэ адна праява італьянізму: стукавае скульптурнае аздабленьне інтэр’ераў. Ужо згадваўся кабінэт у Ружанах, такіх прыкладаў у бажніцах ды палацах было шмат. Сеньня засталося толькі два — у касьцёле аўгустынаў у Міхалішках і ў гарадзенскім касьцёле бэрнардынаў. Першы зьвязаны зь імем Джавані Пэтра Пэрці, выканаўцам сусьветнавядомага стукавага ўбраньня касьцёла Пятра й Паўла на Антокалі ў Вільні. У беларускіх даведніках Пэрці чамусьці значыцца флярэнтыйцам. Між тым вядомы польскі навуковец Мар’ян Карповіч даводзіць, што згаданы майстра быў толькі зяцем мастакафлярэнтыйца Мікелянджэла Палёні, а сам паходзіў з ваколіцаў Мэндрысыё ў швэйцарскім кантоне Тычына (Ticino). Гэты кантон, населены італьянцамі, датыкаецца да італьянскай правінцыі Кома. Менавіта адсюль паходзіць большасьць муляраў і дэкаратараў, якія

распаўсюджвалі дасягненьні архітэктурнага рэнэсансу й барока ў Эўропе. З-пад Кома паходзіў таксама Я. М. Бэрнардоні.

Зь вялікімі цяжкасьцямі ў Кіеве пашэнціла знайсьці мне падрабязную мапу Італіі з роднай мясцовасьцю нясьвіскага майстра на ей — Каньё (*Cagno*). З даведнікаў дазнаюся, што тут і ў ваколіцах цяпер — каля паўтары тысячы жыхароў, асноўны занятак — вырошчваньне збожжа. Напачатку, уявіўшы магчыма наведваньне мясьціны, перадчуваў завочнае расчараваньне ад сустрэчы з банальнаю рэчаіснасьцю. Але, дзякуй Богу, мяне апярэдзіў прафэсар М. Карповіч. Ён быў уражаны тым, што тут «кожны касьцёльчык, кожная капліччка і кожны стары дом дагэтуль захоўваюць мноства аздобаў, якія майстры пасьля цяжкіх вандровак выконвалі часьцей задарма як ахвяраваньне для касьцёла, сяброўскі падарунак для суседа, альбо аздобу роднага дому».

Пра майстроў з-пад Кома і іхныя працы у Эўропе існуе шматлікая літаратура, вызначаны асобны кірунак у мастацтве, ініцыяваны іхнаю творчасьцю. Яны вядомыя яшчэ ад раньняга сярэднявечча як выдатныя муляры ды каменячосы, якія здавён карысталіся складанымі мэханізмамі. Гэта пра іх гаворыцца ў італьянскай прымаўцы: «maestri con macchini — maestri comacini» (майстры з машынамі — майстры з-пад Кома). Польскія дасьледнікі мянуюць іх «komeski». У нас падобнага вызначэньня няма. Таксама як няма ў бібліятэках літаратуры пра мастацтва паўночнай Лямбардыі, дзе знаходзіцца правінцыя Кома. Ёсьць безьліч кніг ды альбомаў пра выдатных майстроў Рэнэсансу, а пра блізкіх да нас творцаў, амаль што крэўных (Пэрці, як і ягоныя дзеці, назаўжды



застаўся ў Вільні) — нуль. Таму натуральная адсутнасьць асобнае назвы для згаданае зьявы. Каб запоўніць прарэху, спрабую нешта прыдумаць. Камэскі... камайчыкі... камаі...

Як жа я не згадаў адразу? Мы ж разам вучыліся ў адной клясе менскае школы! Камоска! Рыгор Камоска. Ужо тады, у юнацтве, неардынарная асоба: каржакаватая постаць, дужыя рукі, цьвёрды твар з моцнымі сківіцамі, неўтаймаваная шчотка віхроў. Ён выглядаў малатабойцам як у рухах, так і ў характары — непахісны барацьбіт за справядлівасьць, нават калі ў гэтым не было патрэбы. Пасьля школы працаваў і вучыўся ва ўнівэрсытэце. Незадаволены сыстэмай навучаньня, кінуў навуку і рушыў на паўночную будоўлю бэтоньнікам. Відаць, спадабалася, бо пасьля вяртаньня выступаў з уражаньнямі перад дзецьмі ў школах. На ўзьвядзеньні менскага мэтро згубіў былую моц і адышоў на пэнсію. Уключыўся ў барацьбу за дэмакратыю, але на індывідуальнай аснове. Здаецца, ні да воднага руху не далучыўся.

Цяпер я ўпэўнены, што мой Рыгор — непасрэдны нашчадак выхадцаў з-пад Кома. Усё супадае: постаць ды прафэсія («maestri con macchini «), неўтаймаванасьць характеру («бунт» Я. М. Бэрнардоні ў Любліне (гл. мой допіс «Вучнёўскі сшытак» у «НН» № 18 за 1993 г.)), цяга на поўнач у нязьведаныя краі, нарэшце, прозьвішча Камоска — італьянскі «comasco». Паўночная Італія — наш родны край!

**Наступствы**

XVII ст. было ў нашым мастацтве скрозь італьянскае. Далей, у XVIII-м, больш зьяўляец-

ца нямецкіх ды францускіх майстроў з асаблівасьцямі сваіх школаў. Чыстага італьянізму трымаюцца, бадай, толькі езуіты, але трымаюцца яго моцна, зацята. На ім грунтуюцца выклады архітэктуры ў калегіях, віленскай акадэміі. Гэтыя вучэльні камплектаваліся звычайна зь мясцовых слухачоў, таму сьпіс творцаў прыгожага значна дапаўняецца яшчэ й беларускімі імёнамі.

Здольныя вучні дасылаюцца ў Італію. Сьцяпан Лускіна, матэматык і астраном, родам з-пад Віцебску, на пачатку 1750-х навучаўся ў Рыме, наведаў Францыю, потым выкладаў матэматыку й архітэктуру ў Варшаве. Беларус Габрыель Лянкевіч, вучань Т. Жаброўскага, напачатку 1760-х быў скіраваны ў Рым, выкладаў архітэктуру ў Полацку, меў шмат здольных выхаванцаў.

Тут можна назьбіраць цэлую нізку імёнаў дзейных майстроў ды прафэсараў, што выкладалі архітэктуру ў розных кутках Беларусі: Тамаш Жаброўскі з-пад Наваградку, Марцін Пачобут з-пад Горадні, Ян Тадэвуш Кляўс са швэдзкай сям'і з-пад Полацку, Аляксандар Панкрацы Ростан, з французаў, Франьцішак Кару, нарадзіўся пад Воршай у ангельскай сям'і, Джузэпэ Сака з Вэроны, Мацей Кісялеўскі зь Літвы, Габрыэль Грубэр, славенец зь Вены, Базыль Шляхта з-пад Віцебску, Жаброўскі Андрэй з Падляшша, Каятан Анджаліні з П'ячэнцы, Маньцвет Скакоўскі зь Беларусі, Войцах Абрампальскі з Польшчы.

Наш прадмет выкладалі ў другой палове XVIII ст. амаль ўва ўсёй Беларусі: Вільня, Полацак, Горадня, Пінск, Магілёў, Віцебск, Мсьціслаў. Пасьля Вільні асабліва вылучаецца Полацак, дзе архітэктуры навучалі ў 1766—1799 гадох.



Становіцца зразумелым і не такім ужо нечаканым нараджэньне так званага віленскага барока, імпульсантам якога лічыцца прыбылы з Сылезіі Ёган Крыштаф Гляўбіц. Дагэтуль спэцыялісты ня могуць прыйсьці да згоды, што да вытокаў ды запазычанасьцяў віленскага архітэктурнага фэномэну. Адны спасылаюцца на прыклады з Чэхіі, Аўстрыі ды Вугоршчыны, некаторыя цягнуць ланцужок ажно з Гішпаніі, трэція зьвяртаюць пошук на італьянскі П'емонт. Мне ж здаецца, што пошукі непасрэдных уплываў ня маюць сэнсу — настолькі сваісты той стыль. Ён распаўсюдзіўся на тэрыторыі, што пераўзыходзіць паасобку палову эўрапейскіх краінаў. Так, вытокі стылю былі, але не канкрэтныя, перанесеныя з вызначаных месцаў. У досьледным памкненьні расшчапіць архітэктуру на асобныя атамы, мы часам забываемся пра творчы настрой тых часоў і людзей, які гэты настрой стваралі. Там складаўся ўнутраны імпульс, насычаны прафэсійнаю падрыхтоўкай, веданьнем навочна знакамітых, асабліва італьянскіх, прыкладаў, наяўнасьцю свойскіх значных пабудоваў, атрыманым ад прыроды й традыцыі пачуцьцём пластыкі. Гляўбіц трапіў у Вільню акурат у момант, калі ўся маса мясцовага мастацкага патэнцыялу чакала толькі вонкавага штуршку. Гляўбіцу прыпісваецца аўтарства больш сарака пабудоваў, выкананых на розных кутках Вялікага Княства Літоўскага на працягу з 1737 па 1767 год. Вызначэньне аўтарства часам фармальнае й няпэўнае. Ці не таму, што існавала выдатная архітэктурная школа, імёны прадстаўнікоў якой цяпер цяжка вызначыць?

Выхаваўчы плён той пары на стагодзьдзе, а то й на два ўперад забясьпечыў для нашых гара-

доў ды мястэчкаў выкшталцонае й непаўторнае аблічча. Калі параўноўваць адносна, а не напрасткі, то нават паводле колькасьці кваліфікаваных творцаў мы дагэтуль ня вельмі далёка пасунуліся ўперад: яшчэ ў сярэдзіне 1960-х нас, выпускнікоў вышэйшай архітэктуры было па дваццаць на год для ўсяе Беларусі. Італію тады ведалі два ці тры выкладчыкі з двухдзённага бытнаваньня ў часе круізнай выправы вакол Эўропы.

Пераступіўшы ў роздуме мяжу часу, з жахам паглядаю на сёньняшняе наша жыцьцё. Быццам нічога не было і ад былой культуры нічога не засталося. Цяпер, як тады, за Радзівілам Сіроткам: наш край становіцца нібы «spelunca» — пячора. Спадзявацца на тое, што прыедуць італьянцы і будуць нас ганіць — немагчыма дый сорамна, дачакацца новага Сіротку —малаверагодна...

А так выпадае толькі трываць і рабіць тое, што можаш. Як трываюць і робяць мае маладыя сябры-рэстаўратары, якім пашэнціла прайсьці практыку ўдасканаленьня ў Італіі. Яны здолелі процістаяць спакусе разьбегчыся па Эўропе на зманлівыя запрашэньні толькі дзеля таго, каб амаль задарма ратаваць старажытны росьпіс у сябе на Радзіме, каб выцягваць са «спэлюнкі» чарговую ахвяру цемрашальства ды забітасьці, каб зьвязаць мацней увесь час абрываную ў нас нітку агульначалавечай культуры.

Італьянізмы ў мастацтве Беларусі — калі ня белая, то даволі размытая тэма. Цяпер ніхто асабліва ёй не займаецца. Помнікі гінуць, а разам зь імі гіне памяць. Застаецца, бадай, толькі адно — на прыклад знакамітага італьянскага графіка Джанбатыста Піранэзі занатаваць руіны



нашае культуры. Летась адзначаліся 275-я ўгодкі з дня нараджэньня майстра афорту і вэдутаў. За яго прыкладам уся Эўропа XVIII ст. пачала ўглядацца ў свае помнікі й шанаваць іх. Піранэзі мы таксама ня ведаем. Можа гэта й добра, бо барані Божа, каб не давялося нам паўтарыць на яве ягоны апошні фантастычны цыкл «carceri oscuri» — змрочныя турмы.

Ізноў зьвяртаюся да мала шанаванага цяпер М. Горкага. У адным лісьце з Італіі ён пісаў: «А тым, што бачу тут, нацешыцца не магу. Хораша, да пякучых сьлёзаў хораша!» Ліст датаваны 1910 годам. Адказваючы на прапанову вярнуцца ў Расею, пісьменьнік М. Горкі там жа зазначае: «Не наракайце на мяне за адмову маю — хварэю пакутліваю жальбой да радзімы, але жальба гэтая перакіпае ў мяне ў злосьць».

*Андрэй Шпунт*

# Габрыель Грубер — беларускі езуіт

Кажу, будзьце дасканалыя,
як дасканалы Айцец ваш на нябёсах.
*Эвангельле ад Мацьвея: 5; 48.*

Гэты езуіт сярод сваіх паплечнікаў па Ордэне вылучаўся і ведамі, і здольнасьцямі. Нязьменна імкнучыся да ідэалу, ён спрычыняўся да павелічэньня славы Божай ў нашай Бацькаўшчыне. Часы Рэнэсансу, калі чалавек мог быць адначасова мастаком, скульптарам, архітэктарам, матэматыкам, мінуліся. Мінуліся часы Тытанаў. Але й сярод людзей той эпохі наўрад ці хто мог бы параўнацца з нашым героем у шырыні досьведу. Яму належыць значная роля ва ўмацаваньні каталіцтва ў Беларусі пасьля страты ёю дзяржаўнасьці. Адзін чалавек выклікаў для Ўсходняе царквы такую ж небясьпеку, якую для Заходняе ў свой час выклікаў Лютар.

Праз два стагодзьдзі пасьля заснаваньня «Таварыства Езуса», 6 траўня 1740 году, у Вене нарадзіўся Габрыэль (паводле іншых зьвестак — Мацей) па прозьвішчы Грубэр. Тое, што ён нарадзіўся ў Аўстрыі, зусім не азначала, што ён аўстрыец, як звычайна лічаць. Грубэр быў славенцам.

Ва ўзросьце 15 гадоў, 18 кастрычніка 1755 году, Габрыэль уступае ў «Таварыства Езуса», для якога тады былі не найлепшыя часы. Ідзе змаганьне зь філязофіяй Асьветніцтва, сярод прыхільнікаў якой становіцца ўсё больш моладзі. Змаганьнем ідэяў супярэчнасьці не абмежаваліся. Супраць Ордэну склалася палітычная інтрыга на чале зь міністрамі Гішпаніі, Партугаліі і Францыі.

Увайшоўшы ў Ордэн, Габрыэль увесь свой час аддае навуцы, разумеючы, што, як ніколі, авангард каталіцтва, у якім ён ідзе, мусіць мець галоўную зброю Веры — Веды. У Акадэміі ўсходніх моваў у Вене ён вывучае грэцкую, гісторыю, малюнак, жывапіс, матэматыку, фізыку, астраномію, грамадзянскую і вайсковую архітэктуру, музыку. Ужо тады Габрыэль валодаў габрайскай мовай і лацінай. Езуіты ў сваёй пэдагагічнай практыцы вялікую ролю адводзілі вывучэньню моваў. Пазьней ён вывучыць італьянскую, францускую, нямецкую, польскую і расейскую. У Грацы студыюе багаслоўе і філязофію. Як архітэктар Грубэр дэбютуе ў 20 гадоў будаўніцтвам касьцёлу і калегіюму ў Любляне.

Габрыэль ня хоча заставацца ў Эўропе і рыхтуецца да місіянэрскае чыннасьці ў Кітаі. Кітаю ён так і ня ўбачыў. 21 ліпеня 1773 году стала «пякельным днём»: Папа Клімэнт XIV выдаў брэвэ «Dominus ac Redemptor», якое скасавала Ордэн ва ўсім сьвеце. Праўда, самі езуіты не адразу зразумелі, што гэта канец. Цягам гісторыі Ордэну бывала рознае: і прывілеі ад Папаў, і канфлікты. Ігнат XIII нават думаў зусім скасаваць магутнае «Таварыства», але перашкодзіла сьмерць. Было багата дэкрэтаў, булаў, брэвэ супраць езуітаў, але яны не зьвярталі на гэтыя паперы ніякай увагі. Ва ўсялякім выпадку, яшчэ праз некалькі месяцаў, 15 жніўня таго самага году Габрыэль, прайшоўшы ўсе ступені, становіцца правадзейным законьнікам ужо афіцыйна неіснуючага Ордэну. Рэчаіснасьць

разьвейвала ўсе спадзяваньні. Ва ўсіх краінах пачаліся канфіскацыі і проста рабаваньні езуіцкае маёмасьці. Генэрала Ордэну Рычы кінулі ў замак Сьв. Анёла паводле сфабрыкаванага вінавачаньня ў прысваеньні капіталу, былыя законьнікі адусюль выганяліся, ад чаго цярпела адукацыя: у Рэчы Паспалітай, напрыклад, у руках Ордэну знаходзілася палова ўсіх навучальных установаў. Грубэр вымушаны быў разам з усімі адмовіцца ад манаства, але зрабіў гэта адным з апошніх.

Экс-езуітаў — спэцыялістаў у самых розных галінах — улады пачынаюць далучаць да грамадзкай дзейнасьці. Аўстрыйская імпэратрыца Марыя-Тэрэзія даручыла Грубэру кіраваць будаўніцтвам суднаў у Трыесьце, а потым асушыць балоты і выпрастаць рэчышчы ў Славоніі і Вугоршчыне. У гэты ж час, цягам пяцёх гадоў Габрыэль вывучае гідраўліку і мэханіку ў Ляйбаху. Пасьля сьмерці імпэратрыцы ў 1780 годзе становіцца прыдворным фізыкам Ёзафа II.

Ва ўсім сьвеце было адно месца, дзе Ордэн, дакладней, тое, што ад яго засталося, усе ж захаваўся — акупаваная Расеяй частка Беларусі. Ад 25 тысячаў засталося толькі 187 законьнікаў.

Увогуле, падтрымка езуітаў была для акупацыйных уладаў вельмі важнай, бо абаперціся на акупаваных абшарах ім не было на каго. Езуіты павінны былі стаць кішэнным Ордэнам, бо нават ня мелі пасады генэрала, функцыі якога выконваў беларускі каталіцкі мітрапаліт Богуш-Сестранцэвіч (яму падпарадкоўваліся ўсе Ордэны). Вось жа, калі да 1780 году меркавалася проста захаваць тое, што засталося, дык цяпер адкрыліся пэрспэктывы. Пераломным момантам



стала адкрыцьцё навіцыяту ў Полацку, што стварала магчымасьці для стварэньня новых кадраў.

Грубэр зразумеў, што гэта — канец яго змушанага цывільнага жыцьця. Тым часам актывізаваліся экс-езуіты ва ўсім сьвеце. Адбыўся значны іх наплыў у Полацак, а адтуль — па ўсёй усходняй Беларусі, што й выклікала там культурны ўздым. Сюды імкнуліся прафэсіяналы ў самых розных галінах: мэханікі, мастакі, мэдыкі, бібліяфілы, архэолягі, астраномы, хімікі. Ехалі з Польшчы, Нямеччыны, Аўстрыі, Швайцарыі, Італіі, Амэрыкі, Кітаю, Індыі і працавалі тут на карысьць Беларусі дзеля славы Гасподняй.

У 1784 годзе Габрыэль Грубэр прыбыў у Беларусь, і ўжо налета разам з італьянцам Маньяні, немцам Пфайфэрам і палякам Жавускім быў накіраваны з Полацку ў Пецярбург для вырашэньня пытаньня пра місіянэрскую дзейнасьць у Кітаі. Місія скончылася безвынікова, затое для Грубэра час, праведзены ў Пецярбурзе, не мінуў марна. Ён навязаў шырокія сяброўскія сувязі зь мясцовымі арыстакратымі. Здаецца, у езуітаў у Расейскай імпэрыі была ідэальная глеба для дзейнасьці. Праваслаўнае сьвятарства не складала канкурэнцыі. У пацьверджаньне прывяду словы праваслаўнага сьвятара Міхаіла Марошкіна: «А што можа зрабіць такая царква, у якой сьвятарства, нават пецярбурскае, у большасьці ўяўляла сабою ўражальны прыклад невуцтва грубасьці, нястрыманасьці як вынік, не чыніла ніякага уплыву ня толькі на вышэйшыя клясы грамадзтва, але просты люд».

Пасьля місіі ў Полацак Грубэр як прэфект полацкага калегіюму працуе ў самых розных

кірунках — выкладае мэханіку, пазьней экспэрымэнтальную фізыку. Пры калегіюме ён пабудаваў трохпавярховы будынак для музэю, бібліятэкі, карціннае галерэі, хімічнае лябараторыі, тэатру. Пры дапамозе некалькіх навіцыяў прэфэкт Грубэр вырабляў рыштунак і машыны для фізычнага і хімічнага габінэтаў. Сьцены заляў музэю ён расьпісаў фрэскамі. У пэрспэктыўным жывапісе Грубэр дасягнуў надзвычайных вынікаў. Пісаў партрэты, тэатральныя дэкарацыі, карціны на рэлігійныя тэмы, пэйзажы, рабіў мініятуры са слановае косьці. Ужо ў 1787 годзе, праз тры гады пасьля прыезду таленавітага славенца, калегіюм меў друкарню, бровар, медаварню, суконную фабрыку, для якой Грубэр зрабіў станкі. Калегіюм са сваім комплексам будынкаў стаў горадам у горадзе. Пра Полацак гаварылі зноў ня йначай, як пра беларускія Атэны.

Адпачынак прэфэкт знаходзіў там, дзе для іншых была праца, — выкладаў моладзі пачаткі малюнку і гісторыю мастацтваў.

Здавалася, вялікая праца ў калегіюме павінна была забіраць увесь час і сілы, але толькі ня ў Грубэра. Ён не забываецца пра галоўнае — забесьпячэньне будучыні Ордэну ў Беларусі. Як я ўжо казаў, місія 1785 году ў Санкт-Пецярбург прынесла Грубэру посьпех у асяродзьдзі арыстакратаў. Тамтэйшая непрыхільнасьць да езуітаў зьмянілася ў асноўным на разуменьне і калінікалі нават на гарачую падтрымку. Грубэр, за мяккасьцю і ветлівасьцю якога хавалася вялікая сіла перакананьня, знаходзіць усё новых і новых прыхільнікаў.

У 1795 годзе адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай: уся Беларусь апынулася пад Расеяй. Пад час паўстаньня езуіты не выказвалі ніякае рэакцыі на падзеі, бо кожны зь іх разумеў: першае ж запасочаньне ў нелаяльнасьці — і Ордэн скасуюць. Але мы ня ўбачым і ніводнага верша ці віншаваньня наконт «обретения» заходніх правінцыяў.

Пасьля сьмерці Кацярыны II нейкі час сярод езуітаў панавала няпэўнасьць. Ніхто ня ведаў, чаго можна чакаць ад новага імпэратара — непрадказальнага і хуткага на рашэньні Паўла I. 7 траўня 1797 году Павал Пятровіч засьведчыў пра свае добрыя намеры ў Воршы: «Заўсёды вас цаніў і цаню высока». Для Грубэра гэта быў сыгнал да дзяньняў. Заваяваць давер імпэратара — задача складаная, нават небясьпечная, бо адно слова магло перакрэсьліць усё. На шляху Грубэра стаяла вельмі істотная перашкода — постаць беларускага арцыбіскупа Богуша-Сестранцэвіча — фаварыта віленскага біскупа Масальскага і стаўленіка Кацярыны II. З прыходам Паўла I Сестранцэвічавы пазыцыі ўзмацніліся яшчэ больш. Царскія даброты сыпаліся, як з рога. Упэўнены ў сабе, Богуш-Сестрнцэвіч пісаў біскупу Серакоўскаму, што трымае езуітаў у сваіх руках. Такім чынам, каб прабіцца да імпэратара, трэба было... прыбраць Сестранцэвіча. Перамога над ім пазбавіла б Ордэн абрыдлае апекі. Грубэр пачаў гульню...

10 ліпеня 1798 году памірае 78-гадовы віцэ-генэрал Ордэну Станіслаў Лянкевіч. Яго намесьнік Францішак Каро просіць Сестранцэвіча, каб той дазволіў самім законьнікам абраць кіраўніка. Грубэр робіць ход канём, ён адкрыта піша імпэратару пра пажаданьні Ордэну. Можна не сумнявацца, што пяром ён валодаў ня горш, як словам. Грубэр

даў сябе заўважыць, а гэта яму й было патрэбна. Францішак Каро, абраны віцэ-генэралам, адпраўляе Грубэра і Ю. Каменскага да папскага легата, варшаўскага нунцыя Ваўжынца Ліцьці, які быў таго часу у Пецярбурзе, зь лістом Пію VI, каб той даў дазвол на існаваньне Ордэну ў Расейскай Імпэрыі. У сталіцы Грубэр сустракаецца з Паўлам І. Пад канец сустрэчы імпэратар, загіпнатызаваны генем беларускіх езуітаў (так яго называў М. Марошкін), хацеў быў павесіць на яго нейкі ордэн, ад чаго Грубэр адмовіўся, спаслаўшыся на статут таварыства, які забараняў яго чальцам насіць якія-небудзь знакі сьвецкіх адрозьненьняў і прымаць ордэны, але абавязваў служыць кіраўнікам дзяржаваў і іх падданым выключна для павелічэньня славы Госпада. Пасьля такога адказу Павал І лічыў Грубэра сваім сябрам. Заўсёды сьцьвярджалася, што Грубэр стаў набліжаным да Паўла пасьля таго, як зварыў яму шакаляд, такі самы смачны, які той піў пад час свайго падарожжа па Эўропе, яшчэ будучы цэсарэвічам, і яшчэ пасьля таго, як вылячыў імпэратрыцу ад зубнога болю. Гэтыя факты пераходзілі з кнігі ў кнігу, і было б банальна лішняга разу іх прыгадваць. Урэшце яны зрабілі з Грубэра нейкага кандытара. Як толькі ўсплывала яго прозьвішча, першаю рэакцыяй звычайна былі словы: «А, той, што варыў шакаляд Паўлу Пятровічу...» Я не рызыкую быць банальным, паколькі прычына ўсё ж такі была не ў шакалядзе (гэта было б вельмі проста), гэта хутчэй вынік. Хіба было б дазволена незнаёмаму чалавеку, тым больш лаціньніку, уваходзіць у царскія пакоі, варыць шакаляд, лячыць імпэратрыцу? Не. Трэба было спачатку заваяваць давер, што з посьпехам



было зроблена. Падрыхтаваўшы аснову, Грубэр наносіць скрышальны удар галоўнаму незычліўцу. У 1798 годзе Сестранцэвіч выдаў «Рэглямэнт для Ордэнаў» і стварыў юстыцкалегію напалову са сьвецкіх прафэсараў з пратэстанцкім духам. Грубэр, бачачы, што гэта не на карысьць Касьцёлу і Ордэну, адкрывае Паўлу і вочы на злоўжываньні некаторых чальцоў калегіі. Усё было абстаўлена такім чынам, што Імпэратар зрабіў нават больш, чым ад яго чакалі. Сестранцэвіч быў высланы ў свае ўладаньні, а разам зь ім і яго фаварыты. Цяпер Францішак Каро, дзякуючы Грубэру, стаў генэралам Ордэну.

Грубэр — тонкі дыплямат. Нягледзячы на права свабоднага ўваходу да цара, ён кожны раз прыяжджаў ў Пецярбург, маючы падставу, не з пустымі рукамі, каб не злоўжываць сваімі наведаньнямі. Так, у 1798 годзе ён прывозіць самастойна вынайдзены станок для стрыжэньня сукна. Камітэтам гандлю і прамысловасьці было прадпісана, што «езуіцкую машыну да стрыжэньня сукна належыць ужываць у буйных расейскіх фабрыках». У 1800 годзе Грубэр прывозіць фізычную машыну...

Трыюмфальнае шэсьце езуітаў, забясьпечанае Грубэрам, ледзь не сарвалася праз недарэчную памылку. Падчас аднаго з перабываньняў у Пецярбурзе да яго даходзяць непрыемныя зьвесткі пра тое, што Павал І разззлаваны на езуітаў. Прычынай быў артыкул, надрукаваны ў Полацку. Не валодаючы дакладнай інфармацыяй пра падзеі ў сьвеце, якія зьмяняліся таксама хутка, як настрой імпэратара, полацкія езуіты напісалі ў адным са сваіх выданьняў пра ангельскую вайсковую магутнасьць у сяброўскім тоне, хаця дачыненьні

між Расеяй і Англіяй былі на мяжы зрыву. Артыкул быў успрыняты як зьнявага імпэратара, а ўвесь наклад — канфіскаваны. Грубэр затаіўся як мыш — чаканьне было найлепшым выйсьцем. Невядома, колькі б яно доўжылася, калі б ня кніга, што трапіла ў рукі Паўла праз чатыры месяцы пасьля полацкага інцыдэнту. У кнізе апавядалася пра модную таго часу ў Эўропе і Расеі масонскую сэкту ілюмінатаў, пра іхныя антыманархічныя, антыдзяржаўныя настроі. Адзіны сродак, што прапанаваўся наагул супраць усялякіх сэктаў і дактрынаў — езуіты. Асабліва падкрэсьлівалася іхная адукацыйная дзейнасьць. Павал I ўжо бачыў усю імпэрыю, па крытую езуіцкімі школамі. Паклікалі Грубэра. Паскардзіўшыся, што за чатыры месяцы перабываньня ў Пецярбурзе той ні разу не наведаў сябра, Павал Пятровіч аб'яўляе яму, што аддае ў рукі езуітаў справу ўсёй адукацыі ў Беларусі, Падольлі і Валыні. Больш за тое, канфлікт, які доўга цягнуўся між Віленскім унівэрсытэтам і Полацкім калегіюмам, быў разьвязаны на карысьць калегіюму. На загад імпэратара ўнівэрсытэт з фундацыямі і школамі аддадзены езуітам. Грубэр выехаў у Вільню для агляду будынкаў. Празь некалькі дзён у Гатчыне ён просіць адкласьці перадачу на адзін год, да лета 1801 году, каб датуль былі падрыхтаваныя прафэсары.

У тыя самыя часы Папа сказаў, што гатовы даць рэстытуцыйнае брэвэ, калі Павал згодзіцца. Павал, пэўне ж, згадзіўся. На хвалі посьпехаў Грубэр думае ня больш-ня менш, як пра аб'яднаньне цэркваў. Зьдзейсьніцца грандыёзнаму намеру ня даў мітрапаліт Амвросій. Паўстала пытаньне пра жыцьцё і сьмерць праваслаўя ў Расейскай імпэрыі. Амвросій абрысаваў Паўлу I жахлівую, гратэскавую карціну каталіцкага засільля, пасьля чаго Грубэру было забаронена ўваходзіць да імпэратара. Больш, аднак, ніякіх рэпрэсіяў не было.

7 сакавіка 1801 году Пій VIII выдае доўгачаканае брэвэ «Cathoucae fidei», якое дазваляла дзейнасьць езуітаў у Расейскай імпэрыі, а празь 17 дзён Паўла I задушылі падчас палацавага перавароту.

Кожная зьмена ўлады ставіла беларускіх езуітаў перад цяжкім пытаньнем — што далей? Іхнае становішча цалкам залежала ад капрызаў манархаў. Гарантам стабільнасьці быў Грубэр.

Аляксандар I ня меў сымпатыяў да езуітаў, а на падзеі не рэагаваў так бурна. Грубэра ён лічыў сваім сябрам, аддаючы належнае яго здольнасьцям.

11 чэрвеня 1801 г. імпэратар прыехаў у Полацак. Пасьля наведваньня калегіюму Аляксандар I, як і яго папярэднікі, быў вельмі зьдзіўлены. Мабыць, пад уплывам гэтага ён дае езуітам волю місіянэрскай дзейнасьці на ўсходзе імпэрыі. Праз некалькі дзён Грубэр у лісьце да генэрала Ордэну Ф. Каро піша: «Шмат лютэранаў і кальвіністаў сталі нашымі пратэктарамі супраць злых каталікоў». Цяпер езуіты пазбаўленыя ўсялякіх нечаканасьцяў, на якія быў здатны Павал I, але відаць, што ўлады ў дачыненьні да іх праводзяць непасьлядоўную палітыку. Адной рукой даюць, другой забіраюць. Віленскі ўнівэрсытэт ня толькі не аддалі, а нават хацелі пад уплывам сябра Аляксандра I Адама Чартарыйскага зрабіць зь яго яшчэ больш с ьвецкую ўстанову, чым пры былым рэктару ксяндзу Пачобуту.

30 ліпеня 1801 году памірае Ф. Каро. 10 кастрычніка таго самага году Грубэра абіраюць генэ-

ралам. Постаць генэрала наводзіла жах на воргаў царквы, якія называлі яго ня йнакш, як гені зла.

Грубэр лічыць, што, каб забясьпечваць добры стан Ордэну, трэба знаходзіцца не ў сядзібе ў Полацку, а бліжэй да цэнтральных уладаў — у Пецярбурзе. Яго вядомасьць у сталіцы расьце ва ўсіх пластах грамадзтва. Значную частку з даходаў ён аддае ўбогім і на дабрачыннасьць. Практыкуючы як доктар мэдыцыны, ён ня ведае адбою ад хворых, ні для кога ня робячы выключэньняў: атрымліваюць дапамогу — і вяльможы, і жабракі. У 1805 годзе Грубэр зьбіраўся паехаць у Полацак. Перашкодзіла раптоўная сьмерць. Уначы з 25 на 26 сакавіка дом, дзе ён жыў, загарэўся. Генэрал пасьпеў выбрацца з полымя, але сэрца яго не вытрывала ўзрушаньня, і неўзабаве ён памёр.

На хаўтуры сабраліся ўся пецярбурская арыстакратыя і простыя месьцічы. Пад час жалобнай імшы наплыў народу да касьцёлу сьв. Кацярыны быў такі вялікі, што сьвятары зь цяжкасьцю працісіскаліся да аўтара... Цела перавезьлі ў Полацак і пахавалі ў касьцёле Спаса (надмагільле было пашкоджанае падчас вайны 1812 года).

Пасьля сябе Грубэр пакінуў вялікую спадчыну — шмат працаў з мэханікі, архітэктонікі, батанікі, мэдыцыны, бібліятэку рэдкіх кніг і рукапісаў вялікай каштоўнасьці, добраўпарадкаваны полацкі калегіюм.

Грубэр, як і ўсе езуіты, быў у нейкай ступені касмапалітам. Каб Ордэн, напрыклад, захавалі недзе ў Кітаі, Грубэр праводзіў бы гэткую самую працу. Але ягоная роля для нашае Бацькаўшчыны выключная: Беларусь — частка сьвету, у якім езуіты працавалі ad majorem gloriam Dei.



# III
# Рэлігія

Антон Сіюль

# Стары хрост

## Спэцыфіка беларускага праваслаўя — уніяцтва

Візантыйская культура патрапіла на Беларусь напрыканцы X ст., маючы пад сабой тысячагадовую традыцыю. А ужо праз паўтара стагодзьдзя яна была тут ня толькі засвоеная, але пачалася яе трансфармацыя. Сталае варагаваньне Полацку з Кіевам змушала весьці самастойны дыялёг з блізкай ужо да збуцьвеньня «звышцывілізацыяй» Візантыі. Прыкладам, царква Дабравешчаньня (XII ст.) у Віцебску была вымураваная яшчз візантыйскімі дойлідамі ў той час, калі на беларускіх землях ужо пачалася грунтоўная перапрацоўка першаўзораў і стварэньне ўласнага архітэктурнага кшталту. Так полацкія дойліды ствараюць тып бажніцаў дынамічнае кампазыцыі, моцна сцэнтраванай на вежападобным барабане цэнтральнага кумпалу, выцягваюць агульны плян царквы, набліжаючы яе да эўрапейскіх базылікаў, пераносяць падкумпальную прастору на заходнія слупы, пакідаючы часам толькі адну аўтарную абсіду. Нічога гэтага не было ані ў Візантыі, ані ў Кіеве.

Яшчэ далей пайшлі гарадзенскія майстры, прапанаваўшы арыгінальны спосаб аздабленьня фасадаў рознакаляровымі камянямі й паліванаю керамікай, круглыя слупы й нетынкаваныя адтуліны галасьнікоў, што ўтваралі частку скляпеньняў у інтэр'еры. Бадай, гэта сьвед-

чаньне пэўнай «фальклярызацыі» культавае культуры. Таксама адметныя былі цэрквы ў Тураве й асабліва ў Менску (канец XI ст.). Менская недабудаваная бажніца па тэхніцы будаўніцтва наогул ня мае аналягаў ані ў суседніх краінах, ані у далёкай Візантыі.

Захоп азіятамі Ўкраіны й Расеі, а пазьней і падзеньне Канстантынопалю ў 1453 г. паставіла Беларусь у становішча выспы, дзе разьвівалася непарыўная традыцыя ўсходняе царквы. Гэта час найвышэйшага ўзьлёту праваслаўнае культуры на Беларусі (XV ст.). Тут ствараецца выключная ў Эўропе архітэктурная плынь праваслаўнае готыкі. Цэрквы-крэпасьці ў Сынковічах, Мураванцы, Супрасьлі ня маюць стылістычных аналягаў. Усходні канон быў перапрацаваны начыста, а канструктыўныя асаблівасьці сьмела кампіляваліся з сучаснымі эўрапейскімі ўзорамі.

Больш кансэрватыўным заставаўся манумэнтальны жывапіс, але і ў ім адбіваліся надзённыя тэалягічныя праблемы. Напрыклад, у фрэсках Супрасьльскае царквы на плячох у апосталаў — біскупскія амафоры. Такое парушэньне канону было адказам ерэтыкам, што адмаўлялі сьвятасьць зямной гіерархіі й процістаўлялі першаапостальскія запаветы патрэбам сучаснае ім царквы. Апроч гэтага, і само адзеньне сьвятых і зброя ваяроў адпавядаюць тагачасным эўрапейскім.

Па гіроніі лесу фрэскі беларускіх майстроў на візантыйскі кшталт добра захаваліся толькі ў Польшчы: у капліцы Сьв. Тройцы ў Люблінскім замку, у капліцах Сьв. Тройцы і Сьв. Крыжа на Вавэлю ды інш.



У заходнім кірунку йшла канвэргенцыя і ў іконапісе. Калі ў XIV, XV стст. беларускія абразы блізка адпавядаюць усходнім канонам (часам ствараюцца нават выбітныя узоры накшталт «Маці Божае Ерузалімскае» зь Ляшчынскага манастыра, цяпер — у Варварынскай царкве ў Пінску), дык у XVI ст. гэтыя каноны фактычна ігнаруюцца. Калі памянёны абраз яшчэ нясе ў сабе сьвятло позьнепалеолагаўскага адраджэньня і нагадвае пэндзаль Дзіянісія, дык абраз «Маці Божай Менскай» (XVI ст.) выкананы ўжо ў эўрапейскай традыцыі. Яе вобраз пэрсаніфікаваны, адрынута адваротная пэрспэктыва, лякальную паліхромію зьмяніла сьветамадэліроўка. Беларускія абразы паступова адыходзілі ад суворага канону, тыпажы сталі вальнейшыя, як і кампазыцыя, і дэталі. Красамоўны прыклад — «Баркулабаўская Маці Божая» з Быхава, пісаная нібы зь местачковае маладзіцы-жыдоўкі...

Канчатковы выбар на карысьць заходняе арыентацыі быў зроблены Скарынам. Гэта заўважыў яшчэ А.Курбскі, які пісаў, што плён Скарынавай працы паводле духу пратэстанцкі, а біскуп Антоні Сялява ўжо ў XVII ст. , называў Скарыну «гусіцкім ерэтыком», антытрынітарам і згадаў пра яго папулярнасьць сярод праваслаўных.

Між тым у Маскве кнігі Скарыны й яго пасьлядоўнікаў «не пайшлі», бо яны былі «не такія». Масква абрала свой шлях эвалюцыі царкоўнага жыцьця. Ератык Башкін на допыце паказваў, што «злое учение... принял от Литвы». Расейскія бажніцы, завершаныя цыбулінамі розных памераў, сымбалізавалі полымя сьвечаў,

гарэньне на зямлі ў імя Бога. Гэты дэкаратыўны матыў, як і іншыя, кшталту шатровых званіцаў, быў пераняты зь ісламскага Ўсходу, пасьля захопу Казані... Мабыць, невыпадкова кніга швэда Ёгана Ботвіда, выдадзеная ў 1620 г. і прысьвечаная пытаньням веры ў Расеі называлася «Ці хрысьціяне маскавіты?» Масква стварала свой замкнёны варыянт рэлігійнай культуры, прынцыпова апазыцыйны эўрапейскаму.

Апынуўшыся ў ізаляцыі, беларускі візантызм няўхільна дрэйфаваў на Захад. Царкоўная унія 1596 г. была толькі фармальным з пункту гледжаньня гісторыі культуры пацьверджаньнем таго, што ўжо рэальна адбывалася ў мастацтве. Апроч кансэрвацыі праваслаўных традыцыяў як уласных, найперш у іконапісе і аздобе царкоўнага рыштунку, уніяцкае мастацтва жвава пачало сынтэзаваць візантыйскія й эўрапейскія формы. Зьявіліся скульптура й ляпніна ў інтэр'ерах цэркваў (дарэчы, менавіта на Беларусі яшчэ ў XIV ст. быў створаны вобраз Міколы Мажайскага — адзіная тады скульптурная выява сьвятога ў праваслаўным мастацтве). У архітэктуры цэркваў таксама шукаўся трэці, свой варыянт. Прыклад — царква Сьв. Духа ў базылянскім манастыры ў Менску: маньерыстычная бажніца з расьпісаным у выглядзе грэцкага іканастасу галоўным фасадам.

За паўстагодьдзя ўніяцтва ахапіла ўсю праваслаўную Беларусь. Пазасталае артадаксальнае праваслаўе, нягглкдзячы на стаіцызм братчыкаў, таксама не пазьбегла запазычаньняў з Эўропы. Царква Пятра й Паўла ў Менску — адзіная на той час праваслаўная бажніца ў горадзе — бясконца далёкая ад сваіх малаазійскіх вершаўзораў, таксама як і цэлая магілёўская школа праваслаўнай архітэктуры, якая вынайшла тып барочнай царквы, непамысны тады ў астатнім праваслаўным сьвеце. Але ў 1686 г. Кіеўская мітраполія, ад якой так і ня здолелі атрымаць самастойнасьці беларускія праваслаўныя біскупствы, пайшла па шляху Хмяльніцкага, падпала пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату, што прывяло да поўнае лякалізацыі праваслаўя на Беларусі пад канец XVIII ст. Адзіным носьбітам жывой традыцыі візантызму застаўся грэка-каталіцызм, які стаў у апазыцыю да польскіх грэка-каталікоў. «Яны хацелі б у сваей невытлумачальнай нянавісьці, каб Русі чым хутчэй не было. А з-за таго, што гэта ня можа стацца інакш, як пасьля зьнішчэньня абраду, дык перасьледуюць абрад грэцкі на кожным кроку», — пісаў Пятроні Камінскі, аўдытар Грэка-Каталіцкай мітраполіі.

Зварот праваслаўя на Беларусь стаў ідэалягічным лёзунгам расейскае акупацыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Так была аднаўленая закінутая ўжо менская царква Пятра й Паўла. Кацярына II ахвяравала ёй частку свайго гардэробу, і царква стала называцца Кацярынінскай... Пасьля скасаваньня уніі ў 1839 г. па ініцыятыве біскупа Я. Сямашкі ў вагонь паляцелі тысячы абразоў, кніг, скульптураў. Гэтак зьнішчалася ўсё тое, што ацалела, што не адпавядала «канону». Да непазнавальнасьці перабудоўваліся бажніцы, мянялася ўбраньне інтэр'ераў. «Больш рускімі» зрабіліся праваслаўныя Спаская царква ў Полацку, Дабравешчанская ў Віцебску ды інш. Расейскае праваслаўе ўсталёўвалася на Беларусі праз зьнішчэньне

ўніяцтва, а па сутнасьці — той, старой беларускай праваслаўнай спэцыфікі.

Пасьля 1864 г. «манумэнтальная прапаганда» акупантаў набыла асаблівы размах ва ўсіх галінах царкоўнага жыцьця — ад культу расейскіх сьвятых, напрыклад, Аляксандра Неўскага, і расейскіх абразоў Данской, Казанскай, Цьвярской ды інш. Божых Маці да бажніцаў у «русско-византийском» стылі, што паводле тыпавых праектаў раўнамерна ставіліся па ўсім краі. Стыль крытыкавалі нават у самой Расеі — за казённасьць. Гэта тып бажніцы, распрацаваны на падставе расейскіх цэркваў-»караблёў», якія ня мелі ніякай традыцыі на Беларусі, зь неадменным наборам дэкаратыўных элемэнтаў расейскае спадчыны XVI—XVII стст. (какошнікі, цыбуліны, закамары ды інш.). «Другі хрост» XIX ст. накідаў Беларусі новы, нязнаны, чужы ўзор культуры, зьнішчыўшы пад сабою папярэдні, свой, уласна беларускі.

Да нашага часу ў гэтай сфэры жыцьця не зьмянілася нічога. У межах РПЦ на Беларусі не нарадзілася ніякая іншая беларуская спэцыфіка праваслаўя. Наадварот. Падпарадкаваная Маскоўскаму патрыярхату, РПЦ на Беларусі ёсьць носьбітам псэўдарасейскае эрзацкультуры. Паранейшаму гвалтуючы беларускую рэлігійную традыцыю, яна займае кальвінскія (Заслаўе), каталіцкія (Менская катэдра) ды мноства ўніяцкіх бажніцаў, вынішчаючы іх інтэр'еры, перарабляючы звонку. Рэлігійная прапаганда цалкам ажыцьцяўляецца праз экспарт паліграфічнае прадукцыі й прадметаў культу з Масквы. Духоўны й мастацкі досьвед старога беларускага праваслаўя цалкам ігнаруецца. Невялікая кольказць сьвятых беларускай зямлі ня йдзе ў параўнаньне з той масай сьвятых расейскіх, якім прысьвечаная большасьць праваслаўных сьвятаў і абразоў на Беларусі сёньня. Што ўжо казаць пра мову!..



Шукаючы сёньня беларускіх каранёў ва ўсходнім хрысьціянстве (тутэйшыя сьвятыні, мову, дойлідзтва, мастацтва), непазьбежна мусіш зьвярнуцца да ўніяцтва, якое ўвабрала мясцовыя традыцыі візантызму XI—XVIII стст., максымальна наблізіла ўсходні абрад да Беларусі.

*Алег Дзярновіч*

## Маўклівы кляштар Сапегі

Гэта дзіўнае мейсца. І дзіўныя вашы пачуцьці. Сярод пляскатай раўніны паступова зьяўляюцца муры кляштара — белыя тынкаваныя будынкі й смарагдавыя дахі, пакрытыя зялёнапаліванай дахоўкай, — на фоне блакітнага палескага неба.

Слаўны нашчадак слаўнага канцлера Льва Сапегі — Казімер Леў Сапега ведаў, які кляштар фундаваць, які манаскі ордэн запрашаць. Бяроза сталася адзінай рэзыдэнцыяй манахаў картэзіянскага закону ва ўсей краіне — Вялікім Княстве Літоўскім. Уплыў картузаў на разьвіцьцё мястэчка быў настолькі выдатны, што паселішча атрымала назву Картуз-Бяроза ці Бяроза-Картуская, і захоўвала яе да 1940 году.

Ужо ў XIX стагодзьдзі тутэйшыя расейскія чыноўнікі складаюць легенду пра тое, што каля мястэчка спыняўся «сябра беларускага народу» А. Сувораў і, адпачываючы, павесіў свой картуз на бярозу. Гэтую легенду й сёньня хто ад няведаньня, а хто й з задавальненьнем перадрукоўваюць з кніжкі ў кніжку. У свой час нават малады Алесь Разанаў паддаўся прапаганьдзе й агітацыі ды напісаў адпаведны верш:

— Аднойчы паходам, — легенда гаворыць, —
Тут з войскам ішоў палкаводзец Сувораў.
«Стаміліся крочыць солдаты палямі,
Зрабілі прывал на зялёнай поляне.
Сувораў суніцы зьбірае па лесе,
А пыльны картуз на бярозу павесіў.



Ці доўга, ці не на цяністым прывале
Солдаты з Суворовым адпачывалі,
Затым падаліся далей па дарозе,
Застаўся вісець той картуз на бярозе.
З тых пор каля ціхае Ясельды-рэчкі
Бярозай-Картускай назвалі мястэчка

Узмоцнена падтрымліваецца таксама вэрсія пра наведаньне Бярозаўскага кляштара Пятром I (значная падзея ў жыцьці рэгіёна). На гэтую тэму нават намаляваная карціна. Але факт такога прыезду крыніцамі не пацьвярджаецца. Сапраўдная, не міфічная гісторыя іншая.

Першы кляштар гэтага ордэну быў заснаваны 1084 годзе сьвятым Брунонам на поўдні Францыі мястэчку Ля-Шартроз каля Грэноблю. Пры лацінізацыі *Ш* пераходзіць у *К*, і закон атрымаў назву картэзіянскага.

То быў час інтэлектуальных і арганізацыйных пошукаў каталіцкае царквы, пашыраліся ерасі. У 1207—1209 гадох узьнікае ордэн франьцішканаў, а яшчэ праз шэсьць гадоў — дамініканаў. Кожны ордэн выпрацоўваў свой шлях у пошуках Бога, характар кожнага ордэна быў індывідуальны, як і характер чалавека. Дамініканы дбалі пра дагматы й царкоўную дысцыпліну. Таму ў 1232 годзе ім было даручана кіраваць інквізыцыяй. На нашых землях яны зьявіліся даволі рана, і ўжо першым каталіцкім біскупам пры вялікім князі Мендоўгу быў дамініканскі манах Віт. Талы ж быў збудаваны й кляштар гэтага ордэну ў Любчы (1250 г.), а пры вялікім князі Гэдыміне кляштар перавялі ў Наваградак. Гэдымін заснаваў таксама ў Вільні й Наваградку кляштары франьцішканаў. Місы-

янэры-францішканы бачылі свой шлях да Бога ў жабрацтве, і таму часта не жылі ў кляштарах, а вандравалі, як Вільгельм Баскервільскі Умбэрта Эко. Паступова францішканы пераўтварыліся ў саслоўе ўнівэрсытэцкіх выкладчыкаў...

На зломе XVI і XVII стагодзьдзяў дзяржава нашых продкаў жыла ў прадчуваньні глыбокага крызісу. Яшчэ былі значныя дасягненьні ў юрыспрудэнцыі (бліскучы Статут) ці ў дойлідстве (Нясьвіскі касьцёл — другі помнік барока ў Эўропе), але сумлеў ды непаразуменьне ўжо расхіствалі беларускае грамадзтва. Хвалі Рэфармацыі й Контррэфармацыі, страта ініцыятывы у вайне з Масковіяй, нарастаньне ўплыву Польшчы ў фэдэратыўнай Рэчы Паспалітай, — усё гэта вымагала пошукаў новага духоўнага апірышча. Тыя ж францішканы ці дамініканы ўжо сталі звыклымі, сваімі. А князя Казімера прывабліваў картузы, прывабліваў ня так сваім аскетызмам, як заглыбленасьцю ў сябе, у роздум, чаго тады наогул бракавала ў грамадзтве. Картузы давалі самы цяжкі зарок — маўчаньня, насілі адмысловыя галаўныя уборы, што закрывалі твар ад пільных поглядаў іншых, а самім пакідалі толькі вузкую палоску зроку пад нагамі. Брыль навісаў над вачыма, а вухі зьвісалі з бакоў. Шапкі з брылём і атрымалі назву картузаў.

Першыя пасяленцы былі манахі з кляштару ў Парадыжы пад Гданьскам. А гэта ў той час — зона нямецкае прысутнасьці. Імёны бярозаўскіх картузаў у XVII ст. такія: Каспар Кахэліюс, Юліян Сэндэрман, Антоні Родэр. Прынамсі, пальшчызны яны на Палесьсе не прыносілі. А моваю іхняга жыцьця была лаціна. Падпарадкоўвалася бярозаўская Картэзія спачатку Рэйнскай, а потым Паўночна-Нямецкай правінцыі ордэна. У XVIII—XIX ст. прэорамі былі грамадзяне Вялікага Княства (ці былыя грамадзяне) — Бруна Гарэцкі й Павал Геніюш, на іншых пасадах — Банавэнтур Шашкевіч і Казімер Дабравольскі.

Будаўніцтва Бярозаўскага кляштару распачалося ў 1648 годзе. І мала таго, што быў абраны год пачатку казацкіх хваляваньняў, дык за час будаўніцтва кляштар спазнаў разбурэньні маскоўскімі войскамі (вайна 1654—1667), якія прыводзілі з сабою татараў. Нямецкія візытатары (своеасаблівыя рэвізоры) ў 1655 г. так пісалі пра гэта: «Некалькі разоў ён (кляштар) быў абрабаваны маскавітамі, татарамі дый падобнымі барбарамі, пакінуты сваімі насельнікамі, якія зьбягалі ў іншыя вобласьці, што належалі ордэну...» Таму й скончылі будаўніцтва толькі ў 1689 годзе. Але пабудаваны быў сапраўдны комплекс. Урачыстая баракальная брама вяла ва ўнутраны дворык, дзе вылучаўся палац Сапегаў. Фундатары мусілі час ад часу адпачываць духам, схаваўшыся за кляшторнымі мурамі ад дзяржаўных віленскіх спраў ды папрокаў у сэпаратызьме з боку Варшавы. У бярозаўскім касьцёле й быў пахаваны князь Казімер.

У глухім мураваным карэ насупраць палаца хавалася зусім шшае жыцьцё. Тут жылі манахі-самотнікі. Рупліва апрацоўваючы грады ў сваім замкнёным дворыку й жывучы з гэтых градаў, самотнікі ведалі толькі адну разнастайнасьць — малітву ў касьцёле, на якую яны ў сваіх белых адзеньнях траплялі па закрытых галерэях. І ў самім касьцёле бакавыя нэфы былі замураваныя

— хавалі ад погляду міранаў людзей, якія самі пайшлі на абмежаваньш й замкнёнасьць. Нават адтуліны ў сьценах для перадачы ежы былі зробленыя з двума паваротамі, каб не было бачна таго, хто падае ежу. Парадах тэты быў настолькі жорсткі, што некаторыя картузы ў 18 ст. пераходзілі ў крыху вальнейшы закон францішканаў.

Касьцёл быў дамінантай кляшторнага комплексу. У ягонай архітэктуры адбіўся сінтэз мясцовых беларускіх традыцый і прыёмы валоскіх (італійскіх) майстроў — проціпастаўленьне мяккага ў вабрысах галоўнага фасаду й манумэнтальнага ў будове вежы-званіцы, якая нетрадыцыйна для Беларусі далучалася да галоўнае апсіды. Затое гэта было зусім традыцыйна для Равэны — сталіцы барбараў, якія ў пятым стагодзьдзі зруйнавалі Рым. І гэтая вежа ў Бярозе была ўзброеная гарматамі. А спатрэбіліся яны і ў пачатку XVIII ст. — у часе чарговых прэтэнзіяў Швэцыі да Рэчы Паспалітай. Дзеля абарончых мэтаў было вымуравана яшчэ некалькі вежаў.

Аднак вайсковыя падзеі — не галоўная прыкмета ў гістрыі кляштара. Уражвае гаспадарчая дзейнасьць — бровары, майстэрні па вырабу дахоўкі і гадаваньне чарапах Стварыўшы своеасаблівую ферму, картузы здолелі аклімазываць гэтых жывёлаў на палескай зямлі. Кавалак панцыра такой чарапахі (прычым, не мясцовай жоўлы)- быў знойдзены ў слаях 18 ст. Пад час археалягічных раскопак. Нешта экзатычнае чуваць і ў прадпісаньнях для ніжэйшых манахаў, якія правініліся: апрацоўка вінаградніка, праца ў разарыюме.

Пералом у гісторыі кляштара адбыўся ў XIX ст. У 1819 г. малады манах скардзіўся: «Ёсьць вялікі



намер нас скасаваць, сынод хоча захапіць нашую маёмасьць сабе, войска нацэлілася на кляштар... Мы толькі адзіныя на літоўскай правінцыі нашага закону, ня маем генэрала, ня маем апекуна». Гэты манах яшчэ ня ведаў, што ягоныя словы наконт вайскоўцаў будуць прарочымі.

У 1831 г. манахі пад кіраўніцтвам свайт прэора ўзялі ўдзел у паўстаньні, хавалі інсургентаў. Клерык кляштару Франьцішак Камінскі быў паранены ў нагу ў баі пад Невелем. Падпалі пад суд і былы прэор Павал Геніюш, і Казімер Дабравольскі. Кляштар быў зачынены (такі ж лёс напаткаў і братоў бэрнардзінаў, даміканаў, францішканаў ды іншых). Адна з прычын закрыцьця, выказаная расейскімі ўладамі, — значная фінансавая дапамога картузаў Тадэвушу Касьцюшку ў 1794 г.

10 ліпеня 1831 г. зьяўляецца загад пра перадачу маёмасьці кляштара корпусу кадэтаў у Полацку. У у гэтым жа загадзе — словы, якія перадаюць трафарэт мысьленьня расейскага чынавенства ўсіх часоў'«с сего времени приказано называть... Березой Казенной». Кляшторны касьцёл ператвараецца ў парафіяльны. А пасьля паразы паўстаньня 1863—1864 гг., калі імпэрскі прэс узмацніўся, а русіфікацыя стала праводзіцца больш выразна, да будынкаў кляштара падыйшлі больш радыкальна. У1866 г. у Картуз-Бярозу на сталае кватараваньне прыбыў 151 Пяцігорскі пяхотны полк, тэрмінова сфармаваны з рэзэрвавых баталёнаў Тыфліскага гранадзёрскага й Самурскага пяхотнага палкоў. Ім, й ротнікам, не было дзе начаваць, і даецца каманда разабраць на будматэрыялы касьцёл і частку кляшторных пабудоў. Цэгла XVII ст. —

сапраўды выдатнае якасьці. Яе скарысталі пры будаўніцтве казармаў, якія атрымалі назву Чырвоных — з-за нетынкаваных цагляных сьцен. Лес казармаў сымбалічны. Спачатку тут месьціліся расейскія вайскоўцы. У 1930-х гадох польскія ўлады арганізавалі тут канцлягер, на зьмену якому ў 1939—1941 гг. прыйшоў канцлягер савецкі, потым — нацыскі. Сёньня там ізноў казармы, савецкія. І ўсё гэтак жа й называюць паміж бярозаўцамі — Чырвоныя казармы.

Дарэчы, пасьля царскага указу 1905 году прарэлігійную талерантнасьць, у вадной з ацалелых прыбудоў бярозаўскага комплексу зьявілася капліца. І яшчэ ў 20-х гадох гэтай капліцай і руінамі апекаваўся сівы паўстанец 1863 г. Валеры Куль, які апавядаў наведнікам пра былы кляштар. Лёс больш так і ня стаў да кляштара літасьцівым. Літаральна перад прыездам археолягаў улетку 1989 г. з палаца былі выведзены сьвіньні Міністэрства абароны СССР. Там сапраўды знаходзіўся сьвінарнік. Зараз жывелаў перабазавалі бліжэй да рэшткаў касьцёла. У сутарэньнях касцёлу, дзе захоўваліся рэшткі законьнікаў, 15 трунаў роду Сапегаў і 42 труны іншых сьвецкіх асобаў цяпер гніе бульба, а кляшторны двор ператвораны ў звалку мэталялому.

Тое, што некалі было унесена, ў Француcкую энцыкляпэдыю мастацтваў, сеньня выклікае пачуцьцё жалю. Бог бачыць, ня толькі нашая у гэтым віна.

**P.S.** Аўтар выказвае шчырую падзяку за магчымасьць карыстацца некаторымі гістарычнымі зьвесткамі сп. Валяньціну Калніну.



*Алег Дзярновіч*

# Ордэн Сьвятой Брыгіты

Пачынальнікаў менш распаўсюджаных манаскіх законаў мы звычайна знаходзім ня толькі у традыцыі, але і ў дакумэнтальнай гісторыі.

Час Сьв. Брыгіты Швэдзкай для Скандынавіі — гэта пачатак новае эпохі, так званага позьнекаталіцкага пэрыяду XIV—XV стст. Але ў 1302-м годзе, годзе нараджэньня Брыгіты (ці ў швэдзкай транскрыпцыі Біргіты), дачкі князя Біргера, Швэцыя — яшчэ самая адсталая краіна Скандынавіі, яна ня мае такой багатай духовай культуры, як Нарвэгія, такой народнай адукацыі, як Ісляндыя, не такая магутная й населеная, як Данія. Толькі сто гадоў у Швэцыі будуюць гатычныя бажніцы. А самі швэды — яшчэ традыцыяналісты. Толькі з XIII ст. яны перайшлі з рунаў на лацінскі альфабэт, прынесены з Брытаніі. Але ў канцы XV ст. ужо будзе надрукаваная першая кніжка па-швэдзку, распачнецца пэрыяд інтэлектуальнага абуджэньня. Шмат у чым на гэта паўплывала дзейнасьць Сьв. Брыгіты зь яе досыць рэдкай для Скандынавіі актыўнай рэлігійнай пазыцыяй. Рыма-каталіцкая сьвятая — патронка Швэцыі, насельнікі якой яшчэ ў XVI ст. парвалі з Рымам. Гэты прыклад уяўляецца цікавым з гледзішча асэнсаваньня пратэстантамі сваей каталіцкай спадчыны.

Але для нашае тэмы ўсё ж больш істотна будзе ўбачыць жаноцкі пачатак у дзейнасьці

Брыгіты. Пабраўшыся шлюбам у 16 гадоў (што зусім ня рана для таго часу), Брыгіта знайшла паразуменьне са сваім мужам князем Ульфанам у сваіх памкненьнях, знайшла паразуменьне з усімі сваімі дзецьмі, а іх было восем. Уся гэтая сям'я мае значныя заслугі перад каталіцкім касьцёлам, што падкрэсьлівае своеасаблівасьць яе ў тагачасным скандынаўскім грамадзтве.

Такім чынам быў зьдзейсьнены лацінскі рэванш за папярэднія пра-паганскія стагодзьдзі Скандынавіі. І адзіны твор сярэднявечнай швэдзкай літаратуры, які стаў шырока вядомы ў Эўропе, — менавіта «Адкрыцьцё Сьв. Брыгіты». На працягу доўгага часу аўтарка надыктоўвала яго сваім духоўнікам. Але для верніка гэтая кніга — не літаратурны твор, а праява такой цудоўнай зьявы, як Адкрыцьцё, як шчырасьць Божая. Тлумачэньне гэтай зьявы складае асобную праблематыку ў тэалёгіі.

Лацінскі адпаведнік тэрміну — revelatio, адсланеньне заслоны, якая перашкаджае зразумець нейкую праўду. І ў сьціслым сэнсе Адкрыцьцё можа разумецца як пазнаньне Бога са спраў тварэньня. Больш шырака — як навучэньне аб няведамай праўдзе. У вузкім сэнсе тэалёгія разглядае Адкрыцьцё як рысу, што характарызуе праўдзівую рэлігію. Але ня кожнаму даецца шанец увайсьці ў духовы кантакт з Богам, а толькі абраным ім, прычым пэрсанальна (per se). Брыгіта перадала гэтыя моманты спасьціжэньня з усёй сілаю жаноцкага ўспрыйманьня. Яна гаворыць пра свае мроі. Але «Адкрыцьцё» — гэта ня толькі аповед пра трансцэндэнтныя перажываньні, але й прыпавесьць, дзе аўтарка ўгаворвае, ганьбіць, прарочыць. Мроі Брыгіты па сутнасьці — алегорыі, паэтычныя фігуры, уласьцівыя жанру Адкрыцьця.

Выдадзенае ў 1492 г. «Адкрыцьцё Сьв. Брыгіты» зрабіла мацнейшае ўражаньне на мужчын, стала крыніцаю натхненьня Грунэвальда (Матыса Нітарт-Готарта), які бачыў сябе ня толькі мастаком, але настаўнікам і прапаведнікам. Невыпадкова, што сюжэты з «Адкрыцьця» так паўзьдзейнічалі менавіта на прадстаўнікоў нямецкага Рэнэсансу, бо этычна-рэлігійная накіраванасьць у ім была выяўленая больш моцна, чым у якой-небудзь іншай мастацкай школе. Касьцёл прызнаў «Адкрыцьцё» карысным дзеля навучаньня вернікаў, але гэта ня значыць, што касьцёл абавязаў прызнаваць «Адкрыцьцё» як праўдзіва дагматычнае. За асобаю ў любым выпадку пакідаецца прастора для самастойнае дзейнасьці, у тым ліку й духовай — што тычыцца як Брыгіты, так і чытачоў «Адкрыцьця».

Сьв. Брыгіта акрамя «Адкрыцьця» йакінула й канстытуцыю ордэну, утворанага ёю. Першы такі кляштар Брыгіта (ужо стаўшы ўдавою) заснавала ў мясцовасьці Вадстэн у сваёй роднай Швэцыі ў 1346 г. Там была разгорнутая актыўная літаратурная дзейнасьць, пераважна перакладчыцкая. Перакладаліся жыціі сьвятых, гаміліі, тэалягічныя творы й г. д. Гэтая так званая «брыгіцкая літаратура» ў канцы XIV і пачатку XV стст. распаўсюдзілася таксама ў Нарвэгіі й Даніі. Багатая на ляіцызмы мова нарвэскіх перакладаў гэтай літаратуры атрымала назоў «брыгіцкай нарвэскай» (birgittiner-norsk). Вадстэнскі кляштар стаў буйнейшым цэнтрам пашырэньня рэлігійнай літаратуры ў Скандынавіі. Утвораны ордэн быў ведамы як

брыгіцкі, а таксама як закон Збавіцеля — таму што галоўныя рысы рэгулы Брыгіта атрымала падчас Адкрыцьця («Regula ab ipso Domino accepta»). Ордэн вызначаецца культам пакутаў Хрыста й Марыі. Ужо ў 1349 г. ён быў зацьверджаны папам. Рэгула не была вельмі суворая й набліжалася да рэгулы Сьв. Аўгустына. Наадварот, суворым было стаўленьне да разьвітаньня зь сьветам праз пастаянны напамінак пра сьмерць — таму перад уваходам на хоры ў касьцёлах брыгітак стаяць катафалкі, таму абатысы штодзённа праводзяць мнішак па мясцовых кладох.

Нягледзячы на тое, што некалькі кляштараў брыгітак мелася ў Францыі ды Йталіі, гэты ордэн усё ж быў паўночна-эўрапейскім утварэньнем і найбольш пашырыўся ў Швэцыі, Англіі, паўночнай Нямеччыне, г.зн. у краінах, дзе перамагло пратэстанцтва. Менавіта на вуліцах гарадоў гэтых краінаў найчасьцей можна было спаткаць мнішак у попельных рызах і плашчох, зашпіленых на драўляныя гузікі.

Галоўнаю ж мэтаю ордэну зьяўлялася пашырэньне пашаны да Божае Маці. Самое заснаваньне закону было праяваю марыйнага культу. У рэгуле закладзена таксама імкненьне адпавядаць дуалізму чалавецтва — пажадана было ў кожным горадзе засноўваць парныя кляштары — жаночы й мужчынскі. Але не заўжды кляштары ўзьнікалі як падвойныя, найчасьцей — толькі жаночыя. Так склалася й на Беларусі.

У нашым краі йснавала ўсяго два брыгіцкія кляштары. Першы, заснаваны ў *Берасьці-Літоўскім*, быў неўзабаве перанесены ў Луцк, таму не засталося ніякіх матэрыяльных сьведчаньняў пра яго знаходжаньне на Беларусі.



Затое *Гарадзенскі* брыгіцкі кляштар праіснаваў досыць доўга. У гэтае слаўнае места брыгітак запрасілі ў 1634 г. надворны літоўскі маршалах Крыштап Весялоўскі й ягоная жонка Аляксандра з Сабескіх. Пан Крыштап падкрэсьліваў асаблівую павагу да жаночае часткі свае сям'і — да жонкі й прыёмнае дачкі Грызэльды Сапяжанкі, таму й запрасіў «найбольш жаноцкі» закон. Ужо потым зьявяцца паданьні, нібы К. Весялоўскі, ня маючы нашчадкаў пасьля заўчаснае сьмерці жонкі й адзінае дачкі, у памяць пра сваю сям'ю фундаваў грошы на брыгіцкі касьцёл. Тое, што гэтую легенду як гістарычную рэалію падаюць сучасныя выданьні — цікавы прыклад фальклярызацыі вобразаў гістарычных асобаў.

У 1636 г. у Горадні быў пабудаваны драўляны касьцёл, а праз дзесяць гадоў — асьвечаны мураваны. Узьведзены ў часы раньняга барока, помнік тыпалягічна належыць да так званага любэльскага тыпу рэнэсанснага касьцёла. А ўжываньне фантастычных алегорый, гратэску, наданьне натуральным формам штучных дэфармацыяў гаворыць пра значны ўплыў маньерызму — вапняковыя парталы брыгіцкага касьцёлу маюць элемэнты арнамэнтаў у форме акоўкі, фантастычных грыфонаў і расьлінаў. А драўляная разьба дэкору інтэр'еру сваімі формамі нагадвае матывы вушной ракавіны — фармальнага адпаведніка Лябірынту, зьяўляецца вельмі рэдкай на Беларусі.

Але каб усё гэта пабачыць, трэба патрапіць за высокую мураваную агароджу, прайсьці праз той жа партал. Калі ж Вы, сьпяшаючыся, хутка йдзяце па вузкіх гарадзенскіх вулках, дык усё адно ня зможаце не зьвярнуць увагу на бадай самую прыкметную рысу касьцёла — графітавы фрыз:

па ўсім фасадзе цягнецца арнамэнтны пас, утвораны вышкрэбваньнем верхняй белай тынкоўкі, пад якой знаходзіцца амаль чорная (у вапну дадаваўся драўнінны вугаль). Атрымаліся досыць яркія й рэльефныя выявы анёлаў, цмокаў, расьлінаў — на чорным тле. Сграфітавы фрыз касьцёла быў створаны на завяршальным этапе ўпрыгожваньня бажніцы (1642—1645 гг.).

Але сграфіта зьяўляецца тыповай рэнэсанснай тэхнікай, і з разьвіцьцём барока было асуджанае на забыцьцё — затынкавалі сграфіта й на гарадзенскіх Брыгітках. Ужо ў 80-я гг. XX ст. падчас натурных дасьледаваньняў архітэктуры знайшлі сьляды-рэшткі сграфіта. Фрыз цалкам рэстаўравалі, стварыўшы тым самым прэцэдэнт практычнае рэалізацыі выдатных распрацовак менскай школы рэстаўрацыі (праектнай часткі).

За агароджаю яшчэ захаваўся драўляны лямус (жыльлёва-гаспадарчая пабудова) XVIII ст. Падобных старажытных будынкаў у нас больш няма.

У мастацкую прафаму інтэр'еру касьцёла ўваходзілі й партрэты фундатараў. Яны ствараліся разам з кляштарам — у першай палове XVII ст., і прадстаўляюць малавядомую гарадзенскую школу жывапісу. Праз хвалі драпіровак у гэтых партрэтах адметна вырашаны асяродак. Схаваныя ў часе Другой сусьветнай вайны партрэты былі знойдзеныя ў сутарэньнях касьцёла ў 1966 г. экспэдыцыяй Мастацкага музэю. Пры ўважлівым разглядзе пад постацьцю Крыштапа Весялоўскага ў куце дасьледчыкі прачыталі надпіс: «Належыць да кляштару закона Брыгіты».

Брыгіцкі закон быў апалітычны, што й паспрыяла ягонай захаванасьці. У Горадні кляштар брыгітак дзейнічаў яшчэ на пачатку XX ст.



# IV

# Палітыка

*Ю.Ш.*

## Радзівілы

больш чым багатыя
больш чым магнаты
больш чым род

Гісторыя ня тая асоба, якой можна сказаць: «Я вас знаю!» З гэтай асобай у лепшым выпадку можна быць знаёмым, бо хто ж здолее сказаць: «Я ведаю жыцьцё!»?

Гісторыя жыве ўласным парадкам, але вось нехта з людзей, што йснуюць у сьвеце сваіх ілюзый, набліжаецца да яе, і тады, падхоплены ёю, творыць штось значнае, за шо потым астатнія называюць яго вялікім. Здаецца. цэлым сузор'ем такіх вялікіх людзей быў на працягу 600 гадоў род Радзівілаў.

Яны заўжды хацелі свайго, і ці дабіваліся свае мэты, ці не даходзілі да яе на паўкрок, але вынік ахняе дзейнасьці заўсёды перавышаў іхнія жаданьні і потым сам ужо прымушаў іх дзейнічаць адпаведным чынам. Прыгадаем асноўныя буйныя прадпрыемствы Радзівілаў ад пачатку (першы верагодны ўспамін пра іх — 1401 год).

Пасьля сьмерці Вітаўта ў Вялікім Княстве Літоўскім пачалася жортская нутраная барацьба, падчас якой аднавіліся нават некаторыя ўдзельныя княствы (Кіеўскае й Валынскае). Цэнтральная ўлада была вельмі слабая і таму асаблівую ўвагу набыў польскі фактар, які заўжды пераважваў шалі ўлады ў бок саюзьнікаў Польшчы. Расеі (і расейскага фактару ў Княстве) тады яшчэ не існавала. І таму галоўным носьбі-

там унутраных настрояў рэальна стала каталіцкая партыя, толькі яна магла спадзявацца на польскую дапамогу.

Каталікі Княства ў той час — гэта пераважна нашчадкі хрышчаных 50-70 гадоў таму балтаў. Яны ўжо былі моцна здэнацыяналізаваныя і паводле гэтай прыкметы расколатыя. Сярод каталіцкага лягеру выразна выдзяляліся дзьве групоўкі: жмудзка-каталіцкая старостаў жмудзкіх Кежгайлаў, што арыентаваліся на перавагу ў краіне каталікоў-балтаў над славянамі-праваслаўнымі і вялікалітоўская партыя Радзівілаў-Гаштольдаў, якая марыла пра інтэграцыю грамадзтва, пра царкоўную вунію й дыстанцыраваньне ад Польшчы.

Гэтая другая партыя не аднойчы спрабавала ўзяць усю ўладу ў свае рукі: у 1457 г. яны нават распачалі няўдалы рокаш за прагалошаньне Мікалая I Радзівіла Вялікім князем Літоўскім. Але ўрэшце больш уплыву атрымалі Кежгайлы, і Княства ў канцы XV ст. уступіла ў эпоху фальваркаў і войнаў з падужэлай Масквой і татарамі, будучы ў сярэдзіне слабым і дэзынтэграваным.

Радзівілы па-ранейшаму ўзначальвалі памяркоўна-каталіцкі лягер, які так і не пачаў дамінаваць, і прадухіліць паразу ад Масквы не маглі. Адпадзеньне ад Масквы найбольш сэпаратысцкіх рэгіёнаў Княства спрыяла аслабленьню ў ВКЛ славянскага «фундамэнталізму», а рост шляхты, як грамадзкага слою, на Падляшшы й Віленшчыне прывёў да палітычнае перагрупоўкі: абодва магнацкія каталіцкія лягеры зблізіліся, пусьцілі ў сваё асяродзьдзе буйнейшых праваслаўных магнатаў (Астрожскіх найперш) і гэтак супольнымі намаганьнямі шмат



дзесяцігодзьдзяў не давалі шляхце ўзьняць галаву. Радзівілы ў гэты пэрыяд (I палова XVI ст.) увaходзілі ў вярхоўнае дзяржаўнае кіраўніцтва і ў сярэдзіне XVI ст. пасьля рамантычнага шлюбу караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл (удавой Ст. Гаштольда) сталі некаранаванымі каралямі ВКЛ.

Тым часам лягер самастойнай шляхты ўсё больш арыентаваўся на Польшчу, як вонкавага саюзьніка супраць магнатаў, якія ўсё больш набіралі антыпольскае арыентацыі. Роля шляхты ў войску расла. Шляхта заваёўвала сабе ўсё больш палітычных правоў. Яшчэ адна сіла — славянскі «фундамэнталізм» — па меры росту Масквы ператваралася ў расейшчыну, і таму магнатэрыя тады была адзінай сілай, якая захоўвала дзяржаву. Радзівілы ж былі лідэрамі магнатэрыі.

Менавіта дзяржаўнае мысьленьне заўжды было іхняй ідэалёгіяй. Праблемы жмудзка-каталіцкія і праваслаўныя адыйшлі на другі плян. Радзівілы дасьпелі да кіраўнічае дынастыі. Заставалася толькі стаць ёю. А іхняе сьветаўспрыманьне (вялікалітоўскасьць) падзялялася цяпер ледзь ня ўсёй магнатэрыяй ды магнацкай шляхтай. І вось за паўкрок да кароны прыйшла Рэфармацыя.

Дзеля кароны трэба было стаць рэфарматарамі і пад новымі сьцягамі хутчэй кансалідаваць свой лягер, каб сапраўды дасягнуць станвоішча кіраўнічае дынастыі. У Польшчы тым часам распачалася контррэфармацыя, апазыцыйная шляхта ў ВКЛ — пракаталіцкая, у Маскве — праваслаўны фанатызм. Сваё праваслаўе невядома куды глядзіць і дэмаралізаванае. Кальвінізм даваў грамадзтву магчымасьць ачышчэньня і

кансалідацыі на адрознай ад суседзяў глебе. Мікалай Радзівіл Чорны, узначаліўшы ў 1553 г. пратэстантаў, зрабіў гэта як кароль, правадыр краіны, а не як першы прыдворны караля. Няўдача гэтага курсу была абумоўлена ўзмацненьнем падчас Лівонскае вайны пазыцый дробнай шляхты, адколам ад лягеру магнатэрыі ўкраінскай часткі, якая была напалоханая крымскімі набегамі, і здрадніцкім уціскам Польшчы. Па сутнасці па Вялікім княстве быў нанесены адначасовы ўдар (ці была прадэманстраваная пагроза нанесьці такі ўдар) усімі ягоным суседзямі. І толькі гэты націск здолеў разбурыць арыстакратычны магнацкі лад ВКЛ з тэндэнцыяй да Радзівілаўскай манархіі і накіраваць эвалюцыю грамадзтва ў бок шляхецкай рэспублікі. Цікава, што ў гэты час Радзівілы не пайшлі на грамадзянскую вайну, а, можна сказаць, арганізавана адступілі.

Яшчэ ў 30-х гадох XVI ст. склалася вялікая латыфундыя Радзівілаў: Нясьвіж, Біржы, Алыка, Лахва... Цяпер асаблівую ўвагу яны зьвярнулі на разьвіцьцё сваіх уладаньняў. Пасьля Люблінскай вуніі Радзівілы вонкава нібыта раскалоліся на каталіцкую (па лініі Мікалая Радзівіла Чорнага) і кальвінскую (па лініі Мікалая Радзівіла Рудога) галіны. Каталікі на чале зь Мікалаем Радзівілам Сіроткам хутка зноў дасягнулі галоўных пазыцый у ВКЛ, а потым і ў Рэчы Паспалітай. А кальвіністы працягнулі ранейшы курс, усё болей арыентуючыся на Прусію й Швэцыю. Яны некалькі разоў спрабавалі адчыніць *альтэрнатыўны* езуіцкаму кальвінскі унівэрсытэт, некалькі разоў стаялі на мяжы грамадзянскай вайны з каталіцкім лягерам Хадкевічаў і, зрэшты, адбілі ў іх з прыхаванай дапамогай сваіх каталіцкіх крэўных самую багатую латыфундыю Рэчы Паспалітай — Слуцкае княства (1600 год). Гэткім чынам вялікалітоўскі ўплыў роду ў ВКЛ настолькі пашырыўся, шо ледзь ня зьвёў на нішто вынікі Люблінскае вуніі.

Менавіта ў сьвятле палітыкі Радзівілаў ішлі ўсе культурныя працэсы ў межах тагачаснага ВКЛ. Любое ваеннае, эканамічнае, культурнае пытаньне, што тычылася краіны, вырашалася ў Нясьвіжы ды Слуцку. А якая сымболіка: побач у Нямеччыне ідзе 30-гадовая вайна пратэстантаў з каталікамі, у Францыі й Галяндыі такая вайна толькі скончылася, а ў ВКЛ — лідэры адпаведных канфэсійных партый на першае месца ставяць сямейныя ды дзяржаўныя каштоўнасьці! І гэта нармальна, бо не ідэя цікавіла заўжды Радзівілаў, а дзяржава і чалавек.

Характэрна, што падчас падзеяў 1655 году, калі саюзная польская армія перайшла да швэдаў, а сваіх сілаў супраць маскоўцаў не хапіла, гетман арміі ВКЛ кальвініст Януш Радзівіл заключыў са швэдамі антырасейскі саюз з умовай адраджэньня пасьля перамогі менавіта ВКЛ (збольшага ў межах Берасьць-Літоўскага, Менскага і Навагрудзкага ваяводзтваў), а ня Рэчы Паспалітай. Саюз са швэдамі быў дапоўнены пэўным саюзам і радзтвом з Багданам Хмяльніцкім і Сяміградцамі. А каталіцкія сваякі Януша Радзівіла (пры ўсёй парадаксальнасьці сытуацыі) ваявалі на другім баку, але, як тое ня дзіўна, супраць аднаго ворага і паміж сабою Радзівілы імкнуліся не сустракацца.

Канец вайны і замірэньне толькі на нейкі час паменшылі моц пазыцыі Радзвілаў. Ужо ў кан-

цы 17 ст. Радзівілы-каталікі паставілі перад сабой мэту стаць уладарамі ўсёй Рэчы Паспалітай. Зьмянілася мэта роду, зьмянілася мара, зьмянілася і краіна. (Вялікалітоўскіх сэпаратыстаў — Сапегаў ня выратаваў і Карл XII). Бязьмежным амбіцыям была кінутая пад ногі старая радзіма. Але ці ня мелі Радзівілы рацыі? Яны мелі сваю праўду. Яны стваралі народ. Прынамсі, мелі на гэта права.

У Паўночную вайну першы й адзіны раз у гісторыі расейцы ваявалі на адным баку з Радзівіламі і шмат у чым перамаглі. Пасьля гэтай вайны дзьве асноўныя групоўкі вялі барацьбу за карону: Фамілія (Чартарыйскія) і Радзівілы. Цяпер Расея зноў падтрымлівала не Радзівілаў. Можа, і тут ёсьць нейкі сымбаль? Менавіта Фамілія — Станіслаў Аўгуст Панятоўскі прывёў да краху Рэч Паспалітую. Радзівілы і Літва лічылі Рэч Паспалітую сваёй дзяржавай і былі ейным апірышчам. Не яны яе разбурылі, можа, і ня ім было яе аднаўляць? Зноў за паўкрок ад кароны — страта сваёй дзяржавы. Зноў, як у свой час Радзівілы-кальвіністы не зьмірыліся са стратаю ВКЛ, так Радзівілы-каталікі ў канцы XVIII ст. не зьмірыліся са стратаю Рэчы Паспалітай. Княжна Тараканава, у нейкім сэнсе Е. Пугачоў, Турцыя — усё было выкарыстана Радзівіламі супраць Расеі.

А багацьці? Хто быў багацеўшы за іх у Эўропе? Чвэрць, па іншых пдаліках — да паловы прыгонных Рэчы Паспалітай належала ім. Гарады, мястэчкі, войскі, ваенныя вучэльні, флот, тэатры, шпіталі, школы...

У свой час прыйшоў Напалеон. Але чаму ён не перамог? Усё, што было пасьля Напалеона —



гэта інэрцыя, доўгі закат роду разам з закатам шляхты і шляхецкай дзяржавы. Зьнкла яшчэ адна айчына Радзівілаў. Але застаўся род, які ніколі ня здраджваў ніводнай і асабліва ніколі ня здраджваў сабе.

Рурыкавічы ды Раманавы стварылі Расею, Ягелёны — старую Польшчу, Бурбоны, Габзбургі... Што стварылі Радзівілы? Чые Радзівілы? Хто ніколі ня скажа ім «здрадзівілы»?

Здаецца, прыйшоў час сказаць сабе, што сёньняшняя Польшча — ня Рэч Паспалітая, і прыйшла пара шукаць новую Айчыну. А якому народу, акрамя нас, яны патрэбныя такія, як ёсьць? Каму патрэбныя ня міты, а проста праўда пра сябе?

Цікавы лёс сымбаля нацыі. Якая веліч учынкаў і мэтаў! Сумна, што гэтая веліч зьнікае...

*Аляксей Бацюкоў*

# Авантура беларускай шляхты

Расея сьвяткуе 4 лістапада Дзень нацыянальнага адзінства — дзень вызваленьня Масквы ў 1612 годзе. Нашы продкі бачылі тыя падзеі з-за іншага боку крамлёўскага муру. Адным зь іх быў Самуіл Маскевіч зь мястэчка Сэрвач пад Навагрудкам. З 21 году — прафэсійны ваяка. У 1609 году наняўся добраахвотнікам у войска Рэчы Паспалітай, што выправілася на Маскву...

4 лістапада наш усходні сусед адзначацьме Дзень нацыянальнага адзінства — у гонар паўстаньня Мініна й Пажарскага, што паклала канец Смутнаму часу ў маскоўскай дзяржаве ў пачатку XVII ст. і т.зв. «польскай інтэрвэнцыі». Вобразы галоўных маскоўскіх паўстанцаў, забранзавелыя на Краснай плошчы Крамля, апетыя арыямі й дзіцячымі вершыкамі «Сусанін-герой», праз жывучую расейскую імпэрска-савецкую спадчыну дагэтуль складаюць выразны эмацыйны кантэкст, празь які большасьць беларусаў успрымае падзеі гэтай гісторыі. Некаторыя — згадваючы, што заведзеныя ў балоты палякі былі ня толькі палякамі. Але пакуль выправа шляхты Рэчы Паспалітай на заваяваньне маскоўскага стальца не атрымала ў нашай нацыянальнай гістарыяграфіі істотнай увагі, так і застаецца гэтая настальгія па адэкватнасьці ўспрыняцьця абстрактнай і найчасьцей — безэмацыйнай.



Можна было б традыцыйна жаліцца, што і тут далі маху літаратары, не стварылі грандыёзных у сваёй патрыятычнасьці твораў, але па-першае, тая ж няхай і славутая Клушынская бітва — далёка не адзіная і ня першая ў сьпісе неапяянай воінскай славы беларусаў, а па-другое... такі, ці блізкі да такога, твор ёсьць.

**Маскоўскі паход вачыма жаўнера**

Самуіл Маскевіч паходзіў зь беларускага шляхецкага роду, зь мястэчка Сэрвач пад Навагрудкам. З 21 году — прафэсійны ваяка, як сказалі б цяпер. Ён біўся пад Кокенгаўзэнам, ваяваў з паўстанцамі падчас рокашу супраць караля, затым у 1609 г. наняўся валянтэрам у войска Рэчы Паспалітай, што выправілася ставіць на чале Расейскай дзяржавы сына Жыгімонта Вазы, каралевіча Ўладзіслава. Далей былі аблога Смаленску, тая самая Клушынская бітва, узяцьце Рослава, пастой у Маскве, і, нарэшце, вяртаньне з маскоўскай авантуры на Радзіму. Тут, у Навагрудку, ён сыстэматызаваў свае ранейшыя дзёньнікі, дапоўніў іх мэмуарамі, і выйшаў знакаміты ў вузкіх колах «Дыярыюш Самуіла Маскевіча». Паводле гэтых нататак ужо цяпер можна здымаць кіно, што праўда, не на «Беларусьфільме» (ня толькі таму, што ў іх дэкарацыя згарэла).

Што бачыць жаўнер на вайне? Зусім ня тое, што прыдворны летапісец. Тут параза з прысмакам здрады ці кулюарнай грызьні ніколі не адаб’ецца пустацьветам патэтыкі. Тут перамога на жылах, калі адзін супраць пятнаццаці — гэта ўжо не хваласьпеў, гэта дзякаваньне Богу за цуд. Неперадузятасьць — бадай найпрыгажэйшая рыса «Дыярыюшу».

Аблога Смаленску. Маскевіч у харугве князя Порыцкага, пад чалом гетмана Жалкеўскага. Аблога цяжкая, доўгая, нудная. Абстрэлы, падкопы, вылазкі. У адзін дзень, падкапаўшы пэтарду пад браму, нападнікі ўдала падарвалі яе, так што вароты адчыніліся. Сотня шляхты ўварвалася ў горад, і ўжо пачалі маскоўцы кідацца са сьцен крэпасьці, каб схавацца ў царкве, але «...з прычыны бязладзь¬дзя нашага і нашых памылак не блаславіў Пан Бог гэтага мерапрыемства». За першай сотняй на штурм не пайшоў ніхто, бо «нашыя начальнікі, баючыся раскрыцьця сваіх плянаў і здрады, не папярэдзілі ў свой час нікога нават з тых палкоўнікаў, якія камандавалі пяхотаю. Казалі, што здрадзіў вугорац Марак, які быў капітанам каралеўскай пяхоты. Ён не пайшоў у пралом ці таму, што ня меў духу, ці то па згодзе з праціўнікам». Аблога працягвалася яшчэ амаль два гады.

А пакуль што маскоўскі самадзержац Васіль Шуйскі выступае з 35-тысячным войскам, каб дапамагчы недаціснутым смалянам. З гэтага моманту каралеўскае войска дзеліцца напалам: адна палова, разам з каралём і гетманам, мусіць заставацца пад Смаленскам, другая, складзеная з наймітаў, — ісьці насустрач Шуйскаму. Чы не нагода для расколу? Буйныя польскія магнаты, паны Патоцкія, што прывялі 2000 вершнікаў, не жадаюць выступаць «у полі», бачачы хуткую здачу цытадэлі і хочучы запісаць славу за ўзяцьце Смаленску на сваё імя. Гетман Жалкеўскі, «бачачы іх няшчырасьць і ведаючы, як неабходная гэтая апэрацыя, насуперак звычаю і прыстойнасьці» кідае лягер, караля і кіруе сваю частку войска насустрач Шуйскаму.



**Пахолкі захапілі горад**

Уся далейшая апэрацыя — чыстая авантура ад пачатку да канца. Крыху болей шасьці тысяч шляхціцаў мусілі разьбіць умацаванае швэдз¬кім корпусам войска Шуйскага і захапіць Маскву. Як перыну асмаліць. Што казаць пра настроі шляхты ў войску Рэчы Паспалітай, калі іх пахолкі («пахолак» — збраяносец, слуга), выпраўленыя сабраць правіянт пад Бранскам, заадно заваёўваюць Рослаў.

Частка маскоўскага войска (Маскевіч дае лічбу 8000, але яна відавочна перабольшаная) атайбавалася на рацэ Сеж у чаканьні асноўных сілаў Шуйскага. Абклаўшы гэтую частку дзьвюма ротамі і казакамі, астатняе сваё войска польны гетман кіруе насустрач Шуйскаму, каб засьпець яго зьнянацку. 2500 вершнікаў (Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі дае лічбу 6325) і 200 чалавек пяхоты, коньніцы, некалькі лёгкіх гармат. 24 чэрвеня 1610 году гэты атрад прабіраецца ўначы празь лес і нечакана апынаецца перад праціўнікам. Лягер Шуйскага засьпеты зьнянацку. Жулкеўскі падпальвае суседнюю вёску, каб дымам прыхаваць сапраўдную колькасьць сваіх вояў, і загадвае трубіць у трубы, біць у бубны. Саюзныя з маскоўцамі швэды выступаюць насустрач, войска Шуйскага таксама.

«Пры нашай малалікасьці жахліва было нават кінуць позірк на гэту незьлічоную процьму ворага», — какетнічае аўтар дзёньніка, і на старонках закіпае бой. «Няхай пра гэту бітву апавядае больш падрабязна той, хто толькі дзівіўся на яе, а мне цяжка было, і губы перасыхалі». Не, тут ён ізноў какетнічае. А, вось «Ад золку летняга дня і да абеду гадзін пяць» роты, «якім па во-

сем або дзесяць разоў даводзілася садзіцца на коней і выходзіць на бой», безвынікова таўкуцца па полі, трымаючы праціўніка, але не зьмінаючы яго. Паступова прыходзіць ацьверазеньне — іх мала, яны на чужой зямлі, і на літасьць разьлічваць ужо не прыходзіцца. Да таго ж «у нас ва ўсім [узбраеньні] была нястача, а ў яго [праціўніка] павялічвалася і сіла, і бадзёрасьць. Нягледзячы на гэта, нашыя воіны па звычаі кідаюцца з харугвамі на перадавыя шарэнгі непрыяцеля з клічам: да бою, да бою! Але марна. Няма ні сіл, ні рыштунку. Нават ня бачна ні палкоўнікаў, ні ротмістраў. Аднак мы ўступаем у бітву і зьмешваемся, як у віры, але гэта нам мала чаго дае: вораг ужо бачыць нашую слабасьць».

Перамогу ў гэтай бітве шляхцюкам прынесьлі самі маскоўцы. Два аддзелы іх райтараў перайшлі ў контранаступ. Адзін стрэліў і пачаў вяртацца пад абарону свайго войска, другі стаў набліжацца, каб даць свой залп. Вось у гэты момант ці то раздражнёныя дзёрзкасьцю ворага, ці то зь перапуду шляхцюкі ідуць на новую авантуру — налятаюць на занятыя манэўрамі райтарскія аддзелы, зьмятаюць іх (тыя зьмятаюцца на¬дзі¬ва лёгка, хвіліна — і ўсе першыя шэрагі ахоплівае, хвалямі разыходзіцца паніка), а за імі і астатняе маскоўскае войска.

Пасьля гэтай бітвы швэдзкі корпус здраджвае Шуйскаму, той уцякае ў Маскву, не спа¬дзеючыся на рэшткі сваёй армады, каб урэшце знайсьці там манаства, сьмерць і вечны супакой.

### Маскоўскі пастой

Самуіл Маскевіч у складзе каралеўскага войска едзе ў Маскву. Бяз стрэлаў, бітваў сталіца прымае на пастой жменьку заваёўнікаў — тыя, каб ня кідалася ў вочы іхная малалікасьць, увайшлі «бяз ладу» і адразу разбрыліся на пастой.

Пастой, рыхтаваны на месяц, завяршыўся праз паўтара году. Пазьней гісторыкі напішуць, што завяршыць авантуру паспалітай шляхты ня даў сам кароль Жыгімонт — схіляючыся да ідэі уніі Рэчы Паспалітай з Расеяй, ён не адпусьціў свайго сына ў Маскву прымаць царскі тытул. Гэта, а таксама натуральны народны гнеў супраць свавольстваў шляхты, падняло расейскі люд на паўстаньне і канчатковае выгнаньне інтэрвэнтаў.

Пра свавольствы шляхты Маскевіч піша з шчырай скрухай, хоць з часам, са зьменай настрою ў паспалітым войску, скруха мінае. «Дзікасьць», грубасьць маскоўскага люду штурхае шляхту на пераасэнсаваньне ўласных каштоўнасьцяў, так што нарэшце ў дзікай краіне ім можна ўсё тое ж, што дазваляюць сабе тубыльцы. Так, калі першага таварыша-свавольніка шляхта карае сьмерцю за тое, што п’яны страляў па праваслаўных абразах, то наступнага вырашае караць не паводле сваіх законаў, а паводле мясцовых. Замест сьмерці за гвалт над баярскай дачкой нейкаму пахолку даюць бізуноў. У выніку задаволенымі засталіся і баярын, і пахолак. Што цяпер магло стрымаць шляхцюкоў ад гвалту, выкраданьня жанок?

### Іх норавы

Дарэчы, пра грубасьць. Маскевіч ніяк ня можа зразумець расейцаў, што праклінаюць і зьдзекуюцца з сваіх абразоў за тое, што тыя не ўратавалі іх ад рабаваньня ці згубы жывёлы («мы на вас

молімся, а вы!»). Як ня змог ён зразумець Івана Жахлівага, які ў часе пасьпяховай ваеннай кампаніі абдорваў смаленскую царкву Міхаіла Арханёла, аж зрабіў ёй залаты копул, а ў часе няўдалай — загадаў абдзерці зь ейных сьцен усё начыньне і скарбы, а копул зьнесьці стрэлам з гарматы. Маскевіч не разумее расейцаў наагул, для яго гэта іншая культура, прычым іншая да непрыстойнасьці.

Надта камплімэнтарна для маскоўцаў пачатку XVII ст. будзе гучаць думка, што тут, на старонках «Дыярыюшу» сустракаюцца розныя цывілізацыі. Практычна ў кожным фрагмэнце ўспамінаў пра маскоўскае «гасьцяваньне» Маскевіч дазваляе сабе сваю высакародную пагарду.

Яму не падабаецца маскоўская ежа («акрамя той здобы, што падобная на францускую»), яму не падабаецца, як на банкеце іх частавалі мядамі («за кожным разам падавалі розныя, каб паказаць, як багата ў іх царстве. Нашы хацелі напіцца і прасілі падліваць, але аднаго гатунку, аднак маскоўцы рабілі па-свойму»), яму не падабаюцца застольныя забавы — мала што тут ніхто ня танчыць («лічаць, што шаноўнаму чалавеку непрыстойна танцаваць»), дык няма ніякай музыкі (дзеля іх, гасьцей, праўда, запрашалі лірнікаў, але што там за музыка — трымценьне на адной ноце), а ўвесь адпачынак — гэта скокі блазнаў і «надзвычай бессаромныя прыпеўкі».

Дый «жэняцца яны амаль што як габрэі» (будзем літасьцівыя за некарэктнасьць, усё ж сын свайго часу) — наўрад ці нэўтральна заўважае аўтар. У Маскве жанок трымаюць пад замком і ў чорным целе, усё жыцьцё не даючы выходзіць з двара.



Тут не займаюцца навукамі, бо яны забароненыя на загад цара («які баіцца, каб не знайшоўся хто мудрэйшы за яго, бо тады народ пагрэбуе ім і абярэ царом мудрэйшага»). Як пра дзіва дзіўнае Самуіл Маскевіч распавядае пра баярына часу Івана Жахлівага, які меў прагу да моваў і вымушаны быў прымаць настаўнікаў — немца, паляка — употай, уночы, пераапранутых у рускія апраткі.

Аднак няма ніякай пагарды там, дзе звычаі маскоўцаў сугучныя сацыяльнай філязофіі самога Маскевіча. «У гутарках нашы, выхваляючыся сваімі вольнасьцямі, раілі ім аб’яднацца з польскім народам і таксама прыдбаць свабоду. Але расейцы на гэта наўпрост адказвалі: «Вам добра вашая воля, а нам — нашая няволя. У вас ня вольнасьць, а свавольства, якога ня ведаем мы, бо ў вас моцны прыгнятае і рабуе слабога. У нас жа самы знатны баярын ня мае права пакрыўдзіць самага апошняга прасталюдзіна, бо на першую ж скаргу цар робіць суд і расправу. А калі ж сам цар са мною абыдзецца несправядліва, дык гэта ягонае царскае права, бо ён, як Бог, і карае, і даруе».

**На радзіму — расчараваныя**

Дзе-нідзе пачатковы скепсіс Маскевіча гасьне. Ён пачынае глядзець наўкола вачыма падарожніка, лёсам закінутага ў гэты такі блізкі і такі далёкі сьвет. Крэмль, Кітай-горад, майстэрства рамесьнікаў, зухаватасьць ліхадзеяў (што не збаяліся днём навідавоку скрасьці ў Маскевіча каня) — Расея, далёкая экзатычная краіна, такая яшчэ простая і, часам, цікавая — плыве ў «Дыярыюшы» праз дым пажарышчаў, кроў, гвалт, ня

зьмешваючыся, аднак, з гэтай бязьлітаснай і бессэнсоўнай вайной. Ужо не авантурай, далёка не. Абкла¬дзеныя з усіх бакоў атрадамі паўстанцаў, ад кожнага селяніна-праваднікa чакаючы здрады, шляхцюкі рвуцца на радзіму — лясамі, балотамі, галодныя, злыя, не дачакаўшыся грошай за службу, расчараваныя ў сваім нерашучым каралі і недальнабачных камандзірах. Ірвуцца і прарываюцца, напасьледак, ужо на самым памежжы ледзьве ня трапіўшы ў пастку. Ім усё ж такі здрадзіў селянін-праваднік. Адсеклі галаву.

Вяртаньне дахаты ўсяго ў двох радкох — «Знарок затрымаўся ў брата, каб не ісьці разам з войскам празь Літву». Не нясуць больш за войскам крылы славутай Клушынскай бітвы. Вось і ўсе эмоцыі, уся патэтыка і патас. Так вяртаўся з вайны стомлены трыццацідвохгадовы ваяр. І прыблізна так вярталася зь дзікай чужой краіны ўся напаўзабытая авантура беларускай шляхты.

•

Дыяруш Самуіла Маскевіча

Паводле: Анталёгія даўняй беларускай літаратуры. ІХ — першая палова XVIII ст. — Менск: Беларуская навука, 2005.



*Генадзь Сагановіч*

# Crimen Perduellionis, або справа смаленскага ваяводы

Хачу паўтарыць за Жулем Мішле: «Зьдзьмуваючы пыл стагодзьдзяў, я бачыў, як уставалі памерлыя». Гісторыі гэтай, так да канца й не разблытанай, ужо больш за тры стагодзьдзі, а яна ўсё яшчэ займае, хвалюе, быццам усё адбывалася на вачах...

28 верасьня 1654 года, пасьля чатырнаццаці тыдняў упартай абароны, Смаленск здаўся маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу. Праз колькі дзён смаленскі ваявода Піліп Абуховіч з часткаю афіцэраў і шляхцічаў пакінуў заняты царскім войскам горад і выехаў на Беларусь, да Дуброўны, якая яшчэ бараніліся. Ня думаю, каб нехта ўжо тады здагадваўся, што Смаленск страчаны назаўсёды, але капітуляцыя галоўнай усходняй цьвердзі беларуска-літоўскай дзяржавы сталася зусім нечаканай для грамадзкасьці. Шляхта была проста шакаваная.

Не пасьпеў Абуховіч вярнуцца ў свой маёнтак Ліпу, як край запаланілі чуткі пра тое, што ён здаў Смаленск маскоўскаму цару з карысьлівых інтарэсаў, па змове, што ня ўмеў і не хацеў ваяваць. Былы сябрук капітулянта Іван Цыпрыян Камуняка ў едкім лісьце высьмяяў ваяводу, прыпомніўшы таму й веданьне лаціны, і славу прамоўцы. Выходзіла, што Абуховіч меў «людзей зацных і добрых, пры жыўнасьці, гармаце, ды не хацеў бараніцца», ды што за час усіх штурмаў

Смаленска ў яго 2толькі аднаго ткача забіла, ды й то ня вельмі вядомага». А пасквіль жа хадзіў па ўсім краі, гэта чыталі. Казалі нават, што яму дадуць 1200 пяхоты і пашлюць вяртаць Смаленск...

Псыхічна Абуховіч быў ужо зламаны, і нават дыярыюш, які вёў з 1630 году, пасьля капітуляцыі перастаў пісаць.

Калі 19 траўня 1655 году ў Варшаве адкрыўся надзвычайны сойм, які мусіў пільна разглядаць адно пытаньні абароны (трэба ж было ратавацца, бо маскоўскае войска распачынала новую наступальную кампанію), у цэнтры ўвагі апынулася справа смаленскага ваяводы. Паслы ад Беларусі й Літвы, абвінаваціўшы Абуховіча ў crimen perduellionis (здрадзе краіне), патрабавалі да высьвятленьня ўсіх абставінаў капітуляцыі выключыць яго з сэнату, а паслоў Смаленскага ваяводзтва — з пасольскай ізбы. Апошняга хутка дамагліся, але за Абуховіча заступіўся кароль ды сэнэтары. Трэба спакойна ва ўсім разабрацца, даводзілі яны. Тады беларуска-літоўская шляхта заявіла, што яна ня будзе цалаваць рукі каралю (а значыць, і не пачнуцца нарады) да таго часу, пакуль Абуховіч ня выйдзе з сэнату. Патрабавалася нават большае — тэрмінова судзіць смаленскага здрайцу і яго супольнікаў на гэтым самым сойме! Чаму так адзінадушна шляхта вінаваціла менавіта Абуховіча, хоць на сойм былі пакліканыя і палкоўнік Вільгельм Корф, і Мікалай Тызэнгаўз, якія таксама кіравалі абаронай Смаленску?

Ня хутка ўдалося прыйсьці да кампрамісу. Паслы прынялі абяцаньне караля судзіць вінаватых на наступным сойме, а кароль з гэтага ж дня пазбаўляў апошніх голасу ў сэнаце і пасольскай палаце. Прысутны на сойме нямецкі дыплямат Фрагштайн адзначыў, што гэтыя недарэчныя разборкі забралі цэлыя два дні, так патрэбныя для пільнай арганізацыі абароны.

Ян Казімір і Сапегі падтрымвалі абвінавачанага, давалі яму час, каб сабраў доказы ў свае апраўданьне. Дазволілі паказаць сябе на справе і даверылі полк з дывізіі Паўла Сапегі. На чале палка Абуховіч ваяваў са шведамі, а потым прыйшоў пад Берасьце, але, прыгнечаны духова, захварэў тут на камень (calculus) і праз два тыдні памёр. З таўром здрадніка сваякі пахавалі нябожчыка ў Наваградку.

Постаць Абуховіча была вядомая ў цэлай Рэчы Паспалітай. Гэты наваградзкі шляхціч скончыў Замойскую акадэмію, ведаў клясычныя мовы й славіўся як выдатны прамоўца. Доўгі час ён быў пры двары Льва Сапегі, служыў пад яго чалом ротмістрам, а потым стаў добрым прыяцелем старому гетману. Шматкроць прадстаўляў Наваградзкае ваяводства на вальных соймах, у пасольскай палаце граў заўсёды адну зь першых роляў, бараніў соймы ад зрыву. Яшчэ ў 1648 годзе, падчас элекцыі Яна Казіміра, Радзівілы ахрысьцілі Абуховіча «мужам вялікага розуму і рэдкага краснамоўя». Канцлер Альбрэхт Радзівіл напісаў, што гэта «добры грамадзянін, вучоны і вельмі заслужены». Абуховіча паважалі. Яго любіў кароль. Яму ўсьміхалася фаргуна. Да ракавога дня 25 верасьня 1653 году — дня прызначэньня ваяводам у Смаленск.

Чаму кароль перад самай вайной аддаў Смаленск менавіта Абуховічу? Усе ж, і Ян Казімір пагатоў, ведалі, што ён «больш прамоўца, чым жаўнер».

Каб змыць ганьбу з роду, сын памерлага ваяводы палкоўнік Міхал Абуховіч неўзабаве дэкляраваў, што яны гатовыя давесьці «невінаватасьць свайго родзіча». Справай нябожчыка заняўся надзвычайны сойм, сабраны ў Варшаве ажно ў 1658 годзе. За тыдзень да пачатку паседжаньняў спэцыяльная камісія з трох сэнатараў і дваццаці чатырох паслоў стала вывучаць сьведчаньні камандзіраў, ротмістраў, жаўнераў, дэпутатаў, якія вялі перамовы зь непрыяцелем, а таксама простых жыхароў Смаленску, што пакінулі там, сыходзячы, свае маёнткі. Аналізаваліся дакумэнты ўсіх зносінаў з царом. апраўдальны тэкст аб прычынах здачы Смаленску, напісаны ў 1655 годзе ўласнаручна Абуховічам. У выніку зьявіўся «Соймавы дэкрэт па абвінавачаньні смаленскага ваяводы Піліпа Абуховіча ў здачы Смаленску маскоўскаму войску», у якім і адкрыліся дэталі смаленскай драмы...

Усё пачалося літаральна з моманту прызначэньня. Намінаваны ваяводам у верасьні, Абуховіч толькі ў канцы сьнежня (праз тры месяцы!) здолеў уехаць у Смаленск.

Пётра Вяжэвіч, які быў тады смаленскім падваяводам, то брамы не адчыняў, то пагражаў... У апраўдальным тэксьце Абуховіча падкрэсьлена, што ўсё гэта сыходзіла ад вялікага гетмана Януша Радзівіла, які бачыў на чале смаленскай цьвердзі палкоўніка Корфа.

Калі Абуховіч такі ўехаў у горад, Вяжэвіч аддаў ключы ад брамаў і замкавыя харугвы не яму, а Корфу. Прызначаны ваявода заставаўся хутчэй госьцем, чымся гаспадаром фартэцыі.

Што яшчэ горш — абструкцыя смаленскай шляхты, якая на сваім сойміку выказалася супраць намінацыі Абуховіча. Праўда, манарх сувора загадаў слухацца. Абуховіч вагаўся, прасіў караля і вялікага князя адклікаць яго, але той супакойваў, абяцаў хуткую дапамогу, казаў трымацца...

Тымчасам смаленскі замак ператварыўся ў кацёл, гатовы выбухнуць. Пяхота і шляхта збунтавалася супраць ваяводы. Яго «ня толькі ... шмат разоў ледзь жыцьця не пазбавілі, але й соймікі зрывалі». Ардынансы Януша Радзівіла перадаваліся не Абуховічу, а Корфу. У руках сьледчай камісіі фігураваў унівэрсал вялікага гетмана да смаленскай залогі, каб тая падпарадкоўвалася «не каму іншаму, але адзіна пану Корфу». Паказвалі й ліст, у якім яшчэ да прыходу маскоўскіх палкоў Абуховіч прасіў Радзівіла прыслаць дапамогу, але гетман адмовіў, спаслаўшыся на малалікасьць свайго войска. Дык ці магло быць інакш, калі той сапраўды ня меў і дзесяці тысячаў, а мусіў бараніць не адзін горад - цэлую дзяржаву!

На Януша Радзівіла на судзе наагул ускладвалася найбольш віны. Але наколькі адпавядала гэта праўдзе? Вялікага гетмана не цярпелі кароль і ўвесь двор, Абуховіч жа наадварот, уваходзіў у кола любімцаў Яна Казіміра. «Здраднікам» важна было паказаць менавіта першага, аўтара Кейданскай вуніі. Сам па сабе судовы разбор даваў добрую магчымасьць публічна ачарніць Януша, даўно таксама ўжо нябожчыка. А дакумэнты фальшаваліся тады лёгка.

Соймавы дэкрэт зафіксаваў цэлы шэраг фактаў, куды больш важных для разуменьня прычыны здачы Смаленска, чымся дэталі стасункаў Абуховіча з Радзівілам і з залогай. Ваявода ат-

рымаў горад запозна, «калі ўжо непрыяцель на каркі насядаў», а самым вырашальным сталася тое, што фартэцыя цэлых дваццаць гадоў была занядбаная і за два месяцы сытуацыю проста нельга было паправіць. Калі б Смаленск быў так умацаваны, якім зрабіў яго пасьля капітуляцыі цар, горад «ніколі не патрапіў бы ў маскоўскія рукі», - сьмела сьцьвярджаў Абуховіч.

Сапраўды, муры мелі вялізныя расколіны, у многіх месцах дзюркі проста замазваліся глінай, валоў амаль не засталося. Не было ні добрых запасаў правіянту, ні зброі, ні пораху. У парахавых млынах малолі зерне на муку... На лета у смаленскіх мурох пакінулі нейкіх 30 коняў, астатніх выгналі з прычыны недахопу фуражу...

Смаляне паводзілі сябе на дзіва бясьпечна. Ніхто не хацеў верыць, што вайна ўжо пачалася. І калі за тры дні да зьяўленьня царскага войска Абуховіч загадаў спаліць пасады за мурамі, люд узбунтаваўся, абвінаваціў ваяводу, што той дарэмна чыніць шкоду.

Ня лепш было з абаронцамі. Касьцяк залогі складала нямецкая пяхота, але ёй ня выплацілі заслужаных грошай. А пераважалі ў замку сяляне, мяшчане і шляхта. Ваявода запісаў, што людзей вельмі мала, і сярод іх часта «студэнты, рамесьнікі, аратаі, якія й страляць ня ўмелі»...

Дык ці можна было наагул у такіх умовах бараніцца ад трыццацітысячнага, добра ўзброенага маскоўскага войска? Не заставалася нічога іншага. І Абуховіч бараніўся — «пакуль сіл і пораху ставала». Вось тут і выявілася, што ён не жаўнер. Імкнуўся ашчаджаць боезапасы і прадукты, а казалі, што ўтойваў. Трэба было спакойна камандаваць, уздымаць баявы дух абаронцаў, а ваявода за ўсё хапаўся сам. Ён не выглядаў на камандзіра. «Я ваявода ледзь не крывавым потам ня раз абліваўся, удзень і ўночы працуючы, сам людзей па вуліцах і дамох зьбіраў, дрэва, жалеза й іншыя патрэбныя для паправы абароны рэчы здабываючы...» Сьведкі сьцьвярджалі, што Абуховіч, «не давяраючы варце, сам муры па начах абыходзіў, сьпячых і п'яных будзіў і нагадваў..., і гадзіны ніколі не пасядзеў у штодзённай чуйнасьці цьвярозасьці...»

Хіба мог ён, чалавек зусім не вайсковага духу, натхняць абаронцаў, калі сам знаходзіўся ў глыбокай паняверцы, а ў дадатак яшчэ й паранены?

Абуховіч баяўся вялікай крыві. Калі стала ясна, што прыйшоў час выбіраць адно з двух - або «ад меча непрыяцельскага загінуць», або «без праліваньня крыві й страты людзей» здаць горад, ён спыніўся на другім. Можа нават не ўсьведамляючы, бо гэтак прамаўляла ягонае нутро. Распачаў перамовы. Абарона зусім развалілася. І яшчэ да завяршэньня перамоваў пяхота й шляхта фактычна здалі фартэцыю. Так што й тут у ваяводы не заставалася выбару...

Камісія выснавала: «ніякай віны ў здачы Смаленску на вяльможный каліс Піліпе Казіміры Абуховічы не даказана». Смаленск страчаны не праз змову Абуховіча з непрыяцелем ці праз нячуласьць да абавязкаў, «але ад пэўных дэфэктаў і праз здраду тамтэйшых некаторых абывацеляў».

Толькі здрада гэтых «некаторых абывацеляў», сярод якіх першая роля належыла пану Альбрэхту Галімонту, чамусьці не выклікала ўвагі камісіі й суайчыньнікаў, што так прагна шукалі вінаватага...

*Януш Тазьбір*

# Партрэты ў плямах

## Гісторыя за кратамі суб'ектыўнасьці

Калі да драпежніка, чалавека ці нейкага гораду прылепіцца які стэрэатып (асабліва нэгатыўны), не дапамогуць ніякія высілкі, каб абвергнуць яго. Усе намаганьні будуць марныя. Так пускае свае карані чорная легенда.

Вельмі цяжка разьвеяць чорную легенду. Яе характарызуе модная стабільнасьць, здатнасьць замацоўвацца на доўгі час. Усялякі погляд, што абапіраецца на эмацыйны падыход, не прымае ніякіх рацыянальных аргумэнтаў. Асабліва замінае гэтая «легендарнасьць» спробам дакапацца да гістарычнай праўды і аб'ектыўнасьці пры асьвятленьні падзеяў далёкай мінуўшчыны. Тоўстая коўдра стагодзьдзяў і народная пагалоска робяць гэтыя спробы амаль безвыніковымі.

Польскія гісторыкі, напрыклад, цягам двухсот гадоў змагаюцца (наогул безь вялікага посьпеху) з тэзай, што Рэч Паспалітая ў 1795 годзе зьнікла з палітычнай мапы Эўропы выключна з уласнае віны. Карабель Рэчы Паспалітай мусіў патануць, бо ў прадоньне цягнуў яго баляст анархіі, рэлігійнага фанатызму і неталерантнасьці, шляхоцкай цямноты і прыгнёту сялянства ў маштабах, якія не сустракаліся ў іншых краінах Эўропы.

Чорныя легенды стваралі й самі палякі. Ужо ў Рэчы Паспалітай перад яе падзеламі замацаваўся погляд, што каралі Жыгімонт Стары, Ян Казімер, а пасьля іх Ян III Сабескі былі бязвольнымі марыянэткамі ў руках сваіх чужаземных жонак. У вачах шляхты абразай было ня толькі ўмяшаньне жонак у палітыку — сфэру, што належыць выключна мужчынам. І ня толькі чужое (італьянскае ці француское) паходжаньне, што рэзала вочы ў пару расквітаньня ксэнафобіі. Найважнейшы дакор палягаў на іншым: чужынскія жонкі заахвочвалі сваіх каралеўскіх мужоў да абсалютызму, а гэта азначала ліквідацыю шляхоцкіх прывілеяў. Дасьледнікі доўга думалі, чаму многія польскія разнаверцы шанавалі Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, хоць іхныя веравызнаньні (асабліва кальвінскае й арыянскае) строга гэта забаранялі. Рэч у тым, што папулярнасьць Дзевы Марыі, як ні дзіўна, была наступкам чорнай легенды, якая атачала чужаземных валадарак, што сядзелі пад бокам польскіх манархаў. Казаньнікі й прарокі эпохі барока ў адзін голас падкрэсьлівалі, што Маці Божая — прыхільніца, а значыць, і абароньніца шляхоцкіх вольнасьцяў. З моманту каранацыі на Каралеву Польскай Кароны (1656 г.) яна ўвайшла ў мэтафізычную структуру Рэчы Паспалітай і стала яе нябеснаю патронкай. Словам, гарантавала палітычны парадак, які абапіраецца на прынцыпы залатой вольнасьці. Прыкладна так, як гарантавалі яго вольная выбарнасьць, liberum veto ці права выказваньня непаслушэнсгва манарху, калі той парушыць прысягу, якую ён даў шляхце перад уваходжаньнем на пасад.

### Ці труціла Бона Барбару Радзівіл?

Чорная легенда ня ведала межаў у маляваньні партрэту сваёй ахвяры. Не клапаціліся нават аб

праўдападобнасьці выгляду, калі вінавацілі Бону ў сэксуальнай разбэшчанасьці і атруціцельстве. Ахвярай Боны пала ненавісная ёй нявестка Барбара Радзівіл. У гэтым мог пераканаць, напрыклад, папулярны перад вайной фільм Юзафа Лейтаса. «Барбара Радзівіл» дэманстравалася ў 1936—1939 гадах ня толькі ў Польшчы, але й за мяжой, «прадстаўляючы клясычную казку пра гнюсную сьвякруху, якая атручвае маладую і прыгожую нявестку».

Мастацкай літаратуры падала руку гістарыяграфія. Погляды на тэму Боны Сфорцы часоў Контаррэфармацыі няшмат чым адрозьніваліся ад поглядаў эпохі Асьветніцтва. Ня зьменшылася ні хцівасьць каралевы, ні ўзьвелічэньне суайчыньнікаў.

Бона прывезла з «Італіі невядомыя на польскай зямлі вычварэнствы, яна падбадзёрвала злых і подлых людзей», — грымеў у 1767 годзе ксёндз Тэадор Вага ў сваей «Гісторыі польскіх князёў і каралёў», якая ў XIX ст. двойчы перавыдавалася. Падобнай думкі прытрымліваўся біскуп Ігнацы Красіцкі, які кляйміў хітрую і прагавітую італійку за вываз з Польшчы незьлічоных скарбаў. У меру таго, як расла белая легенда Барбары Радзівіл, усё больш чарнеў партрэт ейнай перасьледніцы. Жанар казкі дапускае толькі гэтыя два колеры. Жалезныя рамкі чорнай легенды не дазваляюць заўважыць якіх-небудзь станоўчых рысаў у сваіх ахвярах. У пару падзелаў Рэчы Паспалітай гісторыкам удалося ачысьціць Бону толькі ад вінавачаньня ў тручэньні.

У міжваенным дваццацігодзьдзі на дапамогу няшчаснай каралеве (якая пасьля вяртаньня ў Італію сама стала ахвярай атручэньня) пасьпяшаўся Ўладзіслаў Пацеха. Ён пісаў у «Польскім біяграфічным слоўніку» (1936), што Бона ў выніку габсбургскай прапаганды, якая распускала плёткі пра яе віну ў тручэньні, «стала сымбалем зла, якое губіць Польшчу». У незавершанай манаграфіі пра Бону ён намагаўся, часам у забаўнай форме, прыбраць зь яе партрэту нават дробныя плямкі. Аднак у грамадзкай сьвядомасьці чорная легенда Боны Сфорцы па-ранейшаму бярэ верх над несумненьнымі яе заслугамі перад Польшчай.

Трэба адзначыць, што даўнейшы фільм Лейтаса глядзіцца цікавей за нядаўні нудны сэрыял пра Бону. Хаця апошнюю экранізацыю можна прызнаць гістарычна справядлівай.

### Людвіка Марыя — «прыгожая гарпія»

Чорная легенда, нібы казачны цмок, мусіць жывіцца ўсё новымі ахвярамі. У XVII ст. такою ахвярай стала француржанка Людвіка Марыя, якая атрымала гэтае імя толькі пасьля шлюбу з Уладзіславам IV Вазам. Яе сужэнства зь Янам Казімерам лічылася кровазьмяшэньнем: яна была ўдавой брата караля. Гэтае вінавачаньне выкарыстоўвала найцнатлівейшая частка польскай гістарыяграфіі XIX ст.

Пакуль Людвіка Марыя не мяшалася ў вялікую палітыку, яе не чапалі. Але калі яна ўзяла чынны ўдзел у барацьбе за рэформу ладу Рэчы Паспалітай, «зухаватую француржанку» прызналі небясьпечнай інтрыганткай, якая чхаць хацела на шляхоцкія вольнасьці. Асабліва абурэньне выклікалі пляны замены liberum veto на прыманьне пастановаў большасьцю галасоў. Не падабаліся таксама намеры ліквідаваць вольную элекцыю і выбіраць новага валадара яшчэ

за жыцьця папярэдніка. Папулярнасьць каралевы спала на нуль. Нават праз трыста гадоў ня ўсе эпітэты, якімі яе тады «ўзнагароджвалі», прыдатныя для друку. «Пякельная гарпія» ці «мэгера» належаць да наймякчэйшых. Галоўная яе «загана» перад Польшчай была ў тым, што яна падтрымлівала абсалютысцкія тэндэнцыі, што супярэчыць польскім традыцыям і «духу нацыі». Калі ў траўні 1667 году яна памерла, пісалі, што гэты месяц «прынёс каралеве сьмерць, а каралеўству — здароўе». Польскі гісторык Ян Хрызостам Пасак, якога цяжка назваць прыхільнікам каралевы, сьцьвярджае, што яе дастойны муж ня вельмі блізка да сэрца прыняў яе хваробу, а потым і сьмерць. Калі яму паведамілі, «што Яе Вялікасьць каралева вельмі кепска пачуваецца», Ян Казімер, вясёлы нападпітку, адказаў: «Нічога ёй ня будзе». Калі зноў яму данесьлі, што Людвіка Марыя канае, ён выцяў пакаёвага служку па шчацэ, кажучы: «Не кажы мне плётак, калі я вясёлы». Цяжка ў гэта паверыць.

Нелюбоў да Людвікі Марыі перанесьлі таксама й на яе суайчыньнікаў. Грамадзтва агорнула хваля галяфобіі.

Гісторыкі мінулага стагодзьдзя былі перакананыя, што Пасак фантазіюе, калі, напрыклад, апа вядае пра страляніну з лукаў па француcкіх актарах, якія ў 1664 годзе выступалі ў Варшаве. Такі факт настолькі моцна абражаў нацыянальную годнасьць чытачоў, што ў некаторых выданьнях гэтая сцэна ўвогуле апушчаная: не маглі ж палякі быць такімі барбарамі! Толькі даволі нядаўна знойдзеныя архіўныя матэрыялы, якія сьведчаць, што Пасак не прыдумаў памянёнага здарэньня. Але ён суправадзіў яго пышным камэнтаром: «Пры Людвіцы Марыі французы мелі перавагу ў Польшчы, ім было дазволена ўсё, чаго толькі надумаюць». Паводле меркаваньня Яна Хрызостама вінаватымі былі не гледачы, што стралялі з лукаў, а акторы, якія адважыліся выйсьці на сцэну.



**Апошні кароль: здраднік? выдатны асьветнік?**

У залежнасьць ад чорнай легенды патрапілі таксама й валадары. Сьпіс найгоршых манархаў уключае, несумненна, Жыгімонта III Вазу, у меншай ступені абодвух Сасаў: Аўгуста II і Аўгуста III Вэтынаў. Шляхта доўга захоўвала іх ва ўдзячнай памяці, не зважаючы на крытычныя меркаваньні людзей эпохі Асьветніцтва. Першае ж месца ў гэтым сьпісе займае Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, у якім бачаць галоўнага далакопа Рэчы Паспалітай.

У момант страты незалежнасьці Станіслаў Аўгуст меў ужо створаную чорную легенду. Яго вінавацілі ў бязбожнасьці і талерантнасьці да пратэстантаў, у прыхільнасьці да Расейскай імпэратрыцы, ад якой ён стала браў хабары, у распусьце і ў баязьлівасьці, і нават у падбухторваньні сялянаў супраць шляхты. Ад Барскай канфэдэрацыі да часоў Таргавіцкай канфэдэрацыі і паўстаньня Касьцюшкі не прыпыняюцца атакі на апошняга караля Рэчы Паспалітай. Позьнія вінавачвальнікі называлі яго «бязвольнай марыянэткай» Расеі і проста «нікчэмным» чалавекам. Польскі рамантызм не знайшоў ніводнага апраўданьня для караля, які памёр «у дастатку ды прыніжэньні» ў сталіцы пераможцаў. У тую эпоху на гістарычную сьвядомасьць больш уплывала мастацкая літаратура, чым прафэсійная

гістарыяграфія. Але й апошняя — зь Яўхімам Ляневелем на чале — не шкадавала для Станіслава Аўгуста вострай крытыкі, называючы яго «ганебным здраднікам нацыянальнай справы».

Не апраўдвалі караля й выдатныя польскія гісторыкі канца XIX ст. Валяр'ян Калінка называе караля «здраднікам і злачынцам», а ягоныя паводзіны на Гарадзенскім сойме падчас падзелу акрэсьлівае як «ганебныя». Тадэвуш Корзан, што цікавіўся «мілоснымі стасункамі» Панятоўскага з імпэратрыцай, бачыць у ім «атавізм гнілой арыстакратыі XVIII ст.». Падобныя эпітэты можна працягваць.

Рэч аднак у тым, што цягам апошніх двухсот гадоў, за выключэньнем пэрыядаў сапраўднай незалежнасьці Польшчы (1918—1939 і ад 1989 г.), не было аб'ектыўных умоваў для барацьбы з чорнай легендай Панятоўскага. Прыхільнікі караля сьцьвярджалі, напрыклад, што без Станіслава Аўгуста Панятоўскага не было б росквіту польскай асьветы. Праціўнікі на гэта казалі, што нават найлепшы міністар культуры не заменіць караля ў кіраваньні дзяржавай.

Пакуль Польшча заставалася ў залежнасьці ад Масквы, кожная спрэчка пра Панятоўскага станавілася дэбатамі пра стаўленьне да Расіі, прыбранымі з прычыны цэнзуры ў гістарычныя шаты. Можа, цяпер гістарыяграфія выкарыстае шанцы, дадзеныя ёй самой гісторыяй, каб чорную легенду апошняга караля замяніць на аб'ектыўную ацэнку ягонага валадараньня?

•

Паводле матэрыялаў Gazety Wyborczej падрыхтаваў Паўлюк Канавальчык



*Натальля Гардзіенка*

## Патрыятычная зорка «Мадам дэ Бар»

7 лютага 1800 году памерла Ганна Паўліна Ябланоўская з роду Сапегаў. У пачатку 60-х гадоў XVIII ст. яна ў сваіх маёнтках праводзіла радыкальныя гаспадарчыя рэформы, спадзеючыся дапамагчы сялянам палепшыць эканамічнае жыцьцё. У 1768 г. далучылася да Барскай канфэдэрацыі. Пад час узброенай барацьбы знаходзілася ў войску канфэдэратаў, натхняючы сваёй прысутнасьцю барцаў. За гэта ёй далі мянушку «Мадам дэ Бар» — Пані Барскай канфэдэрацыі. Гэтая жанчына стала сымбалем барацьбы Рэчы Паспалітай за незалежнасьць.

Становішча жанчыны XVIII ст. у Рэчы Паспалітай адрозьнівалася незвычайнай для некаторых іншых краінаў свабодай. Маёмасныя інтарэсы рэглямэнтаваліся Статутам вельмі дакладна, але ў выпадку парушэньня яе правоў кабета магла зьвярнуцца ў суд. Ніхто ня меў права сілком выдаць яе замуж... Але рэлігійныя традыцыі і грамадзкая думка ўсё адно абмяжоўвалі ролю жанчыны выключна хатнімі абавязкамі. Мужчынам не магло нават прыйсьці ў галаву, што жанчына можа ўдзельнічаць у паседжаньнях соймаў, кіраваць краінай...

Аднак ня ўсе прадстаўніцы прыгожай часткі грамадзтва пакорліва пагаджаліся з роляй выключна хатняй гаспадыні. Адной з разбуральніцаў традыцый і была Ганна Паўліна Ябланоўс-

кая. Яе бацька Казімір Караль памёр, калі дзяўчыне было дзесяць гадоў. Праз два гады жалобы маці Караліна Радзівіл пабралася шлюбам зноў. Ганна апынулася з маці ў яе новай сям'і. У дзяўчыны склаліся добрыя адносіны з айчымам Юзафам Аляксандрам Ябланоўскім. Той заўважыў у яе схільнасьці да заняткаў эканомікай і нават дазволіў весьці гаспадарчыя справы сваіх маёнткаў у час сваіх працяглых замежных вандровак. Айчым жа знайшоў падчарцы мужа — свайго стрыечнага брата Яна Каэтана Ябланоўскага. Пасьля вясельля маладыя бачыліся нячаста з-за працяглых замежных падарожжаў мужа, у якія ён езьдзіў выключна сам, пакідаючы жонку займацца справамі маёнткаў. У 1764 г. Ян Каэтан нечакана памёр, і Ганна засталася ўдавой безь дзяцей, але з маёмасьцю і велізарным жаданьнем дзейнасьці. З гэтага часу Ганна Ябланоўская прысьвячае сябе палітычнай дзейнасьці.

Непрыязнае стаўленьне да тагачаснага караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста прывяло яе ў шэрагі Барскай канфэдэрацыі, накіраванай супраць расейскага ўмяшальніцтва ў справы краіны і супраць караля як стаўленіка Кацярыны II. Пры гэтым Ганна Паўліна была не шараговай Удзельніцай, а адной са стваральнікаў узброенай апазыцыі. Яна фінансавала арганізацыю баявых груповак, займалася дыпляматычнай дзейнасьцю — шукала замежнай падтрымкі. Аднак усе яе намаганьні не прынесьлі посьпеху канфэдэрацыі, якая была разьбітая расейскімі войскамі на чале з тады яшчэ нікому не вядомым Суворавым. Няўдача не прымусіла Ябланоўскую цалкам адмовіцца ад палітычнай дзейнасьці, аднак у той жа час трэ было даглядаць і маёнткі. Кааб павялічыць прыбыткі, Ганна правяла шэраг рэформаў: урэгулявала сялянскія павіннасьці, увяла 50-гадовую арэнду сялянамі зямлі, пабудавала лякарню для сялян. Безумоўна, ейныя пераўтварэньні не былі рэвалюцыйнымі, Але нешматлікія мужчыны ў той час адважваліся хаця б на такое. Да таго ж Ябланоўская яшчэ і пісьмова выказала свае думкі наконт спосабаў вядзеньня гаспадаркі і выдала ва ўласнай друкарні. Штосьці тут было сваё, штосьці сьпісанае ў французаў...

Частку прыбыткаў ад маёнткаў гаспадыня й далей пускала на палітычныя патрэбы. Яна давала значную матэрыяльную падтрымку касьцюшкоўцам і нават узбройвала асобныя атрады. Ужо пасьля апошняга падзелу, калі Рэч Паспалітая зьнікла з мапы Эўропы, кабета ўсё адно падтрымлівала падпольныя антырасейскія арганізацыі з надзеяй на адраджэньне Радзімы. Яе не чапалі. Мо таму, што была ўжо немаладая, а можа, не пасьпелі. Ганна Паўліна Ябланоўская памерла, маючы 78 гадоў. Яна пакінула па сабе велізарную бібліятэку, калекцыю ардэноў і мэдалёў, а таксама мінэралягічны музэй. І яшчэ легендарны вобраз шчырай патрыёткі, сьмелай і разумнай жанчыны — «Мадам дэ Бар».

## Просім, пан генэрал

Як зьявілася канцэпцыя
аб «дабраахвотным узьяднаньні
Беларусі з Расеяй»

Гэта было на схіле існаваньня Рэчы Паспалітай «народаў польскага і Вялікага Княства Літоўскага». У 1788 г. у Варшаве пачаўся сойм, які намерваўся вывесьці спарахнелую дзяржаву з палітычнай агоніі і цiскоў замежнай, пераважна расейскай, залежнасьці. Рэфарматары ўвянчалі шэраг рэформаў славутай Канстытуцыяй 3 траўня 1791 году.

У прыватнасьці, былі скасаваныя канфэдэрацыі, наёмную шляхту пазбавілі права ўдзелу ў сойміках. Канстытуцыя дэкляравала ўвядзеньне прававой апекі над прыгонным сялянствам. Гэта быў недазволены замах на не абмежаваную ўладу прыгоньнікаў, хоць ініцыятары рэформаў рабілі ўсё, каб прысяга новаму канстытуцыйнаму рэжыму мела ўсеагульную і шумную падтрымку.

Той жа сойм скасаваў царскі пратэктарат, ухвалены соймамі 1768 і 1775 гадоў, паводле якога Кацярына II сачыла за непарушнасьцю важнейшых правоў шляхецкага стану. У адказ на гэта Кацярына II сьпешна завяршыла пераможную вайну з Турцыяй, каб скіраваць войскі на вяртаньне *сваіх* канстытуцыйных правоў. Аднак, пісала яна, войскі трэба ўвесьці так, «чтобы не от нас был первый выстрел». Яна ўпэўнена разьлічвала на абыякавасьць і падтрымку беларускіх сялян, якія «поляков господ своих ненавидят».

27 красавіка 1792 г. пяць магнатаў падпісалі ў Пецярбургу акт так званай Таргавіцкай канфэдэрацыі, абвешчаны ў Таргавіцах толькі 14 траўня — у дзень уварваньня царскага войска. Акт назваў соймавыя рашэньні дзяржаўным пераваротам: пятая частка паслоў сойму ўзурпавала волю «народу». Дзеля вяртаньня страчаных шляхецкіх правоў таргавічане прасілі ўзброенае падтрымкі ў царыцы. І тая не прымусіла чакаць.

Кацярына II загадала падрыхтаваць да паходу на Беларусь больш чым 60-тысячную армію на чале з генэрал-аншэфам М.Крачэтнікавым. Але пры двары вагаліся — калі стварацць саюзныя канфэдэрацыі: да, ці пасьля уварваньня царскіх войскаў? Вырашылі — да таго, каб прадэманстраваць, што канфэдэрацыі «составляются добровольно шляхетством, угнетенным и лишенным прав своих и вольностей беззаконною и насильственною конституциею 3 мая», і каб інтэрвэнцыю «можно было обьяснить просьбою о помощи со стороны народа». Ужо 19 красавіка пад Гомлем Крачэтнікаў атрымаў 200 тысяч рублёў на сакрэтныя выдаткі «к продовольствию прилепляющихся к конфедерации».

24 красавіка Крачэтнікаў прыбыў у Полацак, дзе ўзначаліў 6 конных, 10 пяхотных, 5 казачых палкоў і Эстляндзкі чатырохбатальённы корпус. Гэтую моц забясьпечылі 10-дзённым запасам харчу і 2 тысячам! фурманах. Так рыхтавалася «дабраахвотнае ўзьяднаньне братніх народаў».

Кіраўніцтва Генэральнай канфэдэрацыяй у Вялікім Княстве Літоўскім даверылі літоўскаму канцлеру Казіміру Сапегу. Той спрабаваў адкруціцца, патрабуючы, каб царскія войскі засланілі ягоныя маёнткі ад магчымае помсты патрыётаў. На месцах, у ваяводзтвах і паветах, канфэдэрацыі даверылі ствараць генэралу Шыману Касакоўскаму. У дапамогу яму далі шэфаў або дарадцаў: Я.Рудніцкага, А.Снарскага, Б.Лакіса, Я.Корсака, Т.Прысец-кага. Сьпісы шляхты, што падпісала антысоймавыя ўхвалы і запрашэньне Кацярыне II, Крачэтнікаў трымаў пры сабе, каб «по вступлении моем с войсками в Польшу обьявить их в городских канцеляриях с утверждением печати согласно их узаконениям». Усё павінна было выглядаць *законна*.

Але як ні высільваўся Касакоўскі, напачатку вольны народ ня надта ляпіўся вакол гэтае справы. Так 7 траўня Касакоўскі меў копію акту Браслаўскай канфэдэрацыі, падпісаную толькі 59 ураднікамі і палкім рыцарствам павету. Тым ня менш, ён запэўніваў, што шляхта павету «столь оказывает горячности, усердия и привязанности к России, что ныне уже готовы сесть на лошадей и начать дело». Акт канфэдэрацыі Полацкага ваяводзтва падпісалі толькі 70 ахвотнікаў, Аршанскага павету — 65. Але пачатак быў пакладзены.

11 траўня Крачэтнікаў выступіў з авангардам на левы бераг Дзьвіны і тут сустрэў 200 чалавек шляхты. Генэрал растумачыў, што царскія войскі ўвайшлі не «для разорения и угнетения поселян», а наадварот — каб быць «защитниками их вольности и охранителями от всяких угнетений». Як пісаў сам Крачэтнікаў, пасьля ягонай прамовы «жители с совершенным спокойствием вышли и на другой день охотно» прынесьлі прысягу. Затым генэрал разаслаў перад сабою маршалкаў намечаных канфэдэрацый іншых месцаў. Яны меліся абвяшчаць, што царскія войскі выконваюць вызваленчую місію. Выбіраць на адказныя пасады загадвалася толькі пазначаных у сьпісе асобаў. Тымчасам войска ВКЛ проста панічна адступала і ўцякала. Калёна расейцаў графа Д.Мэліна пасьпяхова пераправілася цераз Друць, некалькімі стрэламі распужаўшы памежны пост. Сутычкі адбыліся пад вёскай Ласьніца і пад Барысавам, дзе казакі пабілі 21 жаўнера. Мэлін з трыумфам паведамляў, што жыхары «тамошних селений оказывают ласку и доброохотство». 13 траўня ў Чашніках сабралі навакольную шляхту. Тая падпісала прысягу, што граф вітаў некалькімі гарматнымі стрэламі. У той жа дзень у Халопенічах абвясьцілі акт Аршанскай канфэдэрацыі, а 17 траўня «польское дворянство с живейшим участием приняло покровительство России» ў Браславе. Праўда, дзеля гэтага з Рыгі тэрмінова прыбыў граф Плятар, які меў прамову пасьля літургіі. За ім слова ўзяў граф Мануцы. Нарэшце, усе прысутныя, 125 чалавек, як даносіў Плятар, «прйнеся благодарение богу, утвердили подпискою со всевозможной тишиною и с привеличайшей радостью и удовольствием» прысяжныя лісты.

20 траўня Крачэтнікаў выступіў з Ушачаў і тэрмінова разаслаў дробныя атрады, каб бараніць уладаньні новых саюзьнікаў, каб не дапусьціць склікання паспалітага рушэньня і абвяшчэньня соймавай ухвалы аб апецы сялян

— каб пазьбегнуць «неустройств, могущих последовать между чернию от помянутого разглашения».

13 чэрвеня пасьля некалькіх стрэлаў быў захоплены Нясьвіскі замак. У здабычу трапіла 500 гармат, 1569 стрэльбаў, 277 цесакоў, 266 шабель, 26 бочак пораху. 29 афіцэраў і 803 жаўнеры каронных і радзівілаўскіх войскаў былі прыведзеныя да прысягі і адпушчаныя на ўсе чатыры бакі.

Трывожныя весткі паступалі з Горадні, дзе на выпадах абароны папраўлялі старыя швэдзкія акопы. Пад Зэльвай Мэлін разьбіў атрад з 22 чалавек, яшчэ 24 чалавекі ўзяў у палон. У Шчучыне Крачэтнікаў выдае загад, што за супраціў Генэральнай канфэдэрацыі ВКЛ ён «употреблять будет войска», а палонных накіруе ў Цьвер.

Хуткасьць і грошы зрабілі сваю справу. За месяц пераможнага наступу на Беларусі Крачэтнікаў раздаў 117486 рублёў. 25 чэрвеня317 чалавек стварылі Менскую канфэдэрацыю. 30 чэрвеня 500 чалавек падпісалі акт Гарадзенскай канфэдэрацыі. 8 ліпеня ў Берасьці прысягнула 1400 чалавек — пасьля палону 300 супраціўленцаў з 5 гарматамі. 14 ліпеня трыумфатары занялі Берасьце, дзе дарэмна стараўся над фартэцыямі Я.Ясінскі, будучы кіраўнік паўстаньня 1794 году.

Паводле справаздачы Крачэтнікава, за час кампаніі ягоныя страты — усяго 23 забітых і 106 параненых. Свае войскі генэрал разьмясьціў так: 3 палкі па лініі Берасьце-Нараў, 3 палкі паміж Пінскам і Горадняй, 5 палкоў сталі па лініі Слуцак-Наваградак-Ліда-Вільня. Пасьля гэтага ён паведаміў царыцы, што цяпер «в целой Литве не найдется таких, кой бы способны были предпринять что либо против покровительствуемой конфедератам». Заставалася толькі злучыць генэральныя канфэдэрацыі ВКЛ і Польшчы.

Апошні акт гэтага дзейства адбыўся 31 жніўня ў касьцёле езуітаў у Берасьці. На чале працэсіі ішоў біскуп І.Касакоўскі, за ім — маршалкі аб'яднанай канфэдэрацыі: ад Кароны — граф С.Патоцкі, ад ВКЛ — А.Сапега. Пасьля імшы маршалкі выказвалі прачулыя падзякі, затым падпісалі акт аб'яднанай канфэдэрацыі Рэчы Паспалітай. Калі яны выйшлі з касьцёлу, іх віталі 51 гарматным стрэлам. Пачаліся абдымкі, пацалункі. Расчулены граф Патоцкі пачаставаў трыумфатараў абедам. Пілі за здароўе Кацярыны II, за караля і канфэдэрацыю, за расейскую і польскую арміі. Для ўзнагароды знаці з Масквы было выпісана 15 выяваў царыцы.

Апошні супраціў, трэці літоўскі пяхотны полк, быў раззброены 2 красавіка 1793 г. 550 палонных разаслалі на ўкамплектаваньне царскіх палкоў. Пачалося дызэртырства са зьняслаўленага войска літоўскага. У Горадні склікаўся новы сойм, які меўся ўзаконіць акупаваныя тэрыторыі за Расейскай імпэрыяй.

Так выглядае далучэньне беларускіх земляў ВКЛ да імпэрыі ў справаздачах Крачэтнікава царыцы. Расейскі царызм, які вінавaціў ў дэспатызме, гвалтаваньні шляхецкіх соймікаў і свабод, выступіў дзейсным абаронцам бастыёнаў шляхецкай дэмакратыі. Кацярына II выкарыстала запрашэньне з выгадай для абодвух бакоў: імпэрыя павялічылася на 250 тысяч км$^2$, а шляхецкае саслоўе захавала свае правы і прыгонную

залежнасьць сялянства. З гэтага часу і паўстала канцэпцыя аб «дабраахвотным узьяднаньні Беларусі з Расеяй», а таксама — аб устойлівасьці грамадзкага ладу толькі ва ўмовах унітарнай дзяржавы на чале з абсалютным манархам.



# V

# Авантура

*Андрэй Шпунт*

600 рублёў золатам і 700 срэбрам
Сімяон Полацкі —
выдатны дзеяч
беларускай культуры?

*Андрэй Шпунт*

Цудоўная фартуна
шляхціца Валіцкага

*Андрэй Шпунт*

Авантуры яго жыцьця
Да партрэту
генэрала Хадзькевіча

*Андрэй Шпунт*

## 600 рублёў золатам і 700 срэбрам

### Сімяон Полацкі — выдатны дзяяч беларускай культуры?

Пра тое, што Сімяон Полацкі выдатны дзяяч беларускае культуры чуў амаль кожны, нават той, хто мае самыя цьмяныя ўяўленьні пра нашу гісторыю. Сімяон Полацкі — постаць хрэстаматыйная. Ён абавязковая фігура ў шэрагу выдатных беларусаў нароўні з Францішкам Скарынам, Львом Сапегам, Кастусём Каліноўскім ды іншымі. Ён так утульна разьмясьціўся сярод нашых славутых землякоў, што адпаведнасьць Сімяона свайму месцу ўспрымаецца як аксыёма. Але...

Жыцьцё гэтага чалавека прыпадае на «крывавы патоп» — пэрыяд вайны 1654-1667 гадоў. Калі глядзець на Сімяона Полацкага ў кантэксьце тых падзеяў, а ня так, як вучыла савецкая школа, атрымліваецца, што ў лепшым разе ён быў проста культуртрэгерам, які працаваў на ніве маскоўскае культуры.

Нарадзіўся ў 1630 годзе у Полацку. Сьвецкае імя — Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітніянавіч.

У сем гадоў бацькі адправілі яго вучыцца ў Кіева-Магілянскую акадэмію — буйную, полінацыянальную паводле свайго складу навучальную ўстанову. Вывучыў лаціну і стараславянскую мовы . У 1651-м ці 1652 годзе пасьпяхова заканчвае акадэмію і вяртаецца ў Полацак, тым больш, што на Ўкраіне заставацца было небясьпечна, — ужо тры гады там палыхае грамад-

зянская вайна. Казацтва выступіла супраць ляхаў і езуітаў ды прыгнёту габрайскіх арандатараў, учыніўшы сапраўдны галакост. Спачатку яно патрабавала адно зраўнаньня ў правох. Але Варшава і слухаць аб гэтым не хацела. Вайна зь пераменным посьпехам цягнулася шэсьць гадоў, пасьля чаго Багдан Хмяльніцкі, ці папросту «Хмель», каб схіліць шалі вагаў на свой бок, паставіў на сьмяротнага ворага Рэчы Паспалітай — Маскоўшчыну.

Самуіл тым часам працягвае адукацыю. З Полацку пераехаў у сталіцу, і ў 1651 годзе паступае ў Віленскую езуіцкую акадэмію — адну з самых вядомых у Эўропе. Езуіты давалі бліскучую адукацыю і давалі яе бясплатна. Доступ у езуіцкія навучальныя ўстановы быў адкрыты для прадстаўнікоў усіх канфэсіяў. Гэтыя перавагі Самуіл улічваў, і яны адыгралі не апошнюю ролю ў выбары ім месца вучобы. Раней некаторыя расейскія савецкія дасьледчыкі (Д.Жуков, Л.Пушкарёв. Русские писатели XVII в. — Москва, 1972) меркавалі, што ў Вільню ён паехаў для таго, каб вывучыць прынцыпы і мэтады каталіцкае прапаганды, для больш пасьпяховае барацьбы зь ёю ў будучыні. Сумнеўна, каб у яго маглі ўзьнікнуць такія далёкія намеры, тым больш што Самуіл быў уніятам.

І зноў не да вучэньня. 1 кастрычніка 1653 года Земскі сабор у Маскве абʼяўляе вайну Рэчы Паспалітай. Вораг абрынуў на нашыя ўсходнія рубяжы аграмадную 100-тысячную армію, якой Вялікае Княства Літоўскае магло супрацьпаставіць тады толькі 10-12 тысячаў абаронцаў.

За кароткі час былі захопленыя больш за 200 гарадоў, мястэчак, замкаў. У тым ліку Смаленск,



Віцебск, Магілёў, Ворша, Барысаў, Менск, Полацак.

Раніцай 29 ліпеня 1655 года баярын князь Якаў Кудзянетавіч Чаркаскі разам з казацкімі аддзеламі Залатарэнкі, прысланымі Хмяльніцкім, падступілі да Вільні. Стрымаць іх было немагчыма. У тых абставінах на гэта ня быў здольны нават ваенны талент Януша Радзівіла. Першымі ў горад уварваліся казакі...

Як прыгадваў віленскі біскуп Тышкевіч, «не было літасьці ані ўзросту, ані полу; усе месцы былі запоўненыя крывёю забітых і трупамі...» Загінула прыкладна палова жыхароў сталіцы — 7-8 тысячаў. Горад гарэў 17 дзён. Так маскоўцы адпомсьцілі «братняму народу» за пажар сваёй сталіцы ў 1612 годзе. Самуілу пашчасьціла ацалець, і на другі дзень акупацыі ён уцёк зь Вільні.

Што далей? Адныя ішлі простым шляхам да канца і гінулі са зброяй у руках, іншыя пераходзілі на бок ворага. Тое, што сёньня заслугоўвае асуджэньня, тады магло ўспрымацца як норма. Шчырасьць лёзунгу «Родина-мать зовёт!» тады выклікала б, мабыць, усьмешку. Самуіл пакуль толькі шукае месца, якое надзейна забясьпечыла б яго ад неспадзяванак лёсу, і дало магчымасьць займацца навукай. Дапамог выпадак. Былы прафэсар Самуіла ў Кіева-Магілянскай акадэміі, ігумен полацкага праваслаўнага Багаяўленскага манастыра Ігнат Іяўлевіч прапануе прыняць законьніцтва і выкладаць «отрочатам» у брацкай школе пры манастыры. 8 чэрвеня 1656 года Самуіл ператвараецца ў Сімяона(пазьней яго назавуць Полацкім).

Першы час працаваў дыдаскалам — настаўнікам у малодшых клясах. Добра ведаю-

чы перавагі лацінскае адукацыі і выхаваньня, Сімяон палемізаваў з прыхільнікамі грэцкага напрамку, якія заклікалі адгарадзіцца «жалезнай заслонаю» ад усякага ўплыву Захаду і ўсю ўвагупасканцэнтраваць на вывучэньні грэцкай мовы (якую, дарэчы, Сімяон ня ведаў) і праваслаўнага багаслоўя.

Заходніцтва не перашкаджае яму выступаць апалягетам агрэсіўнае маскоўскае палітыкі. Пра гэта яскрава сьведчыць першы выступ Сімяона перад царом Аляксеем Міхайлавічам, які «ашчасьлівіў» сваім наведваньнем Полацак з 5 да 15 ліпеня 1656 года. Праваслаўнае сьвятарства ў першых шэрагах сустракае захопнікаў-»вызваліцеляў». Пасьля патаснай прамовы Іяўлевіча, Сімяон і 12 вучняў брацкае школы прачыталі «Метры на пришествие Великого государя Алексея Михайловича» — калектыўную працу ўсёй браціі Багаяўленскага манастыра. У адрозьненьне ад таго грубаватага нахвальваньня, зь якім цара сустракалі смаленскія здраднікі, полацкая дэклямацыя была складзеная больш умела, адчувалася пяро прафэсіяналаў, яе нават можна назваць палітычнаю праграмай:

«Веселися царю, што Бог з тобою, Будешь владети морем и всею Двиною, Океан восточны власти ти годует, А там и западны тобе ся готует. Солнцу восток, запад ровне подлегают, Даст Бог тебе, Солнце, все царем узнают...»

Сімяон Полацкі імкнецца сам вылучыцца з гэтага хору хваласьпеваў:

«Вы з неволи увесь русийский народ освободили И ереси из земли давной руской скоренили».

Яшчэ пра Аляксея Міхайлавіча — вызваліцеля ад палякаў:



«Ты от нужды вражия избавил, Россию Белу на ноги поставил».

І гэта ў той час, калі ў Беларусі загінуў кожны другі яе жыхар. Роднае ваяводзтва Сімяона Полацкага пацярпела бадай больш за ўсе. Перад вайной колькасьць дымоў была 23 тыс., пасьля — 6 тыс. Насельніцтва да вайны — 161 тыс., пасьля — 39 тыс. Прадстаўнікі ваяводзтваў пры абмеркаваньні ў сойме падымнага падатку ў 1661 годзе заяўлялі:

«Пав. Ашмянскі... ўшчэнт разбураны ворагам...

Пав. Браслаўскі дашчэнту разбураны варожай арміяй.

Пав. Гродзенскі...ператвораны ў развалiны і пераважная частка яго спалена.

Пав. Слонімскі амаль ушчэнт спалены і разрабаваны ворагам...

Пав. Ваўкавыскі у многіх месцах спалены ў спазоры поўнага зруйнаваньня ворагам.

Ваяв. Полацкае, у выніку таго, што ўвесь час знаходзілася і зараз яшчэ застаецца пад уладай ворага... будучы зусім спустэчанае, ня ў стане ўплаціць ніводнага падатку...»

І такі стан назіраўся па ўсёй Беларусі.

Такім чынам, як Аляксей Міхайлавіч паставіў Беларусь «на ногі», можна бачыць з вышэйпрыведзенае заявы. Адзінае, што ён пачаў ставіць на ногі — праваслаўную Царкву, з адначасовым выкараненьнем каталіцтва, уніяцтва і пратэстанцтва.

Праз колькі гадоў здрада нацыянальных інтарэсаў прадстаўнікамі праваслаўнага кліру шмат каму расплюшчыць вочы і выкліча масавы адыход ад Усходняе Царквы. Дзіўна чытаць: «Радуйся белорусская земля, плещи руками ра-

дуючися...» і г. д. Трэба дадаць, што і сярод праваслаўнага сьвятарства былі людзі, якія насьцярожана ставіліся да «вызваліцеляў». І ня ўсім з розных прычынаў падабаліся вернападданскія пісаньні маладога законьніка. Захавалася нататка Сімяона Полацкага аб яго злапрыгодах і ўціcках з боку полацкага япіскапа Каліста.

Багаяўленскі манастыр дабіваецца немалых ільготаў ад цара. У 1660 годзе Іяўлевіча выклікаюць на царкоўны сабор у Маскву, ён бярэ з сабой Сімяона Полацкага, у якога ўжо падрыхтаваная для такога выпадку дэклямацыя. Нарэшце песьняру маскоўскае зброі выпала магчымасьць наведаць сталіцу «сапраўднага праваслаўя».

Пасьля руйнаваньняў і ваенных нягодаў, што Сімяон шмат гадоў назіраў на Бацькаўшчыне, Масква зрабіла на яго моцнае ўражаньне. На той час там працавала шмат беларускіх здольнікаў. Асабліва іхны прыток павялічыўся з пачаткам вайны. Сярод усіх магчымых ваенных трафэяў палон лічыўся самай каштоўнай здабычай. Бо хто аздабляў Маскву, як не палонныя здольнікі? Хто ажыўляў культуру Маскоўшчыны новымі помнікамі мастацтва?

Дзякуючы беларускай культурнай экспансіі маскоўцы пазнаёміліся са сьвецкім партрэтам, беларускай разьбою, кафляй і г.д. А хто працаваў на баяздольнасьць царскага войска? Яшчэ ў 1657 годзе у Шклоў, Барысаў, Магілеў і Менск на загад Аляксея Міхайлавіча быў накіраваны суздалец Пётар Балотнікаў «для пищальныя покупки и для призыву ратных дел мастеров».

Дапушчаны да цара, Полацкі з вучнямі чытаў дэклямацыі, напісаныя ў пышнай барочнай манеры. Ён шырока ўводзіць традыцыйныя прыёмы народнае паэтыкі для праслаўленьня царскае сям'і, называе цара Сонцам, царыцу — Месяцам, іх дзяцей — зоркамі.

20 верасьня 1660 г. сабор скончыўся, і Полацкі вяртаецца ў Беларусь. Становішча на франтах зьмянілася і наводзіла на непрыемныя роздумы. Пад час Патопу Маскоўшчына ўступае ў змаганьне са Швэцыяй, пакінуўшы Хмяльніцкага сам-насам з Рэччу Паспалітай. «Хмель» у адказ разрывае хаўрус.... Тая частка насельніцтва акупаваных абшараў, якая напачатку мела ілюзіі наконт Масквы, канчаткова расчаравалася ў ёй. Усе былі сытыя новымі парадкамі. Партызанскі рух супраць захопнікаў узмацняўся.

Калі казакі і іншыя вернікі ўсходняга абраду сустракалі маскоўскае войска, яны думалі знайсьці блізкі сабе праваслаўны народ. Але ўжо хутка ім рабілася зразумела, што гэта амаль што розныя цывілізацыі. Нават вера. Праваслаўе ў Беларусі было для маскоўцаў «латинствующим», а часам з розных прычынаў «літоўскай ерасьсю». Беларускія здольнікі, напрыклад, калі траплялі ў Маскоўшчыну, лічыліся носьбітамі «каталіцкае і іншае заразы», і хоць, паводле словаў Абэцэдарскага, у пераважнай большасьці яны былі праваслаўныя, іх прымушалі выконваць абрад «приведения к вере» і прыносіць царкоўную прысягу.

Акупанты страцілі Вільню, Горадню, Полацак. Войскі Рэчы Паспалітай кантралявалі большую частку Вялікага Княства. Для Сімяона пачаліся цяжкія часы. Нехта напісаў на яго данос. Прыйшла пара трымаць адказ за дэклямацыю. Але, на яго шчасьце, улады ці то не сьпяшаліся штосьці

прадпрымаць, ці проста не зьвярталі на яго ўвагі. У ліпені 1663 года ён назаўсёды пакідае Беларусь і перяжджае ў Маскву.

У гэты час Полацкі стварае свае галоўныя творы. Паэзія яго добра адлюстроўвае разьвіцьцё барока ў Маскоўшчыне. Стыль гэты пампэзны, афіцыёзны. Сімяон пачынае збліжаць паэзію з навукай. Вершы абцяжараныя рознага кшталту фактычным матэрыялам, настолькі, што ў сукупнасьці маглі б служыць сапраўдным энцыкляпэдычным даведнікам. Уся творчасьць Сімяона прасякнутая маралізатарствам. Усе ягоныя паэтычныя творы напісаны сылябічным вершам і чыталіся з вылучэньнем кожнага складу. Напрыклад:

«Царь не-кий, пре-бо-га-тый Дщерь крас-ну и-мя-ше, Ю-же от все-го серд-ца Сво-е-го лю-бя-ше» і г.д.

У паэтычнай творчасьці Полацкі ня быў наватарам. Кім бы ён быў на Бацькаўшчыне, дзе адукаванасьцю нікога ня зьдзівіш, а тым больш сылябічным вершаскладаньнем? А вось Маскоўшчына — зусім іншая рэч. Тут ён чалавек Захаду — чужаземец! Бадай, адзін з галоўных культуртрэгераў. На тле маскоўскага грамадзтва Сімяон Полацкі — самы вучоны чалавек.

Хто мог скласьці канкурэнцыю, калі нават ерархі праваслаўнае царквы тут не заўсёды валодалі дастатковай адукацыяй? Пасевін піша: «Некаторыя манахі ня ведаюць, які ў іх ужываецца манастырскі статут, ня ведаюць і пачаткаў граматы». А Бэрнштэйн яшчэ ў 1579 годзе сярод белага сьвятарства ня мог знайсьці ніводнага чалавека, які растлумачыў бы яму розьніцу паміж каталіцтвам і праваслаўем. Прычым сьвятарства



ў Маскоўшчыне традыцыйна лічылася самай адукаванай часткай грамадзтва.

Цікава, што ва ўласнай бібліятэцы гэтага сьціплага манаха і маскоўскага апалягета былі знойдзеныя кнігі з наступнымі надпісамі: «Гэтыя кнігі ёсьць надзейнае ёмішча ведаў Сімяона Пятроўскага-Сітніянавіча, полацкага іераманаха, Ордэну Сьв. Васіля Вялікага. Жнівень 1670». Тут ясная дэклярацыя прыналежнасьці да ўніяцкага закону.

Ды хто ж вы, Сімяон Полацкі?

Да часу прыезду Полацкага ў Маскоўшчыне сфармаваліся два погляды на шляхі разьвіцьця дзяржаўнасьці, адукацыі і г.д. Гэтыя плыні прадстаўлялі групы, якія можна назваць «лаціньнікамі» і «старамаскоўскай партыяй».

«Лаціньнікі» выступалі за запазычаньне ў Захаду дасягненьняў адукацыі, культуры, вайсковае справы, і наогул за больш цесную сувязь з Эўропай. Гэта былі людзі інтэлігентныя і адукаваныя — кіраўнік Пасольскага прыказу Афанасі Ордзін-Нашчокін, акольнічы Фёдар Рцішчаў, швагер цара Барыс Марозаў, баярын Артамон Мацьвееў, прыяцель і аднадумец Сімяона Полацкага князь Васіль Галіцын, і, натуральна, сам Сімяон.

«Старамаскоўская партыя» — поўная супрацьлегласьць. Яна стаяла за сівую даўніну, заклікала адгарадзіцца ад уплыву заходняе заразы, бачачы ва ўсёй эўрапейскай вучонасьці д’ябальскую блазноту. Непісьменнасьць лічылася вартасьцю, а роздумы, меркавалася, вядуць да ерасі. Прыярытэт аддаваўся толькі грэцкай мове.

Людзі з другога лягеру бачылі, якую небясьпеку ўяўляе Сімяон Полацкі са сваімі поглядамі

і адукацыяй. Таксама яны добра бачылі, што пад адзеньнем сьціплага законьніка хаваецца беспрынцыпны кар'ерыст. Законьнік з Чудаўскага манастыра Яфімі ў сатырычным «Слове» паказаў Сімяона Полацкага ў выглядзе пеўня, які любуецца сваім багата аздобленым хвастом. Сімяон Полацкі, спрытны царадворац, пакорліва б'е чалом і кланяецца да зямлі для таго, каб набраць каменьняў і кінуць у тваю галаву... Ён кажа, што вінаваты, а сам за дзьвярыма прыгатаваў для цябе «сем лапат». Пакорлівасьць яго воўчая, а не авечая.

Сімяону Полацкаму вельмі дапамагала блізкасьць да царскіх пакояў. Ён меў уплыў на Аляксея Міхайлавіча, а потым і на новага цара — Фёдара Аляксеевіча. Патрыярх Іакім, прыхільнік старамаскоўцаў, супраць простага законьніка Сімяона, пры ўсёй паўнаце сваёй улады, зрабіць нічога ня мог. У 1678 г. Сімяон Полацкі адчыняе друкарню ў Крамлі, адзіную ў краіне пазбаўленую духоўнае цэнзуры. Больш таго, як бы ў насьмешку над Іакімам, на сваіх кнігах ён ставіць пячатку з паведамленьнем, што яны выйшлі ў сьвет з дазволу патрыярха. Можна зразумець гнеў і абурэньне патрыярха і ягонае партыі.

Чаму ж Сімяон Полацкі, карыстаючыся любоўю і аўтарытэтам у самадзяржаўцаў, будучы кар'ерыстам, заставаўся на нізе ерархічнае царкоўнае лесьвіцы? Дык жа ў такім статусе была свая рацыя. Чорная вопратка Сімяона Полацкага моцна кантраставала з залатымі шатамі патрыярха і вышэйшых дзяржаўных дзеячоў. У вышэйшых сфэрах Сімяон быў бачны лепей за ўсіх, чаго і хацеў.



Дык якое ж значэньне Полацкага для беларускае культуры? Мабыць тыя 600 рублёў золатам і 700 срэбрам, якія ён паводле тастаманту пакінуў манастырам — у Воршы, Полацку, Віцебску, Менску і Мёрах? Толькі не беларускім манастырам пакінуў ён тыя грошы, бо ў яго разуменьні манастыры былі на землях, якія зьяўляліся ўсяго толькі часткаю Маскоўскага царства.

*Андрэй Шпунт*

# Цудоўная фартуна шляхціча Валіцкага

Non solum nobis divites esse volumus, sed liberis, propinquis, amicis maximeque rei publicae.*

*Цыцэрон*

Граф Міхал Валіцкі, падстольнік каронны, кавалер ордэнаў сьв. Станіслава і Белага Арла, буйны мецэнат, філянтроп, калекцыянер, ігрок і авантурнік, вядомы знаўца старажытнага мастацтва, бібліяфіл, нумізмат, сябра варшаўскага Таварыства сяброў навук, уладальнік вялікага багацьця — гэта ў 1800 годзе. А калі азірнуцца гадоў на 30 назад — перад намі хлопец зь Меншчыны, зь сям'і беднага шляхціча...

Як пісаў польскі пісьменьнік Анджэй Хамэрліньскі-Дзеражыньскі, «постаць гэтага чалавека неардынарная не таму, што ён зрабіў кар'еру якіх мала, бо канец XVIII стагодзьдзя — час незьвычайных кар'ераў. І не таму, што падмурак сваёй фартуны ён пабудаваў гульнёй.

Не, тут рэч у іншым. У тым, што, дасягнуўшы вышыняў сучаснага грамадзтва, ён не абрынуўся зь іх як мноства іншых авантурнікаў. Што ў нейкі момант свайго жыцьця перастаў ім быць, а стаўся адным зь першых прадстаўнікоў эўрапейскай эліты, якога магнатэрыя Рэчы Паспалітае без пярэчаньняў прыняла за свайго, ня зважаючы на яго мінулае. Што велізарным багацьцем карыстаўся таксама не банальна, шчодра даючы грошы на навучальныя ўстановы, зь якіх выйшлі Міцкевіч і Славацкі, а сярод мастакоў, пісьменьнікаў, людзей ведаў меў славу сапраўды бескарысьлівага мецэната і шчодрага пратэктара. Што нарэшце, няведама калі і як, гэты чалавек, уся адукацыя якога, — нейкая правінцыйная школка, здолеў здабыць сапраўдную культуру розуму і запас разнастайных непавярхоўных ведаў. Дарэчы, у Таварыства сяброў навук ён быў прыняты ў выніку тайнага галасаваньня».

* Ня толькі для сябе мы хочам быць багатымі, але і для дзяцей, сваякоў, сяброў, і асабліва — для дзяржавы.

### Разьдзел I. Пачатак

Пачатак біяграфіі героя губляецца ў прыцемках. Ды й каму было цікава, як нехта там з дробнае шляхты будуе сваё жыцьцё? Пакуль Валіцкі займаўся «будаваньнем», гісторыя шляху яго зьмяшчае шмат белых плямаў, дапушчэньняў, недакладнасьцяў і плётак, што дае дасьледчыку пэўную свабоду дзеяньняў.

Крыніцы не пакінулі дакладных зьвестак пра месца нараджэньня нашага героя. Вядома толькі, што Міхал Валіцкі зьявіўся на сьвет на Меншчыне (ня выключана, што й на Наваградчыне) у 1746 годзе. Некаторыя аўтары, мабыць, перабольшваюць галечу, у якой рос. Перабольшваюць, здаецца, дзеля таго, каб узмацніць уражаньне ад яго дасягненьняў. Так, натуральна, у параўнаньні з будучым графам, кавалерам многіх ордэнаў, бацька Міхала — Марцін, быў усяго толькі варшаўскім стольнікам.

Дарэчы, некаторыя дасьледчыкі (Трусаў І. Г. Валіцкі // Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. Т.2.

Мн., 1994. С. 208) мяркуюць, што сапраўднае прозьвішча Валіцкага магло быць Міцкевіч. Што да прозьвішча Валіцкіх, то згадваецца яно ў Кароне ўжо ў 1248 годзе. А Аўгусьцін, родапачынальнік дому Валіцкіх гэрбу «Лада» да якога далучаў сябе і Міхал Валіцкі, перасяліўся ў Вялікае княства пры Вітаўце, каля 1400 году [*]

Міхал атрымаў адукацыю даволі сьціплым коштам дзядзькі па кудзелі — Бучыньскага. Дзе вучыўся — зноў на выбар дасьледчыку: ці то ў Менску ў езуітаў, ці ў Магілеве, а мабыць і ў Вільні. Дасягнуўшы паўналецьця, хлапец пазбавіўся і бяз таго невялікае матэрыяльнае дапамогі.

Пра тое, што было далей, існуюць розныя меркаваньні. Ведама толькі, што ў Менску Міхал нейкі час вучыўся ў адвакатуры, а магчыма, і адразу атрымаў пасаду віцэ-рэгента ў судзе.

На гэтым мізэрныя зьвесткі абрываюцца гадоў на дзесяць.

## Разьдзел II. Геній більярду

Нейдзе на пачатку 70-х гадоў XVIII стагодзьдзя мы бачым Валіцкага ў Кракаве, у якасьці прафэсыйнага гульца і маркёра[**] пры більярдзе.

Калі картачны азарт узрушваў Карону і Літву ўжо не адно стагодзьдзе, то більярд зьявіўся як частка ангельскае моды, прыкладна з паловы XVIII-тага стагодзьдзя й захапіў ўсю Эўропу.

Більярдны стол стаяў якраз у доме, дзе жыў Міхал. Штодзённыя практыкаваньні плюс вы-

[*] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд 319, вопіс 1, справа 23.

[**] Маркёр (фр. marqueur < marquer адзначаць) — асоба, абслугоўваючая більярд, вядучая лік пры гульні.



датныя здольнасьці зрабілі сваю справу — адным ударам партыю пачынаў і заканчваў. Аб заклад ён заганяў у лузу самыя неверагодныя шары. Добра пазьней варшаўскі анэкдот будзе апавядаць, як малады Валіцкі заўсёды галодны, гуляў з калегамі, каб у аднаго выйграць на абед, у другога на вячэру. Слава генія більярду грымела па ўсім горадзе.

У вольную часіну штудыяваў француcкую — мову, дагэтуль непапулярная сярод дробнае шляхты.

У адрозьненьне ад шматлікіх прафэсійных гульцоў Міхал ствараў уражаньне прыстойнага чалавека, не аднойчы выяўляючы сапраўды рыцарскае высакародзтва на зялёным сукне.

## Раздзел III. Cicciditt in puncto qvod non speratur in anno[**]

І вось, нехта з маладых магнатаў, паназіраўшы за Валіцкім, вырашыў, што найлепшага таварыша ў падарожжы па Эўропе ён не знойдзе. Хто гэта мог быць, і куды вялі далейшыя шляхі? Паводле адных зьвестак — хтосьці з князёў Сапегаў вывез яго ў Вену. Там, добра ўхапіўшы картачную фартуну, Валіцкі адчуў сябе дастаткова самастойным. Разьвітаўся з патронам і рушыў да Парыжу зь нейкім князем Эстэргазі. Паводле іншых зьвестак... Ды й ці варта іх пералічваць?

Мабыць, больш за ўсіх мае рацыю граф Генрых Жавускі, які ведаў Валіцкага асабіста. Паводле Жавускага тым загадковым магнатам быў Станіслаў Солтык, пляменьнік кракаўскага

[**] У адзін момант здараецца тое, на што не спадзяваўся гадамі.

біскупа Каэтана Солтыка (таго самага, які на сойме 1766 года прапанаваў, каб кожнага, хто асьмеліцца сказаць на сойме прамову на карысьць іншаверцаў, аб'яўляць ворагам дзяржавы). Станіслаў Солтык пазьней стане аднім зь дзеячаў Нацыянальнага патрыятычнага таварыства, будзе абвешчаны дзяржаўным злачынцам пасьля паразы дзекабрыстаў і дэкансьпірацыі польскае змовы. Солтык увёў Валіцкага ў дом дзядзькі й апекуна. Біскуп у людзях разьбіраўся нядрэнна, таму здолеў убачыць у Міхале ня толькі гульца, але й чалавека годнага. Адпраўляючы пляменьніка за мяжу, толькі пахваліў ягоны выбар.

Ехаў Валіцкі не як слуга, а ў пэўным сэнсе як выхавацель, як чалавек, здольны прыйсьці на дапамогу.

**Разьдзел IV. Як Валіцкі выратаваў Солтыка і правучыў неапальскіх шулераў**

... Выпадак неўзабаве надарыўся. У Неапалі прастадушны Солтык пачаў флірт з адной дамаю, і празь ейныя намаганьні трапіў у рукі мясцовых шулераў. Калі Валіцкі даведаўся пра гэтае й пасьпяшаўся да свайго спадарожніка, перад яго вачыма паўстаў пан Станіслаў, абабраны махлярамі літаральна да ніткі. Убачыўшы маладога спадарожніка сваёй ахвяры італьянцы хціва заўсьміхаліся: «Мала аднаго дурня выпадак даў, дык яшчэ новага прынесла!» Няшмат спатрэбілася часу, каб зьбіць з макароньнікаў пыху — вось вам літоўскі азарт! Ня толькі адыграў усё назад, але й загнаў іх у такія даўгі, якіх ніколі б ня выплацілі...



**Разьдзел V. Яго ўнівэрсытэты**

Колькі разоў яны з Солтыкам траплялі ў розныя гісторыі, дзе й чым займаліся ўсе тыя гады — можна толькі здагадвацца. Але недарма казалі, што Валіцкі быў чалавекам, які ўмеў «з карысьцю выкарыстоўваць дары фартуны». Дробны беларускі шляхціч выглядае чалавекам зусім не правінцыйным і ў Парыжы ці Лёндане адчувае сябе гэтаксама свабодна, як у Вільні ці Варшаве. Дзе, калі, і якія ўнівэрсытэты скончыў за гэты час? Бо бачылі Яго ня толькі пры зялёных століках і ў шумных кампаніях салённых заўсёднікаў, а часьцей — сярод людзей навукі і мастацтва. Адзначалі глыбокія веды пана Міхала. Хутчэй за ўсё, не абыйшлося тут без уплыву выдатнага эрудыта свайго часу — Крыштапа Весялоўскага, гісторыка, нумізмата, знаўцы старажытнасьцяў і антыкварыяту, зь якім Валіцкі пазнаёміўся і пасябраваў у Парыжы.

**Разьдзел VI. Трыюмф у Парыжы**

Парыж. Другая палова 70-х гадоў. Праз Солтыка Валіцкі трапляе ў першыя салёны, а праз пасярэдніцтва графіні Паліньяк, якая стала ягонай каханкаю — да двара Людовіка XVI.

Як і ў Вільні ці Варшаве, агульнаю тут панавала ўсё тая ж неспатольная прага вышэйшага сьвету да азартных гульняў. (Нядзіўна, што Людовік XVI загад аб арышце нягодніка Бамаршэ напісаў на віновай сямёрцы.) Гэтая акалічнасьць была надзвычай дарэчы. Двор ня мог не заўважыць такту і шляхэтнасьці Валіцкага. Пад час картачных баталіяў ён ніколі ня даводзіў справу да эксцэсаў і ня патрабаваў сатысфакцыі, нават калі бачыў шулерства з боку

суперніка. Валіцкі нікому ніколі ня адмаўляў у крэдыце ці форы. Ды што карты! Мог даць фору ўсяму двару. Аднойчы зьдзівіў Версаль, зьявіўшыся ў раскошным строі, у якім кожны гузік быў аблямаваны дыямэнтамі і меў выяву якога-небудзь міфічнага бога.

Рабаваньне (дзякуючы картачным перамогам) маёнткаў першых асобаў і прыдворных малакасосаў не перашкаджала Валіцкаму захоўваць зь імі добрыя адносіны. Так, ён пазнаёміўся зь Людовікам XVI і Марыяй-Антуанэтай, якім рабіў розныя паслугі, з графам д'Артуа (пазьней Карл X), зь герцагам Арлеанскім (бацькам будучага караля Луі-Філіпа), ды іншымі. Асабліва блізка сышоўся зь няшчаснае памяці герцагам Арлеанскім. Першы каралеўскі вяльможа не аднойчы станавіўся ахвяраю Валіцкага, што падказала гэтаму прагнаму й ня вельмі пераборліваму ў сродках чалавеку заключыць хаўрус з панам Міхалам...

## Разьдзел VII. Яго вялікасьць фараон

На зялёных століках Эўропы панаваў фараон. Захапленьне гэтай гульнёю набыло характар эпідэміі, пік якой прыйпаў на XVIII — пачатак XIX стагодзьдзяў. Фараон ураўнаваў станы ня менш радыкальна, чым Вялікая француская рэвалюцыя. Фараон без перабольшаньня зьяўляўся адной з самых азартных гульняў за ўсю гісторыю эўрапейскае цывілізацыі.

Гуляць аднвчасова магла вялікая колькасьць асобаў. Банкір высыпаў свае дукаты на стол і тасаваў карты. Тыя, хто хацеў гуляць супраць яго, называліся паньцёрамі. Кожны зь іх меў уласную калоду, зь якой даставалася карта. Яе клалі перад сабой закрытаю, а на яе рабілі стаўку... Людзі, што адкрывалі банк, зазвычай былі прафэсійнымі шулерамі...

Банкірам у хаўрусе даводзілася быць Валіцкаму, за што ён атрымліваў чвэртку прыбытку. Усё астатняе браў сабе герцаг.

Каб мець нейкае ўяўленьне пра Валіцкага-шулера, дастаткова ведаць пра тыя якасьці, без якіх ня мог абыйсьціся ніводны банкір. Па-першае, паколькі гульня вялася за кіляграмы золата, выкарыстоўвацца магла толькі нераскрытая калода. Дык вось, трэба было раскрыць, пазначыць, а потым безпамылкова, за долю сэкунды распазнаць кожную з 52 картаў. Ну і, натуральна, зноў акуратна запячатаць калоду. Па-другое, трэба было мець выдатную памяць. Па-трэцяе, — ня менш выдатны зрок, каб тыя значкі адрозьніваць у дрыготкім сьвятле сьвечак ды клюбах тытунёвага дыму. Па-чацьвёртае, — спрытныя рукі. Па-пятае, — рэспектабельнасьць. Па-шостае, — дасьціпнасьць і інтэлігентнасьць. Па-сёмае, — маланкавую рэакцыю... Здаецца, дастаткова.

## Разьдзел VIII. 15 пунктаў форы для лёрда Стэнлі і 24 для Саліньяка

Герцаг не памыліўся. Валіцкаму ня было роўных. Вялізарная маёмасьць каралеўскага брата графа д'Артуа перацякала ў кішэні хаўрусьнікаў.

У той самы час на більярдных сталах Парыжу ўладарылі два дагэтуль неперааўзыдзеныя майстры гэтае забавы — ангелец лёрд Стэнлі ды італьянскі авантурнік Саліньяк. Валіцкаму спатрэбілася пяць гадзінаў, каб выйграць у лёрда 300 тысячаў франкаў. Ангелец, які ня ведаў

раней паразаў спакусіўся на 15 пунктаў форы... Саліньяк паставіў пярсьцёнак з салітэрам супраць 100 тысячаў за адну партыю. Дыямэнт, можа, каштаваў і больш, Але Валіцкі шчодра ацаніў розьніцу ажно ў 24 пункты форы... Італьянца напаткаў той жа лёс.

**Разьдзел IX. «Le saphir merveilleux»***

Дарэчы, пра камяні. Паводле словаў графа Жавускага, пан Міхал быў іх вялікім аматарам, і хутка стаўся такім знаўцам, што мала хто з ювеліраў мог зь ім параўнацца. Наогул, за золата, здабытае гульнёй, пан Міхал набываў антыкварыят ды розныя каштоўнасьці. Між іншым, ён завалодаў легендарным, вядомым на ўвесь сьвет сапфірам, што мяняў колеры пры захадзе сонца, сьвятле дня ці пры сьвечках. Сапфір нават натхніў пісьменьніцу і выхавацельку дзяцей герцага Арлеанскага мадам Стэфанію Фелісітэ дэ Жанліс на стварэньне аповесьці, назва якой дала загаловак гэтаму разьдзелу.

Былы шарачок з-пад Менска, які быў упэўнены, што добрыя чалавечыя адносіны даражэй за любыя каштоўнасьці, праяўляў шчодрасьць, годную каралей. Падараваў сапфір жонцы Солтыка.

**Разьдзел X. Золата, антыкварыят... графскі тытул**

Невядома з якімі мэтамі, мабыць, проста з жаданьня разнастаіць сытуацыю, Валіцкі з Солтыкам увесну 1783 года наведалі Лёндан. Побыт у Англіі чаргаваўся з вылазкамі на кантынент. Картачным баталіям прыйшлі на зьмену іншыя

* Цудоўны сапфір.



заняткі, як, напрыклад, сьпэкуляцыя на розьніцах коштаў золата, каштоўных камянёў, твораў мастацтва. У адным з падарожжаў у нейкім са шматлікіх італьянскіх княстваў ці каралеўстваў Міхал Валіцкі купіў сабе графскі тытул, які кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст пазьней зацьвердзіў.

**Разьдзел XI. Валіцкі — Міцкевіч? Міцкевіч — Валіцкі?**

Посьпех звычайна каштоўны ня толькі сам сабою, але яшчэ і ў залежнасьці ад таго, колькі знаёмых, сяброў, ці суайчыньнікаў будуць аб ім ведаць. Нават сьціплы чалавек часам мае патрэбу ў сьведках посьпеху.

Вось і пан Міхал, а цяпер ўжо граф Валіцкі, зірнуў на мілыя сэрцу Літву й Карону.

Адначасова ў ягонай біяграфіі надыходзіць чарговая туманная паласа. Анджэй Хамэрліньскі-Дзеражыньскі тлумачыць яе наступным чынам:

«Улетку 1788 году прыбыў у Кракаў граф Валіцкі. Адначасова Англію пакінуў пан Міцкевіч.

Гэтая дваістасьць прозьвішча хутка выклікала скандал. Знайшліся тыя, хто адразу ж заявілі: Валіцкі — гэта не Валіцкі, а Міцкевіч, які абагаціўся ды карыстае з прозьвішча й гербу сэнатарскага роду, золатам плацячы за гэта сахачэўскаму кашталяну Базылю Валіцкаму.

Аднак меркаваньню гэтаму пярэчаць усе, хто калі-небудзь сутыкаўся ці з графам Міхалам ці зь ягоным пляменьнікам Леапольдам. Найперш Ян Сьнядэцкі ў лісьце да Букатага (амбасадара ў Англіі — А.Ш.) ад 14 сьнежня 1788 года напіша,

што Валіцкі, прыбыўшы ў Рэч Паспалітую, вярнуўся й да свайго прозьвішча, якое на некалькі гадоў з-за пэўных важных прычынаў вымушаны быў зьмяніць, выступаючы ў той час як Міцкевіч.

Потым Жавускі высьвятліць гэтыя «важныя прычыны» і паведаміць, што прозьвішча Міцкевіча Валіцкі абраў яшчэ ў Кракаве, «не жадаючы пляміць уласнае тагачасным сваім статусам наёмнага гульца».

**Разьдзел XII. Кароннае падстольства за 4000 дукатаў, ордэны сьв. Станіслава й Белага Арла — за дыямэнтавыя гузікі**

Незацьверджаны графскі тытул не даваў ніякіх перавагаў. Сябра манархаў і прынцаў крыві паводле статусу нічым не адрозьніваўся ад якога-небудзь шарачка. Ад усьведамленьня гэтага не зусім ёмка было знаходзіцца ў таварыстве Радзівілаў, ці нават менскіх землякоў Валадковічаў, бо шляхецкая роўнасьць у тыя часы засталася толькі ў пачварным «liberum veto». Успаміны ды легенды грэлі празьмернае самалюбства шарачкоў, якія станавіліся пад канфэдэратыўныя сьцягі, каб нагадаць каралю пра сваю роўнасьць зь ім...

Дапамог Солтык. Надзвычай заняты актыўнай дзейнасьцю ў Скарбовае камісіі ды пасольствамі на соймы, ён прадаў Валіцкаму сваё кароннае падстольства за 4000 дукатаў (паводле Жавускага — за 200 тыс. польскіх злотых). Магнатэрыя прыняла Валіцкага так, нібыта ён і яго продкі заўсёды знаходзіліся ў яе шэрагах.

На глебе захапленьня старажытнасьцямі Валіцкі зьблізіўся з такім самым калекцыянерам



і аматарам навукаў — каралём Станіславам Аўгустам. На знак сяброўства падараваў беднаму Стасю гузікі з дыямэнтамі — тыя самыя, якімі ўразіў Вэрсаль. Панятоўскі адзьдзячыў чым мог — зацьвердзіў графскі тытул ды пажалаваў адзін за адным ордэны Сьв. Станіслава і Белага Арла.

**Разьдзел XIII. Валіцкі — касмапаліт і калекцыянэр**

Шматлікія аўтары адзначалі касмапалітызм і апалітычнасьць Валіцкага. Ніхто ніколі ня бачыў, напрыклад, каб ён трымаў у руках газэту. «Мой падстолі, — запытаўся аднаго разу Станіслаў Аўгуст, — маючы столькі сябраў, чаму не дамагаесься пасольства на сойм ?» Валіцкі зьлёгку ўсьміхнуўся і з пачцівасьцю нахіліў галаву: «Уласна дзеля таго, найясьнейшы пане, што маю шмат ласкавых да сябе сяброў і ніводнага не хачу страціць».

Пакуль патрыёты рыхтавалі рэванш за паразу Рэчы Паспалітай у кампаніі 1792 года, Міхал Валіцкі прыехаў туды, адкуль беглі ўсе, каму хацелася яшчэ пажыць. Гэта зноў быў Парыж, але ўжо — ўвосень 1793 года.

Якабінцы давалі асьвечанай Эўропе прыклады татальнага тэрору. Старыя ўяўленьні пра матэрыяльныя й духоўныя каштоўнасьці новая ўлада паставіла з ног на галаву. За ўсеагульным уздымам, рамантыкай лёзунгаў Свабоды, Роўнасьці й Братэрства Вялікая Рэвалюцыя прынесла рэкі крыві, голад і нягоды... Кошты на золата рэзка папаўзьлі ўгору, затое прадметы раскошы, творы мастацтва, антыкварыят зраўняліся сваёй вартасьцю зь міскаю супу ці кавалкам хлеба. Як жа мог наш апантаны калек-

цыянэр страціць такі шанец — антыкварыят літаральна ляжаў пад нагамі. ...У старызьніка ён набыў бюро Марыі-Антуанеты... Лётаў па Парыжы, зьбіраючы каштоўнасьці і мімаходзь аплакваючы пакараных сьмерцю праклятымі якабінцамі сяброў-арыстакратаў.

**Разьдзел XIV. Рэч Паспалітая. Выбух 1794 году**

Валіцкі вярнуўся й стаў сьведкам таго, як Бацькаўшчына спрабуе змыць ганьбу апошніх дзесяцігодзьдзяў. «Не з Канстытуцыі трэба было пачынаць, а з шыбеніц!» — скажа адзін зь вялікіх авантурнікаў таго часу Ігнацы Хадзькевіч, а за ім паўторыць правадыр патрыётаў малады генэрал-лейтэнант інжынеры войскаў Вялікага Княства Літоўскага Якуб Ясінскі.

Увесну 1794 году гэтак меркавалі ўжо ня толькі яны. Сапраўды, адступаць не было куды — ніколі яшчэ народы Рэчы Паспалітай не назіралі такіх відовішчаў у сябе дома. На шыбеніцах на варшаўскім рынку віселі ўчорашнія калегі пана Міхала па зялёных століках, асуджаныя за нацыяналльную здраду — граф, кашталян сандэцкі Юзаф Анквіч, інфлянцкі біскуп Язэп Казімер Касакоўскі, гетман Юзаф Забэла. Вільня не адставала, там вяроўка знайшлася для біскупа Ігнація Якуба Масальскага і гетмана Шымана Касакоўскага.

У тыя дні Валіцкі паставіў подпіс пад Актам паўстаньня й ахвяраваў золата Касьцюшку.

**Разьдзел XV. Варшава. Вуліца Доўгая, 542**

Параза паўстаньня азначала канец Незалежнасьці. Валіцкі, які жыў тады ў Варшаве, трапіў у прускую зону акупацыі. У доме



№ 542 па вуліц Доўгай ён сканцэнтраваў усе свае багацьці. Чаго тут толькі ні было! Карцінная галерэя старых майстроў, бібліятэка рэдкіх кнігаў, збор залатых эмаляваных табакерак, незлічоная колькасьць дарагіх шаляў, адзін з самых вядомых у Эўропе збор карункаў, кабінэт старажытнасьцяў, зборы камянёў і гемаў, вялікая калекцыя нумізматыкі, каштоўных камянёў, і, нарэшце, збор дыямэнтаў, які зьдзіўляў пецярбургскі beau monde. Што ўжо казаць пра правінцыйных прусакоў! Фрыдрых Вільгельм III гадзінамі аглядаў скарбніцу пана Міхала, а потым папрасіў пазычыць шыкоўны парцэлянавы сэрвіз на 80 асобаў, каб яго магла скапіяваць бэрлінская фабрыка.

Варшава паступова ператварылася ў такі самы засьценак, як і Бэрлін...

**Разьдзел XVI. Нядоўгі побыт у Расеі**

У 1804 годзе Міхал Валіцкі вырашыў пашукаць аслоды ад вялікасьвецкага жыцьця ў сталіцы адной з буйнейшых імпэрыяў сьвету. Як і ў Парыжы, тут ён знайшоў поўнае паразуменьне зь мясцоваю арыстакратыяй, зьдзіўляў усіх сваімі калекцыямі й манэрамі. Але ж праз некалькі месяцаў упершыню ў жыцьці нейдзе перабраў меру. З-за няўдалых, цёмных і рызыкоўных махінацыяў, зьвязаных з продажам каштоўнасьцяў, вымушаны быў у 1805 г. хуценька пакінуць Расею.

**Разьдзел XVII. Азёры**

Перабраўся ў былое Вялікае Княства. Пасьля III падзелу неаднаразова наведваў Горадню, дзе яшчэ ў 1793 годзе набыў так званы палац віцэ-

адміністратара, ператварыўшы яго ў сапраўдны музэй. Там жа, ў навакольлі, пасьля сьмерці Станіслава Аўгуста ў 1798 годзе купіў былую «сталовую» каралеўскую маёмасьць — маёнтак Азёры. Завёў у Азёрах узорную гаспадарку, заснаваў у 1807-м суконную, а ў 1809- м папяровую фабрыку.

**Разьдзел XVIII. Валіцкі — сябра навук**

Пан Міхал настолькі сур'ёзна займаўся самадукацыяй, што аўтарытэт яго як знаўцы старажытнасьцяў, бібліяфіла й нумізмата не выклікаў сумневу нават у варшаўскага Таварыства сябрў навук, і ў лістападзе 1800 г. куды ён быў прыняты ў лістападзе 1800 года.

**Разьдзел XIX. Мецэнат, філянтроп, патрыёт. Канец жыцьця**

Знаходзячыся на вяршыне посьпеху, Валіцкі, вядомы як гулец, калекцыянэр, удалы кар'ерыст, нарэшце вучоны, надае сваёй асобе вялікую грамадзкую значнасьць. Гэта зробіць ягонае імя славутым, а ягоны партрэт аздобіць сьцены Віленскага ўнівэрсытэту. Валіцкі становіцца мецэнатам.

З часу побыту ў Пецярбургу ён пачынае рабіць шчодрыя ахвяраваньні на айчынную навуку. Безумоўна, падчас акупацыі справа ратаваньня нацыянальнае навукі і культуры павінна выходзіць на галоўнае месца, бо гэтыя галіны чалавечае дзейнасьці зьяўляюцца тымі апошнімі бастыёнамі, існаваньне якіх сьведчыць, пра тое, што нацыя яшчэ не загінула. У гэтым сэнсе «апалітычнага», «касмапалітычнага» графа нават можна было б паставіць у шэраг вядомых нацыяналістаў. Ёсьць сродак выратаваньня Бацькаўшчыны ня меньш дзейсны чым зброя, вулічны пратэст ці друкаванае слова, — грошы.

... Зьмяніўшы не адну сталіцу канец жыцьця ён бавіць на Бацькаўшчыне. Пасяліўся ў Вільні. Меў тут з даўніх часоў дом на Бакшце. А яшчэ ў 1804 годзе ўпершыню зацікавіўся справамі Віленскага ўнівэрсытэту, стаўшы яго самым буйным фундатарам. Вось храналёгія ахвяраваньняў:

1804 г. — Ахвяравана 1755 адзінак мінэралаў.

1805 г. — Збор ракавін, руды — 5 тыс. адзінак. Таксама на перавоз з Варшавы «збора натуральнай гісторыі» — 225 руб.

1806 г. — Волава чырвонае (храмат волава) зь Сібіры, хрызапраз вагаю 60 фунтаў.

1809 г. — На адукацыю ўбогіх дзяцей — 12.000 злотых.

1818 г. — Вялікая шафа чырвонага дрэва, багата аздобленая бронзай і медалямі (належала Станіславу Аўгусту, які трымаў у ёй нумізматычную калекцыю).

1823 — На ўтрыманьне васьмі ўбогіх вучнеў — 1800 руб. на год. і г.д.

Таксама падараваў унівэрсытэту значную частку свайго збора каштоўных камянёў. Пад назвай «Калекцыя графа Валіцкага» яна была апісаная С. Б. Юндзілам (паводле шэрагу гістарычных крыніцаў пазьней захоўвалася ў Эрмітажы). Адкрывае фундацыю для здольных, але бедных хлопцаў з прозьвішчамі Валіцкія і Міцкевічы. Агульная сума ахвяраваньняў склала два мільёны злотых. Акрамя ўнівэрсытэту дапамагаў і іншым установам, напрыклад, ліцэю

Крамянецкага. А колькі вучоных, мастакоў, пісьменьнікаў карысталіся яго падтрымкай!

Мецэнацтва перарасло ў філянтропію, — дом на Бакшце заўсёды быў адкрыты наогул для ўсіх, хто меў патрэбу ў дапамозе. Гаспадар вылучаўся рэдкаю гасьціннасьцю, і кожны дзень даваў абед на некалькі дзесяткаў асобаў.

У апошнія гады хваробы і ўзрост пачалі браць сваё: Валіцкі пакінуў сьвецкае жыцьцё, але й тады бедныя студэнты маглі знайсьці у яго прытулак. Пад канец свайго зямнога шляху трымаў дом за кошт продажу каштоўнасьцяў. Казалі, што каб так ішло й далей, гадоў праз дзесяць скончыў бы ў галечы.

Памёр у 1828 годзе. Пахаваны на віленскіх Бернардзінскіх могілках.

Як паведамлялася ў артыкуле пра Валіцкага ў «Энцыкляпэдыі павшэхнай», выдадзенай у Варшаве ў 1867 г.: «Памяць дабрачыннасьці яго і дабрадзейнасьці да гэтага дня жывая ў Вільні».

Нашчадкі графа Валіцкага дапамаглі Бацькаўшчыне зброяй. З-за ўдзелу ў вызвольным паўстаньні 1863—1864 гадоў расейцы канфіскавалі маёнтак Азёры. Прадпрыемствы заняпалі...



*Андрэй Шпунт*

# Авантуры яго жыцьця

## Да партрэту генэрала Хадзькевіча

Аднойчы, натрапіўшы на газэтны артыкул, дзе размова ішла аб адкрыцьці вучоных з Дэлавэрскага ўнівэрсытэту, я даведаўся, што людзі, схільныя да празьмернае рызыкі, у літаральным сэнсе зробленыя з іншага цеста. Біяхімічны склад актыўных рэчываў у іх мозгу, аказваецца, адрозьніваецца ад нормы, што дазваляе адчуваць у экстрэмальных сітуацыях ня жах а эйфарыю. Прытым, чым большая стаўка, тым вышэйшы кайф.

У гісторыі нашай Бацькаўшчыны заўсёды хапала людзей зь «іншага цеста», асабліва ў XVIII стагодзьдзі — стагодзьдзі легендарных авантурнікаў. Наш герой ні ў чым не саступае, а ў чымсьці, мабыць, і пераўзыходзіць сусьветна вядомых нястрымных шукальнікаў прыгодаў. Ужо ня ведаю, як зь біяхімічным складам мозгу Хадзькевіча, але каб пражыць так жыцьцё, несумнеўна, трэба было валодаць выдатным здароўем, энэргіяй атамнага рэактару, розумам, ненатольнай прагаю ўражаньняў і дзейнасьці...

### Частка I

Поўнач Расіі. Зімовая пахмурная раніца 1823 году. Карчма ў ваколіцах Вяткі. Паклаўшы галаву на стол, сядзіць чалавек. На стале — пачатае вядро гарэлкі... Судовы прыстаў канстатуе

сьмерць высланца Ігнацыя Хацкевіча пры магчымай спробе зьбегчы. А ўвечары, пракліная дарогі, надвор'е, і нейкага літоўскага шляхціча Хадзькевіча, каб ён спрахнуў, прымчаўся фельд'егер з ужо непатрэбным найвышэйшым указам аб дараваньні.

Што нам сёньня да таго, што жыў і памёр нейкі шляхціч? Людзям уласьціва жыць і паміраць. Ці дзіўна, што аддаваў сваю шпагу направа й налева? Не. Для тых часоў — паводзіны цалкам нармалёвыя. І, мабыць, у жыцьці ў яго нямала было спраў, за якія высылка — ня самае страшнае пакараньне. А між тым, перад намі — чалавек-легенда, адзін з апошніх вялікіх авантурнікаў XVIII стагодзьдзя.

Ігнацы Хадзькевіч (ён жа Ходзькевіч, Хадзкевіч, Хацкевіч. Ён жа граф Дэнгоф, генэрал Лядаіска. Ён жа «Гулец», «Шулер»), беларускі шляхціч. Каронны гвардзеец, капітан грэнадзерскага Сібірскага палка князя Дашкава, падпалкоўнік войскаў Вялікага Княства Літоўскага, генэрал-ад'ютант пры штабах французскіх паўкаводцаў Шампіанэ і Масэны, кавалер Залатога афіцэрскага крыжа за ўзяцьце Ачакава, кавалер ордэну «Ганаровага Легіёну», удзельнік Вялікай французскай рэвалюцыі і вызвольнага паўстаньня 1794 году ў Рэчы Паспалітай, расейскі і французскі шпіён, шэф паліцыі Неапалю, шэф зьверхштатнага кавалерыйскага швадрону ў польскіх легіёнах, палітвязень, шулер найвышэйшае клясы...

**Разьдзел I. Радавод**

Радавод яго нічым не вылучаўся з сотняў падобных, што можна ўбачыць у гэрбоўніках літоўскай ці кароннай шляхты. Паходзіў з мсьціслаўскага ваяводзтва, з заможнага дому гэрбу «Касьцеша», парадненага з Ходзькамі і Жавускімі. Людвік, яго бацька, быў у 1765—1768 гадах віленскім земскім рэгентам, а пазьней, аж да сьмерці ў 1771 годзе — земскім судзьдзёй.

Людвікаў атожылак парушыў банальную гісторыю роду.

Першы значны ўчынак у жыцьці нашага героя — падробка ўласнай метрыкі, каб хутчэй ўвайсьці ва ўладаньне спадчынай, якая засталася пасьля бацькавай сьмерці. Таму цяжка казаць дакладна, калі ён зьявіўся на сьвет Божы. Выдатны польскі пісьменьнік і гісторык Генрык Масьціцкі лічыў прыкладанай датаю — 1760 год.

**Разьдзел II. Багаты посаг і выдатныя нашчадкі**

Нядоўга малады пан Ігнацы заставаўся спадчыньнікам — усё багацьце прагуляў ды пакінуў на зялёным сукне. І тым хутчэй прайграваў, чым больш ягоныя ўладаньні абрасталі даўгамі. Другі, мабыць, у пятлю б залез у спазоры поўнага разарэньня, ці прадаў бы гонар за кавалак хлеба, а для Хадзькевіча гэта была ўсяго толькі плата за навуку. Набывалася нешта, на яго погляд, куды значнейшае за бацькоўскія маёнткі: прафесыйны досьвед ў картачнай гульні.

У пошуках багатага пасагу наш герой ўзяў шлюб з Кацярынай Вільгастоўскай. Ад іх саюзу нарадзілася два сыны, старэйшы стане палкоўнікам у расейскім войску, а малодшы — пісьменьнікам і вучоным.

**Разьдзел III. Як малады шляхціч Хадзькевіч кашталяна прывучыў**

Спачатку перабіваўся з хлеба на ваду; але, дзякуючы першым невялікім перамогам, стаў заўважны. У Варшаве неякі кашталян уручае Хадзькевічу 500 дукатаў, каб той абгуляў яго пляменьніка, што атрымаў спадчыну (ганарар — траціна магчымага выйгрышу). Хадзькевіч спрытна справіўся с задачай. Кашталян, аднача, вырашыў разьвязацца з кампаньёнам як мага таньней, і даў яму замест прызначанае долі гадзіньнік з дыямэнтамі, табакерку, іншыя «дробязі», і, між іншага, шпагу з залатым эфесам. Нічога не заставалася рабіць, як прыняць рэчы... А празь некалькі дзён, Хадзькевіч па дарозе да каралеўскага двара, заглянуў да кашталяна, і як бы выпадкова паказаў шпагу, на якой ўжо быў вырыты надпіс: «Хадзькевічу ад кашталяна NN за доблесьць, выяўленую супраць NN (пляменьніка)». Цяпер прагавітаму кашталяну нічога не заставалася, як аддаць належнае (у абмен на шпагу?).

**Разьдзел IV. Шляхціч Хадзькевіч становіцца проста панам Ігнацыем — душой таварыства, каронным гвардзейцам, героем Ачакава, кавалерам крыжу за храбрасьць**

Любоў да бляску і зьнешніх эфектаў прывяла ў войска. Падаўся ў Каронную гвардыю, свайго роду «Іншаземны легіён» Рэчы Паспалітай 2-ой паловы XVIII стагодзьдзя — прытулак злачынцаў і падонкаў. Нядоўга прабыўшы ў гвардыі, зразумеў, што падвышэньня па службе лепш шукаць у Расеі. Паступіў у Сібірскі грэнадзерскі полк князя Дашкава, і ўзяў удзел у вайне з туркамі. Храбрасьць яго пры штурме Ачакава ўразіла нават Суворава. Атрымаў крыж і званьне капітана.

Посьвіст куль і ядраў не замінаў асалоду ад жыцьця, надаваў ёй вастрыні. Кожны вечар пілі генэралы ў пана Ігнацыя за найлепшыя французскія віна, а пасьля — за зялёны стол... Разыходзіліся глыбокай ноччу, дзякуючы мілага капітана за гасьціннасьць, з тугой паглядваючы на бляск свайго золата ў яго шуфлядах.

Вайну скончылі. Аднастайнае жыцьцё ў залозе зусім ня вабіла. Падаў у адстаўку і выправіўся падарожнічаць па Эўропе.

**Разьдзел V. «Хадзема, шаноўная грамада!»**

У Парыж прыбыў якраз своечасова. Пачыналася Вялікая рэвалюцыя... «Хадзема, шаноўная грамада!» — гаркнуў Хадзькевіч, і павёў уласны, нахутка зьлеплены атрад санкюлётаў пад муры Бастыліі. Як пісаў Жюль Мішле: «Хоць шматлікія французы пакінулі краіну, на зьмену ім прыбыла вялікая колькасьць іншаземцаў... і, каб трэба было памерці, яны б зрабілі гэта; бо так, няхай нават коштам сваёй гібелі, яны ўпэўніліся б ў тым, што жылі».

**Разьдзел VI. Пан Ігнаці назірае, як бела-чырвоныя пачынаюць і... прайграюць**

Цяжка было заставацца ў гушчы падзеяў, і ня трапіць пад аўстрыйскія кулі ці нож гільяціны. Ды й навошта, калі дома цяпер рабілася ня меньш цікава.

3 травеня прынялі Канстытуцыю — Бацькаўшчына й Парадак наўзамен шляхецкага ўсеуладзьдзя. Незадаволеныя ж пераменамі, абапіраючыся на расейскія штыкі, стварылі ў Таргов-

іцы канфедэрацыю на чале з Ксавэрыем Браніцкім, Севярынам Жавускім і Станіславам Шчэнсным Патоцкім.

Хадзькевіч згаджаўся з таргавічанамі, што Канстытуцыя — гэта глупства. Тое самае гаварыў і патрыётам, дадаючы, што пачынаць трэба было не з Канстытуцыі, а з шыбеніц.

Праціўнікі новага ладу перамаглі.

**Разьдзел VII. Палкоўнік інжынерыі Вялікага Княства Літоўскага Якуб Ясінскі, і адзіны з тых, «каго трэба было б павесіць дзеля выратаваньня мільёнаў»**

Пан Ігнацы разьвітаўся зь пераможцамі, і пераехаў у Вільню, дзе ў 1793 годзе разьвёўся з жонкаю, адчыніў уласны гульнёвы дом і ўступіў у шэрагі змоўшчыкаў. За картамі ці яшчэ раней, пасябраваў зь лідарам літоўскіх патрыётаў, маладым палкоўнікам інжынерыі — Якубам Ясінскім.

Постаць Ясінскага сваім маштабам — выдатная кандыдатура на месца ў дапаможніках па гісторыі. Але гісторыкі-маралісты абмяжоўваюцца сухімі згадкамі, бо хрэстаматыйны герой ня можа быць жывым чалавекам...

Хадзькевіч адразу ж пазнаў у Ясінскім свайго, а дзеля гэтага трэба было ўсяго неяк адрозьнівацца ад нормы. Адрозьніваўся Ясінскі і ад Хадзькевіча, бо для палкоўніка зямныя радасьці канчаліся там, дзе пачыналася барацьба за Бацькаўшчыну, прыкладам чаго Залаты крыж «Virtuti Militari» за безнадзейную, ганебную кампанію 1792 г.

Найлепшым месцам для канспірацыйнага штабу палічылі шулерню пана Ігнацыя. Па начах чысьцілі кішэні расейскіх акупантаў, а ўдзень, за тым самым сталом рыхтаваліся да паўстаньня. Ясінскі робіць Хадзькевіча сваім ад'ютантам і надае званьне капітана войска Вялікага Княства Літоўскага.

Ведаў бы Ясінскі, што Хадзькевіч проста забаўляецца, падварушваючы ягоную схільнасьць да тэрору ! Тады ён, мабыць, запісаў бы сябра ў сотню-другую тых, «каго трэба павесіць дзеля выратаваньня мільёнаў».

**Разьдзел VIII. Хто вы, пан Хадзькевіч?**

Пачынаючы прыкладна з тых часоў, біяграфія Хадзькевіча вельмі супярэчлівая. Некаторыя гісторыкі лічаць, што ён быў на службе ў расейскай выведкі. Генрык Масьціцкі, для якога Хадзькевіч — сымбаль здрады й ганьбы, сьцьвярджаў, нібыта падчас падрыхтоўкі да паўстаньня, той з «поўным цынізмам» выдаў акупацыйным уладам дзяяча канспірацыйнага руху Ігнацыя Дзялынскага. Магчыма, выдаў. Але ніякіх доказаў няма.

**Разьдзел IX. Тадэвуш Касьцюшка даведваецца ад пана Ігнацыя пра паўстаньне ў Вялікім Княстве Літоўскім і пра сьмерць ненавіснага Касакоўскага**

Вільня. Ноч з 22 на 23 красавіка 1794 года. Ясінскі на чале 240 жаўнераў абяззбройвае ў чатыры разы большую расейскую залогу (паводле іншых дадзеных: 380 супраць 1012). А 25 красавіка адбываецца небывалая ў нашай гісторыі падзея. Крымінальны суд (з падачы Ясінскага) прысудзіў да павешаньня за нацыянальную здраду Шымона Касакоўскага. Касакоўскі, бу-

дучы польным літоўскім гетманам, не саромеўся насіць расейскі мундур. Цела гетмана вісела на ліхтары тры гадзіны (так вешалі французы), пасьля чаго было кінутае без труны ў яму на могілках сьв. Стэфана. У той самы дзень Ясінскі адправіў Хадзькевіча да Касьцюшкі са зьвесткаю пра паўстаньне і пакараньне галоўнага здрадніка.

**Разьдзел X. Літоўскі Сэн-Жюст, Анёл Сьмерці**

Пан Ігнацы круціўся ў варшаўскім натоўпе й голасна падбухторваў:»Можа вам пянькі не хапае? Дык яе Літва даставіць!». Палымяныя заклікі маглі быць ня больш чым правакацыяй, якую замовілі расейцы, што імкнуліся выглядаць не захопнікамі, а выратавальнікамі манархічнай Эўропы.

Празь месяц пан Ігнацы прывёз Ясінскаму патэнт генэрал-лейтэнанта, а сабе 11 жніўня расстараўся эпалеты падпалкоўніка.

На наступны дзень Вільню занялі расіяне.

**Разьдзел XI. Канец Рэчы Паспалітай. Ясінскі загінуў, Хадзькевіч зьбег**

У канцы лета сітуацыя значна пагоршылася. Якуб апынуўся на другіх ролях; страта Вільні азначала страту Літвы. Усё кацілася ў бездань.

Сябар Ясінскі сумленна загінуу пры абароне варшаўскага прадмесьця — Прагі, а пан Ігнацы, падпалкоўнік войскаў ВКЛ не сьпяшаўся аддаць «душу і сэрца» за незалежнасьць Рэчы Паспалітай.

Пасьля падаўленьня паўстаньня Хадзькевіч быў арыштаваны расейцамі, як лічыў Масьціцкі, толькі дзеля прылiку, і сядзеў, узяты на парукі



Адамам Ваўжынцам Жавускім, у Пагрэбішчах, адкуль хуценька зьбег, чым прынёс шмат непрыемнасьцяў гаспадару (мабыць таксама дзеля прыліку?).

**Разьдзел XII. Пан Тадэвуш пакутуе ў Петрапаўлаўскай фартэцы, а пан Ігнацы — ў Турэцкай правінцыі**

Аб'явіўся на турэцкай тэрыторыі ў малдоўскага пашы Пасвана-Аглу. Чаму мяноўна там, а не, скажам, дзе-небудзь у Швайцарыі? Робіцца зразумела, калі дапусьціць, што выконваў шпіёнскае заданьне на карысьць Расеі. У Пецярбургу добра бачылі небясьпеку з поўдня. Турэччына й залежныя ад яе краіны былі поўныя жаўнераў-эмігрантаў з Рэчы Паспалітай, сапраўднага выбуховага матэрыялу для новага вызвольнага паўстаньня ва Ўсходняй Галіцыі.

Вымушаны побыт у Малдове даваўся зь цяжкасьцю. «Туркі ні ваяваць ня ўмеюць, ні гуляць у карты»,— гаварыў Хадзькевіч. Так і пакутваў да канца траўня 1797 года, пакуль Павел І ня выпусьціў на волю Касьцюшку, а зь ім усіх, каму пашчасьціла ацалець ад расейскіх куляў і шабляў.

**Разьдзел XIII. За малдоўскі пост — рай у Канстанцінопалі і жонка партугальскага консула**

Пан Ігнацы прыехаў у Вільню і прысягнуў новаму імпэратару.

Калі дагэтуль гісторыкі толькі дапускалі, што ён быў шпіёнам, то цяпер гэта ні ў каго не выклікала сумневу. Пасьля Вільні мільгануў у Пецярбургу (магчыма атрымліваў інструкцыі), і зноў у Турэччыну, з таямнічай дыплёматычна-шпіён-

скай місіяй. Гэтым разам у значна весялейшае месца — Канстанцінопаль.

Рэзідэнт Хадзькевіча, расейскі амабасадар барон Качубей, уводзіць яго ў вышэйшы сьвет сталіцы. Гэта было тое самае, што й прывесьці воўка ў аўчарню. Прафесіяналы ад палітыкі выйгравалі бітвы на сушы і на моры, а на зялёным сукне атрымлівалі сакрушальныя паразы ад падпалкоўніка Хадзькевіча. Місыя пана Ігнацыя скончылася раней, чым ён пасьпеў канчаткова падарваць іх дабрабыт. Больш за ўсіх не пашанцавала партугальскаму консулу Лабрашу. На наступны дзень пасьля ад,езду «расейскага дыпьлямата», весь Стамбул даведаўся, што Хадзькевіч прыхапіў з сабой і жонку консула.

## Разьдзел XIV. Legion des Frans du Nord (Дабраахвотніцкі Паўночны Легіён)

Карэта імчала каханкаў у Францыю. Якабінскі тэрор зьмяніла смутная адліга Дырэкторыі. Зноў кантррэвалюцыя ў Вандэі, на чарзе Нармандыя й Брэтань. Па ўсёй краіне раялісты пад белымі сьцягамі паднялі галовы.

Па старой памяці наведаў Парыж. Колькі зьмянілася за гэты час! Рэвалюцыя, патрабуючы абаронцаў, ачысьціла вуліцы. Сапраўднае жыцьцё цяпер кіпіць там, на ўскраінах Рэспублікі.

Пра гульню ў карты, бадай, адзіную крыніцу грашовых паступленьняў, не было й размовы: гуляць няма з кім, усе ў войску. А як сапраўдны кавалер, Хадзькевіч утрымліваў мадам Лабраш так, што ўпершыню ў жыцьці апынуўся перад пагрозай арышту за даўгі. На шчасьце, здолеў угаварыць крэдытораў пачакаць. І — у войска.



Удзельніку штурмаў Ачакава і Бастыліі, спрактыкаванаму афіцэру занятак знайшоўся хутка. Выступіў на чале батальёну супраць Вандэі. Legion des Frans du Nord Хоха стаў на той момант яго «радзімай». Граміў раялістаў і пра сабе не забываў — цягнуў цэлы абоз нарабаванага антыкварыяту, каштоўных строяў, ды іншых прадметаў раскошы. Крэдытory не памыліліся, усім заплаціў спаўна.

## Разьдзел XV. Хадзькевіч і Легіёны

А ў гэты час легендарны генэрал Ян Генрык Дамброўскі пачаў ажыцьцяўляць вялікую справу, аб якой марыў яшчэ падчас II падзелу Рэчы Паспалітай, — стварaць ўзброеныя сілы за межамі сьцёртых з палітычных мапаў Кароны й Княства. На пачатку 1799 году, Дырэкторыя, што ваявала амаль з усёй Эўропай, дала дазвол на фармаваньне ў Італіі за францускія грошы гэтак званага Польскага легіёну з грамадзянаў былой Рэчы Паспалітай, што змагаліся ў аўстрыйскім войску і трапілі ў палон пад Мантуяй.

Гераічны і ня меньш трагічны лёс Легіёнаў! Нашыя землякі аплочвалі крывёю чужыя інтарэсы ў Італіі, Аўстрыі, Гішпаніі, нават у Сан-Дамінга — з надзеяю пачаць паход за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Хадзькевіч і Легіёны... Яго грэнадзерская постаць на імгненьне засланіла Дамброўскага і ня меньш магутнага Карла Князевіча, узведзенага Касьцюшкам у генэралы на полі бітвы. Пралячаў як зьнічка, але й гэтага было дастаткова, каб зрабіць легіёнам пэўную рэпутацыю ў вачах Эўропы. Кім быў — ганьбаю ці гонарам ? Гісторыкі і мемуарысты толькі павялічваюць блытаніну

сваім суб,ектывізмам. Нецяжка, аднак, заўважыць дзьве тэндэнцыі. Для палякаў — пераважна толькі здраднік, гнюсны шпіён, халодны цынік, для якога няма нічога сьвятога, прагны марадзёр, etc., а для землякоў-ліцьвінаў — «шляхетны кароль разбойнікаў ва ўсёй велічы свайго маестату, геній, па якім плачуць», элегантны, шчодры, далікатны, высакародны, прывабны... Цікавы атрымліваецца партрэт, асабліва, калі дапусьціць, што ўсе маюць рацыю.

**Разьдзел XVI. Пан Ігнацы вырашыў, што лепей у Рыме на Віла Баргезэ**

Спроба паказаць наступны пэрыяд жыцьця Хадзькевіча сустракае пэўныя цяжкасьці і ў пляне храналёгіі, бо сьведчаньні блытаныя й разнамоўныя. Паспрабуем жа з гэтага рознакалярована матар'ялу змайстраваць нешта цэльнае.

У легіёне Хоха праваяваў нядоўга. У карты гуляць зноў не было з кім, а аграмадны абоз цягнуць за сабой было ўсё цяжэй. Сышоўся зь Пятром Малешэўскім, па словах Масьціцкага, таксама, асобаю цёмнай, і праз яго пазнаёміўся з самім Полем Барасам. З пратэкцыі апошняга апынуўся ў Італіі.

Уладкаваўся ў Рыме. На Віла Баргезэ адкрыў шыкоўны гульнёвы дом, якому прэзентабельнасьці дадаваў патранат генэрала Ежы Грабоўскага, а круп'е быў magister elegantiorum маёр О (Au), адзін са старых знаёмых, з кім Хадзькевіч трыюмфаваў за зялёнымі столікамі. Au — асоба настолькі сьціплая й лагодная, што яго хутчэй можна было прыняць за начальніка манахаў. Ён стаў правай рукою гаспадара. А Хадзькевіч дзеля жарту абвясьціў, што маёр не



хто-небудзь іншы, а цудам знойдзены яго «бацька натуральны».

**Разьдзел XVII. «Я заможны й старэйшы ў краe генэрал!»**

Пан Ігнацы мог назіраць вялікую колькасьць афіцэраў і генэралаў- суайчыньнікаў бязь месца й сродкаў, але зь вялікім імпэтам паказацца рымскаму сьвету заможнымі грамадзянамі Рэчы Паспалітай. Гаварыў тады Грабоўскаму, што палякаў тут за басоту трымаюць, і ён, Хадзькевіч, гэтае ўражаньне зьменіць.

Зрэшты, і сам быў бязь месца. Ня ў стане доўга знаходзіцца воддаль ад прыгодаў, выказаў жаданьне ўступіць у Легіёны. Дамброўскаму і так хапала падазроных асобаў, і пераўтвараць войска ў іншаземны легіён ён не хацеў. Хадзькевіч зрабіў захады, і вельмі спадабаўся французам.

Аднойчы генэрал Макдональд выклікае Князевіча:«Мой генэрал, прыемна мне адчуваць дух, які між вамі пануе; выйшаў толькі што ад мяне афіцэр, яшчэ без накіраваньня, мае доказы, што служыў падпалкоўнікам, хоча з намі ісьці як падпаручнік, просіць толькі аб тым, каб хутчэй вызначылі яму месца, а ён яшчэ роту за свой кошт адзене. Як мага хутчэй, бо часу ня маем, таму прашу генэрала даць яму прызначэньне зараз жа». Князевіч толькі вылаяўся. Магчыма, ведаў ужо, як гаспадар дому на Віла Баргезэ між оргіямі станавіўся ў паставу рымскага трыбуна і голасна абвяшчаў:«Дамброўскі з Князевічам адыйдуць на другі плян, я стану на чале Легіёнаў як заможны і старэйшы ў крае генэрал!»

Як пасьля такіх дэклярацыяў яму ўсё ж пашчасьціла ўладкавацца? Дамо слова сьведкам і

гісторыкам. Джавецкі ў мемуарах надрукаваных у Вільні ў 1858 годзе, сьцьвярджае, што гэта адбылося адразу ж пасьля размовы Макдональда з Князевічам. Граф Жавускі ў «Тэафрасьце польскім» паведамляе іншае. Будучы камандзірам батальёну ў Паўночным легіёне Хоха, Хадзькевіч атрымаў загад ісьці да Дамброўскага якраз тады, калі той пачаў фармаваць Легіёны ў Італіі. Хадзькевічу было даручана стварыць кавалерыйскі швадрон, з чым ён не справіўся, бо адміністратарам быў нікчэмным. Далей адбыўся канфлікт з Князевічам, у выніку якога падаў у адстаўку. Паводле Масьціцкага: непрыемнасьці з Князевічам пачаліcь адразу ж. У адрозьненьне ад Дамброўскага, Князевіч ня верыў у патрыятызм Хадзькевіча, упэўнены, што той — расейскі шпіён, нават прыгразіў растрэлам «старэйшаму генэралу».

**Разьдзел XVIII. Улюбёнец французаў, яго жаўнеры — краса абедзьвюх арміяў**

З французамі пан Ігнацы агульную мову знаходзіў проста й хутка. Празь некалькі месяцаў ён зноў у Легіёнах, але ўжо як сябар генэралаў: Шампіанэ, Макдональда, Жубэра, Масэны, Маро, Бернадота (казалі, што, Банапарт таксама заўважыў літоўскага падпалкоўніка).

Цяпер Хадзькевіч паблажліва прапануе Дамброўскаму сваю пратэкцыю; ляпае па плячы і незаўважна пераходзіць на «ты», — «Цо хцэш зробіць для Легіонув, то тэраз... Чампіонет ніц ці не одмуві».

Са словаў мемуарыстаў незразумела, калі ж Хадзькевіч выставіў за свой кошт швадрон (паводле Масьціцкага — два, па іншых зьвестках — полк), як зьявіўся ў Легіёнах, ці пасьля таго, як трапіў да Шампіанэ? У дадзеным выпадку гэта не так і важна. Затое ўсе як адзін сьведчаць, што швадрон адрозьніваўся харaством каней, каштоўнымі мундурамі й зброяй, абоз быў наладаваны тонкімі вінамі і разнастайнымі прысмакамі. Астатнія легіянеры, гледзячы на падначаленых пана Ігнацыя голасна скардзіліся:»Чаму нам Дамброўскі з краю не выпісвае такіх афіцэраў, заместа голых як нашыя!?»

**Разьдзе XIX. Пан Ігнацы — шэф кавалерыі Легіёнаў... у марах**

Амбіцыі сягалі далей. Хацеў атрымаць камандаваньне над усёй кавалерыяй. Канкурэнтаў усялякіх хапала: майстроў у атрыманьні ўзнагародаў і званьняў. Легіёны літаральна трэсла ад інтрыгаў і самалюбства былых якабінцаў, радыкалаў, рэвалюцыянэраў, авантурнікаў. Некаторыя, вядомыя падчас паўстаньня 1794 году, цяпер гулялі нязначныя ролі, й змагаліся за ўладу. Зь ліста Дамброўскага ад 18 кастрычніка 1799 году да Юзафа Выбіцкага:»Не магу табе выказаць у якой жыву галечы, і ня толькі я, але ўсе ўжо колькі месяцаў без аплаты..., акрамя гэтага маем тысячу засмучэньняў з усіх бакоў... Бернадот навязаў мне Кралеўскага як генэрала брыгады, які, акрамя сьмешных паводзінаў, іншай карысьці не прынясе, а Шампіанэ намінаваў Міраслаўскага шэфам артылерыі пры жывым Аксамітоўскім».

Хадзькевіч не аднойчы даваў прыклады адчайнай храбрасьці; другі дзясятак гадоў у сядле, не выпускаючы шаблі з рук. У параўнаньні з Кралеўскімі падставаў дабівацца свайго ён меў

нязьмерна болей, але для кіраўніцтва Легіёнаў быў найперш проста драпежнікам. Раззлаваны, пачаў з дапамогаю ўчарашніх герояў плесьці супраць Дамброўскага і Князевіча інтрыгі, павуціньне якіх разарваў выбух Неапалітанскай вайны.

**Разьдзел XX. Сябар Генэрал-аншэфа Шампіанэ**

З усіх бакоў на Рым насоўваліся аўстрыйцы, расейцы, неапалітанцы; у самім горадзе шырыўся рух супраць акупантаў. Васьмі тысячная франка-польская залога сьпешна пакідала пазіцыі ўспазоры 80 тысячаў генэрала Мака. Дзе ўжо тут высьвятляць адносіны!

Хадзькевіч і цяпер, калі кожны думаў, як хутчэй уцячы, цягнуў за сабою неразлучны абоз усялякага каштоўнага барахла, гарцаваў «стройны, гнуткі, спрытны, вельмі падобны да італьянца», а як толькі чуў звон шабляў, адразу ж кідаўся ў гушчар бітвы. Жан-Эцьен Шампіанэ, пад патранатам якога знаходзіліся легіёны, адзначыў «ільвіную адвагу» ліцьвіна і прыстроіў таго пры сваім штабе... Па войсках пайшла чутка, што ў адной з сутычак, калі генэрал-аншэфа абкружылі аўстрыйцы, Хадзькевіч ударам палаша зьнёс галаву найстрашнейшаму з варожых драбаў... Пасьля гэтага выпадку ён стаўся для Шампіанэ ў адной асобе ад'ютантам, целаахоўнікам, памочнікам па асобых і далікатных даручэньнях, нарэшце, проста сябрам.

**Разьдзел XXI. Нязводны клопат Дамброўскага і Князевіча**

На полі бітвы пан Ігнацы прасьцей простага гуляў пад руку са сьмерцю, але пры адсутнасьці натхненьня ці настрою мог зьнікнуць ў самы разгар боя, і ніхто з тых, хто сплываў крывёю, ня меў права вінаваціць яго ў баязьлівасьці. Але кулі не выбіраюць: пад Ітры быў Хадзькевіч цяжка паранены...

На чале двух батальёнаў ён узяў Мандові, за што, як пісаў граф Жавускі, атрымаў генэральства (іншыя крыніцы гэтага не пацьвярджаюць).

Дамброўскі і Князевіч занепакоена назіралі, як шматлікія справы Легіёнаў цяпер залежалі ад настрояў і капрызаў Хадзькевіча; а ён, як нічога ніякага засыпаў іх сваімі рапартамі.

Калі дапусьціць, што ён гэтаксама гаварыў, як і пісаў, то не без расчараваньня трэба згадзіцца з польскім пісьменьнікам Вацлавам Берэнтам у тым, што «з такой вось суровай гліны лепіць слава сваіх ідалаў». «Дамброўскі мазоліў вочы над чытаньнем ягоных данясеньняў, — неахайных, у крамзолях і дзіўна няспрытных.

Вось урыўкі зь лістоў у транскрыпцыі аўтара дакладна да літары: «З Фаліньё, бяз даты, VII года. — Prose Generała, abyć do mnie na pisał do Folina Co mam ze soba Robić? Teraz oczekuionc Generale twoich Rozkazów mam honor wyznac żem jest...» Ці іншым разам:»Wzięnty w niewole od chlopów... Powrociłem stamtont». І ў хуткім часе потым:»ale ja jestem słaby gdyż mi dzisiaj Kule wyrznęli. Ci chłopi sa brutale». «Nie dość że mu wzieli 150-u ludzi «moich własnych», а таксама «garderobe», вельмі абураецца, а ў дадатак забілі mu «huiana» і чатырох францускіх афіцэраў — «a mnie dali Kule w sam bok» — на вайне, мабыць, і быў у гэтым нейкі шарм, праўда, капральскі хутчэй, чым генэральскі». «Джавецкі пісаў, што ён добра ведаў францускую. І адкуль ён гэта ўзяў? Па- фран-

цуску гаварыў і пісаў ня лепш, але з тым самым ашаламляльным аплёмбам».

А як быць з дасьціпнымі афарызмамі, якімі Хадзькевіч так і сыпаў? Няўжо ж гэткім нязграбным языком? Хутчэй за ўсё, свае данясеньні пісаў дзе-небудзь у сядле пад кулямі, бо іншым разам наўрадці знайшоў бы час на такія глупствы, аддаючы перавагу картам, віну й жанчынам.

**Разьдзел XXII. Носьбіт «збаўчых лёзунгаў Рэвалюцыі»**

Прагны і амбітны Шампіанэ быў ня супраць павялічыць маёмасьць за кошт праціўніка, у чым знаходзіў дзейную падтрымку ўлюбёнага ад'ютанта. Аднойчы, пасьля таго, як вораг замардаваў параненых у францускім лязарэце, Хадзькевіч добраахвотна ўзначаліў карную экспедыцыю. А калі нехта запытаў яго, куды рушыць, адказаў з уласьцівым яму цынізмам: »Маю загад даць асьвету мясцовым жыхарам, — каб здольныя былі да прыняцьця свабодаў, якія іх чакаюць», ці як у Берэнта — «да прыняцьця збаўчых лёзунгаў Рэвалюцыі». Мястэчка Маяна, абок якога ляжаў няшчасны лязарэт, пайшло з дымам, а ўсё, вартае рабунку было разрабаванае.

**Разьдзел XXIII. Ахвяра помсты марадзёра Хадзькевіча**

Падчас штурму Неапалю, Хадзькевіч захапіў сотню-другую армейскіх валоў. Князевіч прыгразіў яму растрэлам за рабунак. Валоў мусіў вярнуць. А праз нейкі час у газэтах зьявіліся паведамленьні, што Князевіч за кошт вайны набыў вялікія ўладаньні пад Страсбургам. Тлумач цяпер пісакам, што ўсё хлусьня, што ўсяго толькі — сядзібу з гародам...



**Разьдзел XXIV. Пан Ігнацы ператвараецца ў генэрала Лядаіска і становіцца шэфам паліцыі Неапалю**

Ачомаўшыся ад першых няўдачаў, французы дзень пры дні давалі хаўрусьнікам доказы перавагі свайго ваеннага мастацтва, народжанага Рэвалюцыяй.

У студзені 1799 году здабылі Неапаль. Хадзькевіч настолькі добра спраўляўся з абавязкамі, асабліва па трафеях і кантрыбуцыях, што Шампіанэ не знайшоў лепшай кандыдатуры на пасаду шэфа гарадзкой паліцыі.

Шэф адразу ж прыступіў да плённае працы. З дапамогаю нейкага Пятра Вільгата, былога францускага агента пры двары Каралеўства Абодвух Сіцыліяў, распрацаваў грубую палітычную правакацыю, —заможным абываталям прапаноўвалася далучыцца да «змовы» супраць акупантаў, а па начах, грэнадзеры Хадзькевіча дашчэнту рабавалі іхнія дамы і палацы. Шмат тады Хадзькевіч і Шампіанэ прыбралі да рук шэдэўраў мастацтва і антыкварыяту.

Шэф неапальскай паліцыі нагадвае героя з опэры -буфф, і нібыта ў жаданьні да канца адпавядаць аперэтачнаму антуражу, бярэ прозьвішча «генэрал Лядаіска».

У вядомым у той час рамане Лувэ дэ Куврэ «Прыгоды кавалера дэ Фабле», заснаваным на фікцыйных падзеях з польскага жыцьця, сярод героеў вылучаўся доблесны барскі канфедэрат Лявінскі, зь якім хадзіла ў бой ня меньш адважная жонка на прозьвішча Лядаіска. Сюжэт рама-

ну лёг у аснову папулярных у 1791 годзе ў Парыжы опэр Керубіні і Крэйцэра, што адыграла ролю ў цікаўнасьці французскага грамадзтва да справаў у Рэчы Паспалітай. Уладзіслаў Хадзькевіч — сын пана Ігнацыя, пісьменьнік, драматург, арыенталіст і інжынер, у апавяданьні «Тры лілеі», тлумачыў псеўданім тым, что французам і італьянцам вымаўляць яго сапраўднае прозьвішча было цяжка.

**Разьдзел XXV. Хадзькевіч і Легіёны — 2**

Подзьвігі Хадзькевіча ня лепшым чынам адбіваліся на рэпутацыі Легіёнаў. Шмат каго абурала, што пры рабунках у Неапалі ён карыстаўся паслугамі легіянераў-грэнадзераў, а маладыя афіцэры, трапляючы пад уладу ягоных «чараў» пераўтвараліся ў «дрэнных хлопцаў». «На працягу няпоўнае паловы года здолеў гэты фенамэнальны польскі галаварэз... здэмаралізаваць абодва саюзныя войскі». Дарэмна легіёнавыя камандзіры Хлапіцкі зь Бярнацкім будуць дасылаць роспачныя заклікі да Касьцюшкі, каб ратаваў зброю Рэчы Паспалітай ад Хадзькевіча — »чалавека без маралі».

Наш герой знаходзіўся на вяршыні багацьця й славы. Спрабаваў праўда, беспасьпяхова, стаць шэфам кавалерыі. Нарэшце, так укатаў Дамброўскага, што той даў дазвол на стварэньне за яго кошт двух швадронаў, але зьверхштатных. Дамброўскаму цяжка было зьвязваць сабе з марадзёрам, які «цягнуўся за Легіёнамі па ўсёй Эўропе крывавым сьледам»... Але яму так не хапала кавалерыі!

Перамогу ў Неапалітанскай вайне адзначылі трыюмфальным уездам у Парыж. Не зважаючы



на зайздросьлівых французскіх генэралаў, на чале калёны Шампіанэ паставіў Князевіча, чыя магутная, нібыта адлітая з бронзы постаць на кане выдатна ўвасабляла два пераможныя войскі. Гэта знайшло паэтычнае адлюстраваньне падчас вызвольнага паўстаньня 1831 году:

> «Вырваных у нашчадкаў Цэзараў
> Кінуў у вочы французаў сто
> Крывавых штандараў.
> (В.Берэнт, аповесьць «Nurt»)

Было іх на самой справе ўсяго толькі сорак, і не такіх ужо крывавых. Дамброўскі абураўся:»-Ганьба называць вайною іхнія ўцёкі. Тыя шэльмы ня хочуць біцца! Уцякаюць толькі, спяваючы й пляндруючы навакольле».

...А ў ар'ергардзе рухаўся прылучаны да вайсковага абозу Дамброўскага абоз з трафэямі Шампіанэ і Хадзькевіча.

Паводле сьведчаньня віленскага акцёра Скібінскага, Хадзькевіч за ўдзел у кампаніі быў адзначаны генэральскімі эпалетамі, а пазьней — ордэнам «Ганаровага Легіёну».

**Разьдзел XXVI. Генэрал Хадзькевіч — міжнародны фінансавы афэрыст**

Аціх тлум урачыстасьцяў, і Хадзькевіча выклікаў глава ўраду Дырэкторыі Поль Барас, каб прапанаваць выкананьне буйной фінансавай дыверсіі. Дырэкторыя, імкнучыся перамагаць ворага ня толькі на полі бітвы, надрукавала ў Парыжы аўстрыйскіх банкнотаў на многія мільёны. А. Гродэк, у кнізе «Пётр Малешэўскі (1768-1828) і яго грамадзкая навука», выдадзенай ў

Варшаве ў 1936 годзе, пісаў, што друкаваў іх у Італіі наш зямляк зь Менску, той, чыё прозьвішча красуецца на Трыюмфальнай арцы ў Парыжы, хто застаўся верны Напалеону падчас «ста дзён» — Ян Генрых Валадковіч. А Хадзькевіч павінен быў паклапаціцца аб тым, каб фальшыўкі як мага хутчэй ўвайшлі ў абарот. У выпадку правалу, французы, натуральна, адмовіліся б выцягваць яго зь пятлі. Але за распаўсюджваньне 100 фальшывых банкнотаў Хадзькевіч атрымліваў 20 сапраўдных! Хоць справа, вядома, была не ў грошах: наш герой і за меншае рызыкаваў галавою...

Пад прозьвішчам графа Дэнгофа з Інфлянтаў, разам з мадам Лабраш выправіўся ў падарожжа па Нямеччыне. Фартуна, як і заўсёды, ішла побач, а яе жаўнер дайшоў да такога нахабства, што аднойчы, каб паскорыць справу, ашчасьлівіў сваімі фальшыўкамі ў Швабіі цэлую французскую дывізыю, якая дагэтуль не атрымлівала грошай два гады. Легіёнам, што былі бяз грошай год, прапанаваў тую ж паслугу. Дамброўскі адмовіўся.

Зьдзіўляў і захапаляў правінцыяльную Нямеччыну. Нашмат пазьней, гаварыў графу Жавускаму, што патраціў тады ня меньш з 10 мільёнаў рэйнскіх гульдэнаў.

Затрымаўся у Франкфурце ў сувязі зь цяжарнасьцю мадам Лабраш. Трапіў у поле зроку ўладаў. Якая там канспірацыя! Дом трымаў у раскошы, а ад нахлебнікаў і лісьліўцаў не было адбою. Неяк увечары здарылася асечка: прайграў аграмадную суму. Раніцай закупіў каштоўнасьцяў яшчэ на некалькі сотняў тысячаў, але ў той самы дзень нехта з атачэньня папярэдзіў, што ёсьць загад аб ягоным арышце. Часу на зборы не заставалася. Прыхапіў, што пасьпеў з самага неабходнага і пешшу ўцёк у Парыж.

У ліхаманкавым сьпеху нават ня здолеў разьвітацца з мадам Лабраш. Пасьля зьнікненьня Хадзькевіча, у сваім сакратэры яна знайшла 1 тысячу луідораў і мноства каштоўнасьцяў...

Франкфурцкія ўлады зрабілі запыт наконт Хадзькевіча ў Парыж, але там справе не далі ходу.

**Разьдзел XXVII. 18 брумэра VIII году Рэспублікі**

Пакуль раз'язджаў, група найвышэйшых французскіх генэралаў, пераважна ўсе яго добрыя знаёмыя і сябры, — Бернадот, Масэна, Шампіанэ ды іншыя — задумалі зьдзейсьніць ваенны пераварот. Дырэкторыю замяніць на Трыюмвірат на чале зь Бернадотам. Шампіанэ ўзгадаў пра спрытнага ад'ютанта, і запрасіў далучыцца.

Хадзькевіча не было сярод правадыроў: яго ня столькі захаплялі мэты, колькі — працэс, атмасфэра інтрыгі. Як пісаў аб тых справах Шымон Ашкеназі:»Патрабавалася таксама сьпярша высьветліць настроі і намеры афіцэрства. Вось гэтую рызыкоўную пасярэдніцкую справу ўзяў на сабе сьмяротнік Хадзькевіч.» А Масьціцкі і тутака ня ўбачыў нічога, што прымусіла б аддаць нашаму герою належнае:»... узяўся, ня грэбуючы шулерствам, за сьлізкую місыю схіленьня вышэйшых французскіх афіцэраў да ўдзелу ў змове...»

Пакуль рыхтаваліся, 18 брумэра VIII году Рэспублікі ўсіх прагных да ўлады апярэдзіў генэрал Банапарт.

Мусілі хутка замятаць сьляды.

**Разьдзел XXVIII. «Усіз злодзеяў у Тампль!»**

У наступным 1800 годзе Хадзькевіч удзельнічае ў аблозе Генуі ў войску Андрэ Масэны. За адвагу і незвычайныя здольнасьці прызначаны генэрал-ад'ютантам пры штабе. Праўда, у Легіёнах ня ўсе прызналі яго генэральства. Зрэшты, як і званьні Валадковіча, Турскага, ды іншых, не зусім чыстых на руку францускіх пратэжэ.

Князевіч у лісьце ад 27 чэрвеня таго ж году скардзіўся аўтару «Мазуркі Дамброўскага» Юзафу Выбіцкаму:»Мяне ўжо не датычыць, ці мы пяць Дырэктароў павінны мець, ці трох Консулаў, я за сабой толькі пасаду бунчушнага ўтрымаю. Калі Мадаліньскі гетманам застанецца кубкаў (pucharow)* align="" рознага калібру прыстасаваўшы, не запытаю якую форму кіраваньня Паўлікоўскі ўкладае, як Хадзькевіч скарбам распараджаецца, як Валадковіч арганізуе войска ці Мірасլаўскі артылерыю, толькі б мне можна было наліць і выпіць свой кубак за здароўе Рэчы Паспалітай...» Ведаў бы правадыр Легіёнаў, што праз месяц уся кампанія апынецца ў Тамплі!

Масэна, замешаны ў цёмныя грашовыя афёры і ваенна-палітычныя авантуры, пацягнуў за сабой ўсіх астатніх.Хадзькевіча арыштавалі на падставе... падробкі аўстрыйскіх банкнотаў. Канешне, гэта была толькі нагода. Напалеон, узмацняючы дыктатарскую ўладу, даручыў міністру ўнутраных спраў Фушэ высьвятліць паднаготную ўсіх сваіх няўдалых канкурэнтаў. Не жадаючы настройваць супраць сабе вядомых генэралаў ( калі хто зь іх і трапляў у няласку, дык ненадоўга) без усялякіх цырымоніяў пахапалі дзяячоў другарадных

Зноўку насунуўся цень гільяціны.

* Puchar — вобразны выраз. У дадзеным выпадку — «дзяячоў».



**Разьдзел XXIX. У цяню гільяціны**

Хадзькевіч ілгаў і выкручываўся, як вуж. Гульня са сьледчымі каштавала пакуль што месяцаў жыцьця ў чаканьні сьмерці. Памірае Шампіанэ. Хадзькевіч ні хвіліны не сумняваецца, што таго атруцілі. Пасьля гэтае весткі распавёў аб усім, што ведаў, націскаючы на тое, што змова была не супраць Банапарта, у чым той мог упэўніцца 18 брумэра.

Неспадзяваныя арышты ўразілі Дамброўскага. Пісаў тады да нягоднага маёра Au:»Усе палякі, і тыя нават, якіх Хадзькевіч хацеў загубіць, стараюцца выцягнуць яго са зняволеньня. Калі быў пры ўдачы, быў яму паслухмяны, усхваляў, лісьлівіў перад ім... Сёньня бедны (!) Хадзькевіч у няшчасьці, пакінуты ўсімі, а ты пішаш супраць яго, абгаворваеш і абражаеш?!...»

Праз два гады сьледства кроў арыштаваных ужо нікому не была патрэбная, а іхныя паказаньні яўлялі цікаўнасьць хутчэй для архіваў. Рэспубліканская Францыя стаяла на парозе Імперыі.

У Фушэ было досыць магчымасьцяў, каб упэўніцца ў здольнасьцях Хадзькевіча, якія можна было б скарыстаць у сваіх мэтах. Гэта было няцяжка — пад час Консульства слава генэрала Лядаіска парасла бур'янам забыцьця.

**Разьдзел XXX. Парыж. Persona non grata**

У 1802 годзе Хадзькевіч выйшаў на волю. Атрымаў назад усе ўзнагароды і званьні, а такса-

ма прызначэньне камандзірам над некалькімі батальёнамі, што ствараліся ў Нармандыі, а разам з тым і вуснае ўказаньне, каб праз нейкі час падаў у адстаўку, як іншаземец, замешаны ў палітычную змову. Што і зрабіў. Акрамя «najszczerszej chęci» служэньня дзяржаве. Якая там chкж! Расейскі бок у асобе Чартарыйскага мяноўна яму прапанаваў сачыць за Касьцюшкам у Парыжы. І рады бы, ды трэба было пакаваць куфры й кайстры... На разьвітаньне французы, улічваючы былыя заслугі генэрала Хадзькевіча, забясьпечылі ягонае пасьведчаньне аб адстаўцы найлепшымі рэкамендацыямі, і, апрача таго, прызналі права патрабаваць палову пенсіі, што належала паводле закону паложанай да яго званьня. Ад пенсіі пагардліва адмовіўся.

**Разьдзел XXXI. Аб жанчыне, якую пан Ігнацы кахаў**

У канцы 1802 года з Гаўру Хадзькевіч паплыў у Санкт-Пецярбург. Мадам Лабраш, пакуль яе амарант быў зьняволены ў Тамплі, знайшла новага каханка. Граф Жавускі сустрэў яе ў 1811 годзе на Бадэнскіх крыніцах пад Венай. Яна ператварылася ў мадам de Presles, жанчыну бальзакаўскага веку, вельмі прывабную і дасьціпную, яе абкружалі натоўпы прыхільнікаў.

Калі граф нагадаў пра пана Ігнацыя, яна паведаміла, што зьявіўся ён у свой час для яе ў Канстанцінопалі сапраўдным выратаваньнем, бо спадар Лабраш — узор распусты і нястрыманасьці — вымагаў ад яе такіх рэчаў, пра якія і гаварыць сорамна... На водах яна бавіла час з 12-гадовай дачкой Леанідай Дэнгоф.



**Разьдзел XXXII. СПб. Persona non grata**

Аднак вернемся да нашага героя. Шматлікія крыніцы паведамляюць, што ён прыбыў у Пецярбург у часы Паўла І. Адразу ж кідаецца ў вочы недарэчнасьць. Паўла забілі ў сакавіку 1801 года. З аднаго боку агульнавядомы факт, з другога — сьцвярджэнне паважанага Масьціцкага аб тым, што Хадзькевіч сядзеў у турме два гады (верасень 1800 —верасень 1802 году). А паколькі сярод аўтараў, што пісалі і ўзгадвалі пра Хадзькевіча, Масьціцкі на наш погляд, найбольш аўтарытэтны як гісторык, то яму і паверым. Нагул, у выпадку з Хадзькевічам недарэчнасьці, супярэчлівасьці, розначытаньні —рэч звычайная. Вось Вацлаў Берэнт, напрыкляд, пісаў, што Хадзькевіч прыбыў ня з Францыі, а з Італіі.

Непрыемнасьці знайшлі й тут. Пераканаўся, што паўночная сталіца далёкая ад картачнага азарту, але ўсё ж абгуляў сына нейкага крупнага вяльможы. Бедны хлапец, быў ня ў стане разьлічыцца й паспрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам. Разгарэўся скандал. Хадзькевіча пацягнулі да генэрал-паліцмайстра Хертля. На пытаньне:»Як адважыўся ўзяцца за занятак, які перасьледуецца законам ?» — адказаў, што, ня маючы сродкаў да жыцьця, ухапіўся за шулерства «як тапелец за брытву». Варты жалю выгляд героя шматлікіх бітваў выклікаў скупую сьлязу ў маладога рамантыка Аляксандра І. Мабыць, узгадаўшы былыя заслугі Хадзькевіча пад Ачакавам, імпэратар прызначыў яму пажыцьцёвую пенсію — тысячу рублёў штогод. Але з гораду папрасіў зьехаць.

Хадзькевіч і без таго не зьбіраўся марнаваць тут час. Нуда...

## Частка II

Лепш быць першым у правінцыі... Гісторыя яго жыцця дайшла да нас ў легендах, паданьнях, анекдотах, дасьціпных афарызмах, якімі іскрылася амаль кожнае слова генэрала. Мяноўна тут, у эўрапэйскай правінцыі —у Літве і Ўкраіне — гэты авантурнік паўстае перад намі ва ўсёй сваёй велічы.

**Разьдзел І. У Тульчыне**

Тульчын на Валыні — рэзідэнцыя апошняга вялікага магната на землях былой Рэчы Паспалітай, уладальніка 1,5 млн. гэктараў зямлі і 130 тысяч сялянаў, таргавічаніна Станіслава Шчэнснага Патоцкага. Па яго сьмерці ў сакавіку 1805 года спадчына перайшла ў рукі сына — Шчэнснага Ежы, агорнутага нейкай псыхапатычнай прагаю азартных гульняў. Тульчын пераўтварыўся ў заезны двор шулераў і прайдзісьветаў, што цягнулія туды з усяго блізкага й далёкага наваколля як мухі на мёд. Іхні правадыр — Хадзькевіч, «больш доблесны на зялёным сукне, чым на полі бітвы» — паводле няслушнай заўвагі афіцыяліста* Патоцкіх Антонія Хжаншчэўскага. Тут ён заснаваў, сваю штаб-кватэру, адкуль рабіў вылазкі на кіеўскія кантракты**, да Вільні і далей у Эўропу.

**Разьдзел ІІ. Апэрацыя па разгрому «неперlåможнага» галяндзкага шулера**

Аднойчы Хадзькевіч атрымаў вестку пра подзьвігі заможнага галяндзкага шулера на водах у Спа (Бельгія). Абгуляць прафесыянала — асобая доблесьць! Толькі як? Праехаць палову Эўропы, рызыкуючы вярнуцца ў адной ніжняй бялізне? Але наводчык сам быў прафесыяналам, і на стол перад Хадзькевічам леглі некалькі калодаў карт той самай фабрыкі, якімі карыстаўся галяндзец.

Можна было дзейнічаць. Аднак, вырашыў, што без дапамогі тульчынскіх сябраў — Кантона і Панінскага не абыйсьціся. Пазнаёмімся з гэтымі дзяячамі. Кантон — рэзыдэнт Патоцкіх, славуты шулер, (граф Жавускі называў яго «непераўзыйдзеным геніем махлярства»), чалавек невядомага паходжаньня і нацыянальнасьці, што гаварыў па-французку і ангельску, як на родных мовах. Калі памёр, тульчынскія жыхары і госьці кідалі ў магілу ня жмені зямлі, а калоды картаў, што накрылі труну рознакаляровым дыванам. Адам Панінскі — генэрал-маёр, удзельнік паўстаньня 1794 года, няслушна абвінавачаны ў паразе пад Мацяёвіцамі («наш генэрал Грушы»), прафесыянальны аферыст.

Хадзькевіч паказаў калоды. Апрацаваць іх для бывалых шулераў было дзіцячай забаўкаю — зьняць пячаткі, памеціць, адпаведна скласьці, зноў запячатаць. А вось як падкінуць карты галяндцу ў зачынены куфар? Хто будзе рабіць гэтую чарнавую працу? Прыгадалі спрактыкаванага ўзломшчыка, нейкага Хольма.

Немагчыма не прысьвяцьць гэтаму самародку хоць некалькі радкоў. Граф Жавускі пісаў пра яго:»У Варшаве па шынках абгульваў камердынераў і лёкаяў... Умеў відэлец падкідваць угору і так падстаўляць закаркаваную бутэль-

* Афіцыяліст (з польск. уст. oficjalista) — канторшчык (у маёнтку).

** Кантракт (з польск. уст. kontrakt) — кірмаш (кантрактавы).

ку, што відэлец акурат у сярэдзіну корку ўтыкаўся; кесы* й гадзіньнікі ў міг вока мог перанесьці ў сваю і чужую кішэні..., а зьверх усяго, заўсёды меў між двума пальцамі нейкі сталёвы прыстасончык, які называў кердонікам (kerdonik), і не было замка настолькі складанага, каб ён яго за хвіліну не адчыніў. Часта арыштоўваўся, але заўсёды выкручваўся з рук правасудзьдзя... Падарожнічаў па Эўропе дыліжансам, калі быў пры грошах, і пешшу, калі іх ня меў...»

Хольма выслалі ў Спа пад выглядам хворага польскага шляхціча з прыслугай і Кантонам у ролі лёкая (дзеля нагляду). Спыніўся ў тым самым гатэлі, што й галяндзец. Абкружыў сабе лекарамі, скардзіўся на здароўе, скрыпеў і ныў. Пазьбягаў як зялёных сталоў, так і любой кампаніі. Найчасьцей, бачылі небараку самотнага, з пакутлівым выразам на твары. Неўзабаве слугі разьнеслі пагалоску, што іх гаспадар — люнатык. А Хольм і сапраўды пачаў бадзяцца начамі па гатэлі і на ўсеагульную ўсьцеху ламіцца ў нумары. Калі нехта паспрабаваў вярнуць яго да рэчаіснасьці, разыграў цяжкі прыступ канвульсый. Пасьля гэтага выпадку, абкружаны ўсеагульным спачуваньнем, мог без перашкодаў вандраваць, дзе хацеў. Наведваў і галяндца. Падгадаў зручны момант, ускрыў ягоны куфар, падкінуў мечаныя карты, таксама лёгка, не пашкодзіўшы замка, зачыніў яго. На наступны дзень пакінуў курорт.

Надыйшла чарга Хадзькевіча і Панінскага. Сталяваліся ў Спа, не шкадуючы грошай на ўсялякія забавы і гулі. Нарэшце дайшло да сустрэчы з галяндцам. Прайграюць партыю за партыяй да таго моманту, пакуль на стале не зьяўляюцца карты, падкінутыя Хольмам. Луідоры паплылі назад у геамэтрычнай прагрэсіі. Яшчэ калода ня скончылася, а банк у галяндца разьбіты. Другі банк не пратрымаўся і некалькіх абцугаў*; таксама й трэці, і чацьвёрты... Галяндзец устаў з-за стала, прайграўшы ўсё да шэлегу.

Панцёры падзялілі выйгрыш, які склаў 10 тысячаў луідораў (1 луідор — залатая манета каля 6,5 грама вагі), ці 65 кіляграмаў золата.

**Разьдзел III. Фушэ хоча працягу гісторыі з галяндцам**

Хадзькевіч вярнуўся ў Тульчын. Як заўсёды гуляў, шулераваў, завяраў фіктыўныя шлюбы, інтрыгаваў... Прытаміўшыся, паехаў разьвеяцца ў Францыю. Але там трапіў у нявыкрутку.

Праз пару дзён сьвята з нагоды каранаваньня Напалеона, зьявіўся чыноўнік з сумнавядомага ведамства Фушэ, і прапанаваў наведаць Дэпартамэнт паліцыі.

Пакуль устрывожаны Хадзькевіч чакаў аўдыенцыі, ён заўважыў, як міністар выйшаў са сваіх апартамэнтаў і размаўляе з чалавекам, здаецца, знаёмым і кўком галавы Фушэ запрасіў прайсьці да сабе. Обэр-паліцыянт пачаў здалёка. Запытаў, якім чынам здолелі абгуляць галяндца. «Дык вось хто гэта быў»,— падумаў Хадзькевіч, і адказаў: «Ня ведаю Ваша мосьць! Да хіба ж я настолькі з глузду зьехаў, што не сказаў Вашай мосьці пра тое, што Ваша мосьць і безь мяне даведаецца, калі захоча».

* Кеса (у Ластоўскага) — торбачка скураная на грошы.

* Абцуг (польск. уст. abcug) — ход у картачнай гульні.

Фушэ моўчкі паказаў замок ад галяндцава куфру, і дадаў: «Той ліс трымаў іх пад замком ангельскай работы. Найлепшыя нашыя сьлесары спрабавалі яго адчыніць. Слухай, Лядаіска, са мной нельга жартаваць, я цябе ведаю. Гаворка не пра зварот выйграшу, які ўжо даўно прамантачаны. Тое, што той дурань даў сабе абкруціць вакол пальца — ня наш клопат. Скажы лепш, як вы замянілі карты?» — «Ваша мосьць! Клянуся шляхецкім і афіцэрскім гонарам, што ніколі ніякіх замкоў не адмыкаў і ня ўмею адмыкаць!» — Цудоўная клятва! Але й так ведаю, што гэта праўда. Скажы, быў сярод вас адзін з тваіх землякоў, што рабіў розныя ашуканскія штучкі, зь якіх і жыў?» — «Так, ваша мосьць!» — «З гэтае хвіліны ты слуга паліцыі. Прызначаю табе 250 луідораў штомесяц і 500 наперад. Загадваю, каб прывёў да мяне гэтага здольніка!»

**Разьдзе IV. Хольм і яго зорка**

Хадзькевіч аб’езьдзіў усю Эўропу. Безвынікова. Праклятыя Хольм пачынаў ужо мроіцца, а па начах наведваўся ў кашмарах Фушэ са сваімі майстрамі заплечных спраў. Праз восем месяцаў, канчаткова страціўшы надзею, прыехаў у Парыж дакласьці пра неўдачу... І раптам, як з-пад зямлі, у Понт-Нёф — Хольм! Толькі аброслы, абадраны й галодны, непадобны да сабе. Абодва махляра не маглі нарадвацца. Накіраваліся ў Пале-Раяль, дзе Хадзькевіч грошаў не пашкадаваў. Апрануў, абуў, накарміў, напаіў шампанскім, а праходзячы паўз паліцэйскі дэпартамэнт, проста здаў Хольма варце. За сьпінаю пачуў, як абураны гэткім падступствам, уладальнік кердоніка спрабуе вырвацца, нешта растлумачыць. «Выкручвайся, як можаш! А мая справа зроблена» — засьмяяўся Хадзькевіч.

Наступнай раніцай прыйшоў да яго чалавек, адлічыў грошы, і выдаў паперу, дзе гаварылася, што больш у яго паслугах паліцыя патрэбы ня мае.

Кашмары зьніклі, а пра беднага Хольма ніколі ня згадваў.

Прайшло колькі гадоў.

Берлін, Унтэр-дэн-Ліндэн. З Хадзькевічам параўнялася раскошная карэта, зь якой высунуў галаву пан у старасьвецкім парыку: »Хадзькевіч! Прашу са мной!» Угледзеўся — Хольм!

Хольм распавёў, што in gratiam* свайго кердоніка стаў агентам Фушэ. Пад рознымі прозьвішчамі ездзіць па Эўропе і здабывае паперы дзяржаўнае важнасьці. »На мяне абрынуўся залаты дождж... Толькі... Рана ці позна служба гэтая мяне да шыбеніцы давядзе...»

Так і здарылася. У хуткім часе пасьля сустрэчы з Хадзькевічам быў схоплены ў Любэку падчас францускай аблогі і на загад маршала Блюхера павешаны як шпіён.

**Разьдзел V. У Тульчын 2**

Каго тут толькі не было! Афіцэры вакольных залогаў, Мацей Радзівіл зь Бярдзічава, Ян Дуклан Ахоцкі, Станіслаў Трамбецкі, аўтар «Рукапісу, знойдзенага ў Сарагосе»вучоны й пісьменьнік Ян Патоцкі, генэрал-інспэктар каронных войскаў Каэтан Мянчынскі, іншаземцы з ўсёй Эўропы... Весялун, князь Дзьмітры Чацьвярцінскі вылучаўся тым, што калі трымаў ці цягнуў банк, рублі адмяраў рондалямі.

---

* in gratiam (лац.) — міласьцю.

Шмат хто з гасьцей Шчэнснага Ежы станавіліся яго сябрамі й дарадцамі, а без Хадзькевіча ён і кроку не хацеў ступіць.

Ён дзень у дзень руйнаваў сваю спадчыну, разьвітваючыся з фальваркамі й вёскамі. Жыцьцё ляцела, быццам у нейкім чадз .

**Разьдзе VI. «Пан з паноў»**

Суправаджаючы аднойчы Патоцкага ў падарожжы зь Бярдзічава ў Кіеў, Хадзькевіч не разгубіўся з-за адсутнасьці картаў, і адразу ж наталіў «неадольную смагу вісту» ад якой пакутваў спадарожнік. Убачыўшы ў полі стог, прапанаваў прымітыўную, але ня меньш, як высьветлілася азартную гульню ў саломкі. Хто карацейшую выцягне — бярэ стаўку.

Ніякі шулерскі досьвед у гэтай гульні ня меў значэньня. Але фартуна, як заўсёды, была побачі Хадзькевіч пасьпяхова ператвараў салому ў залатыя. Праседзеўшы поўдня пад стогам, Шчэнсны Ежы прайграў ні многа ні мала 14 тысячаў дукатаў.

Сапраўды, не без падстаў Хадзькевіч лічыў сабе «панам з паноў». «Вы ўсе, — зьвяртаўся ён да сваіх шляхетных таварышоў, — зь сялянаў жывёце, а я — з вас».

**Разьдзел VII. Канец «Пілавы»**

У Тульчыне запахла заняпадам. Не прайшло і трох гадоў, як малады Патоцкі апынуўся поўным банкрутам. Увосень 1807 года перадаў сваёй мачысе й каханцы Зофіі Грачанцы ўсё, чым яшчэ валодаў, ўзамен на пажыцьцёвую штогадовую рэнту з 15 тысяч дукатаў. Потым паехаў за мяжу папраўляць здароўе, адкуль засыпаў



Зофію просьбамі прысланць грошай, якія імгненна траціў у публічных і гульнёвых дамах, залазіў у новыя пазыкі, і, абкружаны крэдыторамі, плакаў, маліў, і лаяў лёс... Супакоіўся навекі ўвосень 1809 году ў Францыі ад невядомай хваробы.

Хадзькевіч выйграў у Патоцкага два мільёны польскіх злотых, Адам Панінскі — мільён, Кантон — 500 тысячаў. Празь некалькі гадоў Зофія ўдакладніла канчатковую суму даўгоў — 600 тысячаў чырвоных злотых, (болей за дзьве тоны золата!) ... Праз шмат гадоў, Пётар Юкоўскі, маршалак вінніцкай шляхты, адзін з тульчынскіх заўсёднікаў, распавядаў мемуарысту Францішку Кавальскаму, пасьля некалькіх келіхаў добрага віна, што Шчэнсны Ежы за ўвесь свой кароткі зямны шлях пасьпеў прагуляць... 16 мільёнаў рублёў срэбрам.

Хадзькевіч зьеўшы «Пілаву», рэшткі пакінуў дробнай шляхце, а сам рушыў на Бацькаўшчыну, у Літву.

**Разьдзел VIII. Гвардзейцы генэрала Хадзькевіча**

Уладкаваўся ў Вільне — спараўдным Эльдарада шулераў. Жыў па-магнацку. Стварыў уласную гвардыю, а дакладней выведку. «Почт» складаўся з гарэзаў і свавольнікаў усіх сацыяльных групаў.

Добры знаўца людзей, ён умеў адзначаць іх належным чынам. Жартаўліва называў сваіх малайцоў «плёткамі» (plotki). Гэтыя плёткі мелі оступ да ягонага стала, дома, багацьця. Штодзень цягнулі золата з яго куфараў. Але за гэта павінны былі быць гатовыя на ўсё. Ляцець удзень і ўначы з канца ў канец Эўропы, каб

здзяйсьняць волю гаспадара: помсьціць, вышукваць малакасосаў і прасьцякоў з грашыма, вялікія людзкія зборні, балі, кірмашы, балюшкі, выведваць, дзе кватаруюць вышэйшыя расейскія афіцэры, ці маюць і ў якой колькасьці наяўныя, ці гуляюць у карты, і калі не, то як іх звабіць, ці махлююць у гульні etc.

Безумоўна, Хадзькевіч ня толькі не адставаў ад памагатых, а мог бы да ўсіх сваіх званьняў дадаць яшчэ тытул архімахляра эўрапэйскага маштабу. Рызыкаваў, але ведаў, што рабіў.

«У гэта цяжка паверыць,— пісаў граф Жавускі, але картачныя махляры стварылі ў апошнія гады Рэчы Паспалітай сапраўдную дзяржаву, магутнасьцю мацнейшую ад той, што апіралася на законы краіны... Тая асаблівая федэрацыя мела ў Варшаве сваі зьезды, сваю арганізацыю, сваю паліцыю...

**Разьдзел IX. Рэха славутай мінуўшчыны**

Аўстрыйская кампанія 1809 году зноў нагадала пра былое. Хуткі на рашэньні патрыёт Рэчы Паспалітай, кавалер ордэну «Ганаровага Легіёну», генэрал Хадзькевіч прадаў маёмасьць і нават каштоўнасьці другой жонкі, каб сфармаваць полк у акупаванай войскамі Княства Варшаўскага Галіцыі. Па невядомых прычынах полк, аднак, не сфармаваў.

**Разьдзел X. Разгром Мюнхэнскага картачнага клюбу**

Тое, што «трэба жыць рызыкуючы», Хадзькевіч ня толькі ведаў задоўга да Ніцшэ, але ў адрозьненьне ад філёзафаў й жыў так.

Ён аб’явіўся ў Мюнхэне, дзе, як чуў, магістрат трымаў картачны клюб, прэзыдэнтам якога быў



сам бургамістар,— чалавек з добрай душою і апрача таго, гаспадар найлепшага гатэлю.

Пад выглядам польскага ці літоўскага графа Хадзькевіч заехаў у двор гатэлю прэзыдэнта-бургамістра ў аграмаднай фуры, крытай жоўтым дзегцявіком, замовіў найлепшы нумар, і папрасіў гаспадара наведаць яго.

Падчас візыту слугі разгружаюць фуру, і прыгінаючыся пад цяжарам, заносяць у пакой да ілжэ-графа два куфры. Хадзькевіч яшчэ раз перапрасіў бургамістра за турботы, і дадаў, што сустрэцца з ім хацеў таму, што ў першыню ў жыцьці за мяжой, што нямецкай ня ведае, а пры сабе мае вялікія грошы, і таму пытае, ці можа разьлічваць на бясьпеку і патранат паважанага гаспадара? Немец, расчулены даверам, усё гарантаваў, і застаўся на абед. А Хадзькевіч між іншым адчыніў куфры, нядбайна перагарнуў золата, і прапанаваў упэўніцца, што не забаўкі з сабой прывёз. Залатыя пазіралі пераканаўча.

Некалькі дзён бургамістар паказваў падапечнаму, цалкам адданаму навуцы і літаратуры, мясцовыя старажытнасьці і помнікі архітэктуры, вазіў па ўсіх бібліятэках. Напрыканцы Хадзькевіч пачаў пазяхаць і сумаваць. «Вось,— казаў немец, — каб гэр граф любіў напрыклад карты, а не старажытнасьці і кніжкі, прапанаваў бы шаноўнаму графу забаву. Ёсьць у нас клюб. Можна шмат прайграць, але й шмат выйграць, таксама». Карты? Хадзькевіч паморшчыўся:»Дрэнна ведаю гульню. Картаў страшуся, як вагню, а калі пачынаю прайграваць ці выйграваць, зусім трачу вытрымку і вялікія глупствы раблю». «Нічога,— супакоіў бургамістар, — буду трымаць вас, шаноўны, ў полі зроку. Хадзем!»

...Перад банкамётам ляжала куча золата. Хадзькевіч прайграў, выйграў, зноў прайграў... Нерваваўся, круціўся, чырванеў, на яго ілбе выступілі кроплі поту. Стаўкі падвышаліся... «Вабанк!» — азвалася рэха ў запалай вусьцішы.

Пасьля кароткага замяшаньня банкамёт зьвярнуўся да Хадзькевіча:»Гэта добра будзе, калі вяльможны выйграе, а калі не?...» На што пачуў далікатны адказ:»Маеш пан рацыю, але, спадзяюся, прэзыдэнт клюбу, тут прысутны, які бачыў мае наяўныя, можа за мяне паручыцца. Бургамістар згодна кіўнуў. Пачалі гульню.

Клюб мясьціўся ў салёнах вялікага дому на высокім першым паверсе. Вокна выходзілі на вуліцу. Было лета. Хадзькевіч пакутуючы ад задухі, расшпіліў фрак і камізэльку, аслабіў хустку на шыі, адчыніў вакно і сеў на падаконьнік нібыта на каня, зьвесіўшы адну нагу на вуліцу. У агульным замяшаньні ніхто не зьвярнуў увагу на гэтую непрыстойнасьць...

Нарэшце выцягнуў шчасьлівую карту. Забраў весь банк. Сябры клюбу рвалі валосы на галовах, бо было там (у пераліку) з палову мільёна злотых. Запакаваўшы золата, Хадзькевіч яшчэ з чвэрць гадзіны пакруціўся у клюбе і вярнуўся ў гатэль.

Прыбёг бургамістар павіншаваць госьця з посьпехам, і ўбачыўшы запрэжаную фуру са зьдзіўленьнем пацікавіўся, чаму госьць гэтак сьпешна выязджае? «Акурат у самы раз»— адказаў Хадзькевіч, і ахвяраваў немцу тысячу дукатаў. Той ад шчасьця ўжо руку хацеў цалаваць. «Не дзякуй пан так сардэчна» — (ад былой сьціпласьці й сьляду не засталося), бо ў маім посьпеху больш, чым думаеш, браў удзел. Не паручайся за тых, каго дрэнна ведаеш. Паручыўся сёньня за мяне, а цяпер зірні, што было ў маіх куфарах».

А там усяго тысячы на дзьве ці на тры дукатаў, а пад імі — камяні ды пясок. «Калі б прайграў, дык скокнуў бы ў вакно, экіпаж мой стаяў гатовы на трэцяй вуліцы. Пакуль пагоня, быў бы я ўжо далёка».

Трэба дадаць, што ўцякаць Хадзькевічу ніколі не даводзілася. Граф Жавускі сьведчыў, што «ніводны магнат не раскідваўся грошыма больш за яго. У кожны горад як на карэце і з прыслугаю прыязджаў, гэтак і ад'язджаў.

**Разьдзел XI. Як пан Ігнацы даказаў аднаму маладому ліцьвіну, што Хадзькевічу безпакарана шкодзіць немагчыма**

Калі недзе ён пакідаў па сабе нядобрую памяць ці падазрэньні на несумленную гульню, то казалі аб тым шэптам: афіцэр трох арміяў страляць умеў трапна... Толькі аднойчы найшла каса на камень. Адзін малады ліцьвін, чалавек незаможны, адданы філязофскім абстракцыям і, апрача таго пэдант, наслухаўшыся пра Хадзькевіча, палічыў сваім абавязкам асьцерагаць заможных неспрактыкаваных малайцоў ад гэтага злодзея.

Хаця пан Ігнацы й пляваў на тое, што пра яго думаюць, нават наўмысна рабіў так, каб думалі яшчэ горш, але паслугі невядомага дабразычліўца вельмі не на руку пайшлі. Колькі разоў найлепшым чынам падрыхтаваныя шулерскія апэрацыі скончыліся крахам. Хадзькевіч, мабыць, упершыню ў жыцці быў даведзены да сапраўднага шаленства. Пакуль шукаў, як бы лепей ад-

помсьціць, чалавек той пераехаў у Варшаву. Празь некалькі месяцаў, будучы ў сталіцы, пан Ігнацы прыклаў усе сілы каб зь ім пазнаёміцца.

У хуткім часе сядзелі за бутэлькай шампанскага. Хадзькевіч абкружыў свайго новага «сябра» ласкай і клопатам, частаваў і лісьлівіў. Той зусім растаў; адкрыў душу. Між іншага паведаміў, што вельмі хацеў бы зьездзіць за мяжу, да вось толькі няма за што. «Толькі й клопату? — усьміхнуўся пан Ігнацы — Праз тыдзень я адпраўляюся па ўсёй Эўропе. Калі твая непараўнальная вучонасьць і здольнасьці гэтага патрабуюць, не турбуйся ні аб чым. Толькі ці згодны ты выступіць пад маім прозьвішчам, бо ёсьць у мяне на тое прычыны? Згодны? Дазволь тады, каб мог ты па-магнацку выглядаць, справіць табе адпаведны гардэроб».

Малады чалавек амаль што ў ногі не падаў. Паехалі. Прыбылі ў Дрэздэн. Прапанаваў свайму спадарожніку найлепшыя нумары ў шыкоўным гатэлі, а сам заняў невялічкую непрыкметную каморку. Пасьля двух сутак дарогі без адпачынку, кавалер хацеў ужо ўпасьць у ложак. Але Хадзькевіч, убачыўшы на стале абвестку з запрашэньнем у гэты ж вечар на маскарад, прымусіў спадарожніка ўзяць у ім удзел і паслаў у тэатральную дырэкцыю па які-небудзь блюзьнерскі строй. Пакруціліся пару гадзінаў на маскарадзе. Павячэралі й леглі спаць. Хадзькевіч той жа ноччу, як толькі яго « сябар» заснуў, забраў усю адзёжу, якую справіў у Варшаве, заплаціў за каморку, а астатняе зваліў на «паніча ў апартамэнтах» і выехаў. Няшчасны праспаў да самага полудня. А калі абудзіўся і хацеў апрануцца, апроч блюзьнерскага гарнітуру нічога не знайшоў. Пазваніў. Гарсон казаў, што пан, пра якога пытаюць, выехаў колькі гадзінаў таму.

У роспачы, адмаўляючыся верыць, небарака кінуўся ў кабінэт. А там на стале ляжала цыдулка: «Выкручвайся зараз як здолееш! Будзеш ведаць, блазан, што Хадзькевічу ні ў Вільні, ні ў Варшаве, нідзе беспакарана немагчыма».

Здолеў вярнуцца ў Варшаву толькі праз некалькі месяцаў не самых вясёлых прыгодаў. «Тут больш ганебнай злосьці, чым помсьлівага досьціпу!» — усклікае Станіслаў Мараўскі.

**Разьдзел XII. Яго адмоўная прывабнасьць**

Габрыела Пузыніна з Гюнтэраў, дама досыць разумная і добрапрыстойная, у мемуарах пад назвай «У Вільні і дварах літоўскіх» безумоўна, не магла абыйсьці постаць Хадзькевіча.

Асуджаючы выбрыкі й наогул паводзіны «гульца » і «шулера» (пад гэтымі прозьвішчамі яго ведалі ў Вільні), адчуваецца, глядзела на яго не без таемнай сымпатыі. Маці Пузынінай паскардзілася аднойчы пану Ігнацыю на шум з шынка непадалёку, ад якога не магла заснуць. «Будзь пані спакойна,— адказаў, — я ўсё ўстрою». Наступнае начы і сапраўды было ціха. Запыталася, якім чынам яму гэта ўдалося .«Гэта мае людзі, — адказаў— яны мяне слухаюць».

Была размова пра дрэннага ксяндза — «Гэта мой капелян», а пра жанчыну дрэннае рэпутацыі:»Гэта маліна з майго лесу». Сустрэў пан Ігнацы на адной зь віленскіх вуліцаў каля аптэкі трох сваіх знаёмых, гэткіх жа разбойнікаў, толькі меньш выбітных:»Пройдзем трохі далей,— заўважыў ён, — бо як убачыць нас аптэкар, будзе гатовы зрабіць з нас воцат чатырох злодзеяў».

Сёньня паводзіў сабе як сапраўдны магнат, шчодра ахвяруючы на дабрачыннасьць, а заўтра мог адмовіць у сухой скарынцы жабраку. Шчодрым, канешне, было быць прыемней. Спаткаўшы ўбогага, даставаў для яго з кішэні ўсё, што ў жменю ўмяшчалася, не ўважаючы золата ці срэбра; ці грошы, гадзіньнік, табакерку на зямлю ўроніць, —не нахіляўся па іх, былі ўжо ўласнасьцю слугаў. Жавускі сьцьвярджаў, таксама, што ў карты ўшчэнт нікога не абгульваў, асабліва калі бачыў, што з-за грошай чалавек пачынае губляць годнасьць. У Тульчыне прыйшоў да яго шарачковы шляхціц, змучаны нейкім працэсам, каб на наступны дзень, належную суму не заплаціў, страціў бы родавы маёнтак. Абняў генэрала за калена, просячы аб выратаваньні, хаця і без асаблівае надзеі. Хадзькевіч засьмяяўся, што яшчэ не зусім страціў розум, каб уласныя грошы раздаваць:»Прыходзь увечары, шаноўны». І ўвечары, вяртаючыся ад зялёнага стала і ўбачыўшы просьбіта, даў яму болей, чым той марыў.

Каб ня лётаць па Эўропе і літоўскім закуткам у «ненажэрным жаданьні чужых грошай», Хадзькевічу хапіла б і Вільні. Але ня ўсе дамыґ былі для яго адчыненыя, бо хаця й захапляліся, але пабойваліся. Актор Казімір Скібінскі ўспамінае, як Хадзькевіч заявіўся без усялякага запрашэньня на яго вясельле са сьпявачкаю Камінскай 5 лістапада 1814 года. Скібінскі апісвае адзеньне госьця, як сапраўдны куцюр'е. «Прыйшоў каля паўночы. Вядомы ўсёй Вільне як любоўны авантурнік і карцёжнік. Гаварылі пра ягоныя некалькі дзясяткаў жонак, якім яго ўласныя лёкаі давалі шлюб*.

* Так у Скібінскага ў «Pamętnik aktora». Warszawa, 1912.



Высокага росту, апрануты балёва, у белых шаўковых панчохах, у чаравіках з дыямэнтавымі спражкамі; чорныя кароткія нагавіцы, белая аксамітная камізэлька, чорны фрак са стужкай, chapeau bas* пад пахай». А Станіслаў Мараўскі мог бы дадаць, што найдаражэйшае адзеньне, найдаражэйшую, заўсёды сьвежую парыскую бялізну насіў наўмысна нядбайна, усё на ім ляжала як-бы ад niechcenia. Фракі падартыя, кашулі пакамечаныя, але белыя як сьнег.

Калі Скібінскаму далажылі аб прыходзе генэрала Хадзькевіча, ня вельмі ўзрадваўся, бо ня мог не асьцерагацца якога-небудзь выбрыку. Пайшоў сустракаць. Пан Ігнацы расшаркаўся: — Прашу прабачэньня за маю настойлівасьць, што асьмеліўся прыйсьці нязваным, але з малаком маці ўсмактаў любоў да прыгожых мастацтваў, асабліва да драматычных акцёраў. — Сябры сцэны і для нас мілыя госьці»...

Паглядзеў пан Ігнацы — пажывіцца асабліва нечым, бо меньш, як па дукаце да вісту не сядаў. Але ж такі пакруціўся сярод зялёных столікаў, пасьля чаго па-ангельску зьнік, аблегчыўшы кішэні гасьцей больш чым на паўтара кіляграма золата, выйграўшы 200 пунктаў (у Анджэя Хамерліньскага-Дзеражыньскага, які пісаў значна пазьней, —500 пунктаў).

### Разьдзел XIII. Хадзькевіч і жанчыны

Асабліва даставалася жанчынам. Так у Львове прыбягае да пані Цялецкай з Патоцкіх і паведамляе, нібыта паліцыя хоча яго арыштаваць за даўгі на дзьве тысячы дукатаў, дык ён павінен

* Фасон шляпы.

зараз жа з горада бегчы. Цялецкая, каб затрымаць каханка пры сябе, плаціць гэтыя грошы «плёткам», што з'явіліся пад выглядам прадстаўнікоў улады, гэта значыць, яму ж у кішэню.

Палякі называлі яго сваім Казановам. Ніводная з жанчын не магла ўстаяць перад яго д'ябальскае чароўнасьцю. Шмат разоў браў фіктыўныя шлюбы, меў мноства каханак, уражваў Вільню сваімі «Райскімі вечарамі», ці папросту оргіямі.

Віленская віцэ-губэрнатарша Бабятынская з Мантвілаў, прывабная жмудзінка, жанчына легкадумная, вядомая была ў горадзе дзівацкімі паводзінаміі жаданьнем весьці рэй ва ўсёй сталіцы. Сярод яе фантазіяў была й такая. Калі абнавіла свае апартамэнты, завяла ў сабе звычай, каб наведнікі (а паколькі Вільня — горад быў невялікі, жыхары звычайна хадзілі пешшу), у пярэдняй чысьцілі абутак. Дзеля гэтага заўсёды напагатове стаялі два лёкаі са шчоткамі і гуталінам.

Чарговае новаўвядзеньне віцэ-губэрнатаршы хутка стала вядомае ўсім. І вось аднойчы Хадзькевіч, праходзячы паўздом Бабятынскай, аточаны сваімі нягоднікамі, зьвярнуўся да іх:»Панове, наведаем віцэ-губэрнатаршу, але спачатку добра запэцкаем боты ў канаве». Сказана —зроблена. Зайшлі. Дакладаюць аб прыходзе генэрала. Гаспадыня сардэчна запрашае. А лёкаям працы! Пакуль усёй зграі боты вычысьцілі, прайшло ня меньш як чвэрць гадзіны, а Бабятынская на мяккай сафе ў маляўнічай паставе ўвесь гэты час чакала. Як толькі боты зазіхацелі, Хадзькевіч, нібыта ўзгадаўшы аб чымсьці вельмі важным, дастаў гадзіньнік, глянуў і ўсклікнуў:»Ай, панове, аднак зараз павінны быць ўжо ў пана NN «, — і да лёкая:»Але ўжо позна. Падзякуй сваёй пані за чыстыя боты і — бывай здароў».

З таго выпадку абутак у Бабятынскай больш ня чысьцілі.

Пані Хялхоўская, заможная і прыгожая дама пакахала Хадзькевіча, і абавязкова хацела ўзяць з ім шлюб. Пан Ігнацы таксама, здаецца першы раз за апошнія гады сур'ёзна захапіўся, але пра ланцугі Гімэнэя нават і думаць не хацеў. Але пабіўся аб заклад адразу зь некалькімі гулякамі ажно на 500 дукатаў, што а трэцяй гадзіне а поўдні ў прызначаны дзень знойдуць яго, распранутага, у ложку ў пані Хялхоўскай. А жыла яна, трэба заўважыць, з усім дваром у флігелях Сьвята-Міхалаўскага кляштару (што было ў той час модна).

Зьявіўся пасьля паўдня. Нейкі час забаўляў гаспадыню гісторыямі, сьмяшыў да сьлёз. І раптам зьмяніўся з твару, схапіўся за галаву, халодны пот выступіў на яго ілбе, і, нібыта страціўшы прытомнасьць, рухнуў у фатэль. Перапалоханая Хялхоўская разгубілася. Ён, трохі апрытоміўшы, папрасіў яе, каб дазволіла прылегчы на ложак. Пані казала, што будзе зручней ў якім-небудзь іншым месцы, але «хворы» пачаў хныкаць, стагнаць, закочваць вочы, і ўсяляк паказваць, як яму дрэнна. Нарэшце, згадзілася, а сама пабегла распарадзіцца наконт гарабаты. Было акурат каля трэцяй гадзіны. Хадзькевіч хутка застаўся ў строях Адама і скокнуў пад коўдру. Праз зачыненыя дзьверы пачуў, як да Хялхоўскай ўварваўся шумны натоўп закладнікаў. Прыйшлі ў пакой, сарвалі коўдру, і пераканаліся на сваё зьдзіўленьне, што заклад прайгралі.

Хялхоўская, зразумеўшы што да чаго, учыніла бурную сцэну. Нават кінулася біцца. Адмові-

ла ад дому і выкінула жартаўніка прэч, дарэчы было яму тады гадоў за пяцьдзесят. На гэтым не спынілася. На вялікую шкоду Хадзькевічу разьнесла па Вільні некаторыя яго сакрэты . Усё б дараваў, толькі ня гэта.

Пачаў дасылаць сьлёзныя цыдулкі з прабачэньнямі і пасылкі з рознымі прысмакамі. Хялхоўская спачатку вяртала ўсё, але празь нейкі час яе сэрца здрыганулася, і яна пакінула ў сабе кошык з садавінаю, да якой была вельмі ласая.

І вось Хялхоўскай, на вялікім вечары ў пані Ельскай з Сапегаў дакладаюць: прыбыў камэрдынер Хадзькевіча з пасылкай, а разам з тым, перадалі і ліст на добрай францускай паперы папырскай парфумамі, дзе пан Ігнацы зноў выбачаўся і прасіў, каб паласавалася прысланымі асабіста для яе з Астрахані «вінагронамі». Тут якраз нехта (мабыць невыпадкова) пачаў пра «вінагроны» размову. Захацелася Хялхоўскай пахваліцца. Прынесьлі пасылку. Усе абкружылі стол у прыемным чаканьні. Адчынілі. З-пад прасяной крупы пачалі даставаць... старыя жыдоўскія чаравікі, конскія яблыкі, далей паказаліся яшчэ горшыя брыдоты. Усе з абурэньнем і агідаю ад стала, а Хелхоўская ад гэтае неспадзяванасьці страціла прытомнасьць.

Хадзькевіч тым часам ехаў па дарозе на Вену.

## Разьдзел XIV. «Ці цёпла ў пакоях Хадзькевіча?»

Напрыканцы 1814 года Хадзькевіч назаўсёды пакінуў сталіцу, каб рэшту дзён бавіць у сваіх уладаньнях на Валыні. На разьвітаньне не абыйшлося бязь невялікага эксцэсу. Рэч у тым, што апошнім часам, бываючы ў Вільні, спыняўся ў доме Мюлераў, займаючы найвялікшыя пакоі за



дукат у дзень. У адзін з прыездаў быў непрыемна зьдзіўлены падвышэньнем кошту да двух дукатаў. Пайшоў да гаспадара, а той адправіў да жонкі, маўляў, дом належыць ёй. Спадарыня Мюлер стаяла на сваім, апраўдваючыся дарагоўляю паліва. Згадзіўся. Месяцы праз два прыйшоў да Мюлера і паведаміў, што павінен зьехаць у Нямежу пад Вільню, а потым на пару-другую тыдняў (зрэшты дакладна ня ведае) у Смаргонь і Ашмяны, і таму просіць, каб памяшканьні засталіся за ім, і апальваліся да яго вяртаньня. Мюлер згадзіўся, а Хадзькевіч яшчэ й выцягнуў з яго слова гонару, што ўсё выканае. Апальваюць. Чакаюць два, тры, пяць, восем тыдняў, нікому не здаючы тых апартамэнтаў. Хадзькевіча ў Вільне больш не бачылі. А недзе праз год нехта ад яго імя запытаў Мюлераў, ці цёпла ў пакоях у генэрала?

## Разьдзел XV. Камісар прайграў скарбовыя, але паплаціўся Хадзькевіч

Прыезд генэрала на Валынь парушыў спакой, што надыйшоў там пасьля сьмерці Шчэнснага Ежы Патоцкага. А тут яшчэ буйна прабіваліся новыя парасткі: сыны Станіслава Шчэнснага і чароўнае Грачанкі — Аляксандар, Мечыслаў і Баляслаў. Мала таго, што яны хуценька трапілі ў кампанію Хадзькевіча, дык ён яшчэ распускаў зьедлівыя досьціпы пра іх маці.

Зофія добра бачыла небясьпеку. Дзеля гонару роду трэба было нешта рабіць, балазе памочнікі знайшліся ўплывовыя, — сын ад яе першага шлюбу расейскі генэрал Ян Віттэ (ён жа дэ Вітт), царскі обэр-шпіён і пастаўшчык коней для войскаў у Херсонскай губэрні, і жаніх яе дачкі ад дру-

гога шлюбу малады флігель ад'ютант Аляксандра I, начальнік штабу 2-ой арміі, што дыслакавалася ў ваколіцах Тульчына, Павел Дзьмітрыевіч Кісялёў.

Віттэ сутыкнуўся з Хадзькевічам у Кіеве падчас кантракту. Убачыўшы Аляксандра Патоцкага на яго кватэры, дзе той сядзеў на канапе між панам Ігнацыем і яшчэ нейкім карцёжнікам, вымавіў:»Як мне шкада Аляксандар, бачыць цябе, як Хрыста на крыжы, паміж двума разбойнікамі». Хадзькевіч адразу ж парыраваў:»Куды больш цікавей бачыць столькі крыжоў на адным разбойніку». Абражаны Віттэ нібыта данёс імпэратару на Хадзькевіча, як на чалавека шкоднага і небясьпечнага, пасьля чаго пана Ігнацыя саслалі ў Перм.

Цяжка казаць, ці было так насамрэч, — відаць, не. Ёсьць версіі і больш пераканаўчыя.

Хадзькевіч, пражываючы ў апошнія гады ў сваіх уладаньнях, межаваў са старой пані Барэцкай, асобай заможнай, зь вялікімі сувязямі, ганарыстай і зваднай. Бесперапынныя спрэчкі за лес і мяжу настолькі дасталі яго, што падаў прашэньне на імя міністра ўнутраных справаў, абвінаваціўшы Барэцкую ў тым, што яна кожны год таемна вывозіць за мяжу нейкіх людзей і што нельга паручыцца, ці гэта не рэкруты? Справай занялася адмысловая камісія, і Хадзькевіч нібыта паплаціўся за свае інсынуацыі.

Сапраўды, была справа з Барэцкай, але й яна не была галоўнай прычынаю што адыграла ў лёсе генэрала...

Прыйшоў час даць слова сьведкам тульчынскага кола. Яны ўсё бачылі зьблізу, і мяноўна іх версыю падтрымаў Генрык Масьціцкі.



Як ужо гаварылася , найбольшымі ворагамі Хадзькевіча былі тры чалавекі: Зофія Патоцкая, Ян Віттэ і Павел Кісялёў. Чакалі толькі зручнага выпадку, які і зьявіўся ў канцы 1819 году. Хадзькевіч за картамі літаральна абабраў да ніткі камісара інтэндатуры Бячаснава, а камісар разьлічваўся скарбовымі грашыма. Прычына была мізэрная. Але Віттэ і Кісялёў паклапаціліся аб тым, каб арыштавалі якраз Хадзькевіча, кінулі ў кіеўскую турму, а адтуль выслалі ў Вятку.

**Разьдзел XVI. Сойка**

Выратаваньня не чакаў. Не знайшоў сіл змагацца з Фартунай, каторая заўсёды была з ім заадно. Ці проста страціў цікаўнасьць да жыцьця.

У нудзе, бязьдзейнасьці і нягодах запіў.

Апошняя каханка пана Ігнацыя, прыгожая вясковая дзяўчына на прозьвішча Сойка, якую ён памяняў на ангельскую кабылу, прыклала шмат намаганьняў дзеля выратаваньня генэрала, і дайшла да імпэратара. Невядома, праўда гэта ці не, але, прынамсі, такую памяць захавала пра дзяўчыну мясцовая народная традыцыя, а мемуарыст Роллі перанёс яе на паперу. Згодна з гэтай версыяй, дзяўчына кінулася ў ногі Аляксандру I, а ён толькі плячыма паціснуў, бо нічога не ведаў аб справе, а калі запатрабаваў дакумэнты і ўбачыў у іх перавышэньне закону, другі раз памілаваў Хадзькевіча, і загадаў вярнуць назад. Але фельд'егер спазьніўся.

**Разьдзел XVII. Апошняя рыса**

Неяк Хадзькевіч даведаўся, што ў Печажы памірае яго добры знаёмы, афіцэр батальёну скарбовай міліцыі Драч. Пабожная гаспадыня

Печажа паведамляе яму, што афіцэр ня хоча паяднацца з Богам, і сьвятара да сабе не пускае. Хадзькевіч хутка прыязджае. Пасьля кароткай размовы з генэралам, Драч просіць сьвятара і памірае як добры каталік.

Карціна супярэчлівага жыцьця нашага героя была б няпоўнай, калі б ня сьведчаньне графа Жавускага: »Адну толькі рэч шанаваў — рэлігію, у якой быў выхаваны. Ніколі супраць яе не дазваляў сабе наймалейшага жарту».

Было і такое. Яшчэ ў тульчынскія вясёлыя часы, калі са Шчэнсным Ежы сядзеў за фараонам у шынку, усхадзілася раптам моцная навальніца. Маланка ўдарыла ў комін, і забіла слугу, што сядзеў вакол гульцоў. У Хадзькевіча не здрыгануўся ніводны мускул. Не адкладаючы картаў, флегматычна заўважыў:»Каб у мяне так стрэльнула, казалі б, што кара Божая».

Жыцьцёвы шлях, адлюстраваны ў пісьмовых сьведчаньнях сучасьнікаў, — усяго толькі бачная частка жыцьця.

Што хаваецца за гэтай няўтольнай прагаю рызыкі, жаданьнем цьвяліць добрапрыстойных людзей?

Ці простаму сьмяротнаму зразумець не дадзена таго, што ёсьць нормаю для тых, у каго біяхімічны склад актыўных рэчываў мозгу адрозьніваецца ад нормы?

Цяжка знайсьці адказ ды й ці ёсьць ён наогул?



# VI
# Героіка

*Генадзь Сагановіч*
Сьмерць палявога гетмана

*Андрэй Шпунт*
Беларускі палкоўнік Канстанцін Паклонскі

*Андрэй Шпунт*
Юда Макавэй Рэчы Паспалітай палкоўнік габрайскага палка лёгкай кавалерыі Берэк Ясялевіч

*Андрэй Шпунт*
«Я Бацькаўшчыны не пераажыву...» генэрал-лейтэнант інжынерыі ВКЛ Якуб Ясінскі

*Генадзь Сагановіч*

# Сьмерць палявога гетмана

Адбывалася гэта тры стагодзьдзі таму, у часе вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай. Пасьля шэрагу вялікіх перамог войска Вялікага Княства Літоўскага й Кароны Польскай маскоўскія ваяводы зусім страцілі ініцыятыву ды, зачыніўшыся, сядзелі ў гарадох. Напрыканцы 1661 году ваенныя дзеяньні на Беларусі цалкам перапыніліся, і настала гэтак чаканае зацішша. Ніхто ня ведаў, як доўга яно пратрывае. Урады сьпяшаліся надрыхтавацца да новых кампаній, а войска — як найлепей выкарыстаць перадышку. Зіма ў тым годзе выдалася цёплая, зусім бясьсьнежная. Да самай вясны рэкі так і не пакрыліся лёдам. Польскія канфэдэраты бавіліся тады «на кватэрах» пад Кельцамі, а войска Вялікага Княства, не падначаленае ніякай гетманскай уладзе, стаяла на паўднёвым захадзе Беларусі. Рэзыдэнцыяй кіраўніцтва Братэрскага хаўрусу (так называлася канфэдэрацыя беларуска-літоўскага войска) па-ранейшаму заставаўся Кобрын, хоць роты паразыходзіліся па розных паветах, карміліся на Лідчыне й Слонімшчыне.Царскі ўрад хацеў унікнуць новага абвастрэньня вайны і таму зноў паспрабаваў зацягнуць час дыпляматычнымі перамовамі. Стольнік Несьцераў, прыехаўшы ў сакавіку ў Варшаву, сьцьвярджаў, што Аляксей Міхайлавіч гатовы падпісаць замірэньне, аднак, калі сэната-

ры выставілі ўмоваю абавязковае вяртаньне акупаваных тэрыторыяў, дык высьветлілася, што Масква на гэта ня пойдзе.Усё, аб чым удалося дамовіцца вясной 1662 году, гэта вымена палонных. Рэч Паспалітая хацела, скарыстаўшы зручны момант, вызваліць паболей сваіх вязьняў, і абавязкова — палявога гетмана Вінцэнта Гасеўскага. Тым больш, што мяняцца было на каго: у палоне ў Вялікім Княстве Літоўскім знаходзілася 242 высокія маскоўскія чыны, сярод якіх — стольнік Хаванскі-малодшы, князі Казлоўскі, Акінфаў, два Шчарбатых, палкоўнікі, стралецкія галовы, дваране й дзеці баярскія. Вось тады, на пачатку красавіка, калі ў Смаленску дзеля правядзеньня першага абмену сустрэліся камісіі абедзьвюх дзяржаваў, з маскоўскай няволі й *быў* вызвалены гетман Гасеўскі, разам зь якім адпусьцілі палкоўніка Міхала Абуховіча, афіцэра Стэфана Невяроўскага ды яшчэ каля 200 жаўнераў.Саракагадовы Вінцэнт Корвін Гасеўскі трапіў у палон пад Вільняю, калі ў кастрычніку 1658 году, маючы толькі паўтары тысячы коньніцы, мусіў прыняць бой з палкамі ваяводы Даўгарукага. Сеча адбылася ў вёсачцы Веркі. Харугвы Гасеўскага ня вытрымалі націску: хто загінуў, хто кінуўся ўцякаць, а ў руках у царскіх ваяўнікоў застаўся абоз непрыяцеля і, галоўнае, сам гетман. Калі яшчэ маскоўскія ваяводы бралі ў палон гетмана?!Віною ўсяму была ня толькі празьмерная адвага Гасеўскага, які распачаў дзеяньні супраць Даўгарукага без асноўнага складу сваей дывізіі (бальшыня харугваў яшчэ не прыйшла з Жамойці, дзе ваявала з швэдамі), але й бязьд-зейнасьць вялікага гетмана Паўла Сапегі. Той у часе бітвы стаяў з войскам недалёка і мог бы, мусіў бы дапамагчы сваім. Але — не дапамог. Пасьля разгрому Гасеўскага і сам адступіў да Наваград-ка. Так згубна ўплывалі на ход вайны асабістыя ўзаемныя антыпатыі гетманаў...Цікава, што ў той самы дзень, калі царскі ваявода захапіў у палон Гасеўскага, швэды паланілі ўладара Курляндыі Якуба Кетлера з цэлай сям'ёй. Але калі захоп апошняга выклікаў капітуляцыю ўсёй Курляндыі швэдам, дык зьняволены Гасеўскі па дарозе ў Маскву мог сам пераканацца, што на Беларусі барацьба супраць акупацыйных уладаў набывала ўсё большае сілы. У лес пачала сыходзіць шляхта, якая раней давала прысягу цару, і разам зь сялянамі, мяшчанамі, казакамі нападала на маскоўскіх ратнікаў, пе-ракрывала дарогі, займала мястэчкі.За час ад тае няшчаснае бітвы пад Веркамі і да абмену палоннымі ў Смаленску войска Вялікага Княства пры дапамозе польскай дывізіі Чарнецкага колькі разоў ушчэнт разьбівала царскую армію. У 1660 годзе ад Ляхавічамі, на Басі й каля Чарэі, у наступным — пад Кушлікамі. Мяшчане беларускіх гарадоў пачалі ўздымаць паўстаньні ды самастойна расправуляцца з маскоўкоўскімі залогамі, выганяючы ці зьнішчаючы іх.Самы час быў для вызначальнага удару, для вялікай выправы на ўсход, за Дняпро, каб перанесьці ваенныя дзеяньні на тэрыторыю непрыяцеля. Тым больш, што дапамогу абяцалі татары, якія самі праглі паходу «на Маскву». Урадавыя колы разумелі гэта й спрабавалі падрыхтаваць генэральную наступальную кампанію. Тады й сапраўды была магчымасьць за адзін наступ паставіць цара на калені ды змусіць яго падпісаць прыймальныя

ўмовы замірэньня. Аднак урад ня мог кіраваць сваім войскам. Абедзьве дывізіі Вялікага Княства — і сапежынская, і жамойцкая — падпарадкоўваліся толькі імі абраным правадырам і законна патрабавалі ад дзяржавы «крывёю заганараваных заслугаў»... Каб нарэшце неяк выплаціць войску шматгадовыя даўгі ды вярнуць яго ў баяздольны стан, у другой палове ліпеня ў Вільні сабралася скарбова-вайсковая камісія. Двор Рэчы Паспалітай надта хацеў, каб дырэктарам стаў вызвалены з палону Вінцэнт Гасеўскі, які рыстаўся сымпатыямі канфэдэратаў. Калі ў траўні палявы гетман наведаў Кобрын, жмудзкая дывізія нават прапанавала абраць яго кіраўнікам Братэрскага хаўруса, але гэтага не магло дапусьуіць войска правага крыла, якое рашуча выступіла супраць гэтага. Дзеля гэтага, дарэчы, узнавілася канфрантацыя паміж дывізіямі. Сапегу ўгаварылі не складаць канкурэнцыі палявому гетману, і камісія пачала паседжаньні пад дырэктарствам Гасеўскага. Аднак ейную працу ўскладнялі сур'ёзныя непаразуменьні паміж камісарамі й дэпутатамі ад канфэдэратаў. Камісія практычна не прымала аніякіх радыкальных рашэньняў. Тады прыхільнікі Сапегі накіравалі сваіх паслоў да вялікага гетмана з просьбай асабіста прыеаць у Вільню. Сапега зьявіўся ў сталіцу 31 жніўня, і хоць афіцыйна ня браў удзел у паседжаньнях, уплываў на працу камісіі праз сваіх надзейных людзей, якія ўваходзілі ў склад дэпутатаў.Час ішоў, а камісія не прымала аніякіх радыкальных пастановаў. У Кобрыне канфэдэраты пачалі хвалявацца. Тое, што адбывалася ў Вільні, іх усё больш непакоіла. Яны пісалі лісты Гасеўскаму



як дырэктару камісіі, пасылалі дэпутатаў, патрабуючы неадкладнага вырашэньня пытаньняў аплаты, гарантыі іхніх правоў.ю востра ставілі пытаньне аб дзейнасьці манэтных двароў; канфэдэраты ня верылі справаздачам Ціта Бараціні, сьцьвярджалі, што той адно абкрадае дзяржаву, жадалі ўласнага кантролю, каб высьветліць, куды й на што ідуць выбітыя ім мільёны шэлягаў. Аднак віленская камісія па-ранейшаму не вырашала праблемаў канфэдэратаў.Тады сярод жаўнераў пачалі зьяўляцца падазрэньні, ці не з-за Гасеўскага ўсё гэта чыніцца? Ці ня мае на мэце сам дырэктар камісіі ліквідацыю хаўрусу, што й так быў разьяднаны? Маршалак Жаромскі, які й раней вылучаўся сваёй памяркоўнасьцю, цяпер проста раздражняў рашучых канфэдэратаў. Асабліва непрыемнае было ягонае сяброўства з Гасеўскім. Намесьнік Жаромскага мазырскі маршалак Канстантын Катоўскі займаў у дачыненьні да ўладаў самыя дыкальныя пазыцыі й баяўся, што згодніцтва Жаромскага прывядзе да здрады інтарэсаў хаўрусу.

Што да Гасеўскага, дык той даўно і насампраўдзе быў ворагам канфэдэратаў. Дарэмна войска сымпатызавала яму. Жаўнеры памяталі свайго гетмана такім, які ён быў да маскоўскага палону, любілі яго і верылі яму, а той яшчэ ў 1662 году канчаткова вызначыў свае пазыцыі і стаў на бок каралеўскага двара. За добрую суму грошай (адразу заплацілі 18 тысяч франкаў і паабяцалі 100 тысяч талераў пасьля таго, як абяруць каралём свайго кандыдата) ён схіліўся да прафранцускай партыі, уключыўся ў прыдворныя гульні і разам з канцлерам Крыштапам Пацам пачаў шукаць магчымасьці, каб як найхутчэй і

без асаблівага гвалту распусьціць канфэдэрацыю. Ці думаў ён, чым можа скончыцца ўсялякая дзейнасьць супраць Братэрскага хаўрусу? Пакуль Гасеўскі сядзеў у няволі, яшчэ ў 1661 годзе на Полаччыне за адну спробу ўзяць пад кантроль канфэджратаў быў забіты «цнатлівы сярод цнатлівых» ротмістар Крыштап Адахоўскі і паранены паручнік абознага Акольскі.

Дывізія выбухнула сьляпым жаданьнем помсты, калі 22 лістапада на вайсковай сэсіі ў Волпе маршалак Катоўскі паказаў шыфраваны лічбамі ліст канцлера Паца, адрасаваны Гасеўскаму. Сумненьні імгненна адпалі — гэта змова! Канфэдэраты адразу ж вызвалі да Вільні свой аддзел на чале з Хлявінскім і Навашынскім, якім было загадана схапіць Гасеўскага разам зь ягоным хаўрусьнікам Жаромскім ды прывезьці ў абоз для суда, а калі тыя не паддадуцца — забіць. Палявы гетман абвінавачваўся ў самых цяжкіх грахох. Жаўнеры, прыкладам, лічылі, што яшчэ падчас маскоўскага палону Гасеўскі хмовіўся з царскім урадам аддаць у вечнае валоданьне за добрыя грошы Смаленшчыну і Севершчыну, а Масква паабяцала за гэта паставіць яго ваяводам на гэтых землях. Хадзілі чуткі, што палявых гетман хацеў разам з каралём хацеў запрасіць на Беларусь швэдаў, казакаў і татараў, каб падпарадкаваць канфэдэратаў сілай, а непакорных — пакараць сьмерцю. Быццам пацьвярджалі існаваньне гэтай змовы зьчесткі пра тое, што зь пісьмовага дазволу Гасеўскага й Жаромскага па Дзьвіне да Рыгі прайшлі стругі з маскоўскімі купцамі, а царскі дыплямат Нашчокін тым часам паехаў на сустрэчу да караля. Дзеля чаго? Ці не ў справе той змовы, якую пачаў плесьці Гасеўскі? Камэнданта палка з Друі, які прапускаў стругі да Рыгі, канфэдэраты адразу ж схапілі й прывезьлі да свайго кіраўніцтва ў Волпу.

Разгарачаныя жаўнеры праглі пометы. Конны аддзел паручнікаў Навашынскага й Хлявінскага — агулам 500 вершнікаў — зьявіўся ў сталіцы ўжо пад ноч на 25 лістапада. Даведаўшыся ад рэзыдэнта вайсковых дэпутатаў скарбавай камісіі палкоўніка панцырнай харугвы Невяроўскага, што Жаромскі ў кляштары кармэлітаў, частка канфэдэратаў пасьпяшалася туды. «Воля ўсяго войска такая, — запатрабавалі яны, — каб маршалак прыехаў у абоз і зрабіў справаздачу!» Жаромскі ўпіраўся, але мусіў ехаць. У дывізію яго не павезьлі. Па дарозе спачатку стукнулі абухом у лоб, а пасьля, каля Дубінак, што недалёка ад Вільні, пасеклі шаблямі й кінулі проста на шляху, не дазваляючы хаваць цела. Гэта дзеля таго, «каб усім скарумпаваным быў страх!»

А раніцай Хлявінскі, як добры знаёмы гетмана, бязь цяжкасьцяў увайшоў у дом Гасеўскага і таксама давёў да ведама рашэньне войска: ехаць у абоз для адказу. Гетман тлумачыў, што вельмі нядужы (ён сапраўды быў хворы), ды не хацеў пакідаць свайго пакою, але Хлявінскі ультыматыўна патрабаваў ехаць. Абараніць Гасеўскага не было каму: пяхота, якая вартавала цэлую ноч, пад раніцу пайшла адпачываць.

Гадзіне а восьмай, калі яшчэ не разьвіднела, канфэдэраты, пасадзіўшы гетмана ў карэту, пад канвоем ужо вывозілі яго зь Вільні. 29 лістапада канвой спыніўся каля мястэчка Астрына, што ў Лідзкім павеце, недалёка ад ракі Котры. Натоўп жаўнераў адразу ж шчыльна абступіў карэту з

асуджаным Гасеўскім. Проста ў вочы яму выгаворвалі абвінавачаньні ў здрадзе айчыне й войску, кідалі гідкія абразы, загадвалі рыхтавацца да сьмерці. А ён, зусім безаба ронны, апэляваў адно да лі-тасьці, справядлівасьці: «Я, будучы шмат гадоў гетманам, апошняга пахолка без судзьдзі не скараў, а вы мяне, гетмана, так забіць хочаце?!»

На кучы каменьня пад старым крыжам Гасеўскага прымусілі спавядацца ксяндзу. Але потым і гэтае палічылі непатрэбным. Паручнік Навашынскі раптам стрэліў проста ў галаву гетману. Гэта быў першы стрэл, які абарваў малітву Гасеўскага. Пасьля, як ён ужо зваліўся долу, пачалі страляць іншыя. Стра-лялі яшчэ й яшчэ, ажно пакуль не зьнявечылі цела. Так загінуў герой шмат якіх бітваў, мужны й непахісны абаронца айчыны, якому да-вялося перажыць больш чым трохгадовы маскоўскі палон, — загінуў як здраднік, ад свайго ж войска, якое ка-лісьці гэтак яго любіла.

Адводзячы душу, жаўнеры хацелі яшчэ й пасекчы цела Гасеўскага але ксёндз не дазволіў гэтага. Так яно й ляжала, кінутае проста ля дарогі, пад вялізным крыжам, ажно пакуль не прыехала прыслуга палявога гетмана. Нябожчыка адвезьлі да Астрыны, а ўжо адтуль адправілі ў Вільню, да ягонай жонкі й дачок — Зосі й Тарэзы.

«Цела мае... каб ля ног бацькоў маіх было пахаванае... без усялякіх помпаў, коштаў і шыкаў...» Гэтак запісаў ён у тэстаманьце ў 1661 годзе, калі, седзячы ў маскоўскім палоне, страціў усялякую надзею вярнуцца на айчыну. Цяпер удава спошніла запавет. Пахавала яго ў саркафагу ў касьцёле Сьвятога Казіміра побач з крыптай, у якой



ляжаў бацька Аляксандар Гасеўскі, знакаміты смаленскі ваявода. Даўгі надпіс на чорным мармуровым надмагільлі амаль два стагодзьдзі дарогі, пад вялізным крыжам, апавядаў пра справы й годнасьці гетмана. Пакуль помнік не разьбілі ў 1840 годзе чужынцы, перарабляючы касьцёл на царкву...

А што ж бунтаўнікі-канфэдэраты?

Забойства палявога гетмана было здарэньнем, яшчэ нечуваным ва ўсёй Рэчы Пас-палітай. Злачынства канфэдэратаў адштурхнула ад іх сымпатыі шмат каго з былых прыхільнікаў. Дый сярод самога Братэрскага хаўрусу адразу пачаўся разлад. Радыкальнае кола, якое несла адказнасьць за забойства, засталося ў абсалютнай меншасьці. Жмудзкая дывізія ўскладала ўсю віну на правае крыло, паколькі Катоўскі, Хлявінскі й Навашынскі былі з арміі Паўла Сапегі. Аднак да інсьпіратараў расправы належаў і афіцэр дывізіі левага крыла Невяроўскі. У тых умовах, перажываючы маральны крызыс, войска Вялікага Княства Літоўскага зноў разь-дзялілася і ў студзені 1663 году адыйшло на зімовыя кватэры: жмудзкая дывізія — на Жмудзь, а сапежьнская — на Беларусь, на памежжа Віленскага й Наваградзкага ваяводзтваў.

Вось тады абозны Міхал Пац, сваяк забітага гетмана, інтуітыўна адчуў, што настаў момант дзеяньняў. Сапраўды, хітры й рашучы Пац, якога Катоўскі пры кожнай нагодзе небеспадстаўна называў «ворагам шляхецкай свабоды й залатой вольнасьці», нарэшце атрымаў рэальную магчымасьць захапіць уладу над разгубленымі жаўнерамі цэлага жмудзкага войска. Спачатку ён схіліў на свой бок большасьць афіцэраў, а пась-

ля зь невялікім аддзелам уначы раптоўна зьявіўся ў Вільні, схапіў забойцаў, у прыватнасьці, — Невяроўскага, Хлявінскага (Навашынскі пасьпеў уцячы ў Маскоўскую дзяржаву), лідэра канфэдэратаў Катоўскага, і авалодаў артылерыяй. Наступнага дня, 24 красавіка, усё кіраўніцтва мяцежнай дывізіі паддалося й прысягнула на вернасьць Рэчы Паспалітай. Войска цалкам адцуралася арыштаваных злачынцаў і 5 траўня 1663 года падпісала пагадненьне з каралеўскай камісіяй, паводле якога канфэдэрацыя распускалася. Пры гэтым усім жаўнерам, якія ўваходзілі ў Братэрскі хаўрус, за выключэньнем забойцаў палявога гетмана, гарантавалася амністыя. У рад паабяцаў выплаціць войску 5 мільёнаў злотых (увесь жа доўг складаў блізу 13 мільёнаў). Гэтак дайшло да канчатковага ўтаймаваньня мяцежнай дывізіі. Акт утварэньня канфэдэрацыі, падпісаны пад Палудавічамі на Полаччыне ўвосень 1661 году, быў спалены. Войска падпарадкавалася законнай уладзе. Праз які месяц удалося зьліквідаваць канфэдэратаў і ў дывізіі правага крыла, якой кіраваў вялікі гетман Сапега. Так што сьмерць палявога гетмана абярнулася канцом Братэрскага хаўрусу.

Толькі цяпер армія магла наступаць. Аднак час быў незваротна страчаны, а разам зь ім — і шанцы на перамогу. Восеньска-зімовая выправа на Севершчыну сарвалася. Пацягнуліся перамовы, якія ажно праз два гады скончыліся кампрамісным пагадненьнем у Андрусаве.

Калі ўсталявалася чарговае зацішша на фроньце, урад вырашаў лес забойцаў Гасеўскага. Суд адбыўся ажно на-прыканцы 1664 году ў Варшаве. Чатырох — Катоўскага, Наркевіча, Невяроўскага й Ястрэмбскага — засудзілі на сьмерць. Каралі іх 3 студзеня 1665 году пры зачыненых брамах, атачыўшы рынак моцнай аховай пяхоты. Палкоўніку Невяроўскаму і Катоўскаму адсеклі галовы, пасьля чаго — чвартавалі целы. Наркевіча і Ястрэмбскага толькі абезгаловілі. А вось галоўны злачынца Навашынскі ацалеў ва ўцёках. Хоць яго й выдалі пазьней Рэчы Паспалітай, забойцу пасадзілі ў вязьніцу і, падобна што, сьмерцю не каралі.

*Андрэй Шпунт*

# Беларускі палкоўнік Канстанцін Паклонскі

Імя Паклонскага грымела па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Але што мы ведаем пра яго сёньня? Хто ён? Авантурнік? Шукальнік багацьця й славы? Адважны, хітры, жорсткі і крывадушны, як Багдан Хмяльніцкі, ці высакародны рыцар і змагар за ідэю, як Януш Радзівіл? Здаецца, у ягонай постаці дзіўным чынам спалучаліся ўсе гэтыя якасьці.

Ротмістар войска ВКЛ Канстанцін Вацлаў Паклонскі паходзіў з праваслаўнай беларускай шляхты гербу «Сьлепаўрон». Калі нарадзіўся і дзе — невядома. Магчыма, перад тым, як род падпаў пад польскі ўплыў, першым прозьвішчам продкаў было Вадзгір, якое потым стала прыдомкам. Продкі са Жмудзі, пазьней асядаюць у Пінскім павеце, а Канстанцін Паклонскі зьяўляецца ўжо ў Магілеве. З Магілевам зьвязана яго бліскучая, хаця і кароткая кар'ера.

Багацьцем Магілеў тады не саступаў Вільні й рэальна быў другім па значнасьці горадам Вялікага Княства. Магілеўцы заўсёды праводзілі хітрую палітыку ў дачыненьнях са зьнешнім сьветам і граблі пад сябе. Адсюль спэцыфічны магілеўскі сэпаратызм, за які ўрэшце прыйшлось цяжка расплочвацца. Магілеўцам што Літва, што Маскоўшчына — толькі б ня рушылі гарадзкіх вольнасьцяў. Гэтыя ўласьцівасьці места важныя для разуменьня паводзінаў Паклонскага.



Упершыню мы бачым Паклонскага на гістарычнай арэне ў чэрвені 1654 году, пад час нападу Маскоўшчыны на Рэч Паспалітую. У Маскве гэты чалавек быў вядомы як лідэр праваслаўнай партыі, і, здаецца, толькі й чакаў пачатку агрэсіі, каб пачаць дапамагаць усталёўваць «новы парадак», пра які ні ён, ні тыя, хто быў зь ім, ня мелі рэальных уяўленьняў. Існаваньне пад рукой маскоўскага цара, разам з братаміадзінаверцамі бачылася ў ружовым сьвятле. Ілюзіі пройдуць, але гісторыя паўторыцца. Тыя, хто гэтага не зразумеюць, давядуць краіну да катастрофы 1795 году.

5 ліпеня 1654 году Паклонскі з чатырнаццацьцю прадстаўнікамі ад шляхты і мяшчанаў Магілева пакідае горад і прыбывае ў стаўку наказнога гетмана ўкраінскага войска, палкоўніка Нежынскага палка і швагра Хмяльніцкага Івана Залатарэнкі. Казацкі правадыр адсылае перабежчыкаў да свайго кіраўніцтва ў табар пад Багуславам. Хмяльніцкі сустрэў беларусаў з адбымкамі. Гэтай хітрай лісе ўсё адно — што шляхта, што габраі. І тых і другіх ён варыў у кіпні і зьдзіраў жыўцом скуру, але прапагандысцкія мэты патрабавалі надзець маску шчырага сябра.

Хмяльніцкі добра разумеў значэньне пераходу магілеўскай шляхты, пра што сьведчыць ягоны ліст да цара Аляксея Міхайлавіча. «...Пришол к нам в войско шляхтич КонстантинЮрьевич Поклонский из Литвы, из повета Могилёвского — нашие веры православные, за которую и он много пострадал от супостатов наших... Да пожалует его твоё царское величество правами и добрами теми, которые он держал первые при королях польских и предки его держали. Изволь

твоё царское величество в том сем пожаловать его... дабы великую милость государскую и прочая шляхта поддавалися...»

З гэтым лістом Хмяльніцкі адсылае Паклонскага да цара пад Смаленск.

Аляксей Міхайлавіч прыняў перабежчыка на царскую службу ў званьні беларускага палкоўніка й пажалаваў яму 100 рублёў. Удзячны й шчасьлівы Паклонскі хутка набраў войска адну тысячу пяхоты й 100 вершнікаў 6 жніўня здабыў Чавусы, а праз тыдзень ужо быў пад мурамі Магілева разам з арміяй ваяводы Міхаіла Ваейкава.

Горад пратрымаўся зусім нядоўга, асабліва дзякуючы байкам ігумена Куцеінскага манастыра Іаіля Труцэвіча, вельмі падобнымі да тых, што распаўсюджвае сёньняшняя пятая калёна. 25 жніўня Ваейкаў піша цару: «... а ляхи, государ, и жиды били челом, чтоб их выпустить совсем из Могилёва в Польшу. Вся чернь за здачу...» Праз тры дні горад капітуляваў.

Войска Паклонскага дасягнула 6 тысячаў, і па колькасьці не саступала ўсёй арміі ВКЛ, пра адраджэньне якой пасьля цяжкіх паразаў абвясьціў найвышэйшы гетман літоўскі Януш Радзівіл. Беларускі палкоўнік набывае ня толькі ўплыў, але й багацьце.

Аляксей Міхайлавіч добра засвоіў прапанову Хмяльніцкага, і дарункі сыпяцца як з рогу. У верасьні Паклонскі атрымлівае двор у Магілёве, горад Чавусы, вёскі — Баждынічы, Забалоцьце, Ялавое і Старасельле. У лістападзе за ўзяцьце Крычава зноў узнагароды — вёскі Пуцкі, Галачэва і Сьвятазёры.

Яшчэ да ўзяцьця Магілева ў Паклонскага пачаўся канфлікт з украінскімі казакамі. Залатарэнка гаспадарыць ва Ўсходняй Беларусі зьнішчаючы і рабуючы ейныя паветы. Паклонскі дзе толькі можа выцясьняе казакаў з акупаваных абшараў і не дазваляе праводзіць вярбоўку. Магчыма, употай наш авантурнік спадзяецца вызваліць Беларусь ня толькі ад запарожцаў, але й ад царскіх ваяводаў, бо пачынае разумець сапраўдныя намеры чужынцаў. З ілюзіямі раставацца цяжка, і далей ён ужо ашуквае сябе ды спрабуе супакоіць сумленьне.

Залатарэнка стаў Паклонскаму як костка ў горле. Ня вельмі разлічваючы на свае сілы, беларускі палкоўнік засыпае Аляксея Міхайлавіча лістамі, у якіх піша, што: «Золоторёнак на меня гневается, что есть вашей царской милости без кровопролития место Могилёв и место Чаусы с иными силами до того привратил; написал бы до него, чтоб до меня дела не имел, и моих бы казаков к себе не принимал и не вступался в уряд Могилёвский и Чауский».

Да Паклонскага даходзяць чуткі, што нежынскі палкоўнік зьбіраецца яго забіць. Даводзіцца зноў пісаць да цара, каб слаў ратных людзей для аховы, бо са сваім войскам цяжкасьці — Залатарэнка ня толькі праводзіць вярбоўку ў Беларусі, але яшчэ пагрозамі прымушае казакаў Паклонскага пераходзіць на свой бок, ды й наогул, па Магілеўшчыне стала небясьпечна езьдзіць — вакол залатарэнкаўскія засады. Дайшло да таго, што Паклонскі пад пагрозаю сьмерці забараніў магілёўскім купцам ўсялякія зносіны з Запароскай Сеччу. Цяпер ён мусіць змагацца на два фронты. Ад верных людзей ён атрымлівае сьпісак зь ліста свайго былога пратэктара Хмяльніцкага: «Понеже тот Поклончик не отзы-

ваецца запорожским казакам и до твоего полку не хочет смириться, чтоб о нём промышлял, хотя ко мне отошли, или так ево как ни есть изведи; а что ни есть имеет, от нас имеет...».

Пад конец 1654 году Паклонскі ўсёж здолеў выціснуць Залатарэнку з Магілеўшчыны. Прыйшла чарга маскоўскіх стральцоў. Дзяржаўны акольнічы Іван Алфер'еў ў адпісцы ад 1 сьнежня паведамляе, што казакі Паклонскага б'юць «государевых людей». Паклонскі жа са свайго боку сутыкненьні з маскоўцамі падаваў проста як асобныя непаразуменьні, і выходзіў сухім з вады.

У студзені 1655 года Януш Радзівіл вырашыў узяць рэванш ды рушыў на Магілеў. Паклонскі даведаўшыся пра гэта, пасьля некалькіх нязначных сутычак з войскамі ВКЛ, таксама пасьпяшаўся ў горад. Хто такі найвышэйшы гетман ведалі ўсе. Хворы й фізычна слабы, ён са сваім палкаводчым геніем мог супрацьстаяць тысячам здаровых і магутных ворагаў. Таму магілеўцы, яшчэ ў поўнай меры ня зьведаўшы прывабнасьцяў новага рэжыму, але і дабра ня пабачыўшы, пачалі зноў падумываць: што лепей? Змагацца ці здацца? Паклонскі ўпэўнены: трапіць да «сваіх» — учыняць як са здраднікам, таму, падмацаваўшы свае довады дзідамі казакаў, прымушае жыхароў рыхтавацца да абароны.

Перад прыходам Януша Радзівіла, пад Магілевам адбываецца трагедыя, галоўным выканаўцам якой быў Паклонскі. Звычайна падаецца, што ён быў яшчэ й аўтарам, і натхняльнікам. Напрыклад, у грунтоўным «Польскім слоўніку біяграфічным» чытаем: «...схіляў мяшчанаў выгнаць з горада ўсіх габраеў, якіх абвінаваціў у супрацоўніцтве зь літвінамі. Частку зь іх загадаў зьнішчыць і абрабаваць, частку прымусіў да прыняцьця праваслаўя».



Не зьбіраюся выступаць у ролі адваката беларускага палкоўніка. Проста факты дазваляюць інакш паглядзець на ролю Паклонскага ў той справе. Апрача таго, трагедыю магілеўскіх габраеў трэба разглядаць у кантэксце генацыду габраеў, які распачаў ў 1648 годзе на ўсходзе і поўдні Рэчы Паспалітай Багдан Хмяльніцкі. Каб лепш зразумець месца Паклонскага, трэба адхіліцца ад тэмы ды коратка закрануць праблему габраеў у Рэчы Паспалітай, іх адносіны з астатнім насельніцтвам.

З часоў Жыгімонта ІІ Старога пачынаецца моцны прыток габраеў у Карону і Вялікае Княства. Кароль і шляхта вельмі зацікаўленыя ў імпарце габрайскіх капіталаў. Да вайны 1648-1667 гг. габраі жылі ў Рэчы Паспалітай бясьпечна, як нідзе ў Эўропе. Рэлігійная талеранцыя і прагрэсіўныя законы адчынялі вялікія магчымасьці. Шляхта, натуральна, дыктавала ўмовы. Але мяшчане й сялянства пры падтрымцы духавенства былі большасьцю, тым асяродзьдзем, у якім даводзілася жыць габраям і якое ня мела да іх аніякай сымпатыі.

Калі ў Заходняй Эўропе буржуазія паступова пачынала цясьніць арыстакратыю, браць гандаль у свае рукі, дык у нас усё было наадварот. У барацьбе са шляхтай мяшчане ўвесь час церпяць паразы. Эканоміка, гандаль кантралююцца габраямі — як прадстаўнікамі шляхты, як пасрэднікамі між шляхтай і астатнім насельніцтвам. Ліхвярствам, якое лічылася

хрысьціянамі самай «бруднай» справаю, таксама займаюцца пераважна габраі. З габраямі мяшчанам было змагацца лягчэй і прасьцей, чым са шляхтаю — бо вось яны, пад бокам, ды й Касьцёл падтрымлівае.

Другая вялікая група, з якой сутыкнулася габрайства, — казацтва. Як пісаў прафэсар Брэслаўскага ўнівэрсітэту Генрых Грэц: «У гнюсным асьляпленьні... габраі палічылі магчымым зьявіцца саўдзельнікамі ды памагатымі шляхты й езуітаў у справе заняволеньня казакаў... Магнаты прагнулі пераўтварыць вольных казакаў у сваіх прыгонных, езуіты — перавярнуць праваслаўных у рыма-каталікоў, а тамтэйшыя габраі ў выніку гэтага — абагаціцца. Яны давалі ўладарам калёніяў* казакаў парады, як прыгнятаць, прыціскаць, зьнявольваць апошніх, разыгрывалі ролю судзьдзяў над імі, абражалі іх у царкоўных справах. Няма нічога дзіўнага ў тым, што зьняволеныя казакі ненавідзелі габраеў яшчэ больш за памешчыкаў і ксяндзоў, бо мусілі найчасьцей сутыкацца з габраямі... Крывавая адплата была непазьбежная і абрынулася як на вінаватых, так і на бязьвінных, на апошніх, можа, мацней, чым на першых».

Выбух грымнуў у страшным 1648-м. Увесь поўдзень і ўсход Рэчы Паспалітай апынуўся ў полымі грамадзянскай вайны. У тым жа годзе памёр кароль Уладзіслаў, якога Хмяльніцкі яшчэ неяк шанаваў. На працягу колькіх месяцаў, як гэта звычайна бывала ў такіх выпадках, трывала міжкаралеўе, а папросту — анархія. Краіну спаралізавала.

* Так у Грэца:»пасяленьняў, вёсак, станіц».



Спачатку Хмяльніцкі адступіў, выказваючы жаданьне ўступіць у перамовы з Каронай, але ў той самы час даў дазвол сваім падначаленым спусташаць край. Стварaліся сапраўдныя банды гайдамакаў* пад кіраўніцтвам такіх садыстаў як Крыванос, Ходкій, Ганя, Нябаба, Маразенка ды іншых, асобы якіх былі гераізаваныя ў савецкай гістарыяграфіі.

З габраямі ў Хмяльніцкага былі свае ўласныя рахункі. Адзін пазбавіў яго маёмасьці ды жонкі, другі данёс на яго, калі ён увайшоў у зносіны з татарамі. 10 ліпеня 1648 году было чырвонае ад крыві — у гэты дзень было цалкам высечаная габрайскае насельніцтва шмат якіх гарадоў і мястэчак у Рэчы Паспалітай.

Натан Гановэр, заслаўскі габрай, якому ўдалося вырвацца з таго пекла, у 1653 годзе ў Венэцыі надрукаваў кроніку «Дрыгва глыбокая, ці Дрыгва казацкая». Са старонак кнігі патыхае ледзяным жахам. З адных габраеў зьдзіралі жыўцом скуру, і кідалі сабакам, іншым адсякалі рукі і ногі, а целы кідалі на дарогах, цяжарным жанчынам успорвалі жываты, дзяцей секлі на кавалкі, як рыбу, ці насаджвалі на ражон і, засмажыўшы на агні, прымушалі матак есьці іх мяса... Магілеўскія мяшчане былі самымі звычайнымі антысэмітамі, праўда, у адрозьненьне ад казацкай вольніцы, іх можна было б назваць гэткімі рэспектабельнымі бюргерамі, яны не хацелі (ці ім духу не хапала) апусьціцца да пагромаў, таму габраеў ніхто не чапаў ні ў 1648-м, ні ў наступныя гады.

Маючы некаторыя ўяўленьні аб казаках, няцяжка здагадацца, што было б з магілеўскімі

* Гайдамак (польск. уст. Hajdamak — разбойнік, рабаўнік)

габраямі адразу ж пасьля ўваходу ў горад жаўнераў Паклонскага. Але тады не здарылася нічога, і гэта нягледзячы на ўказ Аляксея Міхайлавіча пра высяленьне габраеў з Магілеву. Мяшчанства не дае Паклонскаму праходу: «Збаў нас ад габраяў!». Той абяцае, а далей справа не ідзе. Ці лянота яму была, ці рукі не даходзілі, ці яшчэ штосьці , а гэта ж было зусім няцяжка.

Паход Януша Радзівіла на Магілёў прымусіў Паклонскага вырашаць габрайскае пытаньне. Падставаю для высяленьня іх з гораду была ня толькі незадаволенасьць мяшчанаў, але яшчэ і ваенная неабходнасьць. Лічылася, што «великое многолюдство» будзе перашкаджаць абароне. Час быў ваенны, расправа кароткая, а тут яшчэ дайшлі весткі, што габраі супрацоўнічаюць з Радзівілам. Вось тут іх як здраднікаў вывялі за горад і перабілі (некаторыя габраі ўсё ж захавалі жыцьцё, прыняўшы праваслаўе).

На пачатку 1655 году Януш Радзівіл пачаў аблогу, якой вельмі перашкаджалі моцныя маразы, дрэннае забесьпячэньне і хвароба гетмана. Каб пазьбегнуць крыві, Радзівіл дасылае Паклонскаму ліст з прапановай перайсьці на бок Вялікага Княства, на што атрымлівае згоду. Незадоўга перад тым беларускі палкоўнік атрымаў Вялейку, Лазараўку і Заходы, але гэта ўжо ня мела аніякага значэньня.

Маскоўскія парадкі аказаліся сапраўднай азіяцкай дэспатыяй. Ён, які схіляў галаву толькі перад Богам, так і ня змог назваць сябе царскім халопам. Нагледзеўся ён і на самадурства маскоўскіх ваяводаў. Ужо пасьля вяртаньня да сваіх у лісьце ад 24 сакавіка 1655 году да ўласнага заклятага ворага Залатарэнкі Паклонскі напіша: «Я хотя имелся и добре у царя его милости, однако смотря на неволю трудно было, не только мирских, но и духовных наших забрали в неволю, и в лучшей волносци за ляхами пребывали если, нежели ныне живут наши. А что моё оно видело, какие безделья над честными жёнами и девицами чинили, чего вяще отмщением будет Господь Бог сам...»

Маскоўскія войскі надоўга захрасьлі ў Рэчы Паспалітай. Бліцкрыгу не атрымалася, а надзеі Паклонскага на стварэньне на акупаваных абшарах аўтаномнай рэспублікі пад яго кіраўніцтвам, дзе паважаліся б шляхецкія вольнасьці, аказаліся нерэальнымі. Наўрад ці ён вярнуўся толькі з-за ваенных неудач Маскоўшчыны. Хутчэй да гэтага прывёў шэраг прычынаў, якія ўжо пералічваліся.

Калі Паклонскі зразумеў, што яму няма месца ні на Бацькаўшчыне, ні ў Маскоўшчыне, думаў, нават каб паехаць у Кіеў і стаць законьнікам. Ліст ад Радзівіла вяртаў надзею на дараваньне. 5 лютага 1655 году пад час аднаго з прыступаў, Паклонскі на чале 400 шляхцічаў вяртаецца да суайчыньнікаў. Частка маскоўцаў трапіла ў пастку і была перабітая — «государевых» людзей з трыста ды казакаў з тысячу.

Глыбінныя матывы ўчынкаў Паклонскага нікога ў той неспакойны час не цікавілі. Таму новыя яго заклікі пераходзіць на бок Рэчы Паспалітай ня мелі вынікаў. Перабежчыкам, стаў здраднікам яшчэ раз.

Трохі ўмацаваўшы, Радзівілава войска зрабіла яшчэ некалькі марных спробаў вярнуць

Магілеў, і 10 красавіка вымушанае было адступіць. Магілеўцы перахітрылі самі сабе — зьберагглі горад дзеля таго, каб сем год цярпець ад маскоўскай залогі.

Паклонскі, маючы патрэбу апраўдвацца ня толькі перад сваімі, але і перад супрацьлеглым бокам, піша да аднаго з маскоўскіх саноўнікаў. Да нас дайшоў урывак зь ліста, датаванага, магчыма, сакавіком 1655 году. У гэтым лісьце палкоўнік спасылаецца на небясьпеку царскай няміласьці, выхад з абложанага гораду матывуе тым, што выратаваў шмат мяшчанаў ад царскага мяча. «...И о едином коне на ночь за Днепр выехал; ажно в ночи заскочили меня от войска литовского. Бога моево благодаря, што не убит, угодил Господь Бог завистливым людям, што радуются, что есть всего того не взял угодил и мне, всё что имел от царя его милости назад возвратилось и не есть там долею обязан благодеянием».

Пасьля адыходу войскаў Княства ад Магілева Паклонскі яшчэ нейкі час самастойна дзейнічае са сваімі валанцёрамі ва Ўсходняй Беларусі. Але Радзіма даравала. На Сойме 19 травеня 1655 году Паклонскаму разам з «шляхтай, якая зь ім назад павярнула», былі пажалаваныя грамадзянскія правы. Як пісаў Урускі ў сваім Гярбоўніку»: «Канстанцін — вярнуўся пад харугвы Бацькаўшчыны і адзначыўся рыцарскай доблесьцю».

Пакуль войскі Літвы і Кароны мужна стрымлівалі ў шмат разоў большыя сілы маскоўскага агрэсара, швэдзкі кароль Карл-Густаў нанёс удар у сьпіну. У чэрвені 1655 году фэльдмаршалы Вітэмберг і Кёнігсмарк пачалі імклівы рэйд у глыб краіны. Швэды хлынулі з поўначы на поўдзень моцным горным патокам які ўжо немагчыма было стрымаць. Гэты перыяд у гісторыі Рэчы Паспалітай мае вобразную назву — Патоп. Маскоўцы, атрымаўшы нечаканую падтрымку, 8 жніўня ўваходзяць у Вільню, учыніўшы дзікую разьню. Помста за 1612 год была жахлівая — горад гарэў 17 дзён. Недзе палова жыхароў загінула ад агню і мячу.

Ваеннае шчасьце адвярнулася й ад Паклонскага. У тым жа месяцы ён церпіць паразу пад Барысавам ад ваяводы Барацінскага, у жніўні пад Койданавам, і, нарэшце яго аддзел быў дашчэнту разьбіты пад Ашмянамі Залатарэнкам. Але нежынскі палкоўнік, жорскі гвалтаўнік беларускага народу, нядоўга будзе сьвяткаваць перамогу — увосень загіне ад кулі пад час аблогі Старога Быхаву.

Пасьля бітвы пад Вільняй Паклонскі разам са сваім дабрадзеем Янушам Радзівілам падаўся да Кейданаў. Радзівіл зь дзьвюх бедаў выбірае меньшую — швэдаў. У Кейданах 18 жніўня ён падпісвае пагадненьне, аддаючы Вялікае Княства пад пратэктарат Карла-Густава.

Спроба выратаваць краіну абарочваецца абвінавачаньнем у здрадзе. Аўтарытэт гетмана сярод шляхты падае. Калі ён з палутаратысячным войска пайшоў з Кейданаў на Вільню, усе жаўнеры разьбегліся ад яго. Паход да Варшавы таксама ня ўдаўся. 31 сьнежня 1655 году Радзівіл памёр у Тыкоцінскай крэпасьці, абложанай войскамі Паўла Сапегі.

Паклонскі разьвітваецца з гетманам яшчэ ў першай палове кастрычніка. У складзе вялікай часткі войска Вялікага Княства ён ідзе да Прусіі,

дзе быў завербаваны ў армію электара* Фрыдрыха-Вільгельма. Не мінула й году, як мусіў вярнуцца на Бацькаўшчыну, бо электар здрадзіў Рэчы Паспалітай. У адказ Паклонскі бярэ удзел у паходзе на Прусію, арганізаваным падскарбім і палявым гетаманам Вялікага Княства Літоўскага Вінцэнтам Гансеўскім. 22 кастрычніка 1656 году Паклонскі ўдзельнічае ў бітве са швэдамі, якую літвіны прайгралі. Ён трапіў у палон і быў кінуты у Мальборкскую фартэцу. Калі яго выпусьцілі, дакладна невядома. Яшчэ ў 1658 годзе ён знаходзіўся ў швэдаў, спадзяючыся на хуткую свабоду — калі будуць абменьваць палонных.

Паводле артыкула гісторыка Анджэя Рахубы ў «Польскім біяграфічным слоўніку» пасьля палону кар'ера беларускага палкоўніка скончылася, бо на вайсковую службу ён больш не вярнуўся. Але захавалася перапіска Паклонскага з каралём Янам Казімірам, з якой мы даведваемся, што гэта не зусім ня так, бо да вызваленьня Бацькаўшчыны ён усё ж спрычыніўся.

У лісьце ад 6 траўня 1660 году кароль дае яму дазвол на фармаваньне палка за кошт дзяржавы. Паклонскі адказвае 27 ліпеня ў абозе пад Пачапавам, што ён лічыць за лепшае ў час, калі Бацькаўшчына гіне (pro patria qvam patria mori), чвэрць сваіх уласных сродкаў выдаць пачтовым**, каб са скарбу грошаў ня браць. А 2 жніўня заклікае зьбірацца пад яго каманду ахвотнікаў, узброеных па-райтарску, драгунску і казацку,

* Электар (лац. elector выбаршчык) — у «Свяшчэннай Рымскай імперыі курфюрст (ням. Kurfьrst —князь-выбаршчык), імперскі князь, упаўнаважаны з XIII ст. да 1806 года абіраць германскага караля.

** Пачтовы (польск. гіст. Pocztowy) — шараговы (у кавалерыі)



каб дзейнічаць у Беларусі, дзе ён абяцае замест скарбовых грошаў багатую здабычу. На той дзень палкоўнік меў 8 харугваў пяхоты і 10 харугваў кавалерыі, якія былі сфармаваныя й узброеныя яго коштам*.

Хаця Паклонскі і кінуў Януша Радзівіла ў цяжкую хвіліну, у віну яму гэта ня ставілася, што пацьвярджае тэстамэнтам ад 1661 году жонка пакойнага гетмана Марыя Лупу, гаспадарыня малдаўская: «...таксама... староства Быстрыцкага ЯМці** пану Вацлаву Канстанціну Паклонскаму — палкоўніку ЯКМці***, якому рэспэктам засгуг яго годнацй памяці князю ЯМці майму мужу і дабрадзею майму нямалы час ім аддадзеных...» Тады, магчыма, Паклонскі й атрымаў даўгачаканы пакой — кароткі перадых перад Вечным супакоем.

Ён памёр перад 1663 годам. Да заканчэньня вайны заставалася яшчэ чатыры гады...

* Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд 1733, вопіс 1, справа 1, арк. 315-318

** ЯМці — Яго міласьці.

*** ЯКМці — Яго Каралеўскай міласьці,

*Андрэй Шпунт*

## Юда Макавэй Рэчы Паспалітай

### Герой вызвольнага паўстаньня 1794 году палкоўнік габрайскага палка лёгкай кавалерыі Берэк Ясялйвіч

...Прадмесьце Прагі, заслоненае габрайскім рэгімэнтам*, здабытае штурмам; усё загінула пад ударамі мяча. Назаўтра цэлы полк быў знойдзены на фартыфікацыях у вечным сьне; ні адзіны жаўнер ня зьбег перад пераклічкаю сьмерці. Тыя людзі заслугоўвалі быць французамі!..

*Дэпутат францускага міністэрства юстыцыі Сальвэртэ — у адказ на антысэміцкія выпады дэ Манціні ў 1830 годзе.*

Расейскаму панаваньню прыйшоў канец. Генэрал Мадалінскі, шэф брыгады Нацыянальнай кавалерыі, ударыў першым на чале 10 швадронаў**. Выкліканая гэтым сьмелым учынкам бура дакацілася да старажытнай сталіцы Кароны — Кракава. Вільня яшчэ рыхтуецца, а Малая Польшча ўжо лікуе. Генэрал Андрэй Тадэвуш Банавэнтура Касьцюшка прыносіць прысягу і выдае Акт, абвяшчаючы паўстаньне па ўсёй Рэчы Паспалітай. У рух прыйшлі ўсе народы на вялікіх абшарах Кароны і Вялікага Княства.

Пад Актам паўстаньня 1794 года стаяў шэраг подпісаў. Сярод іх — імя аднаго габрая, які лічыў,

* Рэгімэнт (ням. Regiment — поўк), афіцыйная назва паўка у пяхоце і гвардыі войска Вялікага Княства Літоўскага.

** Швадрон (ням. Schwadron — эскадрон) — кавалерыйская адзінка, складалася зь дзьвюх харугваў; 1 харугва — 100 вершнікаў.



што яго народ ня мае права быць пасыўным назіральнікам, калі Бацькаўшчына гіне. Гэта быў былы камісіянэр* віленскага біскупа Масальскага, гандляр канямі і пастаўшчык фуражу, жыхар варшаўскага прадмесьця — Прагі, Бэрэк Ясялевіч.

Родам Ясялевіч з Жамойці, тут ён убачыў сьвет у 1764 годзе ў Крэтынзе, што за тры мілі ад Палангі, у сям'і Ёсла. З самага маленства адрозьніваўся вялікай жывасьцю характару. Замест таго, каб спраўна хадзіць у хедэр, не зьвяртаючы ўвагі на парады бацькоў і незадавальненьне настаўнікаў, Бэрэк дні навылет гуляў у ваенныя гульні, майстраваў драўляную зброю, праваказаў вулічныя бойкі, у якіх быў самым заўзятым удзельнікам.

Калі надышоў час выбіраць жыцьцёвы шлях, малады чалавек надта не вагаўся. Для Бэрэка, як габрая, шлях быў амаль што адзіны — гандаль. Прызвычаенаму заўсёды рухацца, яму прыйшоўся да густу такі від дзейнасьці як фактарства**. Хадзіць далёка было ня трэба, бо гаспадар, да якога ён вырашыў наймацца, быў уладаром Крэтынгі, і характар яго цалкам задавальняў гэткага ж пасыянарнага габрая.

Служба не абяцала быць сумнай. Каму ж прапанаваў ён свае паслугі? Хто ў Рэчы Паспалітай быў адным з самых вядомых авантурнікаў? Віленскі біскуп Ігнацы Якуб Масальскі.

Постаць Бэрэкавага патрона настолькі цікавая, што немагчыма не сказаць пра яго хаця

* Камісіянэр (лац. Comissio — даручэньне) — пасярэднік у зьдзелках.

** Фактарства (лац. Factor — робячы, вытвараючы)— блізкае паводле сэнсу да камісіянэрства; спасярэдніцтва паміж сваім патронам ды іншымі асобамі.

б некалькі словаў. Нягледзячы на забарону Касьцёла на азартныя гульні, біскуп літаральна не адыходзіў ад зялёнага сукна. Быў вядомы ўсёй краіне як дойная карова для вялікіх і малых шулераў. Біскупавы пройгрышы ацэньваліся дзясяткамі тысячаў залатых дукатаў. Дзеля дасягненьня ўласных мэтаў ня грэбаваў ніякімі сродкамі, не спыніўся нават перад нацыянальнай здрадаю — каб зьнішчыць сваіх ворагаў Чартарыйскіх, падаўся да расейцаў.

Зайздросьцячы буйным магнатам, стварыў полк уласнага імя з францускіх ахвотнікаў, розных нягоднікаў і іншых падазроных асобаў. У той самы час Масальскі быў чалавек высокаадукаваны, мэцэнат. Акружаў сябе людзьмі навукі й мастацтва, многім зь які дапамог у кар’еры. Шмат зрабіў для асьветы ў Рэчы Паспалітай.

Служба ў біскупа пайшла Бэрэку на карысьць. Разам з Масальскім ён падарожнічае па Эўропе, бывае ў Парыжы, Брусэлі. Дзякуючы гэтаму вывучыў некалькі моваў. Новы сьвет стварыў з засьцянковага хлопца чалавека сьвецкага. Філязофія францускіх асьветнікаў прыкметна ўплывае на Бэрэка, зрэшты, як і на тысячы яго раўналеткаў. Вярнуўшыся ў Рэч Паспалітую, ён, пазнаёміўшыся з поглядамі графа Мірабо, выступае за раўнапраўе габраяў у грамадзтве.

Тым часам краіна на хвалі эканамічнага ўздыму ідзе шляхам рэформаў. Чатырохгадовы Сойм 1789 году паступова зьнішчае фэадальныя перажыткі. Апроч іншага, даволі востра стаяла пытаньне аб габраях. Пасьля прыняцьця Канстытуцыі 1791 году зьяўляецца шэраг праектаў Калантая, Сташыца, Чацкага і інш.



Стаўленьні былі розныя. Напрыклад, вядомы патрыёт Станіслаў Сташыц, ведаючы незадаволенасьць мяшчанаў сваімі гандлёвымі канкурэнтамі, называў габраяў «саранчою края і вечнымі шкоднікамі». І ўсё ж, нягледзячы на працідзеяньне, габраі былі зраўняныя ў правах са шляхтаю. Наогул, адносіны да іх з боку шляхты былі ў асноўным зычлівыя, чаго нельга сказаць пра іншыя групы грамадзтва.

Каля 1788 году Бэрэк ужо даволі пабачыў у свае 24 гады і асеў у Варшаве на Празе: узяў шлюб, і пачаў гандляваць конямі. Так ён жыў да пачатку паўстаньня 1794 году, калі на карту было пастаўленае існаваньне Рэчы Паспалітай.

Пра ўдзел габраяў ў тых падзеях сьведчаньні даволі супярэчлівыя. На жаль, стаўленьне беларускіх габраяў да «інсурэкцыі», у адрозьненьне ад каронных, было пераважна ня толькі пасыўным, але нават варожым. Бэрэк, прасякнуты ідэямі Захаду, глядзеў на падзеі не як габрай, а найперш як грамадзянін Рэчы Паспалітай. Ён бачыў, што атмасфэра паўстаньня мабыць упершыню парушыла муры, якія аддзялялі габраяў ад хрысьціянаў.

Разам з рамесьнікамі, шляхтай, законьнікамі, жанчынамі й дзецьмі габраі працавалі на будаўніцтве ўмацаваньняў у Варшаве й другіх гарадах у найвялікшай згодзе і з найвялікшай напругаю. Тадэвуш Касьцюшка разьлічваў на дапамогу габрайства. Сярод усеагульнага ўздыму й лікаваньня ён прамаўляе палымяную прамову ў казімераўскай сынагозе (пад Кракавам). Але ж Бэрэка не задавальняе, што ўдзел габраяў у паўстаньні абмяжоўваецца галоўным чынам дапаможнымі працамі. Ён хоча прынесьці ка-

рысьць Бацькаўшчыне са зброяю у руках. Служба ў габрайскай міліцыі парадку — гэта для старых. Перад ім стаіць прыклад Аўстрыі, дзе ў часы імпэратараў Ёзафа II і Леапольда I тысячы габраяў бралі ўдзел у турэцкай кампаніі.

У самы цяжкі момант, калі ўжо амаль ніхто ня верыў у перамогу, Бэрэк зьвяртаецца да Касьцюшкі з прапановаю стварыць полк лёгкай габрайскай кавалерыі, на што 17 верасьня 1794 году атрымаў згоду і званьне палкоўніка. 1 кастрычніка агалошваецца ягоная адозва да суайчыньнікаў. Цікава, што габрай Ясялевіч упершыню назваў Рэч Паспалітую сваёй Бацькаўшчынай.

Наконт існаваньня палка ёсьць розныя думкі. Мне здаецца, што полк усё ж быў створаны, нягледзячы на тое, што яго назва не сустракаецца ў рэляцыях і ў сьпісе вайсковых частак, якія баранілі Варшаву. Польскі гісторык Корзан у сваёй капітальнай працы «Гісторыя Польшчы пры Станіславе Аўгусьце» выказвае сумнеў у існаваньні палка на падставе недахопу часу на яго арганізацыю. Грошы на патрэбы палка Ясялевіч узяў толькі 6 кастрычніка — 3.000 злотых ужо моцна абясцэненымі скарбовымі білетамі. Праз чатыры дні адбылася бітва пад Мацяёвіцамі, у якой Касьцюшка трапляе ў расейскі палон. Да гібелі дзяржавы застаецца прыкладна чатыры тыдні. За гэты тэрмін немагчыма было сабраць полк, ды яшчэ каб яго жаўнеры біліся пасьля страты Начальніка як «ільвы і леапарды» (да чаго заклікаў у сваёй адозьве Ясялевіч).

Другі дасьледчык, Эрнэст Лунінскі думае інакш. Яго зусім не зьдзіўляе раптоўнасьць збо-



ру палка. Ён спасылаецца на Кілінскага, які ў сваіх «Мэмуарах» піша, што наогул не атрымаў ад Касьцюшкі ні гроша на абмундураваньне, толькі званьне палкоўніка. Але, тым ня менш, змог сабраць ужо праз тры (!) дні пасьля адозвы 1780 чалавек.

Вайсковым фармаваньням, якія ліхаманкава ствараліся ў тыя дні, быў уласьцівы недахоп забесьпячэньня, абмундураваньня, дысцыпліны. Але трэцяе не датычыла палка Ясялевіча. Бэрэк валодаў талентам арганізатара і сілай пераконваньня. Яго падначаленыя былі спаяныя дысцыплінаю ў адно цэлае.

Пра тое, што полк існаваў і пра доблесьці ягоных валанцёраў гаворыць Граецкі ў «Трактаце аб Габраях» і Б. Вышынскі ў «Рэформе народу Ізраіля». Аддзел Бэрэка складаўся прыблізна з 500 шабляў, гэта 5 харугваў ці 2,5 швадрона. Безумоўна, з такой колькасьцю людзей, плюс яшчэ 5-ы і 7-ы літоўскія рэгімэнты генэрала Якуба Ясінскага — усяго каля 4-х тысячаў, сілы Рэчы Паспалітай, якія баранілі прадмесьце Варшавы, былі ня ў стане затрымаць больш чым 35 тысячаў расейскага войска з 86 гарматамі. Яны маглі толькі прыгожа загінуць.

Паводле традыцыі, полк Ясялевіча загінуў амаль цалкам. На жаль, ахвяры, прынесеныя габраямі, не зьмянілі да іх адносінаў мяшчанства. Сярод «пунктаў», якія магістрат і цэхі Варшавы ўручылі расейскаму камэнданту гораду генэралу Буксгеўдэну, быў пункт пра выгнаньне габраяў. Буксгеўдэн, чалавек практычны, вырашыў па-свойму. Ён не згадзіўся з магістратам, але загадаў габраям набываць білеты, якія давалі права на знаходжаньне ў горадзе. Вось так заплацілі

«ўдзячныя» мяшчане Варшавы габраям за абарону Бацькаўшчыны...

Бэрэк быў адным зь нямногіх, хто ўцалеў у праскай мясарубцы. Пасьля капітуляцыі ён разам з генэралам Юзафам Заёнчакам (які павінен быў камандаваць абаронай прадмесьця, але ў самым пачатку быў цяжка паранены і выбыў з барацьбы), здаўся аўстрыйцам. Бо, як справядліва лічыў Бэрэк, аўстрыйскі палон усё ж лепей, чым Сібір. Іх кінулі ў фартэцу Алямюнц, што ў Галіцыі. Быў, праўда, яшчэ адзін шлях. Тыя, хто адступіў з генэралам Тамашам Ваўжэцкім у Сандамірскае ваяводзтва, разьлічвалі працягваць ужо безнадзейную барацьбу, але голад, маральная й фізычная зьнямога, брак боепрыпасаў хутка прымусілі герояў скласьці зброю.

Для Бэрэка пачалося новае жыцьцё. З таго моманту, як Касьцюшка даў яму званьне палкоўніка, ён лічыць сябе прафэсійным вайскоўцам. Як і многія былыя ўдзельнікі паўстаньня 1794 году, апынуўшыся ў эміграцыі, ён будзе гатовы стаць пад любыя сьцягі, змагацца дзе заўгодна — ад Гішпаніі да Блізкага Усходу, з адзінаю толькі надзеяю, што ягоная зброя ўрэшце будзе выкарыстаная ў барацьбе за незалежнасьць Рэчы Паспалітай.

15 верасьня 1796 году Бэрэк прапануе аўстрыйцам стварыць 6-8 тысячны габрайскі корпус, але безвынікова. Крайсгаўптман Баўм, які займаўся справамі палонных, лічыў, што большая іх частка, да якой ён адносіў і Ясялевіча, — проста авантурысты. Званьні, якія яны атрымалі ад Начальніка, для аўстрыйцаў нічога ня значылі. Баўм прапанаваў на выбар усім -— ці паступаць шарагоўцамі ў аўстрыйскую армію, ці ўвогуле ня несьці ніякае службы. Для шмат каго, у тым ліку і для Бэрэка, гэта былі ганебныя ўмовы. З Аўстрыі трэба было бегчы.

Яму з Заёнчакам зноў шанцуе. Заёнчака, цяжка параненага, сярод суровай зімы кінутага ў Алямюнцкую фартэцу, хітрасьцю вызваліла жонка (Аляксандра дэ Пернэ), а Бэрэку дапамаглі зьбегчы некалькі прыяцеляў. Сапраўды, у такога чалавека як Бэрэк Ясялевіч, не было недахопу ў людзях, у якіх ён ввыклікаў сымпатыю. Нават аўстрыйскі губэрнатар Львову Гайхур адзначаў яго «вялікую дасьціпнасьць, вясёласьць і дух таварыства».

Бэрэк і Заёнчак, даведаўшыся, што ў Францыі, дзе канцэнтраваліся эмігранты з Рэчы Паспалітай, ствараюцца легіёны, сьпяшаюцца туды. Біяграфія жыцьця нашага героя з гэтага моманту нагадвае паслужны сьпіс ляндскнэхту часоў Трыццацігадовае вайны. Вочы разьбягаюцца ад назваў мясьцінаў, дзе яму прыйшлося ўдзельнічаць у бітвах. У Італьянскай кампаніі ён пачынае як просты кавалерыст. Падчас заняцьця Гасконы кавалерыйскі легіён, дзе ён служыў, складаўся з 1.200 шабляў. Ад легіёну, які стрымліваў атакі суvoраўскіх казакаў і аўстрыйскіх драгунаў, засталося толькі 190 кавалерыстаў на змучаных канях. Пераведзены ў І-ы легіён у званьні ротмістра, ён змагаецца пад Трэбіяй, Нові І-ай, Нові ІІ-ой, Боскаю. У канцы 1800 году легіён Бэрэка, ад якога амаль нічога не засталося, быў перакінуты на Рэйн, дзе генэрал Князевіч ствараў новы корпус. І вось тут, на Рэйне, лёс пачынае наносіць Ясяевічу ўдары, балючыя й ганебныя.

Умовы, у якіх Князевіч ствараў свой корпус, былі складаныя. Вакол віравалі інтрыгі былых якабінцаў, радыкалаў і рэвалюцыянэраў. Бэрэк, які ў баі быў першым, зусім згубіўся сярод кар'ерыстаў ды ўсялякіх майстроў атрыманьня ўзнагарод і званьняў. Тое, што Ясялевіч быў габраем і ня быў шляхціцам, мела для тых людзей нашмат большую значнасьць, чым колькасьць бітваў, у якіх ён удзельнічаў і праліваў кроў. У выніку атрымалася, што Бэрэк, які меў за плячыма дзьве італьянскія кампаніі, званьне палкоўніка пры Касьцюшку, вымушаны быў у званьні ротмістра падпарадкоўвацца людзям уплывовым, але не зазначаным у ніводнай кампаніі. Ён жаліцца свайму быломy камандзіру Касьцюшку, але стары правадыр паўстаньня 1794 году можа падтрымаць былога падначаленага толькі словам. Тое, што дзеелася вакол, таксама давала мала аптымізму.

У мірнай дамове, заключанай у Люнэвіле 9 лютага 1801 году, пра Рэч Паспалітую не было ніводнага слова. Карацей кажучы, падставы для расчараваньня меліся з усіх бакоў. А тут яшчэ напрыканцы таго ж году існаваньне самога кавалерыйскага легіёну было пастаўленае пад пытаньне. Пяхотныя часткі, што складаліся з эмігрантаў з Рэчы Паспалітае, былі ўключаныя ў склад рэгулярнай французскай арміі. Кавалерыя легіёнаў ацалела толькі дзякуючы будучаму каралю Нэапалю і шэфу ўсёй французскай кавалерыі Мюрату, які аддаў яе на службу ў Цызальпінскую рэспубліку. Але для Ясялевіча ўжо не было розьніцы. Ня бачачы для сябе ніякіх пэрспэктываў, у чэрвені 1802 году ён падае ў адстаўку ў званьні ротмістра І-ай клясы.



Бэрэк мог бы так і атрымліваць сьціплую пэнсію на чужыне ды марнець са сваёй сям'ёю. Дапамагло знаёмства з генэралам Эдуардам Марцье. Гэты чалавек,пазьней князь Трэвізо, справядліва лічыў, што такіх бязладзьдзяў, што адбыліся з Бэрэкам у яго родным легіёне, не павінна быць у французскай арміі, ды ўзяў Ясялевіча пад сваю апеку. Ён дае Бэрэку званьне капітан-кватэрмайстра І-га гановэрскага драгунскага палка, 500 франкаў кампэнсацыі і добрага каня. У той самы час яму прысуджаецца вышэйшая ўзнагарода Францыі — ордэн Ганаровага легіёну.

Пачыналася вялікая эпоха напалеонаўскіх войнаў. Мірныя пэрыяды ў жыцьці Ясялевіча, пасьля таго, як ён зьбег з Аўстрыі — толькі кароткія перапынкі між войнамі. У аўстрыйскай кампаніі 1805 году Бэрэк удзельнічае ў бітвах, якія вядомыя нам са школьнай парты — Вэртыген, Аўстэрліц, Ена. Ён ня быў кар'ерыстам. Даведаўшыся аб тым, што генэрал Дамброўскі ствараe на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай у Пазнаньскім ваяводзтве легіёны, накіраваныя супраць Аўстрыі і Расеі, Бэрэк пакідае свайго дабрадзея Марцье ды сьпяшаецца на Бацькаўшчыну, дзе ён быў прызначаны ў І-шы полк конных стралкоў Казіміра Турко. Зноў шэраг бітваў — Тчэў, Гданьск, Мальтэзэр-Візэ, Фрыдлянд. За ўдзел у іх 8 сакавіка 1808 году ён быў узнагароджаны крыжам «Віртуці Мілітары».

Мабыць, адчуваючы, што французы абышліся зь Ясялевічам нашмат лепей, чым свае, у легіёнах зьмяняюцца адносіны да «бязроднага габрая». Пасьля Тыльзыцкага міру яго робяць шэфам швадрону і ў якасьці кампэнсацыі за

непрыемнасьці ў корпусе Князевіча ўзводзяць у званьне палкоўніка. Бэрэк даволі эфэктна выглядаў у строі вугорскага ўзору. Высокая мядзьвежая шапка была адзнакай, што ён служыць у элітных частках. Ня выключана, што тады ж Бэрэк прыняў хрост і ператварыўся ў Бэрко, Бэрку ці Бэрка, а прозьвішча Ясялевіч (ад Ёсла) перарабляецца ў хрысьціянізаванае Язэп.

Падчас міру полк Ясялевіча стаяў у Раве, потым на радзіме героя паўстаньня 1794 году Якуба Ясінскага на Куявіі ў Пыздрах. Яго ведаюць ды паважаюць і ў легіёнах, і ў францускай арміі. Здаецца, тут не абышлося бязь нейкага ўласнага магнэтызму, бо Бэрэк Ясялевіч не займаў уплывовага становішча ў эмігранцкіх палітычных колах і ў арміі. Ды й паводле ўдзелу ў бітвах ён ня быў рэкардсмэнам — у імпэратарскай Старой гвардыі многія маглі б даць яму фору. Адзіным месцам, дзе Бэрэк меў вышэйшую ступень, была масонская ложа «Вялікі Усход», у якую ён быў прыняты пасьля Тыльзыту. Яго начальнік палкоўнік Турко ў ложы быў толькі «чаляднікам». Мабыць, менавіта сярод масонаў Бэрэк упершыню адчуў сапраўдную роўнасьць, бо там паходжаньне ня мела ніякага значэньня. Тым больш, што адміністратар «Вялікага Усходу», вядомы праціўнік Суворава падчас італьянскай кампаніі, маршал Андрэ Масэна, герцаг Рывалі, князь д'Эсьлінг сам паводле паходжаньня быў габраем.

Мір працягваўся нядоўга. Раптоўна выбухнула Аўстрыйская кампанія 1809 году, якая стала апошняю ў жыцьці Ясялевіча. Бэрэк загінуў. У мяне не паварочваецца язык казаць «недарэчна». Бо Бэрэк на чале швадрону быў мудрым



камандзірам. Але тут бачыцца нейкая жорсткая насьмешка лёсу, бо трэба ж было ўцалець у некалькіх кампаніях, у змаганьнях сусьветнага значэньня, каб загінуць у дробнай сутычцы.

Ужо з самага пачатку ён біўся пад Грыбавам, потым на чале двух швадронаў уланаў ішоў у авангардзе другой часткі арміі генэрала Язэпа Панятоўскага на Асецк і Жэліхаў да аўстрыйскае мяжы. Падчас пераходу ён даведаўся, што ў Коцка над правым берагам Вепра знаходзяцца два швадроны вугорскіх гусараў. Бэрэк разьлічвае раптоўным ударам выбіць іх на другі бераг, што і робіць 5 траўня 1809 году.

...Ён зьявіўся як віхор. Вугорцы панічна пабеглі цераз мост на другі бераг. Але знайшоўся сярод іх адзіны чалавек, які ня страціў галавы. Калі праз мост пранесься захоплены пагоняю Бэрэк, а зь ім яшчэ некалькі вершнікаў, вугорац апусьціў шлагбаўм.

Гэта быў капрал Мешэліц, за свой учынак узнагароджаны срэбным мэдалём «За храбрасьць». Перашкоды, якую стварыў Мешэліц, было дастаткова, каб гусары апамяталіся і контаратакавалі. Бэрэк зразумеў, што трапіў у пастку. Акружаны з усіх бакоў, ён вырашыў прадаць сваё жыцьцё як мага даражэй...

Ёсьць розныя меркаваньні пра тое, што было пасьля контаратакі вугорцаў. Паводле адной вэрсіі, вугорцы, акружыўшы падпалкоўніка, прапанавалі яму сыйсьці з каня і здацца, але ён не пачуў, пасьля чаго атрымаў удар у галаву ад гусара Стэфана Тота (таксама мэдаль «За храбрасьць»), упаў і быў затаптаны конямі. Паводле другой вэрсіі, Бэрэк проста адмовіўся здацца. Ну і паводле трэцяй, якая зазначаная ў «Польскім

слоўніку біяграфічным», ён сам прасіў аб літасьці, але быў засечаны.

Смутак апанаваў легіёны. Бэрэк сапраўды быў сымбалем барацьбы за Бацькаўшчыну і стаў легендаю пасьля сьмерці. Пра Бэрэка ўспаміналі, калі краіна ўздымалася супраць акупантаў у 1831-м, 1863 гадах. Газэта «Манітор» ад 19 чэрвеня 1809 году пісала: «Бэрэк Ясялевіч — першы габрай Рэчы Паспалітай, які паказаў сваім адзінаверцам шлях гонару і даў прыклад гераічнага служэньня Бацькаўшчыне».



*Андрэй Шпунт*

## «Я Бацькаўшчыны не перажыву…»

### Герой вызвольнага паўстаньня 1794 году генэрал-лейтэнант інжынэрыі ВКЛ Якуб Ясінскі

Калі б меў Твой супакой у душы і Тваю ўладу ў краіне, павесіў бы сто чалавек, вызваліў бы шэсьць мільёнаў.
*Зь ліста Якуба Ясінскага да Тадэвуша Касьцюшкі*

…Маю гонар упэўніць Вас, што безь бібліятэкі, мэблі і экіпажаў можна быць вельмі шчасьлівым, ня будучы рабом…
*Зь ліста Якуба Ясінскага да кіраўніка расейскае акупацыйнае адміністрацыі Вільні*

1794 год, лістапад. Варшаўскае прадмесьце Прага ў агні.

На вачах зьмярцьвелае ад жаху Варшавы войскі генэрал-аншэфа Суворава высякаюць вуліцу за вуліцай. Вісла падзяляе няздольных дапамагчы гледачоў на адным беразе й ахвяры на другім. Адзіны мост, які іх зьвязвае, ня можа прапусьціць усіх уцекачоў ад сьмерці, і няшчасныя тонуць тысячамі. На наступны дзень рака будзе чырвонаю ад крыві і выйдзе зь берагоў.

Мабыць, тым, што патанулі пры пераправе, больш пашанцавала, чым тым, каго п’яная ад крыві расейская салдатня паліла жыўцом, секла шаблямі, калола дзідамі, гвалціла. Ды няўжо жаўнеры-хрысьціяне, падданыя імпэратрыцы, што

сябравала зь Дзідро і Вальтэрам, рабілі такое? Шматлікія сьведкі сцьвярджаюць адно: як немаўлят адрывалі ад матчыных грудзей і насаджвалі на дзіды, як законьніц зачынілі ў Бэрнардынскім кляштары, згвалцілі і засеклі, як 19 законьнікаў і старцаў-калек закатавалі да сьмерці, як 25 тысячамі скрываўленымі, пасечанымі целамі старых, жанчын і дзяцей было ўсеянае ўсё прадмесьце. Сярод распранутых трупаў жаўнераў і мірных жыхароў уперамешку валяліся забітыя коні, сабакі, каты, нават сьвіньні, — бязьлітасна зьнішчалася ўсё жывое.

Сярод гэтага пекла, калі сэрцы многіх мужных дагэтуль людзей зайшліся ад вусьцішы, знайшліся тыя, хто быў ня ў стане перажыць Бацькаўшчыну, хто хацеў загінуць са зброяй у руках. За палісадамі Зьвярынца (раён Прагі) стрымлівалі ворага рэшткі двух літоўскіх рэгімэнтаў і полк габрайскае лёгкае кавалерыі Берэка Ясялевіча — усе пад камандаю маладога генэрал-лейтэнанта войскаў ВКЛ Якуба Ясінскага.

Неўзабаве ўсё было скончана... Гарматныя стрэлы гучалі пахавальным салютам Рэчы Паспалітай.

**1. Пачатак**

Як гэта часта бывае, пра першыя крокі гістарычнае асобы нічога ці амаль нічога невядома. Калі нарадзіўся і дзе? Біёграф Ясінскага Генрык Масьціцкі, а за ім і шэраг польскіх дасьледчыкаў называюць Вэнглеў каля Пыздраў, што на Куявах. Але ж ня менш і нязгодных, тых, хто лічыць Бацькаўшчынай героя Вялікае Княства Літоўскае, да чаго схіляюць ускосныя



зьвесткі. У прыватнасьці, пасада камэнданта інжынэрнага корпусу ў Вільні, якую ён займаў напачатку 90-х гадоў, як і ўсе вышэйшыя дзяржаўныя і вайсковыя пасады ў Княстве, надавалася ўраджэнцам ці жыхарам Літвы.

Нарадзіўся 24 ліпеня 1759 году, ці на два гады Пазьней у шляхецкай сям'і гэрбу «Равіч».

У 12 гадоў Якуба аддаюць ў Кадэцкі корпус у Варшаве (ці, як ён яшчэ называўся, — у Рыцарскую школу). Да гэтага часу хлопчык ужо ведаў лаціну, нямецкую і францускую мовы.

Стан арміі быў такім, як і стан дзяржавы. Гусарскія харугвы — гонар Рэчы Паспалітай, яе элітная цяжкая кавалерыя, што наводзіла жах на ворагаў, ужо ня несьлі вайсковае службы, а толькі ўдзельнічалі ў парадах, урачыстасьцях ды пахавальных працэсіях — «пахавальныя жаўнеры», як звалі іх сучасьнікі. Афіцэры (акрамя іншаземцаў, зразумела) і ведаць ня ведалі, што існуюць на сьвеце такія рэчы як стратэгія і тактыка. Колькасьць палкоў — фіктыўная. У рэгімэнце са 120 чалавек — на 41 жаўнера 25 афіцэраў! Не здарма пра літоўскую гвардыю казалі, што ў ёй «dwa drahana a cztery kapitana». Войска паступова рабілася прытулкам падонкаў і маргіналаў. Служба не перашкаджала адначасова займацца і справамі цывільнымі.

Перад каралём і вялікім князем Станіславам-Аўгустам востра стаяла пытаньне аб стварэньні новага войска. Новыя ваенныя кадры — падмурак будаўніцтва новай Рэчы Паспалітай. У 1765 годзе, нягледзячы на стагнацыю і розныя перашкоды, кароль адкрывае Рыцарскую школу і кажа пазьней, што лепшай вайсковай установы больш нідзе не існуе.

Рапарты сьведчаць пра тое, што Ясінскі ня меў вялікіх схільнасьцяў да сыстэматычнай працы. Больш спадзяваўся на сваю памяць, а калі і браўся за пяро, дык для таго, каб пісаць вершы.

**2. Сьвецкае жыцьцё**

Якое там вучэньне! За сьценамі корпусу вірылася жыцьцё!

З тых часоў, як на трон узыйшоў Станіслаў-Аўгуст, каралеўская рэзідэнцыя, а зь ёй і палітычнае жыцьцё, якое пры Сасах канцэнтравалася ў Дрэздэне, перамяшчаецца ў Варшаву. Сталіца Кароны хутка ператвараецца ў асяродак культуры і навукі. Людзі цягнуліся сюды ня толькі з краю, але і з-за мяжы. Рэйвялі раскоша й празьмернасьць. Новы стыль жыцьця замяніў патрыярхальную грубасьць на францускую сапсаванасьць і распусту. Правінцыя глядзела на Варшаву з зачараваньнем і абурэньнем адначасова.

А глядзець было на што. Амаль на кожнае вуліцы — лаўкі, крамы, кавярні, карчмы адчыненыя далёка за поўнач. Пасьля Вялікага Посту — цэлы год быў адным суцэльным карнавалам — званыя абеды, асамблеі, вячэры, пікнікі. Карты. У Рэчы Паспалітай яны займалі такое месца, як ні ў воднай іншай краіне сьвету. І хоць Ясінскага нашчадкі называюць паэтам, але найперш ён гулец. Гулец навышэйшае клясы, які садзіўся за стол з самымі вялікімі шулерамі свайго часу.

У 1783 годзе Якуб скончыў корпус і быў прыняты ў лік яго афіцэраў у званьні падбрыгадзіра.

У тым жа годзе Вайсковая канцылярыя ЯКМ (Яго Каралеўскай Мосьці) выдае «Дэклярацыю», згодна зь якой з 1 студзеня 1784 года забаранялі продаж і набыцьцё афіцэрскіх пасадаў і чыноў — гэта адчыніла шлях наверх такім здольным вайскоўцам як Касьцюшка.

**3. «Vitam impende vero» (Словы Русо, — дэвіз Ясінскага)**

Перакананьні маладога чалавека фармуюцца пад уплывам Русо. Гэты філёзаф быў вельмі папулярны сярод эўрапейскай моладзі. Пройдзе дзесяць гадоў, і вучні Жан-Жака ўсталююць у Францыі крывавую дыктатуру ў імя высокіх ідэалаў Свабоды, Роўнасьці і Братэрства.

У Варшаве Якуб пазнаёміўся са шчэжэцкім старастам Пётрам Патоцкім — нацыяналістам і ворагам Расеі, і праз яго пратэкцыю ўвайшоў у патрыятычныя сфэры сталіцы. У гэты самы час, магчыма, ён стаў у шэрагі вольных муляраў, варштаты якіх былі, па сутнасьці, тайнымі патрыятычнымі згуртаваньнямі.

Малады вальнадумец так спадабаўся ня менш «прагрэсіўнаму» Патоцкаму, што той нават прапанаваў Якубу заняцца выхаваньнем сваіх дзяцей — Фелікса і Яна. Але нядоўга Ясінскі рабіў з хлапчукоў патэнцыйных рэвалюцыянэраў. У лістападзе 1787 года ён мусіў пакінуць гэты занятак праз няскончаныя спрэчкі з бабкай Пелагіяй Патоцкай — хіба ж магла добрая каталічка дапусьціць, што яе ўнукі зробяцца радыкаламі й «бязбожнікамі».

**4. Служба**

Затое кар'ера ідзе ўгору. З пратэкцыі генэрала літоўскай артылерыі князя Францішка Сапегі Станіслаў Аўгуст прызначае Ясінскага, на той

час ужо падпалкоўніка, і капітана інжынэраў Міхала Сакальніцкага ў кіраўніцтва створанага ў 1780 годзе у Вільні Корпусу артылерыі й ваеннае інжынэрыі, а на пачатку 1789 году ім жа даручае арганізацыю Корпусу інжынэраў Вялікага Княства Літоўскага.

Уздым ваеннае справы адбываецца ў рэчышчы пастановаў Чатырохгадовага Сойму 1788-1792 гадоў, скліканага з ініцыятывы патрыятычнае партыі на чале з Гуга Калантаем, Станіслававам Сташыцам ды іншымі патрыётамі.

З траўня 1791 года Рэч Паспалітая атрымлівае Канстытуцыю. Грамадзтва сымпатызуе Францыі. У войску афіцэры паверх форменных чорных павязваюць гэтак званыя «якабінскія гальштукі» ( белыя нашэйныя платкі плотна завязаныя на некалькі вузелкоў, канцы якіх выглядаюць у розныя бакі) жаўнеры прышпільваюць на кукарды яловыя і дубовыя галінкі — сымбалі Волі й Надзеі.

Пасьля травеньскіх урачыстасьцяў Ясінскага накіроўваюць на рэвізію будаўніцтва каналу Мухавец-Піна (Каралеўскі канал). 13 студзеня 1792 года Станіслаў Аўгуст надае яму званьне палкоўніка інжынэрыі ВКЛ.

**5. Кампанія 1792 году**

Пакуль Якуб мірна працуе на Каралеўскім канале, сытуацыя ў краіне пагаршаецца дзень пры дні. Частка шляхты, убачыўшы ў рэформах наступ на свае правы, стварае ў 1792 годзе ў Таргавіцы канфэдэрацыю. Расея пільна сочыць за тым, што адбываецца ў Рэчы Паспалітай і ўвесь час умешваецца ва ўнутраныя справы нашае краіны. Дэпутаты сойму цешаць сябе



надзеямі на прускую дапамогу. Расея з трыюмфам перамагае Турэччыну і Швэдыю — рукі разьвязаныя, ды й здраднікі не марнуюць часу.

Праз год пасьля прыняцьця Канстытуцыі правадыры Таргавіцы прыяжджаюць у Пецярбург і дамаўляюцца аб падтрымцы расейскіх войскаў. Царскі генэрал Міхаіл Крачэтнікаў выкарыстоўвае штучную зачэпку («Расея доўга цярпела крыўды ад Сойму») і 22 траўня 1792 года парушае мяжу.

Агрэсарам супрацьстаяла каля 15 тысячаў войска Вялікага Княства Літоўскага — патрыятычных, але дрэнна абвучаных і узброеных жаўнераў. Пачалася вайна.

Расейцы бяруць адзін горад за другім, да іх далучаецца Прусія, — краіна ў коле ворагаў. Вакол здрада і анархія. Камандуючыя хутка, зьмяняюць адзін аднога. Ясінскі з горыччу вымушаны прызнаць, што бяда ня ў тым, што інжынэрны корпус, на чале якога ён стаіць, разам з артылерыяй можа выставіць толькі каля тысячы змагароў, а ў тым, што бракуе часу, каб зрабіць з гэтай тысячы добрых афіцэраў, кожны зь якіх павёў бы ў бой дзясяткі, сотні жаўнераў.

Праз тры дні ад пачатку агрэсіі Якуб удзельнічае ў бітве пад Мірам. Як сьведчыць будучы ад'ютант Напалеона, генэрал Юзаф Сулкоўскі, Ясінскі са сваімі пехацінцамі паказваў цуды гераізму, вытрымліваючы на працягу 45 хвілінаў шквальны агонь варожае артылерыі, у той час, як літоўскія трохфунтовыя снарады не праляталі й паловы патрэбнае адлегласьці. Бітву прайгралі. Ясінскі з Сакальніцкім з упэўненасьцю фанатыкаў умацоўваюць стратэгічна важны Нясьвіж.

Войска ВКЛ магло ганарыцца такімі афіцэрамі, але... Сакальніцкі ўспамінаў: «З таго ўсяго, што зрабіў, нічога не было выкарыстана; і самі толькі маскалі скарысталіся маёй працаю: неаднаразова гаворыў фартыфікаваць лягеры, усталёўваць батарэі, магазіны, флешы* г. д., а як паказаліся 20 казакоў, усе мы пакідалі і гаконы**, фашыны*** і гарадзені, авёс, хлеб, крупы і нават людзей страчвалі. Гэта вобраз нашае вайны». У палон былі захопленыя 804 жаўнеры і 30 афіцэраў на чале з камэндантам Нясьвіжу палкоўнікам Дамінікам Дэдэркам.

Пасьля Нясьвіжу Ясінскі ўмацоўвае Берасьце, пад якім пасьля Міру стаяла войска. 23 чэрвеня каля гэтага гораду адбылася бітва — самая значная за ўсю кампанію 1792 году.

Плян ваенных дзеяньняў, распрацаваны Ясінскім, зьявіўся новым этапам у разьвіцьці ваеннага мастацтва ў Рэчы Паспалітай. У ім прапаноўвалася пасьлядоўнае правядзеньне баёў дзеля стрымліваньня непрыяцеля, з выкарыстаньнем мясцовых забудоваў і старраннае артпадрыхтоўкі. Генэрал Міхал Забэла пісаў, што Якуб спалучаў у сабе веды ваеннага мастацтва з адвагаю і руплівасьцю. За бітву пад Берасьцем Ясінскі быў узнагароджаны Залатым крыжам «Virtuti Militari».

На жаль, гэтая бітва ўжо нічога не вырашала. Станіслаў Аўгуст пакорліва далучаецца да гэтак

---

* Флеш (< фр. flèche страла) — палявое ваеннае ўмацаваньне (у выглядзе рова, акопа) у форме выступаючага ў бок праціўніка тупога вугла.

** Гакон — пішчаль.

*** Фашына (ням. Faschine < лат. Fascis звязка, пучок) — перавязаны пруцьцямі ці провалакай пучок хвораста.



званае Генэральнае канфэдэрацыі, створанай пад пратэктаратам Кацярыны II, і 26 ліпеня аддае загад войскам Кароны і Вялікага Княства скласьці зброю. Для Ясінскага гэта быў удар. Ён накіроўвае ліст шэфу вайсковае канцылярыі генэрал-лейтэнанту Аўгустыну Гарэцкаму аб дазволе ўвайсьці ў Варшаву, каб зьберагчы свой корпус...

Касьцюшка напіша пазьней: «Армія з 60 тысячаў на чале з каралём была б непераможная. А што кароль? Страціў карону, апраўдваючыся тым, што не было грошаў, а на што? Ці мяса й хлеба не было ў краі? Амэрыканская рэвалюцыя дае прыклад працяглае вайны без грошаў — 8 гадоў, абы толькі ўрад клапаціўся аб адзёжы і абутку для жаўнераў».

Ганебны сойм у Горадні паставіў кропку — напачатку 1793 году адбыўся II падзел Рэчы Паспалітай. Кароль — няшчасная ахвяра абставінаў, міжволі бачыцца яго падабенства зь Людовікам XVI. Чытаючы дамову пра другі падзел, Стагіслаў Аўгуст заплакаў, молячы пакоўніка Штольтэнбэрга : «Міласьцівы спадар, міласьцівы спадар, зьлітуйцеся нада мной! Няхай не прымушаюць мяне падпісвацца пад сваёй ганьбай!» Падпісаў.

Каралеўскі загад ад 26 ліпеня быў сустрэты ў штыкі. Але ў тых умовах афіцэрства, «не жадаючы бачыць сваёй ганьбы», выходзіць з арміі. Як пісаў Юзаф Сулкоўскі: «Засталіся адны абмежаваныя абываталі». Застаўся і Ясінскі, які памятаў з кадэцкіх часоў словы біскупа Красіцкага: «Хоць бясьпечна карабель кінуць і плыць, больш сумленна быць на караблі, ацалець ці загінуць». Застаўся дзеля падтрыманьня баяздольнасьці

будучага вызвольнага войска. На шчасьце, разуменьнем і згодаю падтрымаў Касьцюшка.

**6. Кансьпірацыя**

У студзені 1793 года Ясінскі вяртаецца ў Вільню й займаецца ўзнаўленьнем Корпусу інжынэраў.

Тое, што дзеецца вакол, змушае сэрца абліваецца крывёю. Польны гетман Вялікага Княства Літоўскага Шыман Касакоўскі бяз сораму носіць расейскі мундур, таргавічане разам з расейцамі разбураюць край — рабуюць прыватную і дзяржаўную маёмасьць, літоўскія рэгімэнты гвалтам уключаюць у расейскае войска, недатыкальнасьць асобы перастала мець ахову закона, скасавалі Канстытуцыю і пастановы Чатырохгадовага сойму...

Ясінскі з захапленьнем і надзеяй глядзіць на Францыю. Там рэвалюцыйная армія пасьля пачатковых няўдач дае прыклад абароны Рэспублікі, пастаўленай па-за законам усім сьветам (выняткам Паўночна-Амэрыканскіх Штатаў). 19 лістапада 1792 году Францыя агалосіла, што будзе дапамагаць любому народу, які будзе змагацца за сваю незалежнасьць. Ясінскага і астатніх радыкалаў не бянтэжыць, што сякера гільятыны пачынае апускацца ўсё часьцей і часьцей.

Ганьбу змые толькі кроў. Аднойчы Якуб заявіў, што краіну нельга выратаваць, калі ня высякчы ўсю шляхту — гэта быў вынік скрайняга раздражненьня, рэакцыя на тую ўпартасьць і вузкасьць поглядаў паноўнага саслоўя, што было ня меншай прычынаю страты незалежнасьці, чым зьнешнія абставіны.



З восені пачынае адчувацца бражэньне. Уся Рэч Паспалітая паступова пакрываецца сеткаю кансьпіратыўных арганізацыяў. Касьцюшка едзе ў Парыж, дзе беспасьпяхова імкнецца атрымаць дапамогу французаў. Ясінскі становіцца душой кансьпірацыі ў Вільні. Ён лічыць, што на новым этапе барацьбы ўжо недастаткова змагацца пад лёзунгам аднаўленьня Канстытуцыі 3 траўня. «Каб узьняць народ ад Одры да Дону, трэба аднолькавая воля для ўсіх клясаў». Скрайне радыкальнае крыло кансьпірацыі («якабінцы», ад імя Ясінскага), што групуецца вакол палкоўніка інжынэры, не была, аднак, уплывоваю палітычнаю сілай. Хутчэй гэта былі дыскусійныя клюбы, у якіх не было нічога агульнага з тымі клюбамі, што зрабілі французскую рэвалюцыю.

Каб не выклікаць падазрэньняў, Якуб прымервае маску чалавека, ляяльнага да акупантаў, і водзіць знаёмства зь людзьмі, якія прадалі Бацькаўшчыну. За лепшае месца для падпольнага штабу Ясінскі палічыў картачны салён свайго ад'ютанта і злога генія Ігнацыя Хадзькевіча (Дарэчы, гульня ў карты істотна дапамагала папаўняць сродкі. Вось, напрыклад, дзеячы руху Ян Дуклан Ахоцкі з капітанам Качаноўскім узялі са сьціплай касы каля 2-х тысячаў злотых, а праз нейкі час, паезьдзіўшы па краіне, пагуляўшы, папіўшы, вярнулі назад 15 тысячаў дукатаў, а гэта 53 кіляграмаў золата!).

Калі выпадала вольная хвіліна, Ясінскі пісаў вершы. Асабліва гэтаму спрыялі бурныя падзеі вакол, таму найбольш напісана ім менавіта ў 1793—94 гадах. Нашчадкі назавуць яго ня толькі змагаром за незалежнасьць, а яшчэ й паэтам,

хоць у паэзіі значнага сьледу й не пакінуў. Здольнасьці свае ацэньваў цьвяроза: «Пішу тое, што хачу, і аб тым, што мяне цікавіць, пахвал не шукаю...» З прозы захавалася толькі адна нататка «Аб войску», дзе ён піша, што ня хоча бачыць жаўнера прыладаю тыраніі.

Вядома, Ясінскі — паэт, рамантык. Ірвецца у бой і хоча пачаць выступленьне 19 лістапада. Добры тактык, ён прайграваў як стратэг. Не хапае вытрымкі. Верх бярэ жаданьне пакрасавацца перад усімі на белым кані ў парадным мундуры з шабляй нагала! Ён нібыта не заўважае непадрыхтаванасьці і дрэнна забясьпечанасьці войскаў. Не заўважае, што рух распаўсюджваецца ў асноўным па гарадах, а сярод такой вялікай сілы як сялянства не вядзецца ніякае прапаганды.

Але хада падзеяў прысьпешвалася і зь іншага боку. У пачатку 1794 году да акупантаў пачалі даходзіць зьвесткі пра канспірацыю. Людзей пачалі рэпрэсаваць толькі праз адно падазрэньне. З пачаткам арыштаў у Літве ўлады даведаліся і пра Ясінскага. Гетман Касакоўскі і камандзір віленскае залогі генэрал Арсеньнеў, мабыць, вельмі зьдзівіліся, калі зразумелі, з кім пілі каву і рэзаліся ў карты. Якуба своечасова папярэджваюць, і ён хаваецца на Антокалі, адкуль едзе пад Вільню ў Вількамірскі павет, дзе стаяць верныя яму рэгімэнты. Каб ня кідацца ў вочы расейцам, ён вымушаны зьмяніць бліскучы мундур на сялянскую вопратку.

### 7. Выбух

Пралілася апошняя кропля. Расейскі камандуючы генэрал Ігельстром патрабуе скарачэньня войска Рэчы Паспалітай да 15 тысячаў. Адбыліся спробы абяззброіць некалькі палкоў.

У палове сакавіка саксонскі дыплямат у Варшаве шле да свайго міністра шыфроўку: «Пачынаюць збывацца пабойваньні, што акцыя, зьвязаная з рэдукцыяй* польскага войска, можа стаць вернай прычынаю абурэньняў. Брыгадзір Мадаліньскі, шэф брыгады нацыянальнае кавалерыі... выступіў супраць праектаванае рэформы. Здолеў сабраць 10 швадронаў, якія складаюць яго брыгаду і знаходзяцца ў цяперашні час у ваколіцах гораду Пултуска...»

24 сакавіка ў Кракаве Тадэвуш Касьцюшка абвясьціў Акт паўстаньня ў Кароне. 4 красакавіка пад Рацлавіцамі ён атрымлівае бліскуючую перамогу над расейскім корпусам генэралаТормасава.

У Вільні пашыраюцца вершы, у якіх гетману Касакоўскаму пагражаюць вяроўкай, а паведамленьні, якія ён атрымлівае, прымушаюць адчуць, што гэтыя абяцаньні могуць спраўдзіцца. 17 красавіка узьнялася — Варшава...

Дайшла чарга й да Княства — марнаваць час ужо ня мела сэнсу. Пачынаць, вядома, трэба было зь Вільні. Віленская залога была найбольш буйная, а супрацьпаставіць хаця б роўную моц інсургенты не маглі. Што да артылерыі, дык тут было зусім дрэнна. Падчас II падзелу Рэч Паспалітая страціла 226 гарматаў. На пачатак паўстаньня ў войску ВКЛ баяздольныя адно 20 легкіх гарматаў (без уліку замкавай артылерым і гарматаў без лафэтаў), а ў Арсеньнева 20 гарматаў толькі ў Вільні.

* Рэдукцыя (польск., з лац. reductio зварот, зьдзьвіганьне назад) — скарачэньне.

22 красавіка Касакоўскі ў спазоры падзеяў зьбірае сяброў Вайсковай камісіі і робіць ім вымову, гаворачы: «Памятайце, што кроў вашая будзе ручаямі плысьці па вуліцах!» Пасьля гэтага ён адразу выпраўляецца да камандзіра віленскае залогі. Мікалай Дзьмітрыевіч Арсеньнеў быў, натуральна, не на сваім месцы. Чалавек мяккі, у ім не было нічога ваеннага; лаўры Марса вабілі яго меней за перамогі у салёнах. На трывожныя сыгналы ад Мікалая Тучкова не зьвяртаў увагі, а тут яшчэ Касакоўскага прынесла... Генэрал няўважліва слухаў даклад гетмана, а сам думаў пра Юзэфу Валадковіч, зь якой romansowai апошнім часам. Размова скончылася тым, што Касакоўскі быў абвінавачаны ў баязьлівасьці.

Вільня. Ноч з 22 на 23 красавіка 1794 года. Цішыню парушае гарматны стрэл — сыгнал да паўстаньня.

Перамагчы ў адкрытым баі ворага, які толькі ў людзях меў васьміразовую перавагу, мог толькі Напалеон ці гетман Хадкевіч, таму Ясінскі спадзяецца на раптоўнасьць і рашучасьць. Залога, узятая зьнянацку, амаль не супраціўлялася. Былі чутныя толькі рэдкія стрэлы... Ясінскі на сівым кані паказаўся перад расейцамі, нагадвая сваім выглядам сьвятога Юрыя. Ні ў каго не паднялася рука стрэліць у яго... Арсеньнеў, аддаючы Ясінскаму шпагу, заўважыў, што за час сваёй службы не зрабіў нікому шкоды, і запатрабаваў адпаведных адносінаў, на што пачуў у адказ: «Міласьцівы генэрал! Лёс вайны, што Вы арыштаваны, але за Вашую дабрыню і годнасьць будзем шанаваць Вас у нашых сэрцах і любіць адпаведна Вашай годнасьці».



...Раніцай Вільня сустрэла Волю. (Кітовіч ва «Успамінах» сьведчыць, што ў Ясінскага было 240 жаўнераў супраць 900 расейскіх (A. Kitowicz. «Pamętniki». Warszawa, 1871. S. 129) а паводле Карзона 380 жаўнераў ўзялі ў палон 1012 расейцаў (Т. Корзон. «Внутренняя истроия Польши при Станиславе-Августе». Т. VI. 1896. С. 163—166) — у любым выпадку бачная перавага ворага).

На другі дзень законная ўлада на чале зь Ясінскім абвясьціла «Унівэрсал да ваяводзтваў і паветаў ВКЛ», у якім паведамлялася пра вызваленьне ад ворагаў мужнымі войскамі палкоўніка Ясінскага.

У Кароне ўбачылі адрозьненьні «Унівэрсалу» ад свайго «Акту паўстаньня». Асяродзьдзе Касьцюшкі асьцерагаецца літоўскага сэпаратызму. Падазронасьць палякаў, жаданьне цалкам падпарадкаваць нашыя абшары і дамінаваць у літоўскіх справах прынесьлі шмат шкоды патрыятычнаму руху. Вялікае Княства ж ніколі не адмаўлялася дзейнічаць з Каронай рука ў руку дзеля ўсеагульнае волі, ды яшчэ і прызнала вярхоўнае кіраўніцтва паўстаньнем у асобе Касьцюшкі.

25 красавіка ў Вільні на ліхтары быў павешаны за нацыянальную здраду гетман Касакоўскі. Галоўным ініцыятарам пакараньня быў Ясінскі. Гэтая падзея не спрыяла росту ягонага аўтарытэту ў вачах шляхты; для шляхты Якуб заставаўся занадта радыкальным.

Нейкі час Ясінскі валодае ў Вялікім Княстве дыктатарскімі паўнамоцтвамі. 4 траўня жыхары Вільні ўбачылі адозву: «Зьнішчайце здраднікаў і забойцаў і не чакайце ніякага правасудзьдзя, якое часта спазьняецца. Ці мы, ці яны». Эгацэн-

трызм Ясінскага пашыраў шыхты неспрыяльнікаў. Для многіх ён — «літоўскі сэпаратыст і якабінец».

Касьцюшка ўзводзіць Ясінскага ў генэрал-лейтэнанты, але не ад шчырага сэрца, а таму, што асьцерагаецца прэтэнзіяў на вярхоўную ўладу. У «Праклямацыі», выпушчанай ім, падкрэсьліваецца, што генэралы Ясінскі, Грабоўскі і Хлявінскі, якія дейнічаюць у Літве, — усяго толькі камандзіры аддзелаў ягонага войска.

Супраціўныя бакі робяць няўдалыя спробы затушыць паўстаньне. 10 траўня прускі генэрал Фафрат на чале 11 тысяч жаўнераў парушыў межы Рэчы Паспалітай. Фафрат быў служакам старой школы, і яго дзеяньні зусім не грунтаваліся на рэальных абставінах, здавалася, што ён ваяваў не з жывымі людзьмі, а з васковымі фігурамі. У расейцаў таксама адбыліся перамены. Замест Ігельстрома, вярхоўным галоўнакамандуючым рэскрыптам ад 22 чэрвеня прызначылі 60-гадовага князя Мікалая Рапніна — таксама, у пэўным сэнсе, знаходку для паўстанцаў. Рапнін пражыў бурнае, цікавае жыцьцё. У Сямігадовую вайну ваяваў добраахвотнікам на баку французаў, дзе заслужыў славу доблеснага жаўнера, а пасьля й рэнамэ галянтнага кавалера ў салёнах мадам Пампадур. Шмат папрацаваў на дыпляматычнай службе (адзіны расейскі прадстаўнік падчас Кучук-Кайнарджыйскага міру), быў генэрал-губэрнатарам Смаленску, Арла, Пскова.

Кар'ера Рапніна скончылася б недзе ў С.-Пецярбургу, безумоўна, у вышэйшых сфэрах, — ды не пашанцавала. Лёс у асобе зайздросьлівага



князя Пацёмкіна прымусіў задавольніцца намесьніцтвам у Інфлянтах. І вось — новы ўдар! У выніку неверагодных канцылярскіх хітрасплятаньняў змагацца з героем бітвы пад Саратогай (Касьцюшкам), для якога гэтая вайна значыла куды болей, абралі чамусьці менавіта Рапніна, які прагнуў толькі цішыні і спакою.

Як і трэба было чакаць, пачатак дзейнасьці новага галоўнакамандуючага быў адзначаны незвычайнай асьцярожнасьцю і адсутнасьцю якога-колечы пляну. Нягледзячы на тое, што паўстаньне не вылілася ва ўсенародную барацьбу, нягледзячы на першыя паразы Касьцюшкавых войскаў, Рапнін ня можа пераламіць ходу падзеяў. Салтыкоў скардзіўся князю Румянцаву ў лісьце ад 17 жніўня: «Усюды перамагаем і выштурхоўваем ворага, але нічога з гэтага ня маем; былі выпадкі, калі пасьля разгрому гэтых бандаў, замест таго, каб ісьці наперад, мы былі вымушаныя пераходзіць да абароны».

Ясінскі тым часам пакідае адміністрацыйную працу ў Вільні і бярэцца за шаблю. Першая бітва, у якой ён удзельнічае — пад Немянчынам, скончылася паразай ліцьвінаў, пад Палянамі — таксама. А тут яшчэ пачынаюцца непаразуменьні з паплечнікамі. Старэйшых афіцэраў раздражняла неабходнасьць падпарадкоўвацца маладому «выскачку». Хлявінскі, напрыклад, дэманстраваў відавочную пагарду да субардынацыі.

Касьцюшка паставіў кропку. Дрэнна ведаючы Вялікае Княства, ён просіць рады ў Станіслава Аўгуста, на што той ня здолеў прапанаваць

нічога лепшага за кандыдатуру генэрала Вяльгорскага.

Касьцюшка піша Ясінскаму, што шле ў Літву нібыта сваю правую руку і дадае: «...а ты, генэрал, будзь яму дапамогай сваім розумам і мужнасьцю». Ясінскі бачыць, што выбар ня лепшы, бо Вяльгорскі зусім ня ведае Княства і людзей, Якубу не застаецца нічога іншага, як толькі засыпаць новага кіраўніка рапартамі, у якіх гучаць настойлівыя патрабаваньні, нават мальба: умацоўваць сталіцу і высылаць партызанскія атрады за расейскі кардон — нават пешых і босых. Замест гэтага Вяльгорскі загадаў вывесьці войскі зь Вільні ў Лідзкі павет, а сам напісаў расейскаму генэралу Кнорынгу, прапануючы здаць горад. Не падазраючы, што такое чыніцца зусім побач, Ясінскі чакае галоўнага камэнданта ў лягеры пад Соламі, куды той і не зьбіраецца ехаць. Прамарнаваўшы шмат часу, Якуб, у якога было каля 4 тысячаў жаўнераў, вырашыў атакаваць два расейскія корпусы — Зубава і Бэнігсэна (каля 5 тысячаў і 16 харматаў). Бітва, што адбылася пад Соламі — адна з найбольш крывапралітных падчас паўстаньня 1794 года.

Пазьней Ясінскага будуць называць афіцэрам-тэарэтыкам, які ня меў войска. На жаль, збольшага так і адбывалася, але перад намі не кабінэтны стратэг пруска-аўстрыйскага ўзору. Празь пяць гадзінаў бою, усё, як казаў Напалеон, вырашыў «сьвежы» батальён, ды не батальён, а некалькі палкоў, што падыходзілі да расейцаў. Жаўнеры Ясінскага адступілі з годнасьцю і ў баявым парадку. Падчас адступленьня загінуў брат Якуба Юзаф, капітан стралкоў.



Прайграныя бітвы, сьмерць брата, непаразуменьні з кіраўніцтвам руху заганяюць Ясінскага ў дэпрэсію. Пэсымізм робіць яго абыякавым да свайго і чужога жыцьця. Касьцюшка, мабыць, адчуваючы, што не заўсёды быў справядлівы зь «літоўскім сэпаратыстам», схіляе яго да прыняцьця камандаваньня на жмудзкай мяжы й наднарвянскім фронце.

Праз чатыры дні пасьля прызначэньня Ясінскага, 19 ліпеня раніцай, генэрал Кнорынг супольна з Зубавым пачалі штурм Вільні, дзе Вяльгорскі пакінуў невялікую залогу. Горад вытрымаў тады дзякуючы мужнасьці ўсіх яго жыхароў. Аўтар знакамітага на ўвесь сьвет паланэзу «Разьвітаньне з Радзімай» Міхал Клеафас Агінскі успамінаў: «Віленскія мяшчане паказвалі цуды гераізму, кідаючыся ў адчаі на ворага, які з абодвух бакоў дайшоў да прадмесьцяў і падпаліў усе дамы, да якіх мог дапасьці». Прарыў расейцаў да Вільні стаўся вынікам дзеяньняў Вяльгорскага, які залажыў пасьля ад'езду Ясінскага лягер у Воранаве, дзе засяродзіў сем тысячаў войска. Жаўнеры, якія стаялі без справы, пачалі патроху разбэшчвацца, а ў кватэры галоўнакамандучага афіцэры п'янствавалі, рэзаліся ў карты — быццам гэта была не вайна, а пікнік. Усё да болю нагадвала часы кампаніі 1792 году.

У Вяльгорскага хапіла мужнасьці зразумець сваю няздатнасьць. Ён піша ліст Юзафу Панятоўскаму аб тым, пра што Ясінскі з самага пачатку казаў Касьцюшку: «Ня ведаю краю, ня ведаю людзей — Ясінскі іх ведае...» Дзякуючы намаганьням памяркоўнае партыі, замест Ясінскага Варшава прызначыла на месца Вяльгорскага

сына мазавецкага ваяводы — генэрала Станіслава Макраноўскага.

Падначаленая Ясінскаму наднарвянская дывізія складалася з 2800 чалавек пяхоты, 1720 кавалерыі і 9 гарматаў. У большасьці сваёй ягоныя людзі былі кантаністамі, валанцёрамі — адным словам, сырым матар'ялам. Дзейнічаць даводзілася ў вельмі цяжкіх умовах. Вораг націскаў з усіх бакоў, апрача таго Якуб дрэнна ведаў мясцовасьць. Для папаўненьня сваіх шыхтоў ён едзе ў Берасьце, адкуль накіроўваецца да Бельску, каб сабраць рэшткі літоўскае арміі і ўдарыць па Прусіі. Па дарозе да яго даходзіць вестка, якая канчаткова перакрэсьліла ўсялякія надзеі на перамогу. Расейцы ўзялі Вільню. Ясінскі піша ліст да расейскага камэнданта гораду: «Даведаўся, што пан камэндант загадаў разрабаваць мой дом. Няхай ён запытае сваіх афіцэраў, ці абыходзіліся ў нас зь імі такім чынам? Маю гонар упэўніць Вас, што безь бібліятэкі, мэблі і экіпажаў можна быць вельмі шчасьлівым, ня будучы рабом...»

Празь месяц, 11 верасьня, імкнучыся ўзьняць народны настрой, Найвышэйшая Рада агалосіла заклік «Да грамадзянаў правінцыі Вялікага Княства Літоўскага», дзе гаварылася, што страта Вільні яшчэ не канчатковая параза, што «не гарады й муры засланяюць нас ад ворага, але нашы сэрцы й дух». У тыя ж дні, убачыўшы проста фатальную сытуацыю ў Горадні, Якуб гаворыць ад'ютантам: «Я Бацькаўшчыны не перажыву, калі лёс ня дасьць мне загінуць у бітве, зьвярнуся да гэтых прыяцеляў», — паказаў на пісталеты. Пагарда да сьмерці кідала яго ў самую гушчу бітваў, але Якуб быў нібыта замоўлены ад куляў. Касьцюшка, каб неяк падтрымаць Ясінскага, сэпаратызму якога цяперака асьцерагацца не было сэнсу, па прыбыцьці ў Горадню ўзнагароджвае генэрала пярсьцёнкам з надпісам: «Бацькаўшчына свайму абаронцу» і прызначае камандзірам адной зь літоўскіх дывізіяў, даручыўшы наднарвянскую Юрыю Грабоўскаму.



**8. Канец**

Расея, нарэшце атрымаўшы гарантыі захаваньня міру з боку Турэччыны, вырашае адным моцным ударам пакончыць з Рэччу Паспалітай. Выклікалі графа Суворава-Рымніцкага, адно імя якога, як казаў расейскі паўкаводзец, герой Сямігадовай вайны Румянцаў, запужае многія тысячы. Сувораў рухаўся паскораным маршам; у верасьні-кастрычніку ён наносіць першыя паразы нашым войскам пры Крупчыцах, пад Берасьцем, Кабылкай...

Касьцюшка разумеў, што змагаючыся з Фэрзэнам і Суворавым паасобку, ён будзе мець больш шанцаў і 10 кастрычніка сутыкаецца з Фэрзэнам пад Мацяёвіцамі. Вораг меў падвойную перавагу ў людзях і патройную ў артылерыі. Тады склалася сітуацыя, падобная на тую, што напаткала Напалеона пры Ватэрло. Касьцюшка вельмі разьлічваў на падыход брыгады генэрала Адама Панінскага, але той атрымаў загад вельмі позна і проста фізычна ня здолеў яго выканаць, ператварыўшыся зь лёгкае рукі генэрала Юзафа Заёнчака ў здрадніка, што павінна было прыкрыць памылкі камандаваньня. Пад час бітвы цяжка паранены Касьцюшка трапляе ў палон...

Якуб прыбыў у Варшаву праз дзесяць дзён пасьля мацяёвіцкае трагедыі, і папрасіў у Тамаша Ваўжэцкага, абранага на месца Касьцюшкі, аб пасаду на пярэднім краі абароны — ў Празе. Ён спаліў масты. Існуе меркаваньне, што ў гэты момант Ясінскі прапанаваў зьнішчыць караля і ўсіх палонных, каб спаліць масты і для астатніх.

Прага атрымлівала ўдар першай, бо павінна была служыць шчытом, што прыкрывае Варшаву з поўдня, адкуль ішоў Сувораў. А за сьпіною — Вісла, і адзіны мост, што злучае прадмесьце з горадам. Умацаваньні рабілі палонныя, бо народ ужо ні ў што ня верыў. Генэрал Юзаф Заёнчак, адказны за абарону Прагі, таксама ня меў ніякіх надзеяў. Ён лічыў, што, каб паспрабаваць выстаяць, трэба хаця б 45 тысячаў жаўнераў, а ў наяўнасьці — толькі 15. Войска Суворава, разам з прусакамі — 38 тысячаў і 86 гарматаў. Прусакі сьцьвярджалі, што войскі Рэчы Паспалітай налічвалі 35 тысячаў (прускі Генэральны штаб карыстаў з падобнай хлусьні, каб надаць большую вагу сваім перамогам ці апраўдаць паразы). Паводле Заёнчака, ўсё войска Рэчы Паспалітай налічвала тады 22 тысячы жаўнераў.

Ясінскаму даручылі абараняць левае крыло — Таргувек. У ягоным распараджэньні толькі 4 тысячы жаўнераў 5-га і 7-га літоўскіх рэгімэнтаў ды яшчэ пара-другая сотняў габрайскае лёгкае кавалерыі палкоўніка Бэрэка Ясялевіча.

Зь лістапада расейцы праводзяць артпадрыхтоўку. Наступнай раніцай а 5-й гадзіне пачаўся штурм. На пазыцыі Ясінскага быў абрынуты ўдар чатырох з сямі калёнаў суворaўскага войска. Прыкладна праз поў гадзіны вораг зламаў лінію абароны і хлынуў за ўмацаваньні Таргуўка. Пачалася паніка. Цывільныя і войскі кінуліся да моста. Улады не было, — Заёнчака параніла ў жывот на самым пачатку штурму. Толькі вакол Ясінскага згрудзіліся рэшткі жаўнераў, якім заставалася прыгожа загінуць, засланяючы сваімі целамі адыход апошніх абаронцаў Бацькаўшчыны.

Якуб не палохаўся сьмерці, а нібыта забаўляўся зь ёю. Стоячы на ўвесь рост у золкай вільгаці восеньскае раніцы і блакітных клубах парахавога дыму, ён рабіў зь сябе жывую мішэнь, але кулі ня бралі яго да таго моманту, пакуль з карабіну, што падаваў яму ад'ютант, не было пакладзена некалькі дзясяткаў ворагаў.

Потым надыйшла Вечнасьць...

Аляксандар Сувораў падчас крывавае оргіі ў Праскім прадмесьці цынічна заяўляе прускаму генэралу Швэрыну: «Я тут з маім войскам, увенчаны лаўрамі перамогі». У Пецярбургу таксама ўзрадаваліся гэтай ганебнай перамозе, амытай крывёю многіх тысячаў бязьвінных людзей. Жаўнеры атрымалі срэбныя і бронзавыя мэдалі з манаграмай Кацярыны II і надпісам: «За труды и храбрость при взятии Праги 24 октября 1794 г.», афіцэры — пазалочаныя і бронзавыя крыжы з тым жа надпісам. Хацелі і ўласна для Суворава адліць мэдаль, але ўсяму бывае мера. Цэсарэвіч Павел Пятровіч быў рашуча супраць, гаворачы, што гэта было ня «действие военное, а единственно заклание жидов».

Праз два гады Павел Пятровіч, стаўшы Паўлам I, і робячы ўсё насуперак ненавіснай

маці, адпусьціць на волю Касьцюшку і 17 тысячаў палонных — ацалелых удзельнікаў апошняга акту трагедыі Рэчы Паспалітай.



# VII
# Успамін

*А. Дз.*
Расеец малюе Менск

*Сяргей Рыбчонак*
Радавод Міцкевіча

Мілаш пра Гейштара,
Гейштар пра Каліноўскага

Каваль у кароне
Гутарка пра Станіслава
Аўгуста Панятоўскага

*Антон Сіюль*
Сны

*А.Дз.*

## Расеец малюе Менск...

Ён не імкнецца зусім дакладна акрэсьліць будынкі, галоўнае — раскідаць іх на паперы, каб у агульных рысах даць уяўленьне пра пляніроўку аднаго з буйнейшых гарадоў «ізноў набытых» зямель.

Адбылося тое набыцьцё ў 1793 г., паводле другога падзелу Рэчы Паспалітай. Тады ж, у 1793 г., ствараецца першы расейскі плян места — «губернского города Минска». Недзе ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. малюецца й плян, фрагмэнт якога мы бачым тут. Старанна выведзены надпіс «Ратуша». З такой жа акуратнасьцю расейскія службоўцы падрыхтуюць у 1851 г. на подпіс імпэратару Мікалаю І указ аб зносе ратушы, якая, паводле згадак сучасьнікаў, «...сваім існаваньнем нагадвала пра звычаі мінулага часу, пра магдэбургскае права». Але на торг, прызначаны дзеля выдачы падраду на разборку будынка, ніхто не зьявіўся. Прыйшлося зьвяртацца да войска й выдаткоўваць грошы «на пакупку снарадаў дзеля разборкі ратушовага будынка».

Сэнтымэнтальнасьць менчукоў захавала жыцьцё ратушы пасьля ўказу толькі на 6 (шэсьць) гадоў, да 1857 г. Няхай бы тады, на зломе XVIII — XIX стст. расейскі чыноўнік так старанна не выводзіў гэты надпіс — «Ратуша». І маляваў над надпісам гармату — знак выкарыс-

таньня будынка вайскоўцамі. Ён нібы прадбачыў далейшы лёс таго, што маляваў. А калі не прадбачыў, дык нейкая патаемная сіла кіравала ягоным пёркам.

Гэткі самы злавесны быў надпіс яшчэ пад адным асуджаным будынкам — вуніяцкаю царквою Сьвятога Духа, якая на мапе вышэй ад ратушы. І бачым мы касьцёл дамініканаў (самы верх фрагмэнту пляну), а з правага боку ад ратушы — будынак, які пазьней ужо намі будзе названы будынкам першай беларускай опэры — у 1852 г. менавіта ў ім будзе пастаўленая опэра «Ідылія» на лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча. Тут дакладнасьць у вымалёўцы пляну — як знак сьмерці, як антрапалягічнае вымярэньне перад гільятынай — увойдзе шыя ў паглыбленьне ці ня ўвойдзе, і каб лязо заскочыла лягчэй, і каб шпарчэй выцякала кроў... Але расеец маляваў горад, а намаляваў выспу. З мапы стаўся пажоўклы кляновы ліст.

Нашыя позіркі скіраваліся на гэтую выспачку ў цэнтры мэгаполісу. І атрымаецца, што контуры фрагмэнту амаль дакладна акрэсьлілі тую частку Менску, якая засталася для нас сакральнай.

Сапраўды выспа...

Гэты фрагмэнт пляну Менску зусім нядаўна знайшоў і перадаў у рэдакцыю сталы чытач *НН* мянчук Кірыл Калінін. Знайшоў на падстрэшшы куляштару базылянак, таксама пазначанага на мапе. Цяпер на гэты будынак нарэшце скончылі класьць новую чырвоную дахоўку, цалкам аднавіўшы падчас рэстаўрацыі канструцыі даху. Файна. Але такіх знаходак там больш ужо ня будзе.

*Сяргей Рыбчонак*

# Радавод Міцкевіча

Адзінай мэтай гэтага артыкула зьяўляецца высьвятленьне генэалёгіі Адама Міцкевіча па бацькоўскай і мацярынскай лініях.

Паводле даўно вядомай гістарычнай традыцыі Адамаў бацька паходзіў са старажытнага, але зьбяднелага шляхецкага роду Рымвідаў-Міцкевічаў гербу Порай. Ён жыў і працаваў адвакатам у Наваградку*. Маці паэта — Барбара з роду Маеўскіх гербу Стары Конь, дачка Матэвуша й Ганны з Арэшкаў**.

Значнае месца ў нашай тэме займае праблема прызнаньня ў дваранстве Расейскай імпэрыі. Пасьля гвалтоўнай інкарпарацыі Вялікага Княства Літоўскага мясцовая шляхта павінна была прадставіць у губэрнскія дэпутацкія сходы свае доказы, дзе яны першапачаткова разглядаліся, пасьля чаго (у станоўчым выпадку накіроўваліся ў Пецярбург, дзе Дэпартамэнт Герольдыі пры Сэнаце зацьвярджаў іх або не). Што казаць пра шарачковую шляхту, калі праз гэтую працэдуру былі вымушаныя прайсьці нават князі Радзівілы. Абіваньне парогаў, пісаніна просьбаў, — усё гэта патрабавала вялікіх грошай, а справа магла скончыцца ўрэшце адмоўна, напрыклад, як з Купалавым бацькам.

* Górski K. Adam Mickiewicz. Warszawa, 1989. S. 240.

** Wasylewski St. Matka Adama Mickiewicza // Kuryer Literacko-Naukowy. 1933, Nr. 52. S. 8—9.



Асноўным матэрыялам на пачатку нашых пошукаў стала менавіта такая справа аб дваранстве Міцкевічаў*.

Спэцыфіка гэтай крыніцы — наяўнасьць, як правіла, распрацаванай генэалёгіі, якую хадайнікі прад'яўлялі на разгляд і зацьвярджэньне. І справа Міцкевічаў у гэтым сэнсе не выключэньне.

У 1804 г. паэтаў бацька Мікалай Міцкевіч падаў рашэньне аб прызнаньні ў дваранстве. Доказы разглядаліся ў Гарадзенскім дваранскім дэпутацкім сходзе, і 29 лістапада мясцовая вывадовая камісія пастанавіла прызнаць Рымвід-Міцкевічаў гербу Порай за шляхту з аднясеньнем іх да 1-й часткі радаслоўнае кнігі (найбольш прэстыжнымі лічыліся 5-я (тытулаваныя рады) і 6-я (старажытныя рады) часткі). У дакумэнце гаварылася, што прадзед хадайнікаў Крыштаф, сын Валентыя, з родных мясьцін, г. зн. з Радунскай парафіі Лідзкага павету, перасяліўся на НавагрАдчыну (напэўна, у канцы XVII ст.) і ажаніўся з Хрысьцінай Закрэўскай, за якой узяў пасаг — фальварак Вольцу (прададзены ў 1700 г.). Ягоны сын Ян меў ад Марыяны Лешчылоўскай пяцёх сыноў — Якуба, Адама, Іосіфа, Стэфана й Базыля, і валодаў каля 1739 г. двума пусткамі ў ваколіцы Прудох, якія выкупіў пазьней па заставе Францішак Верашчака. Пасьля сьмерці Яна сыны разам з маці прыкупілі ў Міхала Сасіновіча зямлю ў ваколіцы

* Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 319, Воп. 2, Спр. 1991.

Гарбатовічах (1770) і плацілі за яе падатак, як сьведчыў квіт 1789 г. Якуб пакінуў сына Мікалая, каморніка менскага, які ад Барбары Маеўскай меў сыноў Франьцішка, Адама й Аляксандра (Казімір-Юры, народжаны 26 лютага 1804 г., адсутнічае, як і Антоні, народжаны 29 красавіка 1805 г.). Адам меў сыноў Фэліцыяна і Іпаліта. Іосіф, Стэфан і Базыль дзяцей не пакінулі. Яшчэ хадайнікі акурат стасаваліся з генэалёгіяй роду Міцкевічаў, зацьверджанай на Гарадзенскай кадэнцыі Галоўнага Трыбуналу ВКЛ 25 чэрвеня 1789 г. Шляхецтва таксама даказвалася сьведчаньнем шляхты й абываталяў павету (10 жніўня 1787 г.) у тым, што яны — нашчадкі Крыштафа Міцкевіча, які быў шляхціц.

Іншымі словамі, усё складалася ўдала. Толькі створаная ў Вільні для рэвізіі Гарадзенскага дваранскага дэпутацкага сходу камісія (дзе было выяўлена шмат фальсыфікацыяў і подкупаў службовых асоб) зноў зацікавілася справай нашых герояў. Іх папрасілі прад'явіць арыгінальныя дакумэнты на шляхецтва.

У 1836 г. Іпаліт Адамавіч Міцкевіч даслаў камісіі ажно 8 дакумэнтаў, а менавіта: 1) выпіс з кніг Галоўнага Трыбуналу ВКЛ з генэалёгіяй Міцкевічаў за 25 чэрвеня 1789 г.; 2) генэалягічная табліца роду, складзеная паводле таго ж выпісу; 3) прадажная Крыштафа й Хрысьціны Міцкевічаў Адаму Букрэю на маёнтак Вольца, 23 красавіка 1700 г.; 4) купная на маёнтак Гарбатовічы ад Сасіновіча Міцкевічам, дадзеная 20 красавіка 1770 г.; 5) квіт на выплату двух пустак., у ваколіцы Прудох ад Верашчакі Яну Міцкевічу, 20 сакавіка 1739 г.; 6) застаўная ад Крыштафа й Хрысьціны Міцкевічаў на маёнтак Вольца-Букрэеўская, 1696 г.; 7) выпіс з кніг Галоўнага Трыбуналу ВКЛ са сьведчаньнем шляхты й абываталяў аб паходжаньні Міцкевічаў, 10 жніўня 1787 г.; 8) выпіс з рашэньня Навагрудзкага земскага суда аб прызначэньні Мікалая Міцкевіча апекуном жонкі й дзяцей Адама Міцкевіча, 15 лютага 1802 г.

Камісія разгледзела гэтыя дакумэнты, але дастатковымі не палічыла і запатрабавала новых доказаў: перш за ўсё дакумэнтаў аб валоданьні маёнткамі з прыгоннымі і мэтрыкаў аб хрышчэньні. Невядома, зь якой прычыны, але Міцкевічы, напэўна, не пасьпелі выканаць гэтае патрабаваньне, і 10 сакавіка 1839 г. Дэпартамэнт Герольдыі указам скасаваў пастанову Гарадзенскага ДДС ад 29 лістапада 1804 г. і выключыў іх з дваранства.

Толькі ў жніўні 1841 г. Фэліцыян Адамавіч Міцкевіч здолеў даставіць дзьве мэтрыкі — на сябе й брата Іпаліта, а крыху пазьней — яшчэ тры дакумэнты — выпісы з кніг Гарадзенскага земскага суда: 1) прадажная Валентыя Грыгоравіча Міцкевіча Крыштафу Міцкевічу на маёнтак Міцькоўцы Гарадзенскага павету, 3 студзеня 1695 г.; 2) тастамант Яна Крыштофавіча Міцкевіча сынам Якубу, Адаму, Іосіфу, Стэфану й Базылю на маёнтак Міцькоўцы, 4 траўня 1768 г.; 3) прадажная Якуба й Адама Міцкевічаў брату Стэфану на свае спадчынныя часткі маёнтка Міцькоўцы, 5 чэрвеня 1784 г.

Гэтыя дакумэнты наводзяць на пытаньні. Напрыклад, чаму Валенты, бацька Крыштофа, паказаны на радаводзе сынам Станіслава, а ў дакумэнце — сынам Рыгора, прадае маёнтак свайму сыну? Дзе жыў Ян: у ваколіцы Прудох ці ў

Міцькоўцах? Як Адам і Якуб у 1784 г. маглі прадаваць Стэфану Міцкевічу нешта ў Міцькоўцах, калі ўсе яны з 1770 г. жылі ў Гарбатовічах і больш нічым не валодалі? Выснова бачыцца толькі адна — бацька Адама скарыстаўся для зацьвярджэньня чужым радаводам. Той жа мэце служылі байкі пра перасяленьне й сваяцтва.

Справа Міцкевічаў цягнулася аж да 1859 г. і скончылася нічым. Праўда, чыноўнікі Менскага ДДС і Дэпартамэнту Герольдыі так і ня вынайшлі фальсыфікацыі. Проста ў Міцкевічаў не хапіла грошай, і, напэўна, не засталося нашчадкаў.

Так перад аўтарам паўстала нечаканая задача — стварыць новую генэалёгію роду Міцкевічаў. Матэрыялаў, якія проста ці ўскосна тычацца нашых Міцкевічаў (на Наваградчыне хапала й іншых), аказалася болей, чым можна было меркаваць. На жаль, значна праясьніць радавод продкаў паэта яны не дапамаглі. Больш таго, сьледзтва зайшло ў чарговы тупік. Цяпер цяжка зразумець, з чаго ўсё пачалося, напэўна, з грошай, якія гарбатовіцкая шляхта пазычыла ў нашых герояў у 1784 г. Замест вярнуць доўг яна раптам адкрыла «мужыцкасьць» Міцкевічаў. На гэтую тэму была складзеная позва-памфлет са старанна расьпісанай генэалёгіяй, што зьявілася ў ліпені 1787 г. Магчыма, аўтарства належала гарадзенскаму ротмістру Францішку Янішэўскаму. Вось яе кароткі зьмест.

Янішэўскія валодалі вёскай Буцюнкі непадалёк ад Горадні ў накірунку да Індуры, дзе зьявіўся на сьвет пазашлюбны Хведар Міцкевіч. Каб гэты факт не перашкаджаў яму жыць спакойна, «ён зьехаў спачатку ў каралеўскую вёску



Цьвіклі, а потым у Дзевятковічы, што на Слонімшчыне, дзе служыў паштовым». Нарэшце, ён пасяліўся ў ваколіцы Сьліжэвічы і меў сына Яна. Ян меў пяцёх сыноў і жыў нейкі час у вёсцы Пруды. «Пасьля яго сьмерці дзеці незаконна, бо не ад уладальніка, а ад арандатара Сасіновіча, набылі зямлю ў ваколіцы Гарбатовічах і перасяліліся туды». Таму Янішэўскі як былы законны ўладальнік выклікаў Міцкевіча ў суд і патрабаваў доказаў на шляхецтва.

Наступны жнівень прынес яшчэ большыя непрыемнасьці. 6 і 7 дня мясцовая шляхта (як мужчыны, так і жанчыны, агульнай колькасьцю 24 чалавекі), выбраўшы сабе за кіраўніка Тадэвуша Гарбатоўскага, «гарэлкай свае розумы затлуміўшы... па ўсіх ваколіцах хадзілі й езьдзілі, хлопамі Міцкевічаў называлі, а Падрэцкіх і Таралевічаў тры разы на дом Міцкевічаў насылалі». Напэўна, пасьля гэтых падзеяў і пасьпяшаўся Мікалай у Радунскую парафію па вядомае нам сьведчаньне тамтэйшае шляхты й абываталяў, якое датаванае 10 жніўня 1787 г., каб хоць нейкую паперу мець супраць абвінавальцаў.

11 жніўня супрацьстаяньне дасягнула кульмінацыі: Рэміпян Гарбатоўскі, узяўшы стрэльбу з узьведзеным курком, напаў на дом Міцкевічаў, сварыўся з Базылём і некалькі разоў парываўся забіць яго. Але Базыль з дапамогай дамоўнікаў здолеў абяззброіць нападніка. У той жа дзень Гарбатоўскі зноў заявіўся да нашых герояў, але ўжо з больш «зручнай для забойства стрэльбай і зь лепшым, што тычылася пораху й куль, зарадам», і так зьнянацку, што Базылю да-

вялося не бараніцца, а хавацца, каб выратаваць свае жыцьцё.

Справа абвінавачаньня Міцкевічаў у мужыцтве разглядалася ў Навагрудзкім гродзкім судзе 17 сакавіка 1788 г. і скончылася для іх удала. Ніводзін з бакоў, а найперш абвінаваўцы, ніякіх аргумантаў не прад'явілі. Міцкевічы сьцьвярджалі, што адсутнасьць папераў ня робіць іх мужыкамі, тым больш што сёньня яны належаць да шляхецкага стану. Па законах Рэчы Паспалітай гэта забясьпечыла нашым героям несумненную перавагу, таму суд абараніў гонар Міцкевічаў і асудзіў абодва бакі на маўчаньне. Не зьявіўшыся, Янішэўскі быў завочна пакараны штрафам у 1045 злотых, спагнаць які Міцкевічам дазвалялася ва ўстаноўленым парадку.

Зразумела, што згаданы дэкрэт Мікалай Міцкевіч не прадставіў у якасьці доказу дваранства. Таксама цяжка пазбавіцца думкі, што скандал са шляхецтвам Міцкевічаў ня меў ніякіх падставаў. Аднак праясьніць сытуацыю могуць толькі новыя пошукі. Кола сваякоў Адама, якое аўтару ўдалося ўдакладніць, можна бачыць на малюнку.

Малы Адам, несумненна, чуў гэтую гісторыю ад сваіх блізкіх, і нешта зь яе скарыстаў для стварэньня «Пана Тадэвуша».

Аўтар, зразумела, і не марыў знайсьці мэтрыку аб хрышчэньні маці Адама. Барбара нарадзілася каля 1767 г., а адпаведных дакумэнтаў таго часу захавалася вельмі мала. Тым ня менш, вэрсію з жыдоўствам можна было б удакладніць ускосна — шляхам вывучэньня генэалёгіі роду Маеўскіх.



Па-першае, акрамя імя Барбара, яна называлася яшчэ Розай, як сьведчыць мэтрыка аб сьмерці*. Па-другое, бацька яе — Матэвуш Маеўскі, аканом маёнтку Чомбраўскага, нарадзіўся каля 1737 г. і меў, напэўна, таксама дачок Тэрэзу й Марыяну (апошняя, магчыма, стала адной з хросных Казіміра-Юрыя Міцкевіча), але зьвестак пра прыналежнасьць гэтага Матэвуша да роду Маеўскіх гербу Стары Конь пакуль ня знойдзена. Здаецца, Ст. Васылеўскі проста скарыстаў найбольш вядомы на Навагрудчыне род, нават не паспрабаваўшы удакладніць паходжаньне зь яго Барбары. Наогул, пры значнай колькасьці прагледжаных аўтарам матэрыялаў, не выяўлена ніводнага дакумэнту, дзе б Маеўскія згаданага гербу кантактавалі з нашымі Міцкевічамі.

Цікавы факт ёсьць у кнізе З. Сухадольскага: дзеці Адама Міцкевіча ад Цэліны Шыманоўскай (Уладзіслаў-Іосіф) і ягонага сябры па Вільні Францішка Малеўскага ад Гелены Шыманоўскай (Марыя) у лепшых жыдоўскіх традыцыях, вынесеных з Эгіпту, пераженіліся паміж сабою**.

На карысьць жыдоўскага паходжаньня паэтавай маці гаворыць і наступны факт. Пакуль паэт жыў на Беларусі зь яе традыцыямі талеранцыі і значным дамешкам жыдоўскае крыві, на ягоныя рысы проста не зьвярталі ўвагі. Калі ж ён апынуўся ў Расеі, дзе сыноў Ізраіля чуюць за вярсту, сябры прыдумалі яму ласкавую мянушку «Адам Адамович Вральман», што тлумачылася яго незвычайнай здольнасьцю да

* Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 937, Воп. 4, Спр. 151. Аркуш 108.

** Suchodolski Z. Panny Szymanowskie. Warszawa, 1986.

літаратурньгх імправізацый, як правіла, на французскай мове*.

Як бачым, генэалёгія Адама Міцкевіча па матчынай лініі ня менш заблытаная, чым па бацькавай.




* Сиротин А. Россия и славяне. СПб, 1913. С. 69—70.



# Мілаш пра Гейштара, Гейштар пра Каліноўскага

Жывучы ў Каліфорніі, польскі паэт, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі Чэслаў Мілаш часта й настальгічна згадвае сваё котлішча — Літву. І, мабыць, ужо ня столькі ў гэтых успамінах рамантыкі й натхненьня, колькі дзядоўскага сантымэнту. Людзі старога веку — больш краязнаўцы, чым паэты.

Гэтым разам аповяд састарэлага паэта пачынаецца ад паўстаньня 1863 г. Нагодай паслужыла яму другое выданьне Успамінаў Якуба Гейштара* — кіраўніка «белых» і земляка, — якое Мілаш набыў у Кракаве. Набыў і напісаў эсэ «Над Нявяжаю, век дзевятнаццаты», якое пасьля зьявілася ў парыскай *Kultury* №5 за гэты год**.

Рака Нявяжа (або Нявежыс), прыток Нёмна, цячэ ў самым цэнтры сучаснае Летувы, паміж Коўнам ды Панявежысам. Літвою Мілаш называў Аўкштоту — адсюль цяжкасьці з тлумачэньнем некаторых гістарычных рэаліяў, напрыклад, ролі Каліноўскага, як «літоўскага сэпаратыста»...

Якуб Гейштар, — піша Мілаш, — уладальнік маёнтку па-над Нявяжай, быў найбліжшым суседам і прыяцелем майго роднага прадзеда Сымона Сыруця.

* Першае выданьне: Pamiętniki Giesztora z lat 1857 — 1865. Wilno, 1913.

** 1991 год.

Нарадзіўся Гейштар у 1827-м. Вучыўся ў Кейданах, пасьля — у шляхецкім інстытуце ў Вільні і далей вывучаў права ў Петэрбургу. Там ягоным прыяцелем быў Зыгмунт Сераковскі. Зразумела, яны спрачаліся. Гейштар быу праціўнікам узброенай барацьбы і за мэту ставіў вызваленьне сялянаў, як перадумову якіх-кольвек незалежніцкіх акцый.

У 1848 годзе петэрбурскага студэнта Сераковскага, які памкнуўся быў удзельнічаць у рэвалюцыі, схапілі на аўстрыяцкай мяжы й паслалі ў салдаты, але ён так вылучыўся на Каўказе, што зрабіў вайсковую кар'еру й дайшоў да ступені афіцэра генштабу. Тымчасам Гейштар атрымаў маёнтак (які належаў да сям'і ягонае маткі, Леакадзіі з Завішаў) Ignacogryd, названы так у гонар Ігната Завішы, які быў афіцэрам у Касьцюшкавым паўстаньні, а пазьней быў пахаваны ў Апіталоках.

Ажаніўся Гейштар са сваей цёткай, роднай сястрой свае маткі. Я не ўяўляю, што ўвогуле магчымае сужэнства з такой блізкай сваячкай. Да таго ж ён меў тады дваццаць чатыры гады, а яна трыццаць адзін. У кожным разе Гейштары мелі шасьцёра дзяцей, пяць сыноў і дачку. Пазьней, як вярнуўся з Сыбіру, Гейштар ажаніўся другі раз і меў яшчэ двух сыноў.

Найбольш актыўны ён быў у 1861 годзе, калі пасьля маніхвэсту аб вызваленьні сялянаў былі створаныя губэрнскія камітэты, часткова з прызначаных, часткова з абраных шляхтаю прадстаўнікоў. Абраны ад свайго павету, Гейштар езьдзіў па ваколіцах і назіраў, як маніхвэст праводзіцца ў жыцьцё.

Выхаваны на польскай рамантычнай паэзіі (Гейштар быў сябрам Сыракомлі, і калі той памёр, узяў на выхаваньне аднаго зь ягоных сыноў), ён ацэньваў людзей паводле таго, ці «з добрага яны гнязда» («Зь дзяцінства ня маю каставых засьцярогаў, але маю вельмі моцна прышчаплёную веру ў прыстойнае альбо благое «гняздо»). Найцяжэйшы закід, які ён робіць Канстантаму Каліноўскаму (хоць лічыць яго найвыбітнейшай постацьцю 1863 году) — гэта няведаньне людзей і атачэньне сябе лісьліўцамі, пасрэднасьцямі, тыпамі сумлеўнага характеру.

Прызнаюся, я ня маю яснага ўяўленьня пра становішча сялянаў у Літве перад маніхвэстам цара 1861 году й пасьля яго. Але Жмудзь (магчыма таму, што каталіцкая) не была арэнай такіх відовішчаў як Беларусь, Валынь ці Украіна, дзе выбухнула нянавісьць да ляхаў альбо паноў.

Для Гейштара ягоны край быў часткай ня Рэчы Паспалітай, а папросту — Польшчы, у яе межах 1772 году. Такое пераканаць не выглядае сёньня крыху нелягічна, бо й сам Гейштар сьцьвярджае: «кожны разумны чалавек мусіць прызнаць, што польскасьць у Літве, на Беларусі, Украіне й Валыні пераважна прадстаўляе шляхта».

Камітэт «белых», галоўным творцам якога быў Гейштар, спрабаваў затрымаць паўстаньне, але яно выбухнула ў самім Каралеўстве...

Арыштавалі Гейштара 31 ліпеня 1863 году. Ён атрымаў прысуд — 12 гадоў цяжкіх работ, пазбаўленьне правоў, канфіскацыя маёнтку. Кару пачаў адбываць на солевых варэльнях каля Іркуцку. Умовы тады былі не такія цяжкія, як у сталінскіх гулагах. Дзень працы цягнуўся 5 гадзін. Гейштар меў шмат вольнага часу і там чаў пісаць свае ўспаміны. У 1868 яму дазволілі жыць

у Іркуцку, дзе ён гандляваў абуткам. А ў 1872 быў вызвалены і асеў у Польшчы.

У некалькіх разьдзелах успаміны датычацца спрэчкі пра стасункі паміж Літвой і Каронай, бо ня ўсе, як Гейштар, былі прыхільнікамі Польшчы замест Рэчы Паспалітай. Тут галоўным ягоным праціўнікам быў Канстанты: Каліноўскі. Варункі дваццатага стагодзьдзя цалкам зьмянілі гэтую постаць, а з-за таго, што «umiarł szybko jadą», няшмат засталося ад ягоных поглядаў ды памкненьняў.



## Каваль у кароне

Гутарка Сяргея Астраўцова
з Уладзімерам Кіслым
пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага

Здарылася так, што гэтай падзеі на Беларусі амаль не заўважылі. А рэч вось у чым. Аднойчы тры гарадзенскія беларусы — гісторык М. Ткачоў, фізык А. Мілінкевіч і мастак Ул. Кіслы заехалі у Воўчын каля Высокага-Літоўскага (гэта Камянецкі раён) ды раскапалі там рэшткі пахаваньня апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Празь некаторы час пра тое даведаліся у Варшаве й Менску. А сёлета ў траўні згаданай тройцы (а таксама кіраўніку Белрэстаўрацыі зь Менску Каналенку) былі уручаныя ўзнагароды-адзнакі «Заслужаны для культуры Полыпчы». Словам, адбылося нешта для грамадзкае думкі як быццам зразумелае (штосьці каштоўнае знайшлі — атрымалі узнагароды), але й не зразумелае зусім. Навошта, скажыце, выкопваць гэтага караля? Што зь ім далей рабіць? Хто ён увогуле такі?.. Усё тут патрабуе тлумачэньняў. І паколькі двое ўдзельнікаў экспэдыцыі — людзі вельмі занятыя (доктар гістарычных навук М. Ткачоў зараз у Менску кіруе Грамадой, а дацэнт Купалаўскага унівэрсытэту А. Мілінкевіч працуе намесьнікам старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму па культуры), карэспандэнт *НН* зьвярнуўся па тлумачэньні да трэйцяга — мастака-рэстаўратара Музэю гісторыі рэлігіі

Ул. Кіслага, які дагэтуль не абцяжараны ніякімі пасадамі...

— Аднойчы, — пачаў Ул. Кіслы, — А.Мілінкевіч вяртаўся ад сваякоў зь Беластоку. Ехаў ён праз Высокае. Як чалавек, заангажаваны гісторыяй, заехаў у Воўчын і пачуў там такую гісторыю... Пасьля вайны, калі апошні каталік пакінуў Воўчын, савецкія пагранічнікі аднае начы абрабавалі касьцёл. Шукаючы каштоўнасьцяў, яны растрыбушылі ўсё пахаваньне караля. Перад тым (існуе пасьляваенны акт перадачы касьцёлу) усё было цэлае — і абразы, і усё астатняе... Апавядалі таксама, што каралеўскую карону прысябечыў мяйсцовы каваль. І ў гэтай кароне ён, як мужык вясёлы, выходзіў часам патанчыць на вясельлях. Карона, казалі, была з простага жоўтага мэталю, відаць, з бронзы, і пазалочаная.

— Па-мойму, у кніжках напісана, што яна была з тамбаку... Але што адбывалася далей?

— Прайшло батата часу. Падрос Мілінкевічаў сын, пачуў ад бацькі (заўзятага, дарэчы, краязнаўцы) гэты аповяд і давай яго агітаваць зьезьдзіць туды. Ну, а Мілінкевіч прапанаваў далучыцца мне. Запрасілі таксама, як археоляга, Ткачова. Выпісалі прапускі ў памежную зону ды паехалі.

Каваль тады ўжо памёр, але нам удалося адшукаць ягоных дачку й сына. Высьвятліць, праўда, нічога не змаглі. Ці то яны баяліся казаць, ці папросту нічога ня ведалі. Ускосна мы зразумелі, што карона трапіла ва ўтыль — каляровыя мэталі. Абмянялі, напэўна, у ганучніка на муку й соль.

Раз такая справа, мы пайшлі да касьцёлу. А тамака вецер гуляе, страха абдзёртая, кроквы



згнілі й абрынуліся долу, пахаваўшы пад сабой усё, што яшчэ магло быць вартага. Ляпніна абсыпалася... А касьцёл быў незвычайны. Эвангэлісты зь пясочніку на франтоне стаяць!..

Мы знайшлі тое мейсца, дзе стаяла труна, пачалі капаць. Перакапалі ўсе да драбніцы, перабралі рукамі. Паўдня патрацілі, але дасталі батата знаходак арлоў зь «Цёлкам», радавым гэрбам Панятоўскіх, ды іншых. У Варшаве чамусьці самы горшы арол апынуўся, хоць я ў Менск перадаваў вельмі добрага. Дзесьці па дарозе, мусі, папрыліпалі арлы да рук.

А як з самім нябожчыкам?

Костак мы не знайшлі. Але, як паказалі пазьнейшыя досьледы, дробныя рэшткі костак былі. Мы гэтага ня ведалі, калі везьлі з сабой у Горадню мех рэшткаў: абцасаў, стужак, залачоных галуноў і каралеўскай шаты, якой была пакрытая труна і якой нібыта любіў ахінацца сам кароль. Дошкі ад труны пакінулі на мейсцы, прыхінуўшы да мура.

Была восень. Мы вырашылі пачакаць да вясны й тады зноў пашукаць косткі, можа, думалася нам, іх нехта перахаваў. Тады, як мы меркавалі, і паведамім пра знаходкі ў польскае консульства, каб рэшткі караля перахавалі, як і належыць, на Вавэлі. Тады якраз у Польшчы пачыналася кампанія рэабілітацыі Панятоўскага. Доўгі час яго лічылі здраднікам, які давеў краіну да згубы, а таму, маўляў, ён ня мае маральнага права быць пахаваным разам зь іншымі каралямі ў Кракаве. Цяпер жа шмат хто зьмяніў думку: у тым становішчы Панятоўскі ня мог дзеіць іншакш, а ў палякаў былі й больш грэшныя каралі.

Карацей, нам хацелася цалкам датрымаць усе правілы, каб не выглядаць вандаламі. Можа, пазьней палякаў гэта якраз і кранула.

Аднак захаваць у таямніцы гэткую справу аказалася амаль немагчыма?

Пра нашае адкрыцьцё стала вядома, і неўзабаве мы зь Мілінкевічам даставілі знойдзеныя рэшткі ў Міністэрства культуры ў Менск. Далей іх перадалі ў рэстаўрацыйныя майстэрні Дзяржаўнага музэю. Для іх зрабілі адмысловую скрынку, якая потым была ўрачыста перададзена камісіі з Варшавы. У тую камісію ўваходзілі вядомы антраполяг (адмыслова дзеля гэтага прыляцеў аднекуль з Афрыкі), дырэктар Каралеўскага замку, дырэктар Лазенак... усяго 13 асобаў. Вяртаючыся дадому, яны без папярэджаньня заехалі да нас у Горадню. Я так зразумеў, каб спраўдзіць, ці няма ва ўсім гэтым «качкі». Мяне перапытвалі асобна — як, што, дзе знайшлі? Аўвечары па трэйцяй праграме польскага радыё я ўжо пачуў паведамленьне пра падзею. Палякі — рамантычны й сантымэнтальны у гэтым народ. Скрынку тады ж ўрачыста пры сьвечках унесьлі ў палац: «Круль знув повруціў до Варшавы».

— Пасьля гэтага справай нарэшце зацікавіліся й з гэтага боку мяжы, і да цябе наведаліся з кінакамэрамі...

— Гэта рэжысэр У. Цьвяткоў узяўся рабіць фільм пра Панятоўскага, Агінскага й яшчэ кагось. Здымалі ў мяне ў майстэрні, здымалі нас у Воўчыне, здымалі, як мы шукаем, распытвалі, як мы ставімся да разбурэньня касьцёлу. Дарэчы, палякі з нашых рагочуць. Яны спыталіся ў Міністэрстве культуры, як думаюць выкарыстоўваць касьцёл. Ім адказваюць: «Ну, зал концертный сделаем». Як? Тут, у Белавескай пушчы? Для каго, для зуброў?.. Зрэшты, ім было ня так сьмешна, як дзіка.

Ну а апроч Цьвяткова, ніхто больш гэтай справай у нас не цікавіўся. Хоць усё гэта наша гісторыя, наша зямля. Гарадзенскія гісторыкі наогул да Мілінкевіча ставяцца нядобра, з рэўнасьцю. Маўляў, фізык, мог бы фізыкай і займацца. Але й самі яны гэтага рабіць ня стануць. Я магу зразумець іхнюю зайздрасьць. Яны сабе нават дазволіць такога ня могуць: паехаць за 300 км шукаць пахаваньне караля.

— Кароль. Кім ён быў для нас? Чужым ці не?

— Асоба, вядома, не зусім пасьлядоўная. Лес ягоны трагічны. Атрымалася, як у тым кітайскім праклёне: каб ты жыў у цікавыя часы. Як мы зараз... Яго асуджаюць за тое, што падпісаў падзел Рэчы Паспалітай і паехаў у Пецярбург да Кацярыны. Цяжка пра гэта казаць, і думаю, я ня самы кампэтэнтны ў гэтым пытаньні чалавек. Адно я ведаю жалезна: Ст. А. Панятоўскі, а для нас ён быў перадусім не каралём, а вялікім князем літоўскім (хоць, вядома, калі ён бываў у Горадні, усе крычалі: віват, кароль!), шмат зрабіў для Беларусі. Узяць наш горад. Калі ён разбудаваўся? Менавіта пры Панятоўскім.

У Польшчы пасьля хвалі рэабілітацыі да яго зноў узьнікае варожасьць. Маўляў, масон і наогул здраднік. Хоць для Польшчы ён таксама зрабіў багата карыснага. Тыя ж Лазенкі, Вілянув...

— Калі я тады адразу надрукаваў нататку пра вашыя пошукі, мне сказалі пра незадавальненьне гарадзенскіх палякаў, маўляў, я замахнуўся на чысьціню каралеўскай крыві. Але зьвесткі пра тое, што дзед караля быў пазашлюбным сынам

беларускага магната Сапегі, я вычытаў у польскай кніжцы «Спрэчка пра Станіслава Аўгуста»...

— Гэта ўсё праз нашых гісторыкаў, якім варта было б быць больш уважлівымі да асобы Панятоўскага. Маці караля — з Чартарыскіх, а Чартарыскія — стары беларускі род. Дзед караля — Панятоўскі — нават па-польску пісаў свае прозьвішча праз «ў». Карацей, Станіслаў Аўгуст — чалавек з нашых земляў. І ён роўна дзяліў свае высілкі паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. Ня так, як цар Пётар І, які забраў усіх тутэйшых майстроў да сябе у Расею ды забараніў у нас рабіць каменныя пабудовы. Але ж цара ў нас шануюць, а пра караля, пры якім магутнае разьвіцьцё атрымалі нашыя гарады, расквітнела мэцэнацтва, нават не згадваюць...

— Самы час распавесьці пра ўрачыстасьць у Варшаве, у якой табе давялося браць удзел.

— Сёлета ў траўні нам затэлефанавалі з польскага консульства ў Менску й запрасілі на цырымонію перазахаваньня каралеўскае труны ў Варшаву. Перазахаваньне мелася адбыцца у катэдры сьв. Яна, але не адбылося. Як я ўжо казаў, пачалася новая хваля антыпанятоўскіх настрояў. Тым ня менш, нас прынялі спачатку ў Польскім фоньдзе культуры, а пасьля ў Міністэрстве культуры й мастацтва. Уручэньне нам адзнакаў было прымеркаванае да падпісаньня культурнае дамовы паміж Беларусьсю й Польшчай. Зь Менску дзеля гэтага прыехалі міністар культуры Вайтовіч і старшыня Фонду культуры пісьменьнік Чыгрынаў. Менскія з парогу паставіліся да нас халодна, ня ведаю чаму.

На ўручэньні ўсё было ветліва й прыгожа. З боку палякаў мы не адчувалі ніякае пыхі ці чагось падобнага, чаго ня скажаш пра землякоў. Стаялі напышлівыя, як сычы. Ніхто нават не пацікавіўся, хто я такі, не кажу ўжо пра віншаваньні... Затое палякі сказалі, што польская культура ацаніла наш учынак. У вадказ Мілінкевіч сказаў слова па-польску. Пачаў з таго, што няма нічога дзіўнага ў тым, што чатыры беларусы зрабілі гэтую справу. На што ў віцэ-міністра Ягелы крыху апусьцілася сківіца. Як потым мы даведаліся, ён перад тым быў на непрыемнай размове зь беластоцкімі беларусамі. Вырашыў, мабыць, што мы зноў пачнем свае бочкі каціць, хоць і па-польску. Дарэчы, менскаму міністру перакладчык тлумачыў польскія прамовы на расейскую мову.

Потым былі шампанскае й віншаваньні. У размове зь Ягелам я сказаў, што не адчуваю ніякай заслугі. Была прыватная выцечка бязь нейкага адмысловага намеру... Ён адказаў, што гэтыя ўзнагароды папросту не раздаюцца (за выслугу іх не даюць. Перад намі такую атрымаў чалавек, які знайшоў у Польшчы й адрэстаўраваў карціну Рэмбранта). Я яму кажу, што працую ў беларускай культуры 12 гадоў і — ніц. А тут — ворэк зь цюхамі і маш баба пляцэк. А ён тады адказвае: нех пан так не лічы. Зробілішьмы так, бо естэшьмы уважны до людзі...

Пасьля ўсяго была вячэра ў гатэлі «Вікторыя».

Зьдзівіла пры знаёмстве з польскімі дзеячамі культуры тое, што большасьць зь іх выйшлі зь Беларусі, з заходняй. Усе яны маюць сантымэнт да нашага краю. Яны кажуць: мы мусілі ўцякаць, каб жыць як людзі, а не сярод белых мядзьведзяў.

Пасьля гэтых сустрэчаў я перастаў баяцца польскай інвазіі. Нам патрэбныя трывалыя кан-

такты зь імі, хоць яны й па-рознаму да нас ставяцца. Але факт: частка нашай культуры, нашых мазгоў апынулася там, і трэба з гэтага неяк карыстаць.

— Няўжо гэтак лагодна вашыя гутаркі працякалі ўвесь час?

Я мусіў сказаць ім, што мне няўцям і наогул гэта насьмешка, калі пішуць, што польскі шляхціц Ян Луцэвіч стварыў беларускую літаратуру. Яны мне адказвалі: ня мусіце крыўдаваць, бо мы не прыдаем гэтаму адмысловага этнаграфічнага сэнсу. Маўляў, яны гавораць так дзеля скарачэньня, але маюць на ўвазе тэрыторыю Рэчы Паспалітай. А падтэкст можа быць і такі: наша ж гістарыяграфія прывучыла, што калі шляхта, дык толькі польская.

Але я не заўважыў, прынамсі ў культурным асяродзьдзі, жаданьня праглынуць нас дый годзе. Яны казалі, што хочуць, каб у нас быў нармальны край, нармальная культура. Калі б у нас на Беларусі не руйнавалі, а стваралі, яны гатовыя спрыяць нам. Дырэктар Каралеўскага палацу ў Варшаве А. Гэйштар (нядаўна ён ужо наведаў Горадню. — С. А.) сказаў, што калі будзе аднаўляцца Гарадзенскі замак, яны дапамогуць узнавіць інтэр’еры.

Яшчэ ў гутарцы згадваўся Адам Міцкевіч, і я сказаў усё, што думаю. Адказ быў наступны, крыху іранічны: што ж нам рабіць з жыдабеларусам (палякі нядаўна высьветлілі, што ягоная маці — Маеўская — паходзіць з жыдоў), польскім паэтам, які па-польску сказаў: «Літва, Айчына мая!»?..

Мы маем агульную гісторыю, і нам досыць ужо адмаўляцца ад свае спадчыны.



*Антон Сіюль*

## Сны

*Холодным травеньскім ранкам я брыду пад руку праз старыя прысады ліпаў і дубоў. Іх варанёныя камлі зіхцяць, як мораная гліна велізарных вазаў.*

*Сьцяжына йдзе ўгару. Дрэвы расступаюцца перад вялікай бажніцы, да якое з дарогі вядуць цыкляпічныя каменныя прыступкі. Руды граніт, рудая цэгла, хвалі дахоўкі зачароўваюць сваёй матар’яльнасьцю сярод акварэльнага паветра. Здаецца, гэтая спаруда толькі вылузалася з густога дзірвану.*

*Гранітны партал шырока расхінаецца, дэманструючы сілу падуг, якія нясуць высокую стромкую званіцу.*

*Гостры шпіль тускна мігціць, як нэонавая хірургічная прылада. Бажніца зьдзіўляе прастатою й дакладнасьцю. Стрэхі кожнае яе часьціны — нібыта роўніцы прыступкаў, ад сакрыстыяў да абсіды, ад трансэпту да наваў, ад званіцы — да неба.*

*Я доўга пасьля шукаў гэты храм. Але ў Вільні яго няма...*

Дойлідзтва ўвасабляе сыстэму ўяўленьняў людзей пра іх месца ў прасторы, пра іх біялягічны оптымум і здавён узвышаецца па-над іншымі відамі чалавечай дзейнасьці. Архітэктура як фактар татальны, ствараючы штучныя

вымярэньні, ёсьць начыньнем для цывілізацыі. Яе сьценкі адмяжоўваюць людзтва ад вонкавага сьвету й замыкаюць ва ўнутраным, дзе ўжо архітэктурны кшталт дыктуе сваю ўсеабдымную сыстэму эстэтычных ўяўленьняў.

У розныя эпохі розныя народы па-свойму інтэрпрэтавалі гэты фактар. Адныя рабілі калёны ў выглядзе людзей, другія — паставы людзей у выглядзе калёнаў. Адныя прамаўлялі праз архітэктуру, другія падпарадкоўваліся ёй. Адныя народы пакаленьнямі будавалі піраміды й вялікія сьцены, другія будавалі для сябе, не вырастаючы ў гатовым начыньні, а карыстаючыся ім.

Беларусь, на працягу стагодьдзяў пазбаўленая магчымасьці ўголас прамаўляць праз рэлігію, гаспадарства й пісьменства па-свойму, знаходзіла выраз сваей тоеснасьці ў будаўлянай традыцыі. Да прыкладу, што ў нас больш красамоўна сьведчыць пра Рэфармацыю, як ня тузін збораў эвангелікаў мяжы XVI—XVII ст. У той пэрыяд архітэктура на Беларусі стала сродкам палемікі. Фармуючыся, яна фармавала людзей ў несупынным дыялёгу. Бо не было адной ідэалёгіі, аўтарытарнай тыраніі, каб дыктаваць маналёг каменных муроў.

Для народаў, канфэсіяў і станаў дойлідства было адной моваю, якую прымушаны быў слухаць кожны. Вось жа ня кожнага прымусіш узяць у рукі «ня тую» кнігу, зайсьці ў іншую бажніцу.

Розныя канфэсіі імкнуліся сьцвердзіцца праз візуальнае ўвасабленьне сваей рацыі ў выглядзе храма. Гэтае стваральнае спаборніцтва ў вышыні, харастве й бляску сфармавала фон урбанізацыі ў ВКЛ. Калі на плошчы ставілі царкву, тут жа было месца й для касьцёла, для ратушы паміж імі, пасьля — навыперадкі слупуюць пляцоўкі ўніяты, кальвіністы, юдэі, мусульмане, стараверы... Такія задачы ня ставіліся перад сакральнай архітэктурай ні на Апэнінах, ні ў Скандынавіі. Славуты Гляўбіц праектаваў бажніцы для ўсіх канфэсіяў, за 30 гадоў (з 1737 па 1767) зьнітаваўшы імі край ад Вільні да Мсьціслава, ад Полацка да Сталовічаў. Розьнасьць канфэсіяў стала беларускай этнічнай адметнасьцю, што прадвызначала й сьвецкую традыцыю. Замкі, палацы, ратушы, кампілюючы ў сабе ўсе кшталты, арганічна ўваходзілі ў беларускі ўрбаністычны краявід.

Беларускае дойлідства было сьведчаньнем адметнасьці, саматоеснасьці краю падчас навалы акупантаў. Ці можна сабе ўявіць, што, скажам, немцы пераўтваралі гарады Бэльгіі ці Францыі ў руіны, каб паставіць на іх фартэцыі? Ці магло такое рабіцца хоць у якім закутку Эўропы? Расейцы гэта зрабілі на Беларусі, спляжылі да рэшты магдэбурскія гарады з тысячагадоваю спадчынай.

Якія пачуцьці вярэдзілі душу Залескага, які напісаў панараму яшчэ не разбуранага, але асуджанага да страты Берасьця?.. Зграбныя касьцёлы, вялікія кляштары, старасьвецкія камяніцы, белы-белы горад. Але ўсё ўжо падрыхтавана да выкананьня прысуду. Залескі быў чалавек тутэйшы, не пазбаўлены таленту й сумленьня, прыняў удзел у паўстаньні 1831-га, быў засуджаны сам, сябраваў з Шаўчэнкам, Норвідам, не ўстрымаўся і ў 1863-м... Ці ня лёс Берасьця й Бабруйска, якія мастак увасобіў тады, як быў яшчэ зусім малады, сфармавалі яго як патрыёта? Гэтаксама, як і праз стагодьдзе лёс

паншчанай цывілізацыі фармаваў моладзь, якая праз разуменьне стратаў і горыч, высьпявала да палітычнае барацьбы за незалежнасьць.

Зь іншага боку, што адчувалі тыя расейцы-мастакі, што прыбылі на Беларусь зь легіёнамі акупантаў і «засвойвалі» гэты край? Трутнёў, Струкаў, Грозноў, пасканчаўшы Строганаўскую вучэльню ў Маскве, прыбылі сюды ў 1863—1864 гг. з афіцыйным заданьнем. Яны нястомна шкіцавалі, пісалі акварэлі, «фіксуючы» то адзін, то другі храм, будынак, руіну. Рабілася гэта выбарачна, адлюстраваньню падлягалі помнікі праваслаўя й «русскости» ў Северо-Западном крае. Для Д. М. Струкава гэта была адна вялікая экспэдыцыя 1864 году — Полацак, Магілёў, Нясьвіж, Менск, некалькі мястэчак. Дзёньнік, палявыя запісы, стос малюнкаў — прызначаліся для мэтраполіі. Але іх вызначае шчырасьць, дакладнасьць дакуманта, які сьведчыў, што край не зусім... «русский».

Для прафэсара І. П. Трутнёва Вільня стала да скону месцам падзьвіжніцтва. Седзячы тут, як на высьпе, наракаючы, што сярод дапаможнікаў для маляваньня ў Віленскай школе «в русском вкусе нет ни одного», ён сумленна фіксаваў тое, што бачыў: праваслаўную готыку Вільні, цэрквы, крыжы, камяні Полацка, Віцебска, Мсьціслава ды інш. В.В. Грозноў быў побач з Трутнёвым, але ягоныя інтуіцыя і густ падказвалі свой кірунак Сынковічы, Мураванка, Ліда, гарадзенская Каложа... зноў Вільня. Апроч таго, яму не чужыя былі й амбіцыі дасьледчыка, публіцыста. Яго ілюстрацыямі аздобленыя кнігі П.-М. Бацюшкава, трэці том «Живописной России». Бадай, ён, як ніхто зь яго суайчыньнікаў,



адчуваў эўрапейскую традыцыю старабеларускай архітэктуры.

Для беларусаў архітэктурная спадчына, якая не давала забыцца пра мінуўшчыну краю, стала крыніцай натхненьня. Адноўлены жанр — архітэктурны краявід, які меў глыбокую традыцыю, стаў у XIX стагодзьдзі выключнай магчымасьцю культурніцкае апазыцыі акупантам.

Неўзабаве пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай на Беларусь прыяжджае Юзаф Пешка. У 1793—1812 гг. ён жыве ў Горадні, Менску, Вільні, Дукоры, наведваецца ў Расею. Мастак мысьліў сябе як манумэнталіст, не без прэтэнзіяў на эпічныя тэмы (дарэчы, як і яго настаўнік Ф. Смуглевіч). Але застаўся ў беларускім мастацтве як партрэтыст і аўтар ёмістага цыклю архітэктурных краявідаў Беларусі. Шляхотны ўтульны Менск, легендарны Магілёў, што мажна разьлёгся па Дняпры, Віцебск, пра які з захапленьнем казаў Рэпін: «Божа-ж мой, гэта ж наш расейскі Таледа!» Руіны замкаў, вуліцы гарадоў у Пешкі нібы паснулі. Сон апанаваў Беларусь, але велічныя муры, ветразі барочных франтонаў, званіцы, шпілі памятаюць як бруіла тут жыцьцё, якія былі фэсты ды кірмашы.

Яну Дамелю пашанцавала меней. Пасьля Табольска, Томска ды Енісейска ён селіцца ў 1822 г. ў Менску, дзе і спачыў. У Сібіры ён размалёўваў касьцёлы, на Беларусі браўся за гістарычную патэтыку. Але там, дзе быў шчыры, застаўся непераўзыдзены. Вільня паўстае ў ягоных працах, як велічная дэкарацыя для гістарычнае драмы. Людзі дзеюць пад калёнамі вечнага гораду як недарэкі, што парушылі яго мэмарыяльны спакой.

А ў Менску Дамель не ўстрымаўся ад простых і шчырых замалёвак гораду й наваколься...

Калі гляджу на здымак Н. Орды, не магу не зьвярнуць увагі ад шчыльна самкнёных вуснаў працавітага ўпартага чалавека, ад засяроджанага позірку з-пад ссунутых броваў. Пакаштаваўшы, як і Залескі, паўстанцкага быту, у 1832-м мусіў зьехаць у Парыж, дзе вучыўся мастацтву. А па вяртаньні на Радзіму абыйшоу яе ўздоўж і ўпоперак. Як трубадур славіць сваю абраньніцу, ён славіў свой край. 280 аркушоў у 8 сэрыях — гэта мог зрабіць толькі мэтанакіраваны ўпарты працаўнік. Тое, чаго не магчыма зрабіць куляй — абесьсьмяроціць здабыткі свайго народу, бальшыня якіх не перажыла твораў Орды. Яму аднолькава блізкія старажытная царква і новы касьцёл, сялянская хата і рамантычны палац, усё ў гэтым краі было ягоным. Дакумэнтальныя замалёўкі, часам ляпідарныя, але прасякнутыя рамантыкай адыходнае эпохі, захаваліся «на памяць».

Рамантычны пэйзаж існаваў у многіх народаў. Але нідзе ён не набываў такой сацыяльнай значнасьці. Не само па сабе мілаваньне дэталямі архітэктурнага краявіду, а той падтэкст, які яно можа несьці, рабіў яго такім устойлівым, самым нацыянальным жанрам. Гэта ня проста замак на гары, — яго патрушчылі сёньняшнія акупанты, гэта ня проста палац, — яго гаспадар ужо закатаваны ў Сыбіры, гэта ня Ратуша, дзе грае аркестар па сьвятах, — яе ўжо загадалі зруйнаваць, гэты касьцёл ўжо не касьцёл, а кляштар — не кляштар. Гэта край наш, які ўжо ня наш.

Афорты Піранэзі, ці вэдуты Бэлотта ня мелі патрэбы «вязаць вузялкі» на ўспамін, іх успаміны ўсе — «вечныя». Па-дзіцячаму рыдаць над пяшчаным горадам, што змыла хваля, ды каўтаць сваю безабаронную роспач прымушалі беларускія пэйзажысты-«рамантыкі», былыя паўстанцы, вязьні, эмігранты...



У Дабужынскага ў гарадзкіх краявідах больш свайго «Я-а». Пазбаўлены ілюзій і самагіпнозу, ён быў нават саркастычны, малюючы адно гарады. Вільня, Пецярбург, Лёндан, Мюнхен, Нэапаль і ўрэшце Віцебск, дзе быў дырэктарам народнай мастацкай школы. Але якія яны ў яго розныя! Пецярбург, чыю архітэктуру ён вывучаў «па-сапраўднаму» — гэта горад-манэкін, у якім самотна й страшна. Ужо жывучы ў Коўне, ён здолеў асэнсаваць Пецярбург, рыхтуючы ілюстрацыі да Дастаеўскага. Гарады Захаду зь нізкі «Гарадзкіх сноў» 1912—1922 гг. — для яго проста Горад. Але колькі летуценнасьці ў віленскіх і віцебскіх краявідах! Тут ён дома, тут ён гаспадар, але тут ізноў усё, як у сьне. На золку ці на апошнім промні спыняе ён гадзіньнік, бо астатняе — толькі чужынскі тлум. Старажытная гісторыя, паданьні і ўсе гарадзкія таямніцы Вільні й Віцебска былі яму вядомыя. «У асобе Дабужынскага, у яго мастацкай творчасьці злучаўся рускі вялікадзяржаўны шовінізм зь беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам.» («Полымя рэвалюцыі», № 3 за 1934 г.)

Зь яго работаў глядзеў Беларускі горад. Пустымі вачніцамі храмаў, падсьлепаватымі вокнамі, нішамі, аркамі некалі слаўнага места, якому ўжо наканавана было пайсьці ў нябыт...

У Шагала ня Віцебск сьпіць, а самы сон напоўнены, насычаны Віцебскам...

«...Мінін у сваей творчасьці захапляецца папскім рэакцыйным барока...» («Трыбуна мастацтва», № 4 за 1925 г.)

Больш здолеў зрабіць Драздовіч. Ён літаральна фэтышызаваў краявіды гарадоў і мястэчак, руіны й курганы. У Драздовіча яны паўстаюць нібы на іншай плянэце, на якой няма пакутаў і занядбаньня. А сапраўды фантастычныя сны пра Месяц і Марс нібы падгледжаныя з вакна рэальнае хаты. Там існавала яго Беларусь, у мурох замкаў Ліды і Крэва, менскага Трыбуналу, у гляўбіцавых вежах, пругкім барока...

Рэліктавы рамантызм...

Невыпадкова й сёньняшняе Адраджэньне распачыналася ў суполках, дзе была рупнасьць пра архітэктурную спадчыну, як квінтэсэнцыю нацыянальнай традыцыі. Увага да ацалелых помнікаў, старых фатаздымкаў, рэканструкцый, малюнкаў Пешкі, Орды, Драздовіча будзілі сьвядомасьць. Сфармавалася цэлая плынь у беларускім мастацтве, літаратуры, кіно 80-90-х гг., якая стала найбольш адэкватнай праявай нацыянальнай сьвядомасьці, здольнай аб'яднаць усю культурную частку грамадзтва ў незалежнасьці ад сацыяльных станаў, адукацыі й нават мовы. Акцыі гэтага руху, да прыкладу, перад будынкам першай опэры (пляц Волі), сталі праявамі рэальнай палітычнай апазыцыі. Супраціў гвалту над натуральным асяродкам, у якім да расейскай акупацыі йснавала беларуская цывілізацыя, стала ня столькі супраціўленьнем камуністам, колькі таму мэханізму, што быў запушчаны напрыканцы XVIII ст. Гэтая акалічнасьць ня мае простых аналягаў у пасьлякамуністычнай Эўропе. Наша



Адраджэньне й лес здабыткаў дойлідства, як матар'яльнага ўвасабленьня спэцыфікі духовага, мастацкага й палітычнага досьведу нацыі, адзінага й непадзельнага, зьнітаваныя ў адзін двухсотгадовы боль.

## Зьвесткі пра публікацыю тэкстаў зборніка ў газэце «Наша Ніва»

Генадзь Сагановіч. Contra Tyrannos: 1997, № 1—2.

Андрэй Катлярчук. Першы ў сьвеце дзяржаўны банк і першыя банкноты: беларускі сьлед: 2006, № 40.

Алег Дзярновіч. Смак бяседы: 2006, № 31.

Алесь Белы. Cerevisia Albaruthenica. Портэр: 2006, № 16.

Вольга Бабкова. Карчма: 1997, № 32.

Valancin Kainin. Vuuniouski sљytak: 1993, № 18.

Валяньцін Калнін. Maestri comacini: 1996, № 7.

Антон Сіюль. Стары хрост: 1993, № 14.

Алег Дзярновіч. Маўклівы кляштар Сапегі: 1991, № 3.

Алег Дзярновіч. Ордэн Сьвятой Брыгіты: 1993, № 14.

Андрэй Шпунт. Габрыэль Грубэр — беларускі езуіт. 1997, № 15—16.

Ю.Ш. Радзівілы: больш чым багатыя, больш чым магнаты, больш чым род: 1992, № 6.

Аляксей Бацюкоў. Авантура беларускай шляхты: 2006, № 40.

Генадзь Сагановіч. Crimen Perduellionis, або справа смаленскага ваяводы: 1996, № 10.

Януш Тазьбір. Партрэты ў плямах: Гісторыя за кратамі суб'ектыўнасьці: 1996, № 32.

Наталя Гардзіенка. Патрыятычная зорка «Мадам дэ Бар»: 2000, № 5.



Яўген Анішчанка. Просім, пан генэрал: 1994, № 7.

Андрэй Шпунт. 600 рублёў золатам і 700 срэбрам. Сімяон Полацкі — выдатны дзяяч беларускай культуры?: 1997, № 27—28.

Андрэй Шпунт. Цудоўная фартуна шляхціца Валіцкага: 1997, № 29—30.

Андрэй Шпунт. Авантуры яго жыцьця: Да партрэту генэрала Хадзькевіча: 1998, № 10.

Генадзь Сагановіч. Сьмерць палявога гетмана: 1993, № 13.

Андрэй Шпунт. Беларускі палкоўнік Канстанцін Паклонскі: 1997, № 25—26.

Андрэй Шпунт. Юда Макавэй Рэчы Паспалітай: палкоўнік габрайскага палка лёгкай кавалерыі Берэк Ясялйвіч: 1996, № 38.

Андрэй Шпунт. «Я Бацькаўшчыны не перажыву...»: генэрал-лейтэнант інжынэрыі ВКЛ Якуб Ясінскі: 1998, № 6.

А. Дз. Расеец малюе Менск: 1992, № 9.

Сяргей Рыбчонак. Радавод Міцкевіча: 1993, № 17.

Мілаш пра Гейштара, Гейштар пра Каліноўскага: 1991, № 2.

Каваль у кароне. Гутарка пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага: 1991, № 3.

Антон Сіюль. Сны: 1993, № 15.